

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (1064)

ЧЭРВЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

## *ЗМЕСТ*



**Фёдар ГУРЫНОВІЧ**

# ГРОМ НЯБЕСНАГА АРКЕСТРА

## СЛУХАЮЧЫ ШАПЭНА

***Фрэдэрык Шапэн пахаваны ў Францыі,
а яго сэрца, па запавеце самога кампазітара,
перавезена ў Польшчу і замуравана
ў калоне касцёла святога Крыжа ў Варшаве.***

Пахадзіўшы ўдзень, смугой замглёны,
Па музеях ціха, задуменна,
У касцёл наведацца Чырвоны —
У касцёл Сымона і Алены.

На скамейку з саменькага краю
Сесці побач з грэшнаю мадоннай.
Слухаючы, як арган іграе,
Растварыцца ў шчырасці бяздоннай.

Нібы гром нябеснага аркестра —
Як зачараваў ён, як загушкаў!
Музыка вялікага маэстра,
Быццам бы палёт за райскай птушкай.

Як бурляць, як стогнуць ураганна,
Як гудуць, смыляць і б’юць трывогу
Гукі невыказныя аргана,
Што ў маленні дастаюць да Бога.

---

*__Гурыновіч Фёдар Фёдаравіч__ нарадзіўся 15 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працаваў сакратаром камсамольскай арганізацыі будаўнічага ўпраўлення, мастаком-афарміцелем, карэспандэнтам раённай газеты, дырэктарам краязнаўчага музея. З 1986 г. — у газеце «Калійшчык Салігорска»: карэспандэнтам, адказным сакратаром, рэдактарам.*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы для дарослых і дзяцей: «Хлеб і соль» (1980), «Шматгалосая кветка» (1983), «Вішня цвіце» (1992), «Пад знакам Дзіяны» (1995), «Птушыная азбука» (1997), «Сто хрустальных родничков» (2000), «Рэчка» (2003), «Застаецца вера» (2010), «Соловей» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).*

І душы не выбіцца з палону
Гэтае астральнае капэлы.
І замураванае ў калону
Б’ецца сэрца вечнага Шапэна.

То вярэдзіць думкі, то ўрачуе,
То на пакаянне запрашае…
Слухае касцёл Чырвоны чуйна
Сэрца кампазітара з Варшавы.

## МАЙСКІ САД

Калі запануе ў душы чарната,
Калі засмуткую, як хмара над кручаю,
Тады падыходзіць ізноў да акна
Весні мой сад — маё шчасце квітучае.

Як адчувае ён суму радкі!
Цягнецца ў фортку галінкамі тонкімі —
Звоністы ўвесь, варушкі, шапаткі,
Поўніцца жвавымі пчолкамі.

Шчыры вам дзякуй, ласкавы мой май,
Вунь вы якую прынеслі мне вестачку!
Насцеж хутчэй жа акно адчыняй:
Ах, мае яблыні, ах вы, нявестачкі!

Кожная ў вэлюме, лёгкім такім!
Сталі ўсцяж светлай захопленай вуліцы.
Зіркаюць з круглых акенцаў шпакі,
Садам квітучым падоўгу любуюцца.

Як ён ваколіцу запаланіў,
Як ён кіпіць, як адчайна ён пеніцца,
Гэты чароўны бялюткі разліў!
Так і ў жыцці ўсё да лепшага зменіцца…

## МАДОННА

Вось і лета на газонах адцвітае,
Пах настуркавы па горадзе цячэ,
І бяроза напалову залатая,
Напалову зелянявая яшчэ.

І буслы імчаць на поўдзень, нібы ў Мекку
Багамольцы-мусульмане на абрад.
І пустуюць фарбаваныя скамейкі,
Прадчуваюць хуткі лістапад.

З развітальным, сумнаватым нейкім бляскам
Едзе сонца па вільготнай маставой.
Прад сабою мама новую каляску
Ціха коціць; немаўлятка спіць у ёй.

Супраць сонца глянуць проста немагчыма,
Ад асфальту пара лёгкая ідзе.
Прачынаецца дачушка, і жанчына
Асцярожна туліць крошку да грудзей.

Корміць дзеўчынку матуля маладая,
Кветкі пахкія цярэбяцца ля ног.
Ах, які дзянёк ім выпадае,
Быццам сам паслаў прыветны Бог.

На вяршынях дрэваў спіць блакіт бяздонны,
Сыпле сонейка праменне па баках.
І стаіць матуля юнаю мадоннай,
І кігікае дзіцятка на руках.

## СОН

Ці гэта характар складаны такі,
Ці ўздыбіў вятрыска прадонне ракі,
І ў хвалях свінцовых плывуць буруны.
Шумяць і шумяць сіратліва яны.
Расклаў я касцёр і дашчэнту абсох,
Зашыўся пад лодку.
І шорсткі пясок,
Як гіпс, паўтарыў выгін цела майго —
Пад спіну паслаўся.
А звонку кругом
Звінеў сваім срэбраным крыллем чарот,
Глушыў ён размову качыных чарод.
Качыныя ўсплёскі і ўвесь гэты шум
Дыянавай страсцю палілі душу.
Быў дожджык, і я пастараўся заснуць.
І ўбачыў у сне маладую вясну,
І ўбачыў каханую — ў белым была,
Як белая чаіца ціха плыла.
Здаецца, цяпер не пакіне мяне!
…Ды зноў засталася ў далёкай вясне.

## ГОН

Клін гусіны — чоўнам гонкім.
Промні хвой.
Рабіны гронкі.

Ранак звонкі, нібы гонг.
Жоўты сум травы калянай.
Лістапад паляны п’янай.
Гон!

Гон ласіны.
Год ласіны.
Неба ў дрыжыках асіны.
Вось ён прэцца.
Вось!
Князь пушчанскі — лось.

Пунсавеюць ноздраў ружы.
Барада — калматай сцюжай.
Пыса ў замшы.
Лоб круты.
Хіб руды.

Супыніўся пад лясінай.
Ланцужок жамчужны сліны
З губ цячэ.
Цяжка дыхае.
Загнана.
Трэск — нібыта стрэл з нагана!
Хто яшчэ?!

Напралом ляціць праз ельнік —
Тут і д’ябал не супернік —
Дым з бакоў!
Валуны лапатак бурых
Перакочвае пад скурай,
Быццам выдрацца імкнецца
Ён з акоў.
Вяко-о-оў!

Рынг рыкае, прагне шалу.
Рыжы бор стрыжэ вушамі.
Чэрап —
гнеўна —
ўніз.
На дыбкі ўзляцеў спружынай.
Над калючаю ажынай
У скачку завіс…

Залатых рагоў кароны
Высякаюць іскры ў кронах
Чорных елак,
Голых клёнаў.
Бляск спіны.
Перасохла ў горлах восень.

Дожджык спіць.
І зноўку просінь
Просек
Просіць
Піць.

Зноў сышліся ў паядынку.
Зноў шалёна ўсталі дыбам.
Да крыві!
Да хрыпаты!
Напаліўся ліст апалы.
Зноў ірвуць яго з запалам
Ка-пы-ты!

У няпрошанага госця
Хіб тапырыцца ад злосці.
Горб — як стог.
І віруе апантана
Над палянаю стаптанай
Роў.
    Рык.
        Стогн!

Наступае чорт сахаты.
Дзве сякеры, дзве лапаты —
Рог за рог —
Грок-х-х!
Лоб у лоб, нібы каменне.
Гром — да хмар.
Цяжка грымнуў на калені
Гаспадар.

* * *

…Ён устаў, тужлівы і памяты,
І пайшоў, прыгнуўшы галаву.
І чырвонай стужкай боль зацяты
Апаліў паніклую траву.

Стала ў наваколлі ціха-ціха.
Гону след згубіўся і астыў.
І да пераможцы праз кусты
Выйшла з асцярогаю ласіха.

…Рогі ён праз месяц скіне ў верас.
А ў вясеннім логвішчы пасля
Будзе доўга нюхаць з недаверам
Пахкае вушастае цяля.



**Мікола АДАМ**

# ...І ПРЫДБАЎ ГЭТЫ ДОМ*

*Раман-рэфлексія*

***Маме Вользе Яўгенаўне і бацьку Міхаілу Іванавічу прысвячаю***

Калі мы пераехалі ў Вёску, мне было чатырнаццаць. Спачатку адправілі кантэйнер з рэчамі, вынесенымі з трохпакаёвай кватэры на трэцім паверсе пяціпавярховіка, што стаяў па вуліцы Паркавай у горадзе Шахцінску Карагандзінскай вобласці. Пасля былі пералёт з Казахстана ў Беларусь з перасадкай у Маскве, амаль двухгадзінная дарога з Мінска (у Брэсцкім напрамку) да райцэнтра электрычкай, а затым аўтобусны маршрут «Райцэнтр — Вёска». Мы менавіта пераехалі, нават эміgravалі, але ніяк не вярнуліся. Бо як можа вярнуцца кантэйнер туды, адкуль яго не адпраўлялі? Гэта толькі мой бацька вярнуўся, таму што ў Вёсцы жылі яго бацькі, таму што ў Вёсцы ён скончыў школу, пасля пайшоў працаваць на цагельню. З Вёскі яго забралі ў войска і менавіта з яе ён паехаў на заробкі ў Казахстан, дзе і затрымаўся надоўга, сустрэўшы там маю маму. Аднак і бацьку цалкам мясцовым было цяжка назваць, бо яго ў Вёску прывезла ягоная маці з Карэлафінска, куды з’язджала ў пошуках лепшай долі, дзе пазнаёмілася з маім дзедам, які жыў там на вольным пасяленні пасля адбыцця турэмнага зняволення за тое, што меў няправільнае і забароненае, нават непрымальнае і непатрэбнае для савецкага чалавека нямецкае прозвішча *А*дам...

Бацька — невысокага росту, але шырокі ў плячах мацак з бледна-блакітнымі, як зімовае неба, вачыма і дужымі валасатымі рукамі з лапатамі далоняў. Ён вельмі любіў, калі мы былі малымі, гуляць у баксёраў. Не ведаю, ці было бацьку балюча, але мы, як памятаю, малацілі па ягоным жываце са страшнай сілай, асабліва шчыраваў брат. Ён нават умудраўся трапляць па ім нагамі. Бацька заліваўся шчаслівым рогатам ад нашага сапення і сур’ёзных сканцэнт-

---

***Адам Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Да 1992 г. жыў у Казахстане (г. Шахцінск Карагандзінскай вобл.). Скончыў філалагічны факультэт БДУ і факультэт культуралогіі (аддзяленне кінадраматургіі) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Працаваў у тэатры, у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Рэгістр». Аўтар паэтычнага зборніка «Калыханка для каханай» (2001) і кнігі прозы «Шоўк» (2013).*

---

* Часопісны варыянт.

раваных твараў, падазраю, што ганарыўся сынамі, якія не ў лялькі гуляліся, а вучыліся быць мужчынамі. Ён сам быў байцовым, паважаў загартаванасць і моц. Брат у гэтым яго не расчараваў. Я ж ніколі біцца не любіў і не люблю. Больш за тое, баюся і лічу, што бойкі для ідыётаў, бо разумныя людзі заўсёды дамовяцца паміж сабой. Тым не менш біцца даводзілася, бо выхаваў мяне ўсё ж байцовы бацька. Я абавязкова прапушчу першыя ўдары, але таксама абавязкова на іх адкажу, пераадольваючы страх. Зразумела, што да такіх высноў я прыйшоў не адразу і не ў дзіцячыя гады.

Бацька ж, як і мой брат, да двух ніколі не лічылі. Калі бачылі, што бойка непазбежная, — білі першымі. Нічога прыгожага ў некіношных бойках няма. Дваровыя бойкі жорсткія, заўсёды не па правілах, крывавыя і, часцей за ўсё, кароткія. Але мой бацька і мой брат у гэтых бойках выглядалі Аляксандрамі Македонскімі ці нават Арэсамі — багамі вайны. Ёсць такія людзі, ад якіх не адвесці вачэй, калі тыя апынаюцца ў падобных абставінах, нібыта ім дадзена гэта звыш.

Дык вось, у Казахстане жыла малодшая бабіна сястра Груня, да яе ён пасля войска і паехаў. Бацькава цётка Груня была самай малодшай з дванаццаці дзяцей, якіх жыццё, калі тыя выраслі, разнесла, быццам пасеяла, па розных кутах былога Савецкага Саюза. Яна ж бацьку, лічы, і выняньчыла, бо дзед Іван з бабай Марусяй крыху пабылі ў Вёсцы пасля Карэлафінска і неўзабаве зноў туды з'ехалі. Пасля заканчэння школы цётка Груня з сястрой-пагодкам Соняй паступілі ў Мінскае медвучылішча. Маючы на дваіх адны туфлі і адну святочную сукенку, на танцы ў Дом культуры хадзілі па чарзе. Соня знайшла там сабе баяніста Толіка і засталася ў Мінску, працавала доўгі час медсястрой у дзіцячай паліклініцы на Сонечнай і здавала кроў на патрэбу людзям, за што атрымала званне Ганаровага донара БССР. У Груню закахаўся салдат тэрміновай службы з вайсковай часці, што размяшчалася ў райцэнтры. Пазнаёміліся ж яны ў Вёсцы, у час вайсковых вучэнняў. Праз Вёску часта праходзілі войскі ў тую пару: пехацінскія, танкавыя, мотастралковыя і нават дэсантныя. Паглядзець на баявую тэхніку і салдат з афіцэрамі вяскоўцы выходзілі ўсім дваром, цікаўныя дзяўчаты выскоквалі бліжэй да дарогі, па якой пылілі вайскоўцы. Цётка Груня не была выключэннем. Яна якраз прыехала ў Вёску на летнія вакацыі паднабрацца сіл перад апошнім курсам вучобы. Вылучаючыся з усіх сясцёр непадробнай прыгажосцю, ёй бы ў артысткі кіно падацца. Не горш за Быстрыцкую справілася б з роляй Аксінні ці за Гурчанку ў «Карнавальнай ночы»: умела і спяваць так, што заслухоўваліся нават дрэвы і вецер, і танчыць гэтак, што сама Айседора Дункан пазайздросціла б. А выбрала прафесію фельчара, больш патрэбную савецкай краіне, чым артысткі. Да таго ж артысты — людзі недасяжныя, незямныя, куды цётцы Груні да іх — вельмі нават зямной, хоць і прыгажэйшай за будзь якую артыстку.

Дзядзька Жэня, як пабачыў цётку Груню ўпершыню, — забыўся, што ён салдат і ідзе шараговым байцом у агульнай калоне. На мулкіх нагах ён выйшаў з калоны, нягледзячы на выкрыкі старшыны вярнуцца ў строй і пагрозы гаўптвахтай. Цётка Груня стаяла пад разгалістай чаромхай, што расла каля двара і непадалёк ад дарогі, па якой праходзілі войскі, праводзячы позіркам ці не кожнага з тых, хто ішоў па дарозе, уяўляла, магчыма, сябе гераіняй ваеннага кінафільма, якая чакала пад чаромхай свайго каханага, героя-пераможца фашыстоўскай хеўры. Дзядзька Жэня падышоў да яе нячутна і бухнуўся каля яе ног проста на калені. Цётка Груня нават спалохалася спачатку, запатрабавала, каб ён зараз жа ўставаў. Аднак дзіўны салдат не варушыўся і нічога не казаў, адно пазіраў ва ўсе вочы на яе. Ёй спадабаўся яго позірк, яна апусцілася

на калені побач з ім, узяла за рукі. Так яны пазнаёміліся. Затым да іх падбеглі старшына і два салдаты і адцягнулі ад цёткі Груні дзядзьку Жэню. Але ён ужо ведаў яе імя і тое, што жыве яна ў двары за гэтай цудоўнай чаромхай.

Дзядзька Жэня з'явіўся праз некалькі тыдняў, прыехаў у Вёску на веласіпедзе. Дзе ён узяў так званы транспарт, не прызнаваўся. Яны пачалі сустракацца. Пасля цётка Груня выйшла за яго замуж, іх распісалі ў мясцовым сельсавеце. У дзень вяселля дзядзьку Жэню давялося зняць вайсковую форму і апрануць штаны дзеда Івана, якія на ім выглядалі як шорты (дзед Іван быў такога ж росту, як і мой бацька, а дзядзька Жэня падпіраў галавою столь і нагадваў белабрысага Пятра Першага ў маладосці). Адслужыўшы, ён забраў маладую жонку з сабой і звёз у Тэнтэкскі стэп.

Тэнтэк — рабочы пасёлак, які ўзнік у 1955 годзе ў сувязі з асваеннем Тэнтэкскага месцанараджэння высакаякаснага каксуючагася вугалю, адкрыццё залежаў якога адбылося ў 1949 годзе геолагамі Фішманам і Думглерам у раёне рэчкі Тэнтэк на глыбіні 250 метраў. У 1961 годзе пасёлак перайменавалі ў горад і назвалі яго Шахцінскам, які паступова набыў статус райцэнтра. Акрамя чатырох шахт — Казахстанскай, Шахцінскай, Тэнтэкскай і імя Леніна, размешчаных вакол горада, у ім меліся Домабудаўнічы камбінат, Пасажырскае аўтатранспартнае прадпрыемства, два будаўнічыя камбінаты бытавога абслугоўвання, Электрамеханічны завод, Завод сінтэтычна-мыючых сродкаў (СМС), тэхналагічны і горна-індустрыяльны тэхнікумы, тры кінатэатры, тэатр, Дом культуры гарнякоў, зразумела, бібліятэкі, бальніца, паліклінікі, школы і дзіцячыя сады. Падзелены на кварталы і мікраараёны, Шахцінск ветліва ўсміхаўся кожнаму жыхару высокімі новабудоўлямі, гасціннымі крамамі, чыстымі тратуарамі, вялікімі і багатымі дзіцячымі пляцоўкамі ў дварах. Ад Караганды Шахцінск аддзялялі пяцьдзясят кіламетраў па ўсходне-заходняму кірунку, ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Карабас — дваццаць восем кіламетраў на захад. У склад горада ўваходзіла таксама чатыры населеныя пункты: Шахан, Навадолінскі, Долінка і Паўночна-Заходні.

Бацьку тут спадабалася ўсё з першага позірку, асабліва шматнацыянальнае насельніцтва. Яму нават падалося, што Шахцінск — сэрца Савецкага Саюза, бо ў горадзе жылі прадстаўнікі ўсіх савецкіх рэспублік, больш за тое — народнасцей. Побач адзін з адным суіснавалі чачэнцы і рускія, абхазцы і грузіны, немцы і беларусы, казахі і карэйцы, яўрэі і арабы, армяне і таджыкі, казахі і татары, украінцы і малдаване, мардвіны і ненцы, дагестанцы і чувашы… І яны не варагавалі паміж сабой, не дзялілі тэрыторыю і не падстаўлялі, злараднічаючы за спінай. Гэты горад падаваўся адзіным згуртаваным калектывам дружбы і ўзаемаразумення. Усе дапамагалі адзін аднаму, кагалам спраўлялі вяселлі, дні нараджэння і дзяржаўныя святы, тым жа складам памерлых праводзілі ў апошні шлях. Незнаёмы хвіліну таму чалавек тут праз колькі секунд размовы рабіўся лепшым сябрам да канца жыцця.

Бацька адчуваў сябе нібы нанова народжаным. Да таго ж цётка Груня з дзядзькам Жэнем прынялі яго як роднага сына і шчыра паўдзельнічалі ў далейшым лёсе пляменніка. Дзядзька Жэня працаваў шафёрам на аўтабазе, ведаў патрэбных людзей, і тыя ведалі яго. Па пятніцах у ягоным гаражы часта абмывалі ўдалы працоўны тыдзень бутэлечным, а калі-нікалі разліўным бачкавым півам. У адну з такіх пятніц ён пазнаёміў пляменніка з сябрам, які працаваў не апошнім чалавекам на Шахцінскай шахце, і той узяў бацьку да сябе ў брыгаду. Але спачатку бацька адвучыўся тры месяцы на слесара-мантажніка. Ад шахты выдзелілі пакой у інтэрнаце, і ён перабраўся туды, хаця

цётка Груня з дзядзькам Жэнем не супраць былі, каб пляменнік заставаўся ў іх. Бацька б застаўся, але адчуваў сябе няёмка ў двухпакаёвай кватэры, дзе жылі, акрамя цёткі з дзядзькам, яшчэ іх два сыны-старшакласнікі. Зразумела, яму ніхто нічога не шкадаваў і любілі яго не ў пазыку, а ўсё ж, атрымаўшы інтэрнат, уздыхнуў з палёгкай. Самастойна жыць — яно заўсёды лепш. Канечне, бацька не забываўся на цётку з дзядзькам, наведваў часта, цётка Груня ж і накорміць, і напоіць, а сталоўская ежа не ішла на карысць і выклікала пякотку. Нярэдка цётка Груня адмыслова запрашала бацьку ў госці і знаёміла з якой-небудзь абавязкова незвычайнай, разумнай і працавітай красуняй. То немку прапануе — перспектыўнага хірурга з млявым позіркам, то бібліятэкарку з раскосымі вачыма і безліччу доўгіх косак да падлогі, то лейтэнанта з дзіцячага пакоя міліцыі — рыхтык здобную булачку, а то гімнастку-аматарку з мясцовага тэатра — гутаперчавую і рудавалосую. Бацьку ўвесь час здавалася, што канца-краю не будзе гэтым знаёмствам, а цётка Груня, мабыць, пераканана і напрамкі пёрла, як танк, на рэкорд па перавыкананні плана зводніцтва. Неяк бацька не вытрымаў і папытаўся ў цёткі, навошта яна гэта робіць.

— Шчасця табе хачу, — не разгубілася цётка Груня. — Дзяўчаты ўсе праверанныя…

— Кім праверанныя? — незалюбіў бацька.

— Часам праверанныя, — зноў не разгубілася цётка Груня. — Чалавек не павінен быць адзін…

— Я не адзін, — запярэчыў бацька.

— У глабальным сэнсе, канечне, не адзін, — падтрымала цётка Груня, але збіць, як кеглю, з дыстанцыі яе разлічаны на вынік манеўр па ачалавечванні пляменніка, было немагчыма. — Ты малады прыгожы мужчына, — працягвала яна, — які павінен мець чароўны тыл у вобразе прывабнай жанчыны знешне і гейшы ў пасцелі.

— Каго? — не зусім зразумеў бацька.

— Да таго ж, адукаваны ў патрэбных месцах, — дадала цётка.

— І ўсе яны, выбраныя вамі, мне падыходзяць? — зрабіў выгляд, што задумаўся, бацька.

— Без выключэння, — пераможліва ўсміхнулася цётка Груня.

— Але выбраны яны не мной, — цвёрда сказаў бацька тады. — Не трэба, цётка, больш мяне ні з кім знаёміць! — голасна заявіў. — Няхай яны хоць будуць нават каралевамі Мазамбіка! Я сам знайду сабе нявесту. Мо памылюся, але тое будзе мая памылка. Маё шчасце — справа маіх рук, а не вашых, хоць такіх родных і блізкіх.

Цётка Груня ледзь не праслязілася ад такіх бацькавых слоў.

— Разумнееш на вачах, — прамовіла яна. — Як працуецца? — пацікавілася, імгненна пераключыўшыся на іншае, быццам тэлевізар, цётка Груня.

— Добра, — усміхнуўся бацька.

Яму падабалася на шахце, асабліва заробак. У Вёсцы яму б давялося ўкалваць як валу паўгода, каб зарабіць тую суму, якую ён зарабіў на шахце за месяц, стоячы на расслабоне на люках. І гэта ён яшчэ ў забой не хадзіў. Адзіная прыкрасць — шахта мокрая, шмат грунтавой вады.

Недзе праз год бацька пазнаёміўся з маці. Але перш, чым зрабіць крок насустрач, тры месяцы сачыў за ёю, і ў гэтым яму дапамагала дванаццацігадовая сяброўка, якая жыла ў тым жа доме, хоць і ў іншым пад’ездзе. Яна, між іншым, і паказала, літаральна пальцам, бацьку яго будучую жонку. Можна сказаць, дзякуючы гэтаму маленькаму шпіёну, бацька з маці і сустрэліся. Калі б

не малая, наўрад ці што б у іх выйшла. Яна адгукалася на імя Танюха. Танюхай сябе і называла заўсёды, калі з кім-небудзь знаёмілася. Бацька выратаваў дзяўчынку, калі тая танула. Малая паслізнулася на самаробным плыце з вечка ад вялізнай драўлянай бочкі з-пад будаўнічай аліфы і звалілася з яго ў ваду кар'ера, утворанага паводкай і бясконцымі дажджамі побач з новабудоўлямі Трыццаць першага квартала. Пройдзе час, і на падобных плытах, створаных, аднак, не з бочак, а з будаўнічых кабельных катушак, у такіх жа кар'ерах будзем гойсаць мы з братам, уяўляючы сябе то Рабінзонамі, то піратамі, то гераічнымі абаронцамі Севастопаля, нават прымем удзел у сапраўднай марской баталіі паміж прадстаўнікамі нашага дома і суседняга. На шчасце, у той вайне ніхто не загіне, хоць кожнага яе ўдзельніка надоўга прыкуе да ложка ангіна ці свінка.

Дзяўчынцы пашанцавала, што бацька ішоў паўз новабудоўлі, побач з кар'ерам. Калі б не бацька, Танюха ўтапілася б. Ужо цямнела, да таго ж месца, у якім яна апынулася, было бязлюдным. Бацька яе і не бачыў. Ён яе пачуў. Яе здзіўлены ўскрык, калі тая боўтнулася ў ваду. Дарэчы, брудную, мутную, з вясёлкавымі разводамі ад мазуту.

Наглытацца гэтай дрэні Танюха не паспела. Бацька выхапіў яе рыўком, быццам з кракадзілавай пашчы, што клацнула зубамі ўхаластую. Яму таксама не прыйшлося лезці ў ваду. Каля берага хапала іншых самаробных плытоў, з якіх бацька выбраў самы вялікі і павеславаў да тапельніцы. Заміж вёслаў выкарыстоўваліся доўгія (метры за два) драўляныя шасты, таксама самаробныя і нават габляваныя. Глыбіня кар'ера была ўнушальная. Пры веславанні бацькаў шост пайшоў пад ваду ці не ўвесь, ён нават спалохаўся. А дзеці ж, без усялякага прыгляду з боку дарослых, таўкліся пасля школы ў гэтым штучным моры — і нікому ніякай справы.

Карацей, выбраліся бацька з дзяўчынкай на сухое. Тая, рудая і канапатая, адразу зарумзала, як агледзела сябе, бо яе ж айчым прыб'е, калі яна з'явіцца дамоў у такім выглядзе. І бацька Танюху павёз на таксоўцы ў інтэрнат, ні на хвіліну не задумаўшыся, што пра яго могуць прыдумаць, калі пабачаць разам з мокрай дзяўчынкай. Ім кіраваў, бясспрэчна, здаровы розум. Хоць яшчэ было досыць цёпла, верасень толькі пачынаўся, дзяўчынку неабходна было атуліць цеплынёй ад шоку і ўнутранага холаду: яе трэсла, што паралітыка. Ён нічога пра яе не ведаў, але яму хапіла слоў пра айчыма, каб прыняць адзінае правільнае рашэнне. Танюха ж даверліва ўткнулася ў бацькаў бок, быццам той быў яе родным бацькам. Яна не захацела нікуды ад яго адыходзіць у інтэрнаце, ён меў намер папрасіць дапамогі ў знаёмых жанчын, а давялося ўсё рабіць самому. Добра, што душавая кабіна знаходзілася ў кожным блоку, куды бацька ўпіхнуў Танюху і загадаў неадкладна стаць пад гарачую ваду. Яна запатрабавала, каб бацька застаўся каля дзвярэй з другога боку і размаўляў з ёю, дакладней, расказваў што-небудзь цікавае. Бацьку давялося паслухацца.

Ён распавёў дзяўчынцы пра сем самураяў, фільм пра якіх глядзеў у кінатэатры на тым тыдні. Першую палову стужкі, зразумела, праспаў, але, прачнуўшыся, адзначыў, што нічога цікавага не прапусціў, нібыта і не спаў зусім. Заснуў бацька, між іншым, у знак пратэсту. Ён хадзіў у кінатэатры толькі дзеля таго, каб глядзець кіно ў колеры, а трапіў на чорна-белае, да таго ж старадаўняе, а ў прыдачу яшчэ і японскае. Чорна-белае можна было глядзець і па тэлевізары, не выходзячы з дому і не плацячы рубель за сеанс. Бацька ўвогуле не любіў замежнае кіно, за выключэннем французскіх стужак з Бельмандо, і на «Сем самураяў» трапіў выпадкова, за кампанію.

Думаю, Танюху гісторыя пра самураяў не закранула, зрэшты, як і бацьку. Мабыць, і расказваў ён пра іх нецікава, бо сам не быў захоплены аповедам. Распавесці ж якую-небудзь чароўную казку ці легенду не мог, бо ніколі не чытаў кніг, гэтаксама не мог нічога прыдумаць свайго па той жа прычыне. Аднак дзяўчынка не сердавала на бацьку. Яна і без таго была яму ўдзячная. Асабліва калі патанула (такі) у яго фланэлевай кашулі і ўлеглася ў яго ложку пад яго коўдрай, напоеная гарачай гарбатай з малінавым варэннем ад цёткі Груні і наетая галубцамі ад той жа цёткі, якімі бацька яе пачаставаў. Ён хацеў, пакуль дзяўчынка будзе есці, памыць яе рэчы і павесіць сушыцца, аднак Танюха ўсё паспела зрабіць сама, пакуль знаходзілася ў душавой. Тады ён проста развёў рукамі. Паслаў сабе на суседавым ложку. Той недзе прыжаніўся і не паяўляўся ў інтэрнаце, але і не пазбаўляўся ад яго.

Трэба было, мабыць, завесці будзільнік, каб падняць раніцай малую ў школу, а перад гэтым адвесці дамоў. Танюха пасмяялася з бацькавага заклапочанага твару і паведаміла, што заўтра субота і школы не працуюць. Але калі яму трэба рана ўставаць на работу, то яна не супраць будзільніка. Аказалася, што і бацька з раніцы нікуды не спяшаўся. Ён увогуле знаходзіўся ў заслужаным месячным адпачынку.

— Мы як вольныя птахі! — запляскала ў ладкі Танюха.

Пасля яны пажадалі адно аднаму добрай ночы, а затым, калі бацька толькі-толькі дабраўся да соннага двара і ледзь паспеў датыкнуцца да клямкі веснічак, каб увайсці туды, Танюха перабегла з выдзеленага ёй ложка на ложак, заняты бацькам, і прытулілася пад ягонай падпахай, скруціўшыся абаранкам.

— Не палохайся, прыставаць не буду. Проста там страшна, а з табой не, — толькі і сказала. А праз хвіліну ўжо салодка пасопвала.

Бацька ж доўга не мог заснуць, баючыся міжвольна патрывожыць сон дзяўчынкі. Як жа ёй, мабыць, дрэнна, думаў ён, што яна не захацела дамоў, а пайшла невядома куды з абсалютна незнаёмым чалавекам.

Ні айчым, ні Танюхіна маці нават не заўважылі яе адсутнасці. Яны ўвогуле нікога не маглі заўважыць, валяючыся покатам на старой прадушанай канапе з іголкамі-спружынамі вонкі, пасля пятнічнага балявання. Слабенькі стол у кухні, што хістаўся ад кожнага дотыку, засланы старажытнай з выгляду клянкай у разводах ад пралітага спіртнога і шнарах ад нажавых парэзаў, з апошніх высілкаў, здавалася, трымаў на сабе пустыя фаўст-патроны з-пад таннага пладова-ягаднага віна і быццам абгрызеныя па краях талеркі з недаедзенымі салёнымі гуркамі, салам і сялёдкай.

На дзіва, Танюха не спалохалася, не разгубілася і не абурылася ўбачаным. Яна падсела да маці, паклала яе галаву сабе на калені і пачала разгладжваць маршчынкі на твары соннай жанчыны, прыгаворваючы пры гэтым нешта пяшчотнае і прыгожае. Бацька ж ледзь не званітаваў ад відовішча.

— Ты не думай, — нібы прачытала Танюха яго думкі і паспяшалася заступіцца за сваякоў, — яны не злыя. Проста стамляюцца па пятніцах. Пагэтаму я і не люблю прыходзіць па пятніцах дамоў. Ты харошы, і табе трэба ажаніцца на такой жа харошай дзеўцы, — раптам загаварыла пра іншае, не зрабіўшы нават паўзы пры пераходзе. — Калі б я была старэйшаю, — працягвала далей, — абавязкова ажаніла б цябе на сабе, нікуды б ты ад мяне не ўцёк. Але я яшчэ маленькая, а ты чакаць мяне не згодзішся, ды табе гэта і не трэба. Я табе сама знайду нявесту. А зараз ідзі. Мне тут уходжвацца, ты перашкаджаць будзеш.

Бацька сышоў. Ён не хацеў, дый не меў ніякіх правоў умешвацца ў чужое жыццё. Навязваць сваё разуменне таго, як выхоўваць дзяцей і ў якіх умовах іх

трымаць. У лепшым выпадку яго пашлюць куды далей і правільна зробяць. Або параяць завесці сваіх і выхоўваць так, як яму заманецца. Сем'і, падобныя сям'і Танюхі, усе так жылі. Іх была большасць. Ад заробку да заробку, а перад выхаднымі — абавязкова выпіўка. Да таго ж дом гэты, самы доўгі і шматпад'ездны ў горадзе па вуліцы Ленінградскай, напалову заселены быў нешчаслівымі людзьмі з няпростымі лёсамі, пакрыўджанымі, адрынутымі, пакінутымі. Два апошнія пад'езды ўвогуле займалі «хімікі» і адзначаліся кожную раніцу і кожны вечар на прахадной у дзяжурнага міліцыянера. Многія пасля так і застануцца тут, калі «хімію» ў доме адменяць, паспрабуюць наладзіць жыццё, завесці сем'і. Аднак жыццё — не канструктар «Лега», каб яго можна было лёгка разбурыць і гэдак жа лёгка сабраць наноў, ды яшчэ лепшым за папярэдняе. Дабрабыт адных і шэры быт іншых быццам падзяліў дом напалам.

Нязвычна доўгім і сумным падаваўся бацьку адпачынак. У Беларусь да бацькоў ён не паехаў, як і летась, зрэшты, і не збіраўся. Пару разоў з'ездзіў у Караганду да дзядзькі Міколы — аднаго з мацерыных братоў, якога таксама нялёгкая занесла ў Казахстан. Той працягваў вясковае жыццё: адбудаваў ладную хату, трымаў гусей, трусоў і свіней, займаўся шыццём зімовых шапак, самаробным віном і бярозавым сокам. У двары дзядзькі Міколы раслі паабапал залітай бетонам сцяжынкі ад веснічак да ганка адмыслова пасаджаныя некалькі дзясяткаў бярозак, якія напаміналі дзядзьку радзіму. Яны сагравалі яму душу пасля сырасці шахтных забояў і лашчылі ўлетку цяплом лістоты і завушніц, нібы дотыкам рук каханай жанчыны. Замілаванне дзядзькі Міколы вясковымі радасцямі бацька не падзяляў, пагэтаму надоўга не затрымліваўся, вяртаўся ў Шахцінск, дзе гуляў дапазна па парку ці па саланчаках і сопках адразу за горадам, уяўляючы сябе дэрвішам (слаба, аднак, ведаючы, хто гэта такі) у бяскрайняй пустыні. А яшчэ хадзіў у кіно, калі не заходзіла Танюха. Яна знайшла яго праз два дні і пацягнула за сабой у нейкую дзіцячую кавярню, дзе прадавалі адно марожанае і пірожнае з сокамі. Там бацька ўпершыню пабачыў маму. У коле каляжанак ці сяброўак мама насалоджвалася марожаным колеру какавы ў папяровай шкляначцы пры дапамозе драўлянай палачкі. На ёй былі вузкія, унізе расклёшаныя чорныя штаны, нейлонавая жоўтая блузка з вялікім стаячым каўнярам і скураны пінжак, ногі абутыя ў класічнай формы туфлі. Пышныя чорныя, бліскучыя, нібы ядваб, валасы локанамі падалі на спіну. Мама была маладая, фігурыстая і прыгожая, нягледзячы на акуляры, якія рабілі яе зялёныя з паралокай вочы больш выразнейшымі, чым тыя здаваліся. Яна спадабалася бацьку адразу, асабліва яе разумны выгляд. Чамусьці ён вырашыў, што дзяўчына абавязкова павінна быць разумнай, калі насіла акуляры. Што ж, ён амаль не памыліўся. Аднак падысці не асмеліўся. Палічыў, што не зусім ёмка танкам урывацца ў чужую кампанію. Зрэшты, для першага разу гэта і не патрабавалася. Танюха прывяла бацьку ў кавярню толькі дзеля таго, каб паказаць яму дзяўчыну, як і абяцала. Яна жыла ў тым жа доме, што і Танюха, у першым пад'ездзе, з бліннай па другі бок дома, працавала санітаркай у гарадской бальніцы і сустракалася з нейкім прышчом (нічога сур'ёзнага) з другога пад'езда.

Танюха падзялілася з бацькам падрабязнасцямі, якія нарыла пра маю маму, і пацікавілася ягонымі наступнымі дзеяннямі. Той сказаў, што яму патрэбна больш інфармацыі.

І яны ўзялі маму ў аблогу. Хадзілі за ёй ценямі, высочвалі, падслухвалі, распытвалі пра ейных знаёмых, быццам збіралі дасье ў ЦРУ, на што патрацілі

тры месяцы. Пасля Танюха сказала бацьку, што далей цягнуць немагчыма, і ён павінен з дзяўчынай пазнаёміцца, калі, канечне, не перадумаў. Адзінае, што засмучала бацьку — гэта тое, што ён чамусьці забываў увесь час імя будучай жонкі, асабліва тады, калі знаходзіўся побач. Мабыць, насамрэч пакахаў.

— Давай! — падштурхнула Танюха бацьку.

Яны стаялі каля яе пад'езда. Бацька курыў, не зводзячы позірку з мамы, якая за дваццаць крокаў ад яго размаўляла аб нечым з жонкай свайго старэйшага брата Аляксандра і былой аднакласніцай Люсяй. Абедзве абапіраліся спінамі аб жалезную трубу, што замяняла сабой плот, якой была абнесена, нібы абвязана, як святочны падарунак, уся вялізная дзіцячая пляцоўка ў двары і палісаднік, размешчаны побач з першым пад'ездам.

Свяціла сонца. Яго прамяні, быццам падковы, высякалі з снегу іскры і цэлілі людзям у вочы. Снежань нябачным дзядулем адпачываў пад елкай у палісадніку, але нішто і ніхто не магло ўцячы ад яго пільнага вока. З ледзяной горкі, пабудаванай дарослымі і залітай на ноч вадой проста пасярэдзіне дзіцячай пляцоўкі, з віскатам і задаволенымі ўсклікамі каталася дзятва. Крыху ўбаку, на высокай драўлянай горцы валтузілася малеча. Скатвалася з горкі і яшчэ доўга ехала па адмыслова залітай сцяжынцы ад горкі да палісадніка.

Мая стрыечная сястра Наташка — чатырохгадовая прыгажуня і Люсіна дачка — таксама хацела на горку і захоплена пазірала ва ўсе вочы на шчаслівчыкаў, амаль нерухома седзячы ў санках побач з мамкай і цёткай, шчыльна ўхутаная, каб не змерзнуць, у пуховую хустку і цёплую коўдру.

Яе бацька і ўхапіў. Дакладней, не літаральна яе, а санкі, у якіх сядзела малая. Зацісну́ў вяроўку ад санак у кулаку і пабег, не аглядаючыся. Наташка запішчала мышанём, але не ад страху, ад неверагоднай сілы задавальнення, падобнай на шчасце, звычайнае дзіцячае шчасце. Малой ажно заняло дух ад хуткасці, аднак яна патрабавала яшчэ і яшчэ хутчэй везці яе! Наташка забылася і на мамку, і на цётку. Яе героем быў мой бацька, якога яна не ведала і ніколі не бачыла раней, ды толькі ён у той момант, здавалася, апынуўся найраднейшым чалавекам.

Бацька бег уперад, цягнуў за сабою санкі з дзяўчынкай і цешыўся таму, як рэагавала на яго ўчынак малая. Ён нібыта дзеля яе гэта і зрабіў, каб парадаваць кнопку. Каля першага пад'езда павярнуў налева, абмінуў дом і куляй панёсся далей. Міма праляцеў дзіцячы садок «Айжан», цырульня, набліжалася перакрыжаванне, што вяло з аднаго боку да школы № 6, з другога — да дзіцячага садка «Снягурка», у які бацькі будуць вадзіць мяне ў хуткім часе.

Мама ні разу не аклікнула яго. Бегла за ім зацята і моўчкі. Дзіўна, што менавіта яна пабегла, а не родная маці дзяўчынкі. Бацька і разлічваў на тое, што пабяжыць яна. Ён вылічыў гэты псіхалагічны ход пры дапамозе Танюхі, чыёй ідэяй, дарэчы, з'яўляўся і нявінны кіднэпінг.

Бацька паслізнуўся. Знарок ці выпадкова — неістотна. Ён распластаўся на снезе, санкі балюча ўрэзаліся яму ў бок, а проста на яго перакулілася праз санкі мама і закалаціла кулачкамі па яго грудзіне, не прараніўшы ні гуку. Яна ж не на жарт спалохалася за пляменніцу. А ён пасміхаўся, засланяючыся ад яе ўдараў, пакуль гэта яму не надакучыла. Тады бацька паймаў маміны рукі, прыціснуў іх да сябе і пацалаваў яе ў вусны. Ад нечаканасці мама нават адказала на яго пацалунак падобным, а потым з'ездзіла яму па фізіяноміі.

— Цілі-цілі-цеста, жаніх і нявеста! — захоплена запляскала ў ладкі Наташка.

Мама падхапілася са снегу, падабрала вяроўку ад санак, пашыбавала назад.

— Я ж люблю цябе, дурніца! — выгукнуў ёй у спіну бацька.

Мама спынілася, павярнулася, усунула вяроўку пляменніцы ў рукі, хутка падышла да бацькі, пацалавала ў вусны, адштурхнула ад сябе і прамовіла:

— Ну і любі сабе ціхенька. Навошта гарлапаніць на ўсю іванаўскую, га?

Пайшла да Наташкі. Каля пляменніцы павярнулася да бацькі, быццам нечага забылася.

— Сам дурань! — выгукнула яна з лагоднай усмешкай.

Яна чакала нечага падобнага, бо заўважыла, што за ёй сочаць. Спачатку спалохалася, але вырашыла ніяк не рэагаваць, да таго ж бацька нічога дрэннага ёй не рабіў. Глядзець жа не забараняецца і хадзіць следам хвосцікам таксама. Мама нават прывыкла да незвычайнай увагі з боку незнаёмага маладога чалавека, ён пачынаў ужо ёй і падабацца. Здаралася, што і засмучвалася, калі раптам заўважала яго адсутнасць. Аглядалася вакол, вышуквала ў натоўпе, не знаходзіла — і ўвесь дзень як быццам сапсаваны атрымліваўся. А бачыла — і настрой узнімаўся, хацелася спяваць і танчыць, не баючыся быць успрынятай дзівакаватай дурніцай. Яна, не задумваючыся, кінулася ўслед за бацькам, калі той падхапіў санкі з пляменніцай і давай уцякаць, бо адчула, што зрабіў ён гэта дзеля яе, бо стамілася ўжо чакаць. Магчыма, што яна не вытрымала б і першаю што-небудзь прыдумала, каб неяк зблізіць іх абаіх, але бацька ўсё ж апярэдзіў яе. Хаця, не з'явіся Танюхі ў бацькавым жыцці, наўрад ці яны б сустрэліся калі.

Ён дагнаў яе на рагу дома, калі яна заварочвала побач з палісаднікам, ідучы следам нішкам і пакурваючы.

— Я — Мішка, — назваўся, быццам аклікнуў.

Мама азірнулася, але не спынілася, хоць і сказала сваё імя ў адказ, якое бацька ведаў, аднак не памятаў, якое тут жа забыў, не зусім, ды ўсё ж надоўга. Пакуль не прачытае яго ўласнавочна ў кнізе рэгістрацыі падчас роспісу ў загсе, калі будзе браць шлюб з мамай.

— Можа, — губляючыся, адчуваючы, як перапмае дыханне кожнае прамоўленае слова, працягваў наступ бацька, не пазнаваў сябе і хваляваўся, — куды-небудзь сходзім?..

Мама гэтага не заўважала, таму што бацька ішоў ззаду. Яна адно чула яго, не бачыла. І тое, што чула, падавалася ёй упэўненым і нават дзёрзкім. Але больш за ўсё падабалася, што бацька нікуды не сышоў, а настойліва, на маміну думку, дамагаўся свайго.

— Можа, і сходзім, — какетліва паўазірнулася яна.

— Калі? — запытаў бацька. Яму падалося, што ён ледзь выціснуў слова з сябе, што яго не пачулі. Аднак мама ўсё цудоўна пачула. Бацькаў запыт ёй уявіўся патрабавальным загадам.

Між тым яны параўняліся з Наташкавай маці, якая гэдак жа нязмушана стаяла каля трубы і лянівa пазірала на неба. Здавалася, што яе зусім нічога не тычылася з таго, што адбылося. І ці адбылося што?

— Дык я зайду вечарам? — нібыта ўжо ўсё было вырашана паміж імі, удакладніў бацька, абмінуў і дзяўчынку на санках, і маму, і Люсю, пасля чаго марудна, чакаючы пацвярджэння, рушыў наперад.

— Заходзь, — паціснула плячыма мама.

— А шостай каля твайго пад'езда, — апошнія словы пакінуў бацька за сабой, павярнуўся спінай да дзяўчат і хутка пашыбаваў прэч.

— Чакай, адкуль ты… — хацела было запыніць яго мама, бо не зусім зразумела яго апошняй фразы, аднак своечасова ўспомніла, што бацька мог пра яе ведаць калі не ўсё, то вельмі шмат, ён жа сачыў за ёю так доўга. Ёй гэта не спадабалася, і яна вырашыла не выходзіць да бацькі на прызначанае спатканне.

А той, калываючыся, як на хадулях, у ботах з высокімі абцасамі, якія нацерлі яму мазалі на пятках, марыў хутчэй дайсці дадому і зняць абутак, нават не падазраваў, што наконт яго вырашыла мама. Бацька спадзяваўся на цёплы прыём, трэба толькі зняць, у рэшце рэшт, гэтыя боты, і ўсё будзе. І чаго ён толькі ўздзеў іх? Зарысавацца? Дык мама і не паглядзела на іх ні разу. Затое яна заўважыла яго вочы — валошкавыя беларускія азёры, у якіх вельмі хутка і патоне.

Мама была малодшай дачкой Героя Савецкага Саюза, больш за тое — Героя Вялікай Айчыннай вайны Яўгена Пятровіча Украдыгі. Дзед Яўген прайшоў усю вайну і дайшоў да Берліна ў званні капітана другога рангу Ваенна-Марскога флоту. У лютым 1943 года на яго катарах дэсант, які ўзначальваў маёр Кунікаў, высадзіўся на Малой зямлі і з жорсткім боем адбіў яе ў немцаў. Маёр Кунікаў і дзед Яўген атрымалі за гэтую аперацыю па Залатой Зорцы Героя. Адзін пасмяротна, другі ледзьве ачуняўшы. У дзеда Яўгена пасля той калатнечы была навылет прастрэлена грудзіна, а таксама паранена галава і перабіта рука. Рука, у якой былі пашкоджаны ўсе сухажыллі, з цягам часу ўсохла. Дзед Яўген не дазволіў адняць яе яшчэ ў 1943.

У Казахстан дзед прыехаў уздымаць цалінныя землі па загадзе партыі, бо да канца жыцця заставаўся сапраўдным камуністам (па асноўнай версіі). Папраўдзе усё было нашмат складаней. Яго жонка, мая бабуля Еўдакія, у часы вайны была вывезена ў Германію, працавала на немцаў. Дзед Яўген, беручы з ёю шлюб, ведаў пра гэта. Асабісты лёгка б даказалі віну перад Радзімай абаіх, нягледзячы на дзедаву Зорку Героя. Яму прапанавалі з'ехаць з родных мясцін, куды ён і баба Дуся вярнуліся пасля вайны, каб не мазоліў вочы, ці ў Карпаты дабіваць «бандэраўцаў», ці на цаліну, і дазволілі суткі падумаць. І як бы дзед Яўген ні любіў сваю Украіну, сваю родную Цішкоўку, што на Кіраваградчыне, давялося пакідаць іх, бо трэба было жыць. Асабіст трапіўся сумленны, не іначай.

У Казахстане ён працаваў спачатку прарабам, пасля дырэктарам «Заготзерна». Пакуль Шахцінска не было, жыў з сям'ёй у пасёлках Нурынскага раёна Кіеўцы, Шакаі і Шахцёры. Калі пачалося будаўніцтва новага горада, прымаў у ім непасрэдны ўдзел, бо да таго часу скончыў завочна Львоўскі будаўнічы інстытут, пасля з'яўляўся пачэсным жыхаром пабудаванага горада, у якім дзеда вельмі паважалі і шанавалі, аб чым сведчыла бясконцая чарада людзей, што прыйшлі развітацца, калі ён памёр, і дзве кватэры ў новым шматпад'ездным доме. Двухпакаёвую ў другім пад'ездзе ён аддаў старэйшаму сыну, які на той час ажаніўся, чатырохпакаёвую ў першым пад'ездзе засялілі астатнія.

Мама расла ў вялікай сям'і, з трыма братамі і сястрой. Старэйшы Аляксандр нарадзіўся без слёзнага мясца ў вачах (гэта ружовае рэчыва, якое мае кожны чалавек у кутках вачэй каля носа), і яго мацеры сказалі, што сын не жылец на гэтым свеце. Аднак ён дажыў да трыццаці гадоў і, цалкам магчыма, што пажыў бы яшчэ, калі б… не яго жонка Люся. Ён шалёна яе кахаў, ды Люсі не хапала аднаго ягонага кахання. Яна прагла іншых. Зразумела, што за дзядзьку Сашу яна выйшла замуж па каханні, але, мабыць, у яе жылах цякла кроў павеўны і яна нічога з гэтым зрабіць не змагла. Напэўна, і не супраціў-

лялася прыродзе. Дзядзька Саша страшэнна раўнаваў, здаралася, збіваў жонку да паўсмерці. На ёй зажывала ўсё як на сабаку, ці, хутчэй, як на сучцы, і яна зноў кідалася камянём у прыгоды. Відаць, з-за нерваў і перажыванняў у дзядзькі Сашы абвастрылася страўнікавая хвароба, якая, між іншым, нібы спрут, запусціць свае шчупальцы ў кожнага з маміных сваякоў, не абмінуўшы і яе самую, і якая, быццам кеглю, збіла дзядзьку Сашу з ног. Ён трапіў у рэанімацыю, затым у кому. З Шахцінска яго перавезлі ў карагандзінскую лякарню, бо мясцовыя ўрачы не ведалі, як ратаваць хворага і ад чаго. У Карагандзе дзядзьку Сашу вярнулі да жыцця, якое падтрымлівалі апарат штучнага дыхання і сістэма жыццязабеспячэння. Мама з бацькам бачылі яго перад самай смерцю. Дзядзька Саша жартаваў, прасіў прывезці дачку. Пасля іх у палату зайшла Люся. Яна прабыла там хвілін дваццаць. Пра што размаўляў дзядзька Саша з жонкай — ніхто так і не даведаўся, а Люся нікому не расказвала. Ды пасля яе візіту дзядзька Саша пазрываў з сябе ўсе катэтары і капельніцы. Ураваць яго не паспелі. Магчыма, ён і не хацеў, каб яго выратавалі. На жаль, я не памятаю дзядзьку Сашу, бо памёр ён, калі мне было гады два. З фотаздымкаў жа старэйшы мамін брат выглядае вясёлым і шчаслівым, высокім прыгажуном артыстычнай знешнасці.

Затое добра памятаю астатніх! Дзядзьку, Сярогу, цётку Галю.

Дзядзькам з лёгкай рукі Наташкі ўсе называлі другога мамінага брата Мішку, дарэчы, равесніка майго бацькі. Сярогам, таксама з-за Наташкі, называлі трэцяга яе брата.

Мне заўсёды здавалася, што Дзядзька падобны на артыста Карачанцава, не ведаю чаму. Усё сваё жыццё ён адпрацаваў на Шахцінскай шахце, любіў рыбалку, кнігі, штукарыць што-небудзь сваімі рукамі, якія ў яго былі рэальна залатыя, і сваю жонку Таню, тую самую Танюху — бацькаву сяброўку. Яны з Дзядзькам пажаніліся перад самым нашым ад'ездам з Казахстана. Да таго часу Танюха паспела некалькі разоў апячыся аб мужчын, быццам матыль аб электралямпачку, і нарадзіць дачку. Шчыра кажучы, бацька іх і пазнаёміў. Яму было шкада Танюху, і ён падумаў, што Дзядзька, ужо, дарэчы, халасцяк ва ўзросце, трыццацівасьмігадовы, але вельмі прыстойны, сумленны і сур'ёзны чалавек, зможа зрабіць яе шчаслівай. Танюха адразу загрэбла Дзядзьку ўсяго, без астатку. Ён, у прынцыпе, асабліва і не супраціўляўся. Неаднаразова я заўважаў, як яны хаваліся па кутах у вялікай чатырохпакаёвай кватэры дзеда Яўгена, у якой Дзядзька жыў і куды прывёў Танюху, і цалаваліся. Дзядзька саромеўся, калі нехта бачыў яго шчаслівым, бо Танюха і была яго шчасцем, а яна задаволена ўсміхалася, бо ёй шчасліваю быць падабалася.

Яшчэ Дзядзька вельмі любіў слухаць музыку. У яго меліся прайгравальнік для вінілавых кружэлак і бабінны магнітафон, па якім ён звычайна насалоджваўся песнямі Высоцкага. Аднак дзед Яўген, гераічны мамін і Дзядзькаў бацька, хрып Уладзіміра Сямёнавіча і ўсё, што той ім выкрыкваў, ненавідзеў. Ён урываўся ў Дзядзькаў пакой адразу, як толькі чуў Высоцкага, выдзіраў бабіны з магнітафона, ірваў і шкамутаў плёнку з запісамі і раз'юшана заяўляў, што пакуль ён жывы, не будзе ў яго хаце гучаць розная мярзота. Дзядзьку давялося купляць навушнікі і слухаць музыку, каб не раздражняць дзеда Яўгена, а той па тэлевізары глядзеў выступы Кабзона і Лешчанкі, не перастаючы паўтараць, што толькі гэтыя спевакі могуць хоць нешта вартае данесці да слухача, альбо сам спяваў, не маючы ні слыху, ні голасу, упадабаную з дзяцінства «Ніч яка місячна». З ім ніхто не спрачаўся, ён жа быў Героем.

Між іншым, Дзядзька ледзь не забіў свайго гераічнага бацьку і сябе разам з ім. Не наўмысна, зразумела.

У войску ён вывучыўся на шафёра і вазіў вайсковае кіраўніцтва, што дзеду Яўгену вельмі спадабалася: не прападзе сын з такой прафесіяй. Калі Дзядзька адслужыў сваё, дзед Яўген купіў яму чырвонага «Масквіча» ў падарунак. Дзядзька, канечне, узрадаваўся, абкатаў машыну і павёз дзеда Яўгена ў Караганду па нейкіх важных справах таго. Надвор'е ж зусім не спрыяла паездцы. Пайшоў дождж, падняўся вецер, які выклікаў пясчаную буру, а бура звычайна ператваралася ў смерч, кшталту амерыканскіх, і лёгка магла праглынуць любое невялікае збудаванне, што паўставала на яе шляху, не гаворачы пра чалавека. Карацей кажучы, «Масквіча» знесла ў кювет і колькі разоў перакуліла. Дзядзьку з дзедам Яўгенам пашанцавала выбрацца амаль без фізічных пашкоджанняў, аднак больш пасля таго Дзядзька за руль аўтамабіля ніколі не садзіўся. Ён прадаў машыну і купіў матацыкл — блакітны «Іж» з люлькай, які цалкам яго задавальняў (зрэшты, як і дзеда Яўгена) і на якім ездзіў на рыбалку, бо рыбаком быў заядлым. З той жа аддачай Дзядзька працаваў на шахце, за што кожны год яго ўзнагароджвалі пуцёўкай на ВДНГ у Маскву, адкуль ён заўжды вяртаўся з падарункамі і асабліва шмат прывозіў для нас, маленькіх бульбашыкаў. Маміных дзяцей, то бок нас, любілі ў сям'і Украдыгаў больш за астатніх. Дзядзька дык і не хаваў ні ад кога сваёй прыхільнасці. Ён літаральна завальваў улюбёных пляменнікаў цацкамі, цукеркамі, нейкімі дарагімі касцюмчыкамі, а пасля фатаграфаваў для гісторыі і для фотаконкурсаў, бо займаўся амаль на прафесійным узроўні фатаграфаваннем у дадатак да іншых прыхільнасцяў.

Сярога ж любіў па-добраму здзекавацца з мяне. Ён насіў ладныя чапаеўскія вусы, якімі я захапляўся і марыў, калі вырасту, мець такія ж, пра што неасцярожна і сказаў яму неяк. Сярога ж, не доўга думаючы, заявіў, што ў мяне вусы ніколі не вырастуць, бо ў майго бацькі вусаў не было, а значыць, не будзе і ў мяне. Я пачынаў спрачацца і румзаць, на што Сярога пасміхаўся, а пасля частаваў маімі любімымі цукеркамі, якія я называў «з носікам». Толькі я супакойваўся, як Сярога зноў пачынаў казаць, што вусы ў мяне не вырастуць, і я зноў кідаўся ў крык і слёзы, а Сярога задаволена рагатаў, пасля чаго яшчэ раз частаваў цукеркамі «з носікам».

Сярогу выразалі палову страўніка, калі яму не споўнілася яшчэ і трыццаці гадоў. Быў выхадны, але Сярога ў той дзень працаваў (інжынерам на ТЭЦ). Яму зрабілася блага, скруціла так, што не мог разагнуцца, але пайшоў пасля работы (адпрацаваўшы змену) не ў бальніцу і не дадому да маладой жонкі (усяго некалькі месяцаў як ажаніўся на той час), а да маці, да сваіх маці і бацькі. Не разгінаючыся, узяў мяцёлку і пачаў вымятаць смецце з кватэры. Мёў і плакаў, бо боль адчуваў у жываце невыносны. Дзед Яўген выклікаў «хуткую» і патэлефанаваў Ніне — Сярогавай жонцы, якая працавала неўрапатолагам у паліклініцы, што размяшчалася ў доме на Паркавай, тым доме, у якім мы будзем жыць свае апошнія гады ў Казахстане. Патэлефанаваў, каб яна ведала пра мужаў стан, бо Сярога ні ў якую не хацеў паведамляць ёй пра сваю хваробу. Ды толькі дзякуючы ёй, яе сувязям, яго ўдалося ўратаваць. Язва зжэрла амаль усё. Калі б Сярога трапіў у бальніцу крыху пазней, калі б яго жонка не мела настойлівы патрабавальны характар, не выжыў бы. Пасля аперацыі ён вельмі доўга праходзіў курс рэабілітацыі, есці амаль нічога не мог, дый нельга было. Ніна выхадзіла яго, я лічу, перш за ўсё каханнем. Яны насамрэч вельмі кахалі адно аднаго і былі неверагодна прыгожай парай і так падыходзілі адно аднаму!

Дарэчы, менавіта дзякуючы Сярогу, які падорыць мне ў адзін з дзён нараджэнняў «Следапыта» Фенімора Купера і «Дзяцей капітана Гранта» Жуля Верна, я пачну збіраць сваю ўласную бібліятэку. Кніжныя сценкі пачэсна

займалі свае месцы ў кожным пакоі вялікай кватэры. Сваякі, акрамя «Правды» і «Известий» выпісвалі «Новый мир», «Наш современник», «Молодую гвардию», «Дружбу народов», «Юность», «Уральский следопыт», «Крокодил», «Литературную газету», падпісныя кніжныя выданні.

З-за любові да кніг, да слова, хутчэй за ўсё, цётка Галя паступіла ў педінстытут і адпрацавала ў школе настаўніцай рускай мовы і літаратуры сорак гадоў, прывіваючы вучням, як манту, сваё захапленне непаўторным светам літаратуры. Яна з’явілася ў сям’і нечаканым дарослым шаснаццацігадовым чалавекам. Дзед Яўген прывёз яе аднойчы з Украіны, куды ездзіў то адзін, то з усімі разам па справах ці ў адпачынак штогод. Сказаў, што Галя яго дачка, а значыць, сястра ягоным дзецям. Яна была самаю старэйшаю. Нарадзілася ў жанчыны, якую дзед Яўген ведаў з вайны, але не кахаў і ніколі не ўтойваў ад яе, што не кахаў. Памыліўся, бывае. Яна памерла, пагэтаму дзед Яўген забраў дачку да сябе. З дзядзькам Сашам у цёткі Галі была розніца ва ўзросце ўсяго паўтара года. Яе прынялі як родную, ды яна і была родная, нават дзедава жонка палюбіла дзяўчыну, нібы сваю. Цётка Галя таксама ўзрадавалася, што не адна на свеце. Зразумела, што не адразу прывыкла да новай сям’і, але даволі хутка адаптавалася. Мама мая цягнулася да яе, Сярога не адыходзіўся, дый старэйшыя хлопцы не крыўдзілі самі і іншым не дазвалялі крыўдзіць сястру. Надоўга ўсё ж цётка Галя не затрымалася. Скончыла школу, затым вучылася на настаўніцу, а потым выйшла замуж і пасялілася з мужам (шахцёрам-забойшчыкам дзядзькам Пятром) у іншым горадзе — Абаі. Адтуль яе прывозіў муж на сваёй машыне ў Шахцінск святкаваць дні нараджэння, майскія і кастрычніцкія святы. Дзядзька празваў сям’ю цёткі Галі Абайскай і, калі тыя прыязджалі, папярэдне паведаміўшы аб гэтым па тэлефоне, абвяшчаў дзеду з бабай, што Абайскія едуць.

Пасля школы мама не паступіла ў інстытут, трапіла ў бальніцу. Санітаркай. Яе не мелі права ўзвысіць да медсястры, але абавязкі медсястры яна выконвала. Усе хворыя і дактары любілі маму. Яна мыла падлогу ў калідорах і палатах, вокны і плінтусы, выносіла з-пад ляжачых судны, рабіла ўколы і перавязкі, мерала тэмпературу і разносіла лекі і абеды. Яе нават клікалі ў асістэнткі на нескладаныя аперацыі і davучалі зашываць прааперыраваныя раны. Яе дабрыня, яе сэрца лекавалі больш, чым, уласна, лекі, асабліва голас, якім прамаўляла вершы на памяць ці па кніжцы, супакойваючы цяжкіх хворых. Яна не змяніла сваіх адносін да паэзіі і ніколі не зменіць за ўсё жыццё, але разумела, што імі можна здымаць боль і супакойваць душы.

Да кахання ставілася нейтральна. Адмыслова нікога не шукала і не чакала прынца. Кніжныя інтэлігентныя маладыя людзі яе не цікавілі, яна іх і не заўважала, адносілася, канечне ж, з цяплом, як і да ўсіх астатніх, але не болей. Настаўнік, які разбіў ёй сэрца, міжвольна пераканаў яе, што падобныя да яго абыдуцца з ёю гэтаксама. Нагавораць торбу прыгожых слоў і змыюцца, не папярэдзіўшы. Наконт іх яна не сумнявалася: балбатуны і няздары. Ёй патрэбен быў іншы. Просты, зразумелы, жывы. Такі, як бацька, мой бацька, які ў хуткім часе з’явіцца на гарызонце жыццёвага мора неўтаймаваным фрэгатам.

Ён падышоў да яе пад’езда раней прызначанага часу. Пляцоўка каля пад’езда здавалася самай утульнай у параўнанні з усімі астатнімі. З абодвух бакоў яе ўпрыгожвалі высокія, хоць і танклявыя ў камлі таполі і кусты карагачу, з лісцеў апошніх летам дзятва рабіла свістулькі. Выглядалі яны не ах, лысыя і наструненыя, быццам цеціва на луку, і сарамліва ўздрыгвалі ад кож-

нага парыву ветру, адчайна прыкрываючыся, быццам цнатлівыя паненкі, тым калівам снегу, што яшчэ заставаўся на іх галінах. Дзве лаўкі насупраць адна адной таксама насцярожана цікавалі за незнаёмцам у асобе майго бацькі. Яны ведалі тут кожнага насельніка і хавалі ў шчылінках дзеравяшак іх шматлікія тайны. Калі б нехта калі-небудзь дадумаўся ўзяць інтэрв'ю ў лавак, тыя, не сумняваюся, навыперадкі, спяшаючыся абагнаць адна адну ў шакіруючых прызнаннях, набалбаталі б не на адзін раман. Аднак бацька не быў тым жаданым госцем, і лаўкі хутка расчараваліся ў ім. Тым больш што ён вельмі шмат курыў. Ад хвалявання, зразумела. Яму здавалася, што ён чакае маму так даўно, прыпёршыся загадзя, а яна ўсё не ішла і не ішла.

Мама тым часам вагалася. Цвёрда ж вырашыла, што не пойдзе на спатканне, прызначанае бацькам. Тым не менш ёй карцела бегчы да яго ўжо за паўгадзіны да сустрэчы. Яна сядзела ў сваім пакоі на ложку і грызла пазногці, пазіраючы на гадзіннік і прыспешваючы хуткасць часу. Аднак загадвала сабе нікуды не ісці. Затым прыгадвала пацалунак, пакінуты бацькам на яе вуснах, датыкалася да іх, быццам правяраючы, ці на месцы ён, і тут жа адмяняла загад.

І ўсё ж мама вытрымала праседзець лішнія дзесяць хвілін, затрымаць сябе па загадзе (у каторы раз аддадзеным унутраным голасам), круцячыся на ложку, быццам знаходзілася ў адзіночнай камеры турмы. Затым імкліва вышпурнула сябе за дзверы кватэры, на хаду зашпіляючы зімовае паліто і абмотваючы шыю цёплым шалікам. Маланку чорных скураных ботаў на ўстойлівай платформе, прывезеных дзедам Яўгенам з Украіны яшчэ ў маі на дзень нараджэння, зашморгнула ўжо на выхадзе з пад'езда.

Ён яе чакаў. І ўзрадаваўся, быццам якой-небудзь цудоўнай з'яве, сведкам каторай апынуўся, ці прыўкраснаму стварэнню.

— Вось і я, — задыхана выпаліла мама.

— Я бачу, — затрымаў яе бацька за плечы. Яна ў чарговы раз падзівілася на яго дужыя рабочыя рукі і ў захапленні не магла ад іх адвесці вачэй. Захацелася дакрануцца шчакой, але не зараз, трэба было трымацца і адразу ўсіх пазіцый не здаваць.

— Ты прыгожы, — нечакана прамовіла мама, здзівіўшы саму сябе, але чамусьці ўтрымацца не здолела, хоць нават так не думала, асабліва калі пачула, як ад бацькі патыхае цыгарэтамі.

— Ты прыгожая, — хапіла яму розуму запярэчыць і адначасова зрабіць нязграбны камплімент.

— Прымаецца, — сказала тады мама і пацікавілася: — Куды пойдзем?

— Прама, — выцягнуў руку наперад бацька, ніякавеючы пад позіркам яе лясных вачэй. Ён адчуваў сябе шчаслівым, але зусім не ведаў, куды ісці і што рабіць далей, тым больш мулялі цесныя боты, якія не хацеў абуваць, ды ўсё ж напнуў на нейкую трасцу.

Мама паціснула плечукамі, маўляў, ты галоўны, вось і вядзі, і прасунула сваю руку пад яго.

Яны пайшлі па дарозе ўздоўж дома. Пад нагамі хрумсцеў снег. На дзіцячай пляцоўцы дзяцей пабольшала. З горак каталіся старшакласнікі, карыстаючыся момантам пажмякаць старшакласніц, якія віскаталі ад задавальнення і ўвагі да сябе, залівіста смяяліся і нешта шчабяталі.

Мама зноў нечакана спыталася ў бацькі, але пытанне гэтае яе хвалявала больш за астатнія, на якія яна б хацела атрымаць адказ, каб не памыліцца:

— Як ты адносішся да паэзіі і ўвогуле да кніг?

— На халеру яны мне? — адразу адказаў бацька, паўтарыўшы словы сваёй мацеры пры тыя самыя кнігі.

— Як гэта зусім ніяк? — усё ж нечага патрабавала мама, нечага больш канкрэтнага.

— Я лічу, што жыццё трэба пражываць, а не чытаць, — вымавіў бацька, — хаця, — запнуўся і працягваў, — адну кніжку я прачытаў. Яна называлася «Малярка». Нейкага Маршака.

— Ого! — выгукнула мама, а бацька спалохаўся, што сваім адмоўным стаўленнем да кніг можа адштурхнуць дзяўчыну, бо па ёй жа было відаць нават сляпому, што кнігі ў яе жыцці не на апошнім месцы.

— Ты можаш чытаць, — паспяшаўся ён неяк выправіцца. — Я не супраць.

— Дазваляеш, значыцца? — незразумела для бацькі выказалася мама. Ён не мог здагадацца, ці сур'ёзна яна прамовіла апошнюю фразу, ці з падкавыркай якой-небудзь саркастычнай.

— Дазваляю, — не запярэчыў усё ж бацька і дадаў: — Але маё стаўленне да кніг застанецца нязменным.

— Які ты бескампрамісны, — пасміхнулася мама, але ёй спадабалася тое, як і што адказаў бацька. А яшчэ яна зразумела, што ён не будзе намотваць кілаграмы слоўнай локшыны ёй на вушы, што ён чалавек дзеяння і працы.

Бацька сустракаў маму з работы, чакаў яе каля бальнічнай брамы, пакурваў. Яна ляцела да яго ланню, спусціўшыся з бальнічных прыступак, не хавала радасці і шчаслівых вачэй ад каляжанак, з якімі нярэдка ў такія моманты забывалася развітацца. Ён заўсёды стаяў спінай да бальніцы, дэманстратыўна падкрэсліваў асабістую незалежнасць ад яе і абяцанне (якое, між іншым, пранясе праз усё жыццё, верны свайму слову) таго, што ніколі не стане ейным пацыентам. Мама падбягала ззаду, кранала бацьку за руку, той паспешліва выкідаў недакурак, і яны абдымаліся. На той час ёй падабаўся пах цыгарэт, якім патыхала ад бацькі, да таго ж гэта было нешта новае і, галоўнае, забароненае ў яе сям'і. Ні дзед Яўген, ні маміны браты не курылі, і ўсе разам адмоўна ставіліся да тытуню і курыльшчыкаў.

Узяўшыся за рукі, як пры першым спатканні, яны ішлі па горадзе, калі-нікалі заходзілі ў кавярню, саграваліся гарачай какавай, частаваліся і ласаваліся пірожнымі «картошкай» і «трубачкай» з крэмам, якія мама вельмі любіла, ці заглядалі ў кіно.

Нярэдка бацька і на работу маму праводзіў, не толькі сустракаў, што мама асабліва цаніла. Ёй падабалася ісці з ім поплеч, як бы выстаўляючы напаказ свае адносіны перад людзьмі, як бы хвалячыся тым, што яна не адна, што ў яе ёсць мужчына і не абы-які. Бацька быў малады, прыгожы, смелы, моцны, неадукаваны, канечне, але яму і не патрэбна была тая адукацыя, яна б яму не пасавала, нават сапсавала б. Мамінай адукацыі, той, што атрымала ў школе, і той, што назапашвала сама доўгімі вечарамі з кнігамі ў руках, хопіць на іх абодвух з галавой. Ён быў сапраўдным савецкім мужчынам, без інтэлігенцкіх смаркачоў і лішніх думак, яна — сапраўднай жанчынай, маладой, прыгожай, па-жаночы разумнай і зухаватай.

Пацалункі каля бальнічнай брамы перад працоўным днём здаваліся маме найсалодкімі і найчаканымі. Яна нібыта зараджалася ад іх, як ад батарэек, энергіяй і жыццярадасцю, якімі шчодра дзялілася з хворымі. Бацька таксама на ўздыме пасля ранішніх пацалункаў працаваў і нават гундосіў пад нос улюбёныя словы з песні Высоцкага пра гімнастыку.

Недзе праз тры месяцы сустрэч, праводзінаў, прагулянак, размоў, абдымкаў і пацалункаў, калі паўсюль фіялеціў бэз і шчыпаў ноздры водарам май, а горад квітнеў усмешкамі дзяўчат і жанчын, быццам ружамі ў садах, бацька,

нечакана для самога сябе, відаць, вясна паўздзейнічала, вазьмі дый ляпні, звяртаючыся да мамы:

— Ці пайшла б ты за мяне?

Яны набліжаліся да бальніцы, у якой мама працавала і да якой бацька, як звычайна, праводзіў яе. Яна пра нешта яму распавядала, пра нешта смешнае, распавядала і смяялася сама, таму не адразу зразумела сэнсу пачутых слоў, адрасаваных да яе.

Мама замаўчала, з твару яе спаўзла ўсмешка, нібы прамакашка са сшытка. Бацька спалохаўся за яе, бо яна зрабілася белаю, нібы малако, і падумаў, што пакрыўдзіў дзяўчыну недарэчнай прапановай.

Мама чакала гэтага кроку ад бацькі з першых хвілін іх знаёмства. Яна ўяўляла, як і што адкажа яму, малявала ў галаве прыгожыя, кшталту кніжных, ілюстрацыі прапановы рукі і сэрца, а дачакаўшыся, разгубілася, бо адбылося гэта так будзённа і нерамантычна, і ледзь не расплакалася. Ну а ён жа не вінаваты, што зусім не рамантык і да мастацтва ўвогуле ставіцца як да непатрэбнай у жыцці раскошы. Сама ж захацела мужчыну з простых, без фантазій, звычайнага рабацягу, — вось і атрымоўвай.

— Эй, ну ты што! — тузаў яе бацька, намагаючыся прывесці ў належны стан. — Не хочаш — нічога страшнага. Я пачакаю. Ты толькі не перажывай…

— Ды хачу я! — раптам, нібы ачомаўшыся ад здранцвення, усклікнула мама. — Хачу! — чамусьці закалаціла кулачкамі па бацькавай грудзіне. — Хачу, — прашаптала, прыпыніла біць яго і прыклала галаву вухам да ягонага сэрца, якое, здавалася, вось-вось выбухне атамнай бомбай ад шчасця, так яго калашмаціла ўнутры.

— Праўда, ці што? — не зусім верыў ён.

— Ды праўда! — узняла вочы на яго мама.

— Дык гэта… тады… — не ведаў, што і як казаць далей бацька, блытаўся, быццам школьнік каля дошкі, — мабыць… трэба ж… ну там… зразумела, што… ці не? Га?

Ён не глядзеў на маму і шукаў падказкі ад неба, у якое і ўтаропіўся, за якое і зачапіўся, як за выратавальны круг. А што неба магло яму сказаць і чым дапамагчы? Гарэзнічаючы, яно ледзь не накаўтавала яго сонечным промнем проста ў вока. Знайшоў у каго дапамогі прасіць. Гэтаму небу самому патрэбна была дапамога, псіхалагічная.

— Ты пра ЗАГС? — пэўна, здагадалася мама, чаго хацеў бацька, ды не змог сфармуляваць з-за апанаваўшых яго эмоцый.

— Во-во! — адразу ж згодна лаківаў бацька галавой.

— Ты добра падумаў? — рэзала па жывым мама.

Бацька моўчкі пацвердзіў кіўком.

— Гэта назаўжды, памятаеш? — працягвала яна правакаваць. — Жыць давядзецца разам, уяўляеш? Спаць заўсёды разам…

— Спаць — гэта добра, — азваўся бацька, — асабліва разам, — хутка дадаў.

— Дык ты толькі каб спаць разам! — здзекавалася з бацькі мама, помсцячы, мабыць, за адсутнасць рамантыкі.

— Не! — тут жа горача запярэчыў бацька. — Ты што!

— Значыць, не хочаш са мной спаць разам? — мама адчувала, што яе заносіць некуды не туды, але спыніцца не магла, нягледзячы на тое, што бацька мог проста развярнуцца і сысці, а можа, і разлічвала на гэта, правярала.

— Хачу! — цяпер бацька збляднеў, як прасціна. — Хачу! — паўтарыў ён. — Ды не толькі спаць разам, як ты не разумееш! Усё хачу рабіць з табой разам! Хачу, каб ты заўсёды была побач са мной, а я побач з табой.

— Пашпарт з сабой? — запытала тады мама, строга, як яе настаўніца па матэматыцы, насупіўшы бровы.

— Навошта? — не зразумеў бацька.

— Пашпарт, кажу, з сабой? — паўтарыла мама з чэкісцкімі ноткамі ў голасе.

— А твой з сабой? — у яе ж манеры спытаў бацька.

— Мой заўсёды са мной, — адказала мама. — Твой дзе?

— У надзейным месцы, — не прызнаўся бацька.

— У ЗАГС трэба з пашпартам ісці. Ці ты перадумаў ужо?

— А, ты ў гэтым сэнсе, — павесялеў бацька. — І калі пойдзем?

— Сёння, — без затрымкі прамовіла мама.

— Сёння? — на секунду бацька задумаўся, але вырашыў, што, чым хутчэй яны пажэняцца, тым лепш, да таго ж у яго выхадны, ён спакойна вернецца ў інтэрнат па пашпарт, пасля вернецца ў бальніцу па маму, і падчас абедзеннага перапынку яны пададуць заявы на шлюб.

— Сёння! — яшчэ раз паўтарыла мама з выклікам.

— Прымаецца! — выгукнуў бацька.

— Ты лепшы, — пацалавала яго мама і пабегла працаваць.

Бацька закурыў, шумна выдыхаючы дым.

А пасля мама не ведала, як паведаміць бацькам пра сваё вяселле, якое павінна неўзабаве адбыцца. Да таго ж, трэба было неяк пазнаёміць іх і з жаніхом. Страх перад гераічным будучым цесцем адчуваў і бацька, здагадваўся, што выбар дачкі той наўрад ці ўхваліць, таму цягнуў знаёмства з ім да апошняга, магчыма, што і дарэмна. Нічога кепскага пра яго мама бацьку не расказвала, гэдак жа, як і пра братоў і сястру, рыхтавала, як магла. Бацька сам сабе навыдумляў, што не спадабаецца мамінай сям’і, сам сябе і накруціў, аб чым і заявіў неяк маме.

— Ды з чаго ты вырашыў, — спачатку засумнявалася яна ў яго высновах, — што цябе абавязкова мае зацкуюць і загоняць у кут, быццам ваўка-адзіночку? Усё ж яны людзі, а не звяры якія.

— Вось іменна, людзі, — злавіў на слове яе бацька. — Хто я? А хто ты? Задумвалася? Хто твой бацька?

І мама тады завагалася, хоць і не хацела верыць у магчымасць бацькавай праваты. Аднак цягнуць далей не было куды. Дата вяселля няўхільна набліжалася. Яе сям’я павінна была ведаць пра гэта, павінна была пазнаёміцца з бацькам і прыняць яго, бо жыць з ім мусіла яна, а не яны, што б далей ні адбылося і што б ні казалі пра іх увогуле. Мама хацела прыгожага вяселля, з белай сукенкай і вэлюмам, з багатым сталом і гасцямі, а не звычайны роспіс і бытавую вячэру пры свечках на дваіх у бацькавым інтэрнатаўскім пакоі. Цалкам зразумелае жаданне кожнай дзяўчыны, якая сабралася замуж.

І за два тыдні да вяселля, калі бацька ў чарговы раз праводзіў маму дамоў, цёплым летнім вечарам, яна сказала яму, што хопіць бегаць ад адказнасці і хавацца ад саміх сябе. Не з’ядуць жа яго, у рэшце рэшт, яе хатнія! Бацька вымушаны быў пагадзіцца. Ён і сам адчуваў недарэчнасць свайго страху, улічваючы той факт, што ніколі і нічога не баяўся, заўсёды быў гатовы даць у лыч любому крыўдзіцелю. Тут, аднак, іншая сітуацыя. Яго палохаў гераічны мамін бацька, якога ведаў увесь горад, але не як чалавек, а як сімвал эпохі, якому паўсюль пашана і гонар, у той час калі бацькаў бацька, ну так атрымалася, сорам той эпохі ці што. Ён ненавідзеў свайго бацьку за лагернае мінулае, разумеючы, аднак, што той ніяк не вінаваты ў няўдалым лёсе, ды ніхто не

будзе паглыбляцца ў дэталі. Лагернік ёсць лагернік. Ён сын лагерніка, ворага народа. Няхай змяніліся часы, кляймо засталося на ўсім будучым пакаленні. Маме бацька не распавядаў, звычайна, пра гэта, але камплексаваў дужа, асабліва яго непакоіла рэакцыя яе сям'і, яе бацькі, калі той даведаецца пра паходжанне зяцька.

Ён узыходзіў па лесвічных прыступках на трэці паверх да кватэры, у якой жыла мама, быццам на Галгофу, прадчуваючы, што пагоняць яго адтуль паганаю мятлой праз першыя некалькі хвілін знаходжання там.

Мама адчыніла дзверы, абабітыя чорнай скурай, сваім ключом, падштурхнула бацьку, каб той увайшоў, потым заскочыла сама і зачыніла дзверы, уключыла святло ў цёмнай вітальні, даволі доўгай і вузкаватай, магчыма, з-за вялізнага шыфаньера, які займаў шмат месца ўздоўж усёй сцяны справа.

Далей, і ўвесь час з ухілам улева, размяшчаліся прамакутнікі ўваходаў у пакой Дзядзькі з Сярогам і ў пакой бабы Дусі і дзеда Яўгена, схаваныя такімі ж фіранкамі, як і арка мамінага пакоя. Пакоі падзяляла сцяна, уздоўж якой стаяў вялікі драўляны лакіраваны рассоўны стол пад аксамітна-махрыстым настольнікам і шкляной мудрагелістай на першы погляд вазай са штучнымі кветкамі ў ёй. Над сталом вісела даволі вялікая карціна, якая адлюстроўвала подзвіг маёра Кунікава і дэсантнікаў на Малой зямлі. Баба Дуся, у такім жа фатэлі, у якім сядзеў дзед Яўген, лушчыла арэхі.

— Мам, пап, — з ветлівай усмешкай звярнулася да бацькоў мама, наблізіўшыся з бацькам да стала і не адпускаючы яго рукі, якая неверагодна ўспацела. Бацька саромеўся яе больш, чым самога сябе колькі хвілін таму перад пад'ездам. А яшчэ баяўся глядзець дзеду Яўгену ў вочы, адчуваючы да яго глыбокую пашану, асабліва калі пазнаў яго ў адным з персанажаў карціны над сталом. Ды што карціна! Партрэты дзеда Яўгена віселі на пачэсным месцы ва ўсіх значных прадпрыемствах горада і на Дошцы гонару ў цэнтры гарадской плошчы. Нават у белай майцы з плямамі на грудзях ад трапіўшага на іх тлушчу і сініх трэніках не першай маладосці, у якія быў апрануты, дзед Яўген усё адно выглядаў аўтарытэтна і велічна.

Ён расплюшчыў адно вока, быццам дзеля таго, каб паглядзець, ці варта расплюшчваць другое. Пазнаўшы дачку, тут жа заўсміхаўся. Баба Дуся таксама зацікаўлена ўтаропілася на маму, пераводзячы позірк з яе на бацьку і наадварот. Выглядала яна тоўстай і непаваротлівай, але вочы выпраменьвалі непадробную дабрыню.

— Мам, пап, — паўтарыла мама, — гэта Міша, — назвала ім бацькава імя і дадала: — Ён мой будучы супруг. Вяселле праз два тыдні.

Усмешлівыя вочы дзеда Яўгена, як кажуць, канулі ў лету ад пачутых слоў.

Бацька прыгатаваўся да громападобнага выбуху з боку дзеда Яўгена і патрабавання неадкладна пакінуць гэты дом і назаўжды забыць да яго дарогу.

Дзед Яўген — хударлявы, касцісты, з адной худзейшай рукой за другую, з выразным малюнкам вен на абедзвюх руках — падняўся з крэсла, задумліва пачухаў стрыжаную патыліцу, затым вялікую ў пражылках чырвоную бульбіну носа, слізгануў позіркам па бацьку і запытаў у мамы зусім не голасна, а лагодна і нават з роспаччу:

— А дзе ж вы раней былі, пашавэлкі?

Бацька з палёгкай выдыхнуў. Па адной гэтай фразе ён адразу зразумеў, што дзед Яўген міравы чалавек, і яны абавязкова пасябруюць.

— Трэба ж неяк гатавацца, — працягваў дзед Яўген, — а часу няма, — свідраваў ён позіркам то маму, то бацьку. — Чым думалі, га?

— Мы баяліся, пап, — ледзь чутна, аднымі вуснамі вымавіла мама, усё яшчэ трымаючы бацькаву руку, нават сціскаючы яе сваімі пальчыкамі, такімі ж успацелымі, як і бацькавы. Напружанне нерваў распалілася, мабыць, больш за дзвесце дваццаць. — Я баялася, — тут жа выправілася, абараняючы бацькаву нерашучасць.

— Чуеш, Дуся, — азірнуўся дзед Яўген да бабы Дусі, якая лавіла кожнае слова прысутных і была на баку дачкі, але не ведала, як павядзе сябе муж, таму з насцярогай паглядзела на яго. — Чаго было баяцца? — незразумела да каго звярнуўся дзед Яўген, бо пазіраў у той момант ужо на маму. — Мы ж не ворагі якія, так? — працягнуў руку бацьку і назваўся: — Яўген Пятровіч.

Бацькава правая рука, хоць і заставалася вольнай, але таксама ўспацела. Абцерці яе аб калашыну ці аб спіну ён не асмеліўся і, кусаючы ад прыкрасці вусны, працягнуў насустрач дзедавай, сказаўшы:

— Міхаіл. Вельмі прыемна.

Поціск атрымаўся моцны. Дужасці ў сухім дзедавым целе яшчэ хапала.

— А чаму рука мокрая? — нетактоўна раптам запытаў дзед Яўген і, не чакаючы адказу ад у імгненне пачырванелага бацькі, сам і адказаў: — Хвалюешся?

Бацька кіўнуў.

— То добра, — усміхнуўся дзед Яўген. — Харошая рука, — ухваліў, адпускаючы бацькаву руку, — адразу бачна па ёй, што не беларучка, якіх я на дух не пераношу. Ну, што, — пляснуў тады ў ладкі, — па пяцьдзясят? — падміргнуў бацьку. — А там разбяромся, што далей рабіць?

Баба Дуся з мамай тут жа выправіліся на кухню, са свайго пакоя выйшлі Дзядзька з Сярогам, парукаліся з бацькам, пазнаёміліся, затым Сярога пабег у суседні пад'езд па старэйшага брата, дзядзьку Сашу. Бацька з Дзядзькам высунулі на сярэдзіну гасцёўні стол, які хутка забагацеў закуссю з квашанай капусты, далікатна парэзанага сала з прораззю, сялёдкі ў колцах салодкай цыбулі, грыбоў, памідораў і гуркоў, а таксама халоднай адваранай бульбы, што засталася з абеду. Дзед Яўген нязлосна ўпікнуў бацьку, што стол мог бы быць і багацейшым, калі б навіной пра вяселле не агаломшылі з бухты-барахты, а паведамілі пра яго своечасова. Ён прыняў бы любога выбранніка любай дачкі. Цяпер жа давядзецца ўсё рабіць спехам, подбегам, шукаць варыянты жылля для маладзёнаў, якога няма ў прынцыпе, ва ўсялякім разе зараз. Бацька, забыўшыся, запярэчыў, што ён сам можа пра ўсё паклапаціцца. Дзеду Яўгену гэта і спадабалася і не спадабалася адначасова, што ён тут жа і агучыў, аднак бацька не пачуў у тым пагрозы, хутчэй, нястрыманае бурчанне, даволі лагоднае, чалавека, абыдзенага належнай увагай.

Бацька быў, шчыра кажучы, здзіваваны тым, якім простым і адкрытым чалавекам у хатніх умовах апынуўся дзед Яўген, да якога ў Шахцінску адносіліся, як да Леніна, у сэнсе, абагаўлялі, ганарыліся ім і бралі за прыклад. У свае на той час амаль шэсцьдзясят гадоў дзед Яўген называў сябе хлопцам «жывучым», «баявым», «хвацкім» і «мабільным». Нават падкрэсліваў, што ён менавіта хлопец сялянскага паходжання, які зрабіў сябе сам уласнымі рукамі і розумам. Больш за ўсё бацька ўразіўся даверлівай размовай, якой узнагародзіў яго дзед Яўген, калі яны разам выйшлі на балкон падыхаць. Дзед Яўген яму нават дазволіў закурыць і распавёў, як у часы вучобы ў марской вучэльні хаджваў да дамачак — прастытутак з вышэйшага саслоўя, былых графінь, баранес і князёўнаў, з такімі падрабязнасцямі і дэталямі, што пазайздросцілі б Дзікенс, Бальзак і Дастаеўскі разам узятыя. Магчыма, нават верагодней за

ўсё, не бацьку першаму ён тое расказваў, аднак сам факт таго, што дзяліўся мінулым не з кім-небудзь, а з будучым зяцем, пра нешта ж і сведчыла. Да прыкладу, мама не ведала пра той кавалак з біяграфіі дзеда Яўгена, якім ён падзяліўся з бацькам, бачачы таго ўпершыню. І бацька ацаніў дзедаў давер, убачыў у ім не ікону, на якую ўсе маліліся, а звычайнага чалавека, такога ж жывога, як і ўсе астатнія. Відаць, дзеду Яўгену муляла тая ноша, якую ўзвалілі яму на плечы: хочаш не хочаш, а мусіш цягнуць па загадзе партыі. Папраўдзе ж ён хацеў бы проста жыць звычайным будзённым жыццём, звычайнымі сямейнымі клопатамі. Не спецыяльна ж ён палез у героі, у рэшце рэшт, хаця, вярнуўшыся, напрыклад з дапамогай машыны часу ў мінулае, зрабіў бы тое самае. Гераізм не ўзнікае адмыслова, і не кожны патэнцыйны герой мае быць героем, часцей за ўсё здараецца наадварот. Героі, на якіх спадзяешся і верыш у іх, у адказны момант, калі, здаецца, ніхто іншы, апроч іх, не выратуе сітуацыю, — пасуюць перад незразумелым, невытлумачальным страхам, які бярэцца невядома адкуль. Ён глытае іх цалкам, нібыта ён, страх, кракадзіл, а героі мошкі. Тады героямі робяцца тыя, у каго няма іншага выхаду, хто, здзейсніўшы подзвіг, нават не ведае, што праявілі гераізм, пакуль іх не знойдуць і не скажуць пра гэта, ды ўсё адно яны не павераць, бо героі ж іншыя, іншага гатунку, не з простых. Дзед Яўген быў з такіх. Ён пагадзіўся толькі тады, калі тыя, хто быў з ім, тыя, хто выжылі, пацвердзілі, што ён насамрэч герой, хаця і лічыў большымі героямі, чым сябе, менавіта іх, шараговых і нікому невядомых марскіх пехацінцаў, і быў удзячны ім. Асабліва за тое, што пасля вайны яго не адразу паставілі да сценкі за шлюб з ненадзейнай і неправеранай пасля вяртання з Германіі каханай жанчынай, а правялі растлумачальную гутарку і дазволілі выбіраць, дзе яму жыць далей і як. Калі б ён не быў героем, то яшчэ невядома, што б з ім было…

Такім чынам, бацька даведаўся пра дзеда Яўгена за некалькі гадзін знаёмства з ім больш, чым мама за ўсё папярэдняе жыццё. Магчыма, дзед Яўген і чакаў бацьку, каб дзяліцца з ім тым, пра што не мог распавесці сваім родным, бо для іх ён павінен быў заставацца да канца непахісным героем-волатам. Менавіта ён адкрыў вочы бацьку на тое, што такое Шахцінск, хто яго будаваў і на чыіх костках ён узведзены. Зразумела, што з афіцыйных звестак ніколі ён падобнага не пачуў бы.

Карацей, яны знайшлі адзін аднаго, і бацька вельмі ганарыўся цёплымі і даверлівымі адносінамі з цесцем.

На наступны дзень бацька тэлеграмай паведаміў сваім бацькам пра хуткае вяселле і запрасіў іх на ўрачыстасць. Бабе Марусі навіна не спадабалася, дакладней, тое, як яна была пададзена. Не па-людску. Бацька мусіў, па яе разуменні, папытацца дазволу ў яе і спачатку пазнаёміць з нявестай, паказаць абранніцу Вёсцы, пачуць ухвалу ці, наадварот, словы неадабрэння. Тэлеграма абурыла бабу Марусю, больш за тое, пакрыўдзіла, і яна адмовілася ехаць на вяселле, забыўшыся, што сама ўвогуле не палічыла патрэбным не тое што паклікаць, нават сказаць маці пра свой шлюб, і што нарадзіла першае дзіця ў так званым граху. Магчыма, калі б побач быў яе бацька, усё склалася б інакш, але той прапаў без звестак на фронце. Дзед Іван напомніў ёй пра іхняе агульнае мінулае і дадаў, што іх сын дарослы і мае права рабіць так, як лічыць патрэбным.

Апошнім часам яны часта лаяліся, па-сутнасці, ні з-за чаго. Маглі завесціся і проста так, дзеля інтарэсу. Не іначай, старэлі. Аднаго разу баба Маруся нават давяла дзеда Івана да інфаркту, пасля бегала па суседніх хатах у пошуках рады, бо не разумела, чаму раптам муж паваліўся, як куль, на зямлю і не

варушыцца, а з носа яго цячэ кроў. Суседзі выклікалі «хуткую», якая завезла дзеда Івана ў райбальніцу. Паспелі адкачаць.

Мо баючыся не паражыць другі сардэчны прыступ, дзед Іван хутка супакойваўся, выходзіў з хаты ў двор, затым за веснічкі. Вакол прыгажосць! Усё зелянела, буяла, квітнела, гудзелі пчолы. З пашы вярталіся каровы, насыціўшыся за дзень смачнай травой, ляніва перастаўлялі ногі і нават мыкаць ленаваліся. Да вулічнага калодзежа, што стаяў каля дарогі праз два двары, наблізіўся сусед і сябар дзеда Івана Рахвал набраць вады. Дзед Іван неўпрыкмет для дзеда Рахвала падкраўся ззаду і, як хлапчук закрыў яму вочы рукамі. Той ад нечаканасці ажно выпусціў ручку калаўрота і ўтапіў вядро.

— Шалэйка, ты? — пазнаў ён навобмацак дужыя валасатыя рукі дзеда Івана.

Толькі дзед Іван падобным чынам над ім паджартоўваў, так што памыліцца дзед Рахвал не мог. Яны парукаліся, хоць за цэлы дзень бачыліся ўжо разоў дзесяць.

— Здарылася што? — выцягнуўшы поўнае вядро вады з калодзежа і пераліўшы яго ў пустое, запытаў дзед Рахвал.

— Сын жэніцца! — з гонарам вымавіў дзед Іван. — Тэлеграму даслаў. Вось збірацца трэба на вяселле.

— Дык віншую! — яшчэ раз пацiснуў дзед Рахвал (дарэчы, гераічны партызан) руку дзеду Івану і запрасіў абмыць навіну, бо за такое грэх не выпіць.

Шалэйка, між іншым, — лішняя частка ў драўляным коле і вулічная мянушка бацькавай сям'і.

Зразумела, што баба Маруся паехала на сынава вяселле, яшчэ прыхапіла і сястру Соню з Мінска, не кажучы пра дзеда Івана, якому больш за ўсіх не цярпелася пазнаёміцца з будучай нявесткай, і ўсю дарогу да Шахцінска ён наракаў на занадта доўгі шлях: стаміцца можна, пакуль дабярэшся, і свята не на ўме будзе. Баба Маруся таксама так лічыла, але моўчкі і назапашвала ў галаве спіс прэтэнзій, які абавязкова па прыездзе прад'явіць сыну.

Ехалі яны цягніком да Караганды (а гэта сапраўды доўга), хутчэй дабраліся б самалётам, але ж і больш заплацілі б за білеты. У Карагандзе пераселі на аўтобус да Шахцінска. На Шахцінскім аўтавакзале іх сустракалі бацька з мамай і нязвычная спёка. І баба Маруся, і Соня мелі залішнюю вагу, спёка хутка адолела іх яшчэ ў аўтобусе. Яны ўвесь час хацелі піць і сцякалі потам. Дзед Іван трымаўся мужна, аднак і ён раз-пораз прыкладаўся насоўкай да свайго лысага чэрапа ў венчыку белага пуху па баках за вушамі.

Сустрэча атрымалася вялая і стрыманая. Толькі дзед Іван абняў сына і нявестку, якую яшчэ і пацалаваў. Ён быў рады бачыць і бацьку, якога даўно не бачыў, і маму, якая яму, хочацца думаць, спадабалася. Ва ўсялякім разе ўсміхаўся ёй дзед Іван ветліва і шчыра.

Наконт будучай свякрухі мама здагадвалася. Яна была амаль упэўнена чамусьці, што не спадабаецца ёй. Баба Маруся, як пабачыла акуляры на мамiным твары, так адразу і знікла ў ёй цікавасць да сынавай будучай жонкі. Ёй не падабаліся дзяўчаты і жанчыны з разумным позіркам, асабліва ў акулярах. Яна лічыла, што тыя вочы сябе асляпілі кнігамі, якія нічога добрага не нясуць, а толькі адымаюць час і зрок. «Гэта замест таго, каб уходжвацца па гаспадарцы і глядзець мужыка, жонка будзе кніжкі чытаць, ці што? — выгаворвала баба Маруся дзеду Івану пасля. — Дый тошча нейкая яна». Дзед Іван адмахваўся ад жонкі рукой, праўда, неяк сказаў, што сыну з ёю жыць, яму лепш відаць, чым бацькам. Калі ж баба Маруся пабачыла колькі кніг знаходзілася ў адной

толькі гасцёўні гераічнага дзеда, бацькі нявесткі (вяселле пасля ЗАГСа працягвалася менавіта там), іх хапіла б, каб скласці некалькі вясковых бібліятэк, яна жахнулася: на халеру гэтулькі? Баба Маруся сапраўды не разумела, якое задавальненне можна было атрымоўваць ад чытання, а тым больш траціць на кніжкі грошы. Адна справа, калі іх чытае школьнік, бо ён абавязаны чытаць, каб зарабіць станоўчую адзнаку і ўвогуле скончыць школу, бо без пасведчання аб яе заканчэнні зараз нікуды, іншая — калі дурнотай займаецца дарослы чалавек. Сама баба Маруся скончыла два класы польскай вясковай школы і цалкам задаволеная. Навучылася лічыць і пісаць — і досыць. Кніжкі — для шляхты, якой няма куды сябе падзець ад вольнага часу. Простаму чалавеку яны не патрэбны, тым больш дзяўчыне. Пераканаць яе ў адваротным было немагчыма.

На вакзале ў Шахцінску пазірала на маму ваўком, не падышла, не ўсміхнулася, не загаварыла. Сястру Соню абарвала, калі тая памкнулася было, усміхнуўшыся, хаця б пацiснуць руку маме. Тая пасля ўсю ноч праплакала.

Бацькоў бацька завёз на таксоўцы да цёткі Груні, мама з імі не паехала. Баба Маруся паспрабавала паўшчуваць сына ў машыне, што яго нявеста не такая, якая яму трэба, але Соня заступілася за яго і параіла не псаваць дзецям свята.

Выдаткі на вяселле падзялілі напалам. Бацька купіў пярсцёнкі, мама — вясельную сукенку з вэлюмам, якую дапамагала выбіраць Люся. Стол бацька з дзедам Яўгенам рабілі ў складчыну. З алкаголю хапіла б дзедавай самагонкі, але бацька настояў у дадатак да яе паставіць віно і каньяк, бо не ўсім гасцям, як ён слушна разважыў, пойдзе тая самагонка на карысць. Купленымі і прывезенымі прадуктамі (некаторыя былі замоўлены дзе трэба непасрэдна дзедам Яўгенам) займалася баба Дуся. Ёй дапамагалі Люся і цётка Галя, якая спецыяльна прыехала з Абая напярэдадні. Дзядзька з Сярогам знялі з падлогі дываны, каб не забрудзіліся і не вышараваліся гасцямі, скруцілі іх у рулоны і паклалі адзін на адзін каля халадзільніка. Пасля выцягнулі стол на сярэдзіну гасцёўні і падрыхтавалі яго да прыняцця на сябе войска посуду і страў, на ўсялякі выпадак прысунулі да яго ўшчыльную яшчэ па сталу з мамінага пакоя і са свайго, пасля чаго заслалі канструкцыю белым палатняным абрусам, канцы якога звісалі амаль да падлогі з усіх бакоў. Дзве доўгія лаўкі з Домабудаўнічага камбіната, на якім працаваў, прывёз дзядзька Саша, іх усталявалі уздоўж сталоў па абодва бакі, таксама заслаўшы белымі абрусамі. Па два крэслы прысунулі да вузкай часткі стала, для жаніха і нявесты.

Перад тым, як ісці выкупляць маму, бацька заскочыў да Танюхі.

— А я думала, што ты не прыйдзеш сёння! — узрадавалася дзяўчынка бацькаваму з’яўленню.

— Ну што ты такое кажаш, малая! — схапіў бацька Танюху на рукі і падкінуў ледзь не да столі, а яна завіскатала ад задавальнення. — Я хачу, каб ты парадавалася за мяне, радавалася разам са мною, — паставіў дзяўчынку на ногі і працягваў сур’ёзна, — бо без цябе нічога гэтага не было б, так што збірайся.

— Ты запрашаеш мяне на сваё вяселле? — загарэліся Танюхіны вочы.

— А ты сумнявалася?

— Тады я хутка! — паабяцала дзяўчынка, выправадзіўшы бацьку за дзверы, каб не перашкаджаў пераапранацца. У яе была вельмі прыгожая сукенка, амаль такая ж, як у Мальвіны з кіноказкі пра Бураціна — яе самага любімага фільма, на які, дарэчы, яна хадзіла ў кінатэатр з бацькам, — толькі не бла-

ітная, а ружовая, значыць, прыгажэйшая. І купіў сукенку таксама бацька, у Танюхін дзень нараджэння, які правёў разам з дзяўчынкай з ранку да вечара. Гэта быў самы шчаслівы дзень у яе жыцці.

Яна выйшла да бацькі маленькай прынцэсай, ён узяў яе за руку, і яны спусціліся ўніз па лесвіцы. На вуліцы Танюха злавіла на сабе зайздросныя позіркі суседскіх дзяўчат і хлопцаў, што абвесілі вінаградам загараджальную, замест плота, трубу на дзіцячай пляцоўцы. Яна засталася каля мамінага пад’езда з астатнімі гасцямі, калі бацька пайшоў па нявесту, чакаць маладых. Да гэтага ж пад’езда перадыслакавалася і дзятва, бо нявеста, з’явіўшыся на людзі, павінна была кідаць цукеркі. Танюханазбірала іх больш за ўсіх, трымала ў жменях, шкадуючы, што не мела кішэняў. У тую хвіліну яе мала цікавілі шапаткое сонечнае надвор’е і бацька з мамай, якія, усё ж адзначыла дзяўчынка, выглядалі дужа шыкоўна і стыльна. Ён — ва ўсім чорным, яна — уся белая, нібыта сышлі з нейкай знакамітай карціны пра лебедзяў. Але ж цукеркі — магутнейшы аргумент, каб забыцца на ўсё, апроч іх.

Бацьку давялося пераадолець шмат перашкод на шляху да шчасця ў асобе каханай нявесты. Ён адціскаўся на кулаках проста на лесвічных прыступках, падымаўся на другі паверх па парэнчах без дапамогі рук, шукаў ключ ад сэрца нявесты ў слоіках з крупамі, піў ваду з трохлітровага бідона, вышукваў вусны каханай, дакладней, адбітак іх, сярод іншых на ватманскім аркушы, прылепленым да шурпатай сцяны каля дзвярэй, што вялі ў жаданую кватэру… Калі дабраўся да мамы, дык упаў на калені перад ёю не таму, што павінен быў, а, хутчэй, ад стомы. Ён успацеў і ўзмакрэў, добра, што хоць пінжак зняў перад тым, як адціскацца. Кашуля на спіне пад лапаткамі і між імі прыліпла да цела вільготнай плямінай. Мама падняла яго з калень і выйшла з ім разам на балкон. Свежае паветра надало яму сілы, і ён зноў стаў бадзёрым і моцным.

Бацька ніколі не бачыў, каб дзяўчыне так пасаваў вясельны ўбор. Мама ў ім выглядала прыўкрасна, і бацька зайздросціў сам сабе за тое, што ўжо хутка гэтая прыгажосць будзе належаць толькі яму аднаму. Ён прашаптаў маме на вуха тое, пра што падумаў, яна загадкава і прыязна ўсміхнулася.

Калі яны выйшлі да гасцей, маму пачалі віншаваць з выбарам мужа, бацьку — з выбарам жонкі. Асабліва спадабаліся цёплыя словы братоў бабы Дусі і дзеда Яўгена, якія прыехалі з Украіны. Бабін брат выглядаў сапраўдным волатам-асілкам. Яму прыходзілася крыху згінацца, каб не стукацца ўвесь час галавой аб столь, а ў дзвярныя праёмы ён праходзіў бокам, бо інакш было не працiснуць шырачэзных плячэй. Ён хутчэй нагадваў вікінга, чым патомнага казака, нашчадка паплечніка Багдана Хмяльніцкага Васіля Чубаху. У вайну бабін брат лавіў дыверсантаў, цяпер лавіў бандытаў. Дзедаў брат, вельмі падобны знешне на дзеда, служыў у разведцы падчас вайны, у мірныя будні адраджаў жыццё, жыў у роднай вёсцы Цішкоўцы.

Бацька, на жаль, не мог пахваліцца сваімі сваякамі, з якімі ўсе прысутныя сустрэнуцца каля ЗАГСа, і па-добраму зайздросціў маме і яе братам. Каго ні вазьмі з іх старэйшага пакалення — абавязкова герой. А яго бацька невядома хто, і невядома за што адседзеў шмат гадоў.

Тым часам свята працягвалася, як працягвалася і жыццё. Супыніць яго не магло ні што. Сонца — нябесная патэльня — ужо смажыла паветра, калі маладыя, нарэшце, распісаліся. Да ЗАГСа пад’ехаў аўтобус, выдзелены па просьбе дзеда Яўгена заводам СМС. У гэты аўтобус паселі запрошаныя на ўрачыстасць госці. Маладых адвезлі на аўтамабілях.

Месцаў за сталом хапіла ўсім, бо вяселле было не шматлюднае, у асноўным сваякі ды колькі сяброў і сябровак з боку і жаніха, і нявесты. Падвечар,

калі спала спякота, сталы вынеслі ў палісаднік. Усім стала і лягчэй, і вальней пад шатамі дрэў і пошумам травы. Дзядзька наладзіў танцы пры дапамозе сваёй музычнай апаратуры. Да вяселля далучыўся двор. Жадаючым налівалі па сто грам дзедавай самагонкі.

Моладзь танчыла каля пад'езда, цалавалася, закохвалася, абдымалася.

Іншы канцэрт адбываўся ў палісадніку. З абодвух бакоў святочнага стала ўзлятала, быццам чырвоная атласная стужка, песня, лунала над галовамі і імкнулася дасягнуць аблокаў, якія, дарэчы, падхапілі б яе і не дазволілі прапасці. Тры сястры (баба Маруся, Соня і Груня), падобныя на кадушкі — поўныя, маленькія, чырвоныя ад выпітага і ад нязвычнай гарачыні, спявалі «Купалінку», за ёй «Перапёлачку», затым «Мой родны кут», які тут жа перайшоў у «Молодость моя, Белоруссия». Галасы іх былі на дзіва чыстыя і звонкія. Трэба адзначыць, што і баба Маруся, і Соня з'яўляліся на той час салісткамі ўзорнага фальклорнага ансамбля, які ведалі ва ўсёй Беларусі і выступленні якога нярэдка паказвалі па тэлебачанні.

Бабін брат-волат не адставаў у спеве ад жанчын і пранікнёна замурлыкаў любімую песню дзеда Яўгена *«Ніч яка місячна»*... Дзед Яўген, як звычайна, няўмела падпяваў сваяку. Той знакамі паказваў дзеду, каб не псаваў песню і замоўк, але дзеда Яўгена было не спыніць, калі ён разганяўся, гэдак жа, як і легендарнага камдыва Чапаева. Калі бабін брат заспяваў *«Плыве кача»*, усе за сталом прыціхлі, услухоўваючыся ў голас выканаўцы і, уласна, у словы песні, змест якіх быў настолькі глыбокім, што свідраваў душу наскрозь, нібы шахцёрскі бур. Песня прымушала думаць, выцягвала са спратаў памяці на паверхню балючыя ўспаміны пра вайну і яе жудасці. Шмат у каго пацяклі слёзы. Бабін брат не думаў яе спяваць, яна сама сабой узнікла, ён нават не паспеў супрацівіцца яе з'яўленню, як тая загучала і абвалакла прысутных сваёй магіяй, магчыма, і недарэчнай на вясёлым свяце, але адначасова такой патрэбнай. Пасля заканчэння песні павісла гнятлівая цішыня, хоць музыка з дынамікаў Дзядзькавай апаратуры ні на міг не спынялася і пад яе не стамляліся скакаць тыя, каго апанаваў імпэт танца — такі ж чараўнік, як і сапраўдная песня. Тады бабін брат усклікнуў: *«Ты ж мяне підманула, ты ж мяне підвіла!»* Песню адразу падхапілі сёстры Шалэйкі, астатнія разварушыліся, налівалі і закусвалі.

Мама з бацькам знаходзіліся сярод моладзі, танчылі і весяліліся, як усе, да таго ж гэта было іх свята. Каму, як не ім і весяліцца. На адзін з павольных танцаў маму запрасіў дзед Іван, якому надакучыла сядзець за сталом. Бацька танчыў з Танюхай. З-за таго, што тая была яшчэ маленькай, ён узяў яе на рукі. Дзяўчынка аберуч абхапіла бацькаву шыю і горача дыхала яму ў вуха, шкадуючы, што не дарослая, бо інакш сама б выйшла замуж за бацьку, а маме паказала б язык.

Аскольд меў намер выкрасці маму (нічога асабістага, строга па законах жанру), але атрымаў па зубах. Яму ўдалося, аднак, завалодаць маміным вэлюмам, з ім пад пахай ён і ўцёк.

Вечар непрыкметна споўз вужакай у ноч, ноч, таксама непрыкметна, растварылася ў золаку, а вяселле ўсё працягвалася. Ніхто нікуды не хацеў сыходзіць. Тыя, хто заснуў за сталом, прачнуліся і з новым імпэтам накінуліся на алкаголь і закусь, забыўшыся на маладых. Пра іх успомнілі раптам, але, колькі ні гукалі, дагукацца не маглі.

Бацька з мамай аднеслі на руках стомленую Танюху дамоў, паклалі спаць, а самі накіраваліся ў бок бацькавага інтэрната. Ім так прыемна было ісці адным па бязлюдных вуліцах горада, які яшчэ спаў.

На Ленінградскую бацька з мамай вярнуліся ў другой палове дня: прыехалі на таксі, крыху адпачнуўшы. Такое адчуванне ў іх склалася, калі выйшлі з машыны, што нібыта і не сыходзілі нікуды. Працягвала гучаць Дзядзькава музыка, пад якую выгіналіся ўсюдыісныя падлеткі, а ў палісадніку не спынялася застолле, праўда, задрапіраванае адмыслова ўзведзеным ад сонца тэнтам. Заўважыўшы сына з нявесткай, дзед Іван памкнуўся да іх з такім імпэтам, быццам не бачыў сто гадоў, аднак пераняць не паспеў, у прыватнасці, маму. Тая борзда схавалася ў пад'ездзе, маючы намер забегчы ў кватэру і пераапрануцца. Бацька застаўся чакаць яе на вуліцы і закурыў, калі да яго дапяў дзед Іван. Дзядзька, каля якога круцілася цікаўная дзятва, падміргнуў новаму сваяку, не адыходзячы ад апаратуры.

Бацька з дзедам Іванам парукаліся. Бацька спытаў, ці ўсё нармальна. Дзед Іван падняў уверх вялікі палец, ухваляючы і вяселле, і нявесту. З дзедам Яўгенам ён перамовіўся толькі некалькімі словамі. Дзед Іван з дзедам Яўгенам ніколі не пагавораць як сваты, не пабудуць сам-насам, адчуваючы нейкую невытлумачальную віну ці што адзін перад адным, хаця абодва мала што ведалі адзін пра другога. Дзед Іван зразумеў, што Яўгену ён не роўня — Герой, і ведаў сваё месца. Ён саромеўся свайго жыцця, не было прычын, і ўсё ж мінулая вайна, і месца ў ёй кожнага з іх, замінала. З усіх гасцей сталага веку толькі дзед Іван не нюхаў пораху, а, сталася так, нібы адседжваўся ў лагеры. Ён, між іншым, тройчы прасіўся на фронт у штрафбат, куды заўгодна і кім заўгодна, але з-за нямецкага прозвішча яго туды не бралі. Калі скончылася вайна, ён стаў жыць вольнапасяленцам непадалёк ад лагера, уладкаваўся вольнанаёмным на лесапавал.

Франтавікоў сапраўдных было бачна за вярсту. Вайна быццам своеасаблівым таўром пamecіла іх твары і позіркі, аднак не яны выдзяляліся за гэтым сталом у палісадніку, а выдзяляўся дзед Іван: не з іх асяроддзя. Мамін бацька адчуваў трагедыю дзеда Івана, але разбірацца ў ёй не меў ніякага жадання. У кожнага з іх была свая праўда, і гэтая праўда мела права на існаванне. Іншая справа, ці прымаеш ты тую праўду. Больш за ўсё дзед Яўген баяўся, што п'яны дзед Іван пачне патрабаваць справядлівасці, што цяпер будзе не да месца і не да часу. І быў удзячны дзеду Івану за тое, што нічога такога не адбылося. Ён пацiснуў яму руку і сказаў «дзякуй». Для іх абодвух гэтага было дастаткова, каб хоць як паразумецца.

Дзеда Івана ніколі раней асабліва не кранала тэма вайны і свайго месца ў ёй, але адчуваў ён сябе лішнім чалавекам побач з франтавікамі, і не толькі тут. Хаця, дарэчы, яго лепшы сябар і сусед Рахвал таксама ваяваў, як і многія іншыя, з кім ён працаваў на цагельным заводзе ў Вёсцы, і ніхто з іх ні разу не ўпікнуў лагерным мінулым. У кожнага была свая вайна, і яшчэ невядома, каму давялося перанесці больш цяжкасцей: тым, хто быў на фронце, ці тым, хто быў у лагерах... Не нам судзіць нашых дзядоў, якіх, да таго ж, даўно няма, бо мы не трымалі з імі фронт і не мы бязвінныя паміралі разам з імі ў ГУЛАГах…

Мама ціхенька шмыганула з уваходных дзвярэй кватэры ў свой пакой, бухнулася на ложак спінай, распасцёрла рукі, як крылы, утаропіўшы позірк у столь, і ўсміхнулася так, быццам ёй у адказ усміхнуўся Бог са столі. Яна была замужам. Фразу «Я — замужам» мама спачатку прашаптала, нібыта не верыла ў тое, пра што прашаптала. Потым асцярожна і запаволена, як бы смакуючы кожны сказ, вымавіла напаўголаса.

Ложак, дарэчы, стаяў каля акна ўздоўж правай сценкі, за ім узвышалася бялізнавая шафа на ножках-конусах, якая нібы падпірала вугал сцяны з

аркай пасярэдзіне, і, здавалася, што ёй цесна ў тым прамежку паміж ложкам і сцяной, куды яе ўсунулі. Насупраць, каля процілеглай сценкі, размяшчаліся пісьмовы стол ля акна, кніжная паліца над сталом, крэсла і фатэль паміж ложкам і сталом, кніжная шафа, што цягнулася ад увахода ў пакой да пісьмовага стала. На стале пад шклом цешылі позірк паштоўкі з адлюстраваннем кошачак і кацянят, якіх мама вельмі любіла і адчувала да іх незямное замілаванне, некалькі выдраных з часопіса «Крестьянка» партрэтаў Андрэя Міронава і пару фотаздымкаў самой мамы ў дзяцінстве. На адным яна рабіла выгляд, што ўмее граць на гітары старэйшага брата, пры гэтым какетліва ўсміхалася ў камеру, маючы за плячыма ўсяго восем ці дзевяць гадоў. Другое фота падзяляла з Люсяй. Нехта іх сфатаграфаваў у школе. Яны абедзве сядзелі за партай, у белых кофтах, з павязанымі на шыях чырвонымі піянерскімі гальштукамі, з бантамі ў валасах, і шчасліва ўсміхаліся...

Тым часам нячутна ў пакоі з’явілася баба Дуся: ці гэта мама так расчулілася, што не пачула яе крокаў. Звычайна тая бясшумна не рухалася. Пасля перанесенага інсульту баба Дуся ўвогуле стала мала рухацца, а таму пачала мажнець, і хада ёй, чым далей, тым цяжэй давалася. Галава пры гэтым балець не пераставала. Наколькі памятала мама, баба Дуся заўсёды скардзілася на галаўны боль, яшчэ да інсульту. Магчыма, ён звязаны з яе жыццём у Германіі падчас вайны. Невядома, што з ёю там рабілі і праз што ёй давялося прайсці, а сама яна ніколі ні з кім не дзялілася ўспамінамі, якія, хутчэй за ўсё, і выклікалі гэты боль. Баба Дуся рэдка выходзіла на вуліцу, а калі выходзіла, проста сядзела на лаўцы каля пад’езда. Звычайна ж абмяжоўвалася балконам, адкуль з непрыхаванай тугой пазірала на жыццё ўнізе і магла назіраць за ім гадзінамі.

— Ой, мам, — засаромелася мама, — ты дома?

— Дома, доня, — прайшла ў пакой баба Дуся. — Што мне там рабіць? — нібыта апраўдвалася. — Дый не магу я доўга на нагах, сама ведаеш. Стамілася, — села на ложак. Мама прысуседзілася побач, і яны абняліся. — Ты хаця б радая? — занепакоена спытала.

— Мам, ну, канечне! — усклікнула мама ўпэўнена. — Інакш навошта гэта ўсё?

— Я чаму пытаю, — не адступалася баба Дуся, — бацькі твайго мужа нейкія… Трывожна мне.

— Усё будзе добра, мама, — заспакойвала мама, — табе падалося проста… Хваляванне і ўсё такое…

А сэрца шалёна забілася ў грудзях, бо баба Дуся адчула тое ж самае, што і мама да бацькавых бацькоў, дакладней, да бабы Марусі: насцярогу, недавер, трывогу. Ад бабы Марусі несла холадам, і яна не хавала сваёй адчужанасці да нявесткі. Ва ўсялякім разе так здавалася і маме, і бабе Дусі, хоць яны і спадзяваліся на тое, што памыляліся.

Апрануўшы летнюю жоўценькую сукенку без рукавоў, але з пышнай спадніцай, кшталту балетнай пачкі, і абуўшы басаножкі, мама імкліва кінулася ў новае жыццё, падхопленая дужымі абдымкамі бацькі. Шчаслівыя вочы маладых, яе рука ў яго руцэ, абсалютны давер адно да аднаго сведчылі пра тое, што ні мама, ні бацька ніколі не ўсумняцца ў сваім выбары, што пакахалі па-сапраўднаму і на ўсё астатняе жыццё.

Калі праводзілі бацькаву радню, баба Маруся расчулілася на аўтавакзале, не хаваючы слёз. Яна не адыходзілася ад сына з нявесткай ні на крок, цалавала то бацьку, то маму. Падчас вяселля яна не сказала маме ні слова, ні разу не зірнула ў яе бок, а тут такі фантан эмоцый. Баба Маруся выглядала вартай

жалю, адчувала сябе няёмка, зрэшты, як і няёмка адчувала сябе мама. А ўвогуле, абедзве думалі, што наўрад ці ім давядзецца яшчэ перасячыся на жыццёвых пуцявінах. Баба Маруся, аднак, запрашала маму прыязджаць у госці ў адпачынак разам з мужам, упэўненая, што нявестка ніколі не скарыстаецца яе прапановай. Мама абяцала абавязкова прыехаць, але ведала, што не захоча. Ні яна, ні бацька не збіраліся нікуды з’язджаць з Шахцінска, а пра адпачынак, які будзе толькі наступным летам, ведалі адно: правядуць яго на моры. Яны толькі пачыналі свой шлях і пра падводныя плыні лёсавых акіянаў нічога не ведалі. Ім здавалася, што ўвесь свет створаны адно для іх дваіх, а бацькі толькі перашкаджаюць насалоджвацца гэтым светам. Жылі ж, між іншым, у маміным пакоі, у кватэры з мамінымі бацькамі і братамі. Нярэдка заставаліся на ноч у інтэрнатаўскім бацькавым пакоі, з якога тады сыходзіў сусед...

Дзед Яўген абяцаў ім дапамагчы атрымаць асобную кватэру, але асабліва не спяшаўся. Ён не хацеў адпускаць дачку ад сябе нікуды, што цалкам зразумела, гэтаксама не меў жадання пазбаўляцца цікавага суразмоўцы ў бацькавай асобе, з якім было прыемна пасядзець за сталом і выпіць. Гаварыў, вядома, звычайна дзед Яўген, і яму было што распавесці бацьку, які, трэба адзначыць, з вялікім захапленнем слухаў гераічнага цесця.

— Міш, а, Міш?..

— Я за яго.

— Ты не абрадуешся навіне пра тое, што хутка станеш бацькам?..

— Я на самай справе стану бацькам?..

— Станеш-станеш.

— Я так цябе кахаю, Волька!.. Чуеце, у мяне будзе сын?!. Табе перад родамі трэба адпачыць. Паедзем на мора.

— Ведаеш, я тут падумала…

— Што такое?

— Давай у адпачынак паедзем да тваіх бацькоў.

— Ты сур’ёзна?

— Так. Зробім падарунак і будучаму дзіцяняці і дзеду Івану з бабай Марусяй. Спадзяюся, мая цяжарнасць выкліча ў тваёй маці цёплыя пачуцці да нас усіх.

— А Яўгену Пятровічу і маме ты паведаміла?

— Разам скажам за вячэрай. Толькі моцна не напівайцеся з папкам…

Мама была ў захапленні ад маляўнічых мясцін бацькавай радзімы, куды напачатку лета яны прыляцелі самалётам з перасадкай у Маскве. Пасля ехалі поездам у Мінск, электрычкай з Мінска ў райцэнтр, і ўжо з райцэнтра ў Вёску шаснаццаць кіламетраў рэйсавым аўтобусам. Дарога да Вёскі з райцэнтра праходзіла праз лес, і мама захоплена дзівілася праз акно аўтобуса на шыкоўныя зялёныя масівы. Ніколі раней яна не бачыла столькі зеляніны.

Здзівіла яе і Вёска. Усе хаты дагледжаныя, яркія, з разьбяной ліштвой. Платы таксама пафарбаваныя, дзе-нідзе з выкшталцона выразаным проста на штыкецінах нацыянальным арнаментам. У Шахцінску, калі параўноўваць, на той час прыватныя сектары — вартыя жалю. Шэрыя, нязграбныя, непрыгожыя, у якіх, відаць, і жыццё вялося такое ж шэрае і бляклае.

Асаблівае захапленне выклікаў сад дзеда Івана і бабы Марусі. Не пытаючы ні ў каго дазволу (дый не было ў каго, бо бацькавы бацькі яшчэ не вярнуліся з працы: абодва рупіліся на цагельні), мама забегла ў сад, быццам у рай, нават разулася, каб нагамі адчуць пяшчотныя дотыкі шыкоўнага травянога дывана.

Яна знайшла свой куточак раю на зямлі і захацела ў ім застацца назаўсёды. Неасэнсавана, навобмацак, але мама з першых хвілін свайго знаходжання ў Вёсцы вырашыла, што сына (яна была ўпэўнена, што ў яе будзе сын) народзіць толькі на гэтай зямлі, райскай зямлі зеляніны і красак.

Двор, у якім стаяла хата дзеда Івана і бабы Марусі, быў досыць вялікім. Паабапал яго, з аднаго боку рос сад, за якім, між іншым, хавалася хата, з другога — размяшчаўся гарод, на якім раслі суніцы, бульба, памідоры, гуркі, буракі, цыбуля, капуста, гарбузы, фасоля, гарох, радыска, пятрушка, морква і нават сланечнік з кукурузай. І сад, і гарод, зразумела, агароджваў плот. Наўпрост ад самых веснічак у глыб двара, да хаты і спускалася далей, мінаючы хлеўчукі, дрывотню, майстэрню дзеда Івана і летні дамок, адмыслова залітая бетонам сцяжына.

А вось і хата з пеўнікам на вільчаку, пафарбаваная знізу і зверху ў зялёны колер, пасярэдзіне ў жоўты, вокны ў белы. Зусім невялічкі ганак, нават не ганак, а прыступка з жалезнай рашоткай побач, каб ногі выціраць ад бруду. Такія ж мініяцюрныя сені ці, хутчэй, веранда з нізкай столлю і вокнамі па два бакі за ільнянымі фіранкамі-вышыванкамі. Вялікая кухня з печкай-ляжанкай, абкладзенай глянцавай на выгляд пліткай, два пакоі наўпрост. У першым — два ложкі, адзін драўляны, другі з жалезнай сеткай, пастаўленыя ўздоўж і ўпоперак. Побач з імі грубка. Каля акна — тэлевізар пад абрусам на тумбачцы, стол, крэсла, камода. У другім — два ложкі ўздоўж сцяны без вокнаў, адна шафа пасярэдзіне, другая каля дзвярэй у пакой, канапа пад вокнамі, трумо, круглы стол, радыёкропка над трумо. І падлога, і сцены — пафарбаваныя ў карычневы колер, праўда, на сценах шмат сямейных фотаздымкаў і партрэтаў, сярод якіх мама пазнала малога бацьку ў насунутым на вочы каптуры, маладых дзеда Івана і бабу Марусю, відаць, знятых адразу пасля вяселля, прыгожых, прыбраных ва ўрачыстыя ўборы, прынамсі, баба Маруся так выглядала.

Яны селі на канапу, паставіўшы чамаданы каля ног, быццам не збіраліся заседжвацца, а па першым жа патрабаванні зноў рушаць у дарогу. Мама адкінулася ўсё ж да спінкі канапы, насалоджваючыся адпачынкам. Сказвалася стомленасць падарожжам, да таго ж набліжаўся вечар. Бацька выглядаў бадзёрым, але за бадзёрасцю, верагодна, прыхоўваў хваляванне ад сустрэчы з роднай хатай, дзе нічога не змянілася за гады ягонай адсутнасці, нібыта ён і не з'язджаў адгэтуль нікуды, і з бацькамі, якія павінны былі неўзабаве з'явіцца. Што за сустрэча чакала іх? Як яны паставяцца да гасцей? Зразумела, што бацька папярэджваў аб сваім і маміным прыездзе, не ўдакладніўшы, аднак, канкрэтнай даты. Паведаміў, што прыблізна недзе летам, бо сам не ведаў, ці атрымаецца. Шчыра кажучы, ён не хацеў везці маму ў Вёску. Яго паланіла думка пра мора, і маме, па яго разуменні, лепш было б пагадзіцца на Крым. Ён разлічваў на тое, што яна перадумае ехаць у Вёску, што ляпнула пра яе не падумаўшы. Ды мама цалкам сур'ёзна паставілася да свайго жадання. Крым яе не цікавіў. Як ні адгаворваў, ні ўгаворваў бацька падумаць маму яшчэ раз, узважыць усе за і супраць, тая заставалася непахіснай. Прыйшлося яму падпарадкавацца, хаця нічога добрага ад паездкі дадому не чакаў. Ён інтуітыўна прадчуваў, што не трэба ім туды ехаць, а растлумачыць, чаму, не мог. Ну што можна пабачыць выбітнага ў вёсцы, дзівіўся з мамы бацька, не разумеючы, чаму яе так цягне туды?!.

Крыху адпачыўшы, яны выйшлі на двор. Бацька закурыў у цяньку пад яблыняй. Мама, абхапіўшы сябе аберуч за плечы, глядзела на будынак школы,

які ўзвышаўся насупраць двара праз дарогу, у цэнтры галінастых клёнаў, асін ды блакітных елак, за драўляным плотам. Двухпавярховая пабудова нагадвала памешчыцкую сядзібу, ва ўсялякім разе мама менавіта такой уяўляла яе сабе, калі чытала раманы Тургенева, з калонамі па баках, з флігелямі, чарапічным дахам чырвонага колеру і клумбамі з экзатычнымі кветкамі ўздоўж асфальтаванай сцежкі, што вяла да груваздкага на першы погляд ганка, праз які дзеці траплялі да дзвярэй ведаў. Мама нават на хвіліну пазайздросціла вучням гэтай школы, бо прыгожае звонку заахвочвала верыць у тое, што і ўнутры не горш. Тая школа, у якой вучылася мама, нічым асаблівым не вылучалася сярод іншых школ Шахцінска. Усе яны былі аднолькавымі несамавітымі прысадзістымі каменнымі баракамі. Адзінае, што шматгалосымі, бо дзяцей у горадзе было вельмі шмат і вучыліся яны ажно ў тры змены. А яшчэ ж у кожнай школе мелася і вячэрняя, для дарослых, якія не паспелі атрымаць сярэднюю адукацыю па незалежных ад іх прычынах.

Мама ўздыхнула, развітваючыся ў думках з дзяцінствам, міжвольна ўзгаданым. У гэты ж момант проста над яе галавой нізка-нізка праляцеў бусел…

Нечакана пачулася, як бразнула клямка засаўкі ў весніцах, і ў двор прайшлі бацькавы бацькі, але спыніліся на паўдарозе, быццам аслупянелі, пабачыўшы гасцей.

Мама выпрасталася ва ўвесь рост і таксама замерла, нібы яе зачаравалі.

Бацька рушыў насустрач бабе Марусі і дзеду Івану. Параўняўшыся з імі, парукаўся з адным, другую абняў і сказаў:

— Здраствуй, маці!

— Здароў, — адгукнулася тут жа баба Маруся, пазбавіўшыся здранцвення. — А чаго гэта ты тут? — запытала, нібы не зусім радая была сыну.

— Я ж вам пісаў, — не разумеў халоднага прыёму бацька, — што прыеду да вас у адпачынак з жонкай. Вы што, ліста не чыталі ці не атрымоўвалі?

— Чыталі, — не адмаўлялася баба Маруся. — Ляжыць недзе той ліст пад праграмай, кажацца. — Позірк на дзеда Івана.

— Мы вельмі рады, сынок, — сказаў той да бацькі, — канечне, што вы прыехалі. З працы проста, стаміліся, туга саабражаем.

Ён абмінуў бацьку, пакінуўшы жонку на яго, і паспяшаўся да мамы. Павітаўся словамі з ёю, зрабіў на пальцах «айн момант», чым рассмяшыў нявестку, памыў рукі пад рукамыйнікам, тады зноў вярнуўся да мамы, і яны абняліся.

Падышлі і баба Маруся з бацькам.

— Дабро паджалаваць! — працягнула маме баба Маруся абедзве рукі з пігментнымі плямамі на кісцях.

Мама паціснула іх. Ёй падалося, што баба Маруся была шчырай.

Баба Маруся прыемна здзівіла маму. Адносілася да яе ветліва і цёпла, цалкам магчыма, што з-за цяжарнасці нявесткі. Усё ж першага ўнука ці ўнучку насіла. Мама ўвіхалася па гаспадарцы, калі гаспадары сыходзілі на цэлы дзень на працу, гуляла па вёсцы з бацькам, хадзіла на мост з ім і на Нёман.

А праз некалькі дзён бацька запытаў у мамы, калі яна думае ехаць дамоў. Адказ мамін яго агаломшыў. Яна збіралася заставацца тут, у Вёсцы, жыць! Ёй так спадабалася прырода, чыстае паветра, цішыня, спакой, але больш за ўсё — школа, якая, аказваецца, была пабудавана на ўласныя сродкі галоўным беларускім паэтам Якубам Коласам, між іншым, ураджэнцам гэтых цудоўных мясцін. Чаму бацька ніколі не расказваў ёй пра знакамітага земляка? Іх з бацькам дзеці павінны нарадзіцца тут і вучыцца таксама тут, у школе, пабудаванай класікам. Вось чаму будынак школы такі прыгожы і падобны на

маленькі палац. Магчыма, Колас не толькі прафінансаваў будаўніцтва, але і прымаў непасрэдны ўдзел у праектаванні, уласна, будынка. Верагодна, ды што верагодна, напэўна і настаўнікі ў школе выдатныя. Ніякіх іншых, мама не сумнявалася, у такой школе проста не магло быць.

Аргументы маміны пахіснулі зямлю з-пад бацькавых ног. Адчай авалодваў ім з прагнасцю плюшча. У вачах пацямнела. Катастрофа здавалася немінучай. Ніякія абвяржэнні, доказы адваротнага на маму не дзейнічалі, і яна дзівілася бацькавай пазіцыі, бо разлічвала на яго падтрымку і разуменне, тым больш што сваім рашэннем думала парадаваць яго. Застацца жыць і працаваць на зямлі, падараваўшай ёй мужа. Нараджаць дзяцей на радзіме мужа — ці ж гэта дрэнна?

Бацька ўчапіўся за апошнюю саломінку, напомніўшы, што ўсё адно трэба вяртацца ў Казахстан хаця б дзеля таго, каб звольніцца яму з шахты, ёй з бальніцы, забраць дакументы і шмат чаго іншага зрабіць. Ён спадзяваўся завезці маму ў Шахцінск, а там яна сама перадумае. А калі не сама, то гераічны дзед паўплывае.

Мама, аднак, запярэчыла яму, што неабходнасці вяртацца ў Шахцінск абаім няма. Бацька можа з'ездзіць і адзін, уладкаваць іх агульныя справы і пасля прыехаць да яе. Самае дзіўнае, што баба Маруся падтрымала маму. Сказала сыну, каб не выдумляў і ехаў гэдак, як жонка кажа. Ёй куды, цяжарнай? Хоць і не відаць яшчэ добра жывата, але лішняга стрэсу і нагрузак лепш пазбягаць. І чаго гнацца за свет? Хіба ў Вёсцы няма работы? Ці аўтобусы не ходзяць у горад? Ходзяць, ды яшчэ як, кожную гадзіну, лічы.

Бацька не верыў сваім вушам. Калі гэта паспелі так паразумецца баба Маруся з мамай? Але ён скарыўся, прыняў, так бы мовіць, удар лёсу.

Мама, між тым, знаходзілася ў нейкім элегічным ці нават ідылічным стане. Напэўна, адчувала, што трапіла ў зямны рай. Слухала песні птушак, сонца і неба, быццам самы круты сімфанічны аркестр у Крамлі, размаўляла з катом, вулічнымі сабакамі за плотам, пчоламі і восамі ў садзе, як з міжпланетнымі прышэльцамі, якія, дарэчы, разумелі яе і прымалі за сваю. Дзед Іван ва ўсім падтрымліваў маму, дапамагаў, калі яна прасіла, і, тым больш, калі не прасіла. Баба Маруся таксама не абдзяляла ўвагай, але асабліва не назаляла, каб не надакучыць. Неяк распавяла, як ёй давялося, скончыўшы ўсяго два класы польскай школы (Вёска да 1939 года належала Польшчы), ісці да пана пасвіць каровы. Татка з маткай не палічылі патрэбным працягваць адукацыю дачкі, бо не бачылі імпэту самой дзяўчынкі да вучобы і таму адправілі ў школу іншае дзіця. Не хочаш вучыцца — ідзі працуй. У дзесяцігадовым узросце баба Маруся апынулася за Нёманам зусім адна і ў чужой заможнай сям'і ў якасці прыслугі. Гаспадарскія дзеці выглядалі анёльчыкамі ці зефірамі — чысценькімі, гладзенькімі, беленькімі — з прыгожымі кніжкамі ў руках. Яны пагарджалі нават позірк спыніць на заўсёды мурзатай дзяўчынцы з-за Нёмана, ад якой, да таго ж, непрыемна патыхала каровамі. Яна працавала за ежу і начлег, грошай ёй ніякіх не плацілі. З тых часоў баба Маруся ненавідзела белы колер і кніжкі, асабліва дзяўчат, дый жанок, якія захапляліся чытаннем. Яна не жалілася маме на лёс, проста выпіла крыху пасля працы, на што мела законнае права, а пагаварыць не было з кім, акрамя нявесткі, прынамсі, у той момант. Баба Маруся шкадавала сябе, забыўшыся на маміну прысутнасць, чаго ніколі не даруе ёй. Як назло, ні дзеда Івана, ні бацькі ў хаце не было, каб спыніць хвалю ўспамінаў, перакручаных зласлівасцю і з'едлівасцю, нібы фарш у мясарубцы. Адзін бавіўся на двары, другога мама праводзіла на аўтобус. Яна верыла, што

хутка ў яе з бацькам будзе ўсё цудоўна. У іх і так было ўсё цудоўна, але будзе прыўкрасна, як толькі бацька вернецца, развітаўшыся з мінулым жыццём, каб распачаць новае…

Звольніўся бацька без асаблівых перашкод, калі не ўлічваць падпісанне абхаднога ліста: давялося пахадзіць па розных кабінетах. У ваенкамаце параілі першапачаткова прыпісацца да мясцовага ваенкамата, каб не ўзнікла непатрэбных нікому праблем, а пасля ўжо ўладкоўваць астатнія справы. Маму таксама звольнілі без затрымак, нават выплацілі разлік праз два дні, зразумела, у бацькавы рукі. Дзед Яўген не ўхваліў рашэнне дачкі, але насуперак ёй не пайшоў, дый позна нешта было мяняць. Адзінае, што ён мог, — дакорліва пазіраць на бацьку і не прапанаваць па пяцьдзясят. Бацька, зрэшты, і не набіваўся, прыходзіў дамоў падвечар, зранку сыходзіў. Адчуваў сябе няўтульна ў кватэры цесця. Ад інтэрната ж давялося адмовіцца, калі падпісваў абхадны ліст. Добра, што Танюха сумаваць не давала. Падтрымлівала бацьку і праводзіла разам з ім увесь яго вольны час. Часцей за ўсё яны гулялі па парку, ласуючыся марожаным. Дзяўчынка дзеля бацькі наладжвала сапраўдныя спектаклі. Узбіралася з нагамі на лаўку, на якую раптам сядалі, праходзячы міма, і нечакана ператваралася, напрыклад, у Пугачову. Узлахмачвала валасы, агрэсіўна ўпірала рукі ў бакі, выпінала наперад грудзі, якіх яшчэ не было, і пачынала гарлапаніць пра тое, што яна Арлекіна...

У моманты пераўвасабленняў вакол Танюхі і бацькі збіраліся людзі, з задавальненнем і захапленнем назіралі за відовішчам, якое наладжвала маленькая артыстка. Гучна апладзіравалі пасля кожнага яе ўвасаблення: Пугачова, Ратару, Піяф... Яны не ведалі і не маглі ведаць, што ўсё гэта дзяўчынка рабіла не дзеля сябе і, тым больш, не дзеля іх. Такім чынам Танюха развітвалася з бацькам, прызнаючыся яму ў каханні, сваім дзіцячым каханні, пра якое і без таго ведалі абое, упэўненая, што ніколі ўжо не пабачыцца з ім. Яна весяліла бацьку і астатніх, да якіх ёй не было ніякай справы, весяліла, каб самой не расплакацца…

Адна справа — гасцяваць, зусім іншая — жыць. Калі ты знаходзішся ў некага ў гасцях, да цябе і адносяцца як да госця. Змена статусу з госця на жыхара маланкава пераварочвае стаўленне да цябе. Прычым, часцей за ўсё, не ў тваю карысць. Бабу Марусю як падмянілі ў дачыненні да мамы, калі тая згубіла прывілею недатыкальнасці, якой валодала ў асобе госці (бацька ўладкаваўся на цагельню абпальшчыкам на печ, і жылі яны ўсе разам). Раздражнёнасць, крыклівасць, незадаволенасць, прыдзірлівасць па дробязях бабы Марусі не ведалі межаў. Цяжарнасць маміна ў разлік увогуле не бралася. Яна не працавала, значыць, з’яўлялася ўтрыманкай. Аднак жа, па яе словах, мама цэлымі днямі ляжала на печы ды кніжкі чытала, як пані, у той час калі астатнія гнулі спіны на цагельні, а прыходзілі дамоў і вымушаны былі яшчэ ўходжвацца па хаце. Зразумела, што свякроў нагаворвала на маму, якая ніколі не баялася працы, тым больш сельскагаспадарчай, і рабіла ўсё як мае быць. Цяжарная, яна адна чысціла катухі свінням, якія ўжо абраслі каростай ад бруду, дзясяткамі балеяў выносіла гной на папар, узбіралася па нетрывалых прыступках на гарышча па салому, скідала яе віламі ўніз і сцяліла ў свінячым катуху, быццам новы дыван. Варыла тым свінням ежу з дробнай бульбы, лупін і сечкі ў дваццацілітровых чыгунах, дабаўляючы камбікорм. Варыла розныя стравы і хатнім: баршчы, камякі, украінскі плоў, галушкі, смажыла верашчаку, бульбу, аладкі. Мыла бялізну ў ночвах, падлогу, падмятала двор… І ўсё дага-

дзіць не магла. Стамляючыся, лажылася на печ з кніжкай, да таго ж мерзла, як пачало халадаць, дык грэлася. Клімат мясцовы вельмі адрозніваўся ад таго, што панаваў у Шахцінску. Там — сухі, тут з павышанай вільготнасцю, а таму цяжка пераносіўся, дый цяжарнасць яшчэ.

Бацьку не падабалася, як баба Маруся адносілася да мамы, і шукаў выйсця. Звяртаўся да заводскага начальства і да вышэйстаячага, каб дапамаглі з асобным жыллём. Па восені маладой сям'і ўручылі ключы ад кватэры ў двухпавярховым так званым белым доме, пабудаваным яшчэ пры паляках разам з цагельняй, на першым паверсе (нехта, мабыць, вызваліў жылплошчу). Будынак, дарэчы з высокай столлю і шырокімі вокнамі, знаходзіўся непадалёк ад завода і стаяў проста над кар'ерамі, з якіх здабывалі гліну, а за ім узвышаўся сасновы лес. Месца, з аднаго боку, казачнае, з другога — небяспечнае і, між іншым, найсырэйшае. Мама ў гэтым доме заўсёды зябла і ўздрыгвала плечукамі ад холаду. Затое ніхто не «капаў» на мазгі і не тузаў па сто разоў, каб прынесла тое, зрабіла гэтае, перарабіла ці перамыла нешта наноў.

Крыху воддаль, амаль каля прахадной на цагельню, складзены з белай цэглы, красаваўся клуб, у памяшканні якога працавала сельская бібліятэка. Насупраць клуба стаяў прадуктовы ларок, у якім увогуле і ніколі не гандлявалі спіртным. Часцей за ўсё мама наведвала менавіта гэтыя ўстановы. У бібліятэцы магла прабавіць не адну гадзіну.

Бацька намагаўся як мага больш часу праводзіць з мамай пасля працы і па выхадных.

Што тычыцца мамы… Яна адмыслова, мне здаецца, не заўважала відавочнага. Берагла сябе і мяне, ахутвала любоўю і рамантычнай аўрай, чытаючы раманы сёстраў Брантэ, Віктора Гюго і Дзюма. І ніхто ёй быў, у прынцыпе, непатрэбны. А праз нейкі час маму паклалі ў райцэнтраўскую радзільню, дзе яна праляжала цэлы месяц, з пачатку снежня да пачатку студзеня, пакуль нарадзіла. У гэты ж час баба Маруся з дзедам Іванам з'ехалі ў Беласток у складзе фальклорнага калектыву, які запрасілі туды на гастролі, і гастрольны тур працягваўся па тэрыторыі Польшчы да канца студзеня, а бацьку забралі на вайсковыя зборы. Да мамы ніхто не прыходзіў, ніхто не наведваў, бо яна, папраўдзе, была адна і ў чужой, па сутнасці, краіне, дзе нікога не ведала і ніхто не ведаў яе. Мама нават пазайздросціла незамужнім шлёндрам, з якімі ляжала ў палаце, бо да іх кожны дзень хто-небудзь цягаўся, не кажучы пра ліставанні, а яна, замужняя, мусіла здавольвацца самотай. Так атрымалася. Ёй маглі б зрабіць кесарава і не мучыць дарма. Роды стымулявалі рознымі прэпаратамі, у рэшце рэшт чакаць натуральных родаў зрабілася небяспечна як для мамінага жыцця, так і для майго. І мяне выціснулі пры дапамозе прасцін, якімі сцягвалі мамін жывот, і выцягнулі вакуумам за галаву. А праз некалькі гадзін мама сышла крывёю. Сваім з'яўленнем я ледзь не забіў яе. Дзякуй богу, маму выратавалі. (У адрозненне ад мамы маленькага князя Балконскага, жонкі князя Андрэя з «Вайны і міру».) Амаль такая ж гісторыя паўтарылася з нараджэннем маёй сястры праз год. Яна таксама з'явілася на свет пераношаная і праз дзень памерла: захлынулася крывёю. (Магчыма, ахвяравала сабою, каб жыў я. Падарыла мне сваё непражытае жыццё, падзяліўшыся самым каштоўным, што ў яе было, каб не памёр і я. Ім, анёлам, там, на небе, лепш відаць…)

У хвіліны слабасці мама напісала ліст да Люсі, жонкі свайго старэйшага брата, у якім распавяла пра свае нягоды. Люся, між іншым, нарадзілася ў Беларусі, а менавіта ў Вілейцы, куды, дарэчы, вярнулася яе старэйшая сястра

пасля заканчэння школы, вывучылася на педыятра і працавала ў Вілейскай дзіцячай паліклініцы. Яна не прасіла Люсю прыехаць да яе, але прасіла нічога не казаць бацькам. Доўга вагалася, адпраўляць ці не адпраўляць ліст у Казахстан. Усё ж даверылася камусьці з бясконцых наведнікаў суседак па палаце, і той апусціў мамін ліст у паштовую скрыню разам з навагоднімі паштоўкамі родным, якіх павіншаваць была абавязана, але не больш. Люся, атрымаўшы і прачытаўшы ліст, тут жа зазбіралася ў дарогу. Яна не сказала пра маміна становішча дзеду Яўгену і іншым, аднак ад свайго мужа, мамінага старэйшага брата, нічога ўтаіць не змагла. Той парываўся паехаць разам з Люсяй і прыбіць бацьку на месцы, ды яго не адпусцілі з працы.

Люся забірала маму і мяне з радзільні, выклікала таксоўку і расплачвалася з вадзіцелем, калі той прывёз нас дадому ў Вёску. Яна ж і даглядала маму ўвесь той час, пакуль тая не ачуняла пасля родаў: нават устаць з ложка самастойна не магла. Пра мяне таксама клапацілася Люся. Іх абедзвюх шакіраваў той факт, што калі я плакаў, мяне ажно трэсла і скручвала пальцы сутаргай, нібыта ад жудасці свайго з'яўлення на свет, у якім патрэбна было жыць. З тае прычыны да года я, відаць, перахварэў усімі магчымымі хваробамі, намагаючыся як мага хутчэй збегчы з прапанаванага мне штучнага раю на зямлі ў сапраўдны нябесны. Пакуль не нарадзілася і адразу не памерла Крысціна (імя дзяўчынцы прыдумаў загадзя бацька, які вельмі хацеў дачку), забраўшы ўсе мае страхі з сабою. Як толькі яе пахавалі, зніклі мае сутаргі, істэрыкі і хваробы…

Бацька вярнуўся са збораў праз два дні пасля таго як Люся перавезла маму і мяне з радзільні дамоў. Ён дапамагаў Люсі ва ўсім, што тычылася здароўя мамы і майго, пасля працы нідзе не затрымліваўся і спяшаўся дамоў. Калі прыехалі ягоныя бацькі з гастроляў, запрасіў іх на агледзіны сына, паклікаў сяброў. Люся ў той дзень ездзіла ў райцэнтр. Калі вечарам увайшла ў хату, ледзь не згубілася, быццам у тумане, у цыгарэтным дыме і галасных п'яных выгуках. Я ляжаў у цэнтры стала сярод агрызкаў і бруднага посуду, на мяне, рыхтык снег, падаў цыгарэтны попел. І ніхто не зважаў, што дзіця захлынаецца плачам і трасецца, быццам у падучай. Бацькавы госці настолькі гучна перакрыквалі адзін аднаго, нешта даводзячы ў п'яным запале, што не звярталі ўвагі на маленькага чалавечка, які мог бы памерці ў іх на вачах, і ніхто б не заўважыў гэтага. А мама выла, як параненая ваўчыца, у іншым пакоі, зачыненым на шпінгалет. Люся зразумела, што разагнаць кодлу можна толькі радыкальнымі сродкамі. Яна схапіла швабру, насадзіла на яе мокрую анучу і давай лупцаваць ёю па плячах і тварах, што першымі трапіліся на вочы, прыгаворваючы пры гэтым, каб усе збіралі свае манаткі і вымяталіся адгэтуль. Перапала і бацьку. Ён першы ачомаўся ад гвалту, кінуўся да мяне, аднак Люся прагнала яго, параіўшы заняцца гасцямі, якія не жадалі заканчэння свята.

Узяўшы мяне на рукі і здзьмухнуўшы попел з твару, занесла да мамы. Мы супакоіліся з ёю адначасова, калі адчулі адно аднаго.

— Што будзеш рабіць? — спыталася Люся ў мамы, калі той палягчэла і яна нават ужо хадзіла па хаце.

— Не ведаю, — пацiснула плячыма мама і схілілася над калыскай, у якой спаў я, усміхнулася нечаму, упершыню без болю з таго часу, як выпісалася з радзільні.

— Калі хочаш ведаць маё меркаванне, — падышла Люся бліжэй да мамы, — заставацца тут табе няварта. — Яна заняла месца з іншага боку

калыскі і цяпер стаяла насупраць мамы. — Што цябе тут чакае? Адну? З дзіцем? Без падтрымкі?

— Я думала, — адгукнулася мама, — я ўжо думала пра ад'езд, але, спадзяюся, ён не спатрэбіцца. Не паверыш: мне падабаецца ў Вёсцы! — паглядзела на Люсю з надзеяй на тое, што тая яе зразумее.

— Ты чужая гэтай Вёсцы, Оля! — заўважыла Люся. — І ніколі за сваю тутэйшыя цябе не прымуць.

— Мой сын тутэйшы, — выдыхнула мама, — хочуць яны таго альбо не. Тут яго Радзіма, — цвёрда заявіла. — А іх стаўленне да мяне не грае ніякай ролі.

— Якая Радзіма?! — незалюбіла Люся. — Адкуль гэты пафас? Наша Радзіма ўвесь Савецкі Саюз, калі ты не забыла! А тут… у гэтай Вёсцы ніякіх жа ўмоў для паўнавартаснага жыцця! Ні туалета ў доме, ні ваннага пакою, атапленне ўласнаручнае дрывамі, сырасць, гэтыя кар'еры пад бокам… Цывілізацыя, маці яе! Не думаеш пра сябе, пра дзіця падумай. Ці патрэбна яму такая Радзіма! Дый муж аб'еўся груш. Што б ён ні зрабіў, як бы дрэнна да цябе ні паставіўся, мясцовыя будуць заўсёды на яго баку!

— Нам усім зараз нялёгка, — уздыхнула мама.

— Намякаеш, што мне лёгка? — выказала здагадку Люся.

— Нічога я не намякаю, — выпакутавана ўсміхнулася мама. — Я абавязана табе і вельмі ўдзячна за клопат, за тое, што ты прыехала. Не ведаю, як бы справілася без цябе…

— Але больш мая дапамога не патрэбна, — скончыла Люся за маму, — так?

— У цябе ж сваё жыццё, і не тут, а там, — апусціла вочы ў падлогу мама. — Як я магу эксплуатаваць так доўга твой час?..

— Эксплуататарка знайшлася, — рассмяялася Люся, абняўшы маму.

— Не сярдуй, — паклала мама сваю руку на Люсіну руку, што ляжала на яе плячы. — У мяне ўсё будзе добра, — запэўніла.

Праз некалькі дзён Люся паехала дамоў.

Клопат цалкам лёг на бацьку, які нават рады быў, што так сталася.

Праз два тыдні пасля ад'езду Люсі ў Вёску прыехаў дзед Яўген разам з малодшым сынам Сярогам. Люся не змагла не расказаць дзеду Яўгену пра жыццё яго дачкі за светам, пра яе становішча там.

Дзеду Яўгену ў Вёсцы не спадабалася ўсё. Пачынаючы з паветра. Мясцовасць, на якой стаяў дом, выклікала на яго твары агіду адразу, як толькі пабачыў яе. Жыць у абкружэнні дрыгвяністых вялізазных ям, патыхаючых сырасцю, за несціхаючым шумам матораў грузавікоў, снуючых на цагельню і з цагельні, уздымаючых пыл, як сцяну, і губляючыхся ў ім, быццам у тумане, — дзед Яўген палічыў злачынствам. Які чалавек здаровага розуму паселіць у падобныя ўмовы маладую жанчыну з нованароджаным дзіцем?! Гэтага ненармальнага судзіць трэба! І куды бацька глядзеў?! Зрэшты, ужо вядома куды.

Сырасць у кватэры раззлавала дзеда Яўгена яшчэ больш. На некаторы час яго гнеў утаймаваў маленькі ўнук. Дзед узяў мяне на рукі, твар яго палагоднеў, нават усмешка з'явілася, вочы зрабіліся такія добрыя-добрыя. І я яму ўсміхнуўся.

— Бач ты, усміхаецца, — напаўголаса вымавіў дзед Яўген, быццам зачараваны, пазіраючы на мяне. — А во глядзі, Сярога, глядзі, — гукнуў сына, — падміргвае, падміргвае!..

— Прызнаў свайго, — заўважыла мама, якая не чакала, вядома, гасцей, тым больш такіх, але ёй было вельмі прыемна і радасці яна не прыхоўвала ад неспадзяванкі.

— Канечне, прызнаў! — ганарыста заявіў дзед Яўген. — Хоць і бульбаш, аднак наш!

— Можна мне? — папрасіў Сярога (на той час сямнаццацігадовы хударлявы юнак) узяць на рукі пляменніка.

Дзед Яўген перадаў мяне Сярогу, і зноў твар яго спахмурнеў.

— Карацей, — строга звярнуўся да мамы, — я цябе тут адну не пакіну, а таму на першым жа заўтрашнім ранішнім рэйсе з'язджаем адгэтуль усе разам.

Мама не адважылася яму пярэчыць. Яна была ў захапленні ад яго, ад таго, што ён прыехаў па яе.

Бацька ж не адважыўся паказацца дзеду на вочы. Дзед Яўген, у сваю чаргу, ніводнага разу не ўспомніў пра яго.

Звечара сабраўшы неабходныя рэчы і ўпакаваўшы іх у чамаданы і сумкі, раніцай не затрымаліся ў Вёсцы ні на хвіліну.

Бацька злаваў на маму, на дзеда Яўгена, на Люсю, дзякуючы якой прыехаў дзед Яўген і забраў яго жонку і сына. Якое дзед Яўген меў права абысціся з бацькам падобным чынам, то бок, пакінуць на адзіноце, сам-насам з уласнымі думкамі ў апусцелай кватэры?! А тут яшчэ па радыё нейкая спявачка ірвала душу напалам словамі: *«Опустела без тебя земля»*! І што прыдумаў бацька, каб пазбавіцца ад болю страты, прычым неўсвядомленага болю, уяўнага, — заліцца гарэлкай да самазабыцця!

…Казахстанскія зімы снежныя і марозныя, завейныя і буранныя, ветраныя і гурбяныя, аднак і сонечныя, і па-мастацку прыўкрасныя. Студзень якраз змяніўся лютым, нібы перадаў варту як удзельнік спрадвечнай эстафеты на хуткасць існавання быцця, дый люты рыхтаваўся ўжо да справаздачы перад сакавіком, калі мама акрыяла і пачала ўсміхацца новым раніцам, дням, вечарам, новаму жыццю. Догляд за ёй і яе маленькім сынам дзед Яўген кантраляваў асабіста. З мамай абыходзіліся быццам з каралевай. Зразумела, не прымусова, а па ўласным жаданні кожнага з радзіны. Абкружылі клопатам, пяшчотай, любоўю, шчырым замілаваннем, нібы абклалі падушкамі. Мяне ж проста абагаўлялі. Усе. Магчыма таму, што на той момант я быў самым маладзейшым. Асабліва шчыравала са мной Наташка. Кожную вольную часінку яна, шасцігадовая дзяўчынка, праводзіла побач са мной, дапамагала і карміць мяне, і мыць, і гушкаць, і спаць укладваць. На дзіва, ёй адной удавалася тое, на што не быў здатны ніхто. У яе на руках я пераставаў плакаць. Калі яна знаходзілася паблізу ад мяне, паводзіў сябе спакойна і не капрызіў. Усміхаўся толькі ёй. Усміхаўся, бясспрэчна, і маме, аднак, як адзначыў дзед Яўген, не так шчыра і задаволена, як Наташцы. Паміж намі адразу ўзнікла непарыўная сувязь роднасных людзей. Яна любіла мяне незвычайна, я таксама не мог без яе. Не было на свеце, здавалася, больш блізкіх людзей, чым мы, якія б так моцна адчувалі адно аднаго. Канечне, для мамы Наташчына стаўленне да малога і тое, як я цягнуўся да яе, як рэагаваў на кожнае з'яўленне дзяўчынкі, на кожны дотык яе, кожнае слова да мяне, — было значнай палёгкай і падтрымкай.

Пакрыху мама прывыкала да ўсведамлення таго, што хутчэй за ўсё застанецца маці-адзіночкай, хаця Люся неаднойчы дакарала яе за песімізм і абяцала неўзабаве ізноў выдаць замуж. Мама сумна пасміхалася, ківала галавой,

быццам згаджалася з Люсяй, аднак ведала, што ўсё гэта толькі словы. Ёй ніхто больш патрэбны не быў і не будзе. Яна з цяжкасцю верыла ў тое, што адбылося з ёю, і баялася паўтарэння. Усіх мужчын мама атаясамлівала з бацькам, а іх бацькоў з бацькавымі бацькамі. Нічога, пражыве і без мужыка. Галоўнае, яна мела сына. Астатняе не з'яўлялася істотным. Зрэшты, шмат разважаць пра жыццё з іншым мужчынам ці пра жыццё без бацькі для яе сына маме не хапала часу. Я бясконца хварэў, а таму ўсе яе думкі і сілы былі накіраваны на выратаванне майго жыцця. Зразумела, без Наташчынай дапамогі гэтага не атрымалася б. І хоць яе выкарыстоўвалі як своеасаблівы клапан, якім закрываюць фантан, каб супыніць мой несціхаючы крык, бо мне ж нешта балела і нічым іншым пра свой боль я не мог паведаміць, Наташка адчувала сябе патрэбнай і нават важнай. Бо, паўтаруся, толькі ў яе на руках я супакойваўся і засынаў.

Так і жылі, змагаючыся за маё здароўе.

А што бацька?.. Ён, пасля некалькіх дзён п'янства, раптам аб'явіўся ў Вёсцы, павіс пудзілам на плоце ў двары бацькоўскай хаты, тварам у застылы вішнёвы сад, які пацягнуўся ўсімі сваімі дрыготкімі прамерзлымі галінамі насустрач, каб пашкадаваць, быццам адчуваючы бяду, якая яго напаткала, і хоць неяк суцішыць боль, што рваўся вонкі вялікімі гарачымі слязьмі з яго вачэй. Не, бацька не плакаў, бо мужчыны не плачуць. Вочы слязіліся ад марозу ды ветру — звычайная справа. Дый з якой прычыны яму плакаць? Ён дарослы чалавек, а даросламу чалавеку плакаць нельга.

Бразнулі дзверы. З хаты выйшла баба Маруся вынесці свінням і выпусціць з хлява курэй. Яна не заўважыла бацьку, бо не глядзела ў яго бок, пабачыла, калі вярталася ў хату. Падышла.

— Чаго гэта ты тутака? — папытала, і ўгледзела слёзы на сынавым твары. — Скуголіш?

Бацька пацiснуў плячыма.

— Плячыма ён пажымае, — незадаволена адзначыла баба Маруся. — Хадзі ў хату, пакуль не змерз! — загадала.

Бацька паслухмяна выканаў загад.

Насыпаўшы пад вокнамі хаты проса курам, баба Маруся паклікала іх, і, калі тыя датумкалі, дзе чакае ежа, і прыбеглі, адна за другую шпарчэй, таксама зайшла ў хату.

Бацька сеў на кухні за стол, не распранаючыся, аблакаціўся аб стальніцу, галаву апусціў у далоні. З пакоя выйшаў дзед Іван: збіраўся на працу.

— Налі яму вады, — гукнуў жонку, якая якраз апынулася каля вёдраў з вадой, адно зайшоўшы ў кухню.

Баба Маруся набрала паўнюткую конаўку і паставіла яе на стол перад бацькам. Той імгненна выпіў ваду да дна.

— Хопіць румзаць, боўдзіла! — выпаліла тады баба Маруся, бо прыкмеціла, што бацькавы вочы зноў набрыняюць вільгаццю. — Сорамна на вуліцы паказацца, усе пальцам тыцкаюць! П'еш… Жонка з дзіцём з'ехала, — накінулася з абвінавачваннямі, але з міласэрных матываў, даючы бацьку магчымасць «скляпаць» сябе наноў, сабрацца і працягваць рухацца далей па жыцці.

— Я не выганяў яе, — паспрабаваў апраўдацца бацька.

— Твой сын у Казахстане! — нагадала баба Маруся. — Едзь!

— І гераічны дзед! — напомніў бацька, хутчэй за ўсё, самому сабе.

— А ты не бойся яго, — заспакойвала бацьку баба Маруся. — Волька цябе кахае, усё наладзіцца. Не сумняюся. Ехай да жонкі. Сын не павінен расці без бацькі.

— Я падумаю, — сказаў тады бацька, выйшаў з-за стала, а пасля на двор. Тое, за чым прыйшоў, ён атрымаў і паспакайнеў. Вярнуліся ўпэўненасць і цвёрдасць жыццёвых намераў.

Праз два дні бацька пакінуў Вёску і вярнуўся ў Шахцінск, дзе адчуваў сябе сваім, болей чым дома. Тыдзень ён пракантаваўся ў цёткі Груні, пакуль не ўладкаваўся працаваць, зноў пры дапамозе дзядзькі Жэні, на шахту, але не на тую, дзе рабіў раней, а на іншую, каб не перасякацца з Дзядзькам, маміным братам, на якога, дарэчы, трапляў кожны раз, калі тэлефанаваў у кватэру Украдыгаў. Бацька некалькі разоў спрабаваў датэлефанавацца да мамы. Ёй, відаць, нават не паведамлялі, што ён званіў. Дзядзька, між іншым, агрэсіўна папярэджваў бацьку па тэлефоне, што калі той не прыпыніць тэлефанаваць, знойдзе яго і так дасць, што той пасля косткі свае стоміцца саскрабаць з асфальту.

Зразумела, тэлефонная размова — не выйсце. Дый што бацька сказаў бы маме па тэлефоне? Што кахае яе і жыць без яе не можа? Дык гэта трэба ў вочы казаць пры асабістай сустрэчы, якая на дадзеным этапе, на жаль, немагчыма. Ну а да прыкладу, чыста тэарэтычна, яны памірыліся. Мама даравала, зноў паміж імі любоў. Дзе жыць? Зразумела, па-ранейшаму ўжо нічога ніколі не будзе, і мамін пакойчык у бацькоўскай кватэры — не варыянт. Бацька і не збіраўся зноў палоць той самы гарод, як кажуць. Аднойчы згубіўшы давер чалавека, які цябе паважаў, колькі ні намагайся, не вернеш. Ды бацька і спрабаваць не будзе, ведаючы наперад, што дзед Яўген больш яму не таварыш, дакладней, бацька дзеду Яўгену. Значыць, трэба абзавесціся ўласным жыллём, каб было куды прывесці жонку. Калі ў яго будзе жыллё, магчыма, мама перагледзіць сваё стаўленне да ўсяго, што паміж імі адбылося, і ўзнікне шанец на дыялог, у выніку якога яны зноў стануць сям'ёй. А пакуль трэба пасяліцца як мага бліжэй да жонкі, каб не выпускаць яе з поля зроку, і пашукаць саюзнікаў. Бацька вырашыў, што яму дапамогуць Танюха і Люся.

У першы свой выхадны, але будзённы для ўсіх астатніх дзень бацька падышоў да школы, у якой вучылася Танюха. Ён дакладна ведаў, дзе і калі сустракаць дзяўчынку пасля ўрокаў, таму спакойна сеў на ачышчаную ад снегу лаўку непадалёк ад параднага ўвахода, аднак жа насупраць яго, і закурыў. Яму неабходна было спачатку пагаварыць з Танюхай. Абмінуць яго на гэтай лаўцы яна не магла.

Вучні, якія займаліся ў першую змену, калі скончыліся ўрокі, літаральна вынеслі школьныя дзверы марской хваляй і хлынулі з будынка суцэльнай плынню, быццам прарваўшы плаціну. Рознагалосы гвалт узняўся над наваколлем такі, нібы трапіў у Вавілон. Танюху бацька ўгледзеў раней, чым яна яго, і не зводзіў з яе вачэй. Дзяўчынка ў коле аднакласніц ці сяброўак, якія аб нечым шушукаліся, няўхільна набліжалася да таго месца, дзе сядзеў бацька. Вось яна нібыта спатыкнулася аб нешта і апынулася ззаду каляжанак, а вочы яе быццам уперліся ў нейкую сцяну. Танюха ўбачыла бацьку і не верыла самой сабе. Дзяўчаты азірнуліся, маўляў, чаго застыла? Тая махнула рукой, каб ішлі далей без яе, а пасля імкліва пабегла да бацькі. Ён паспеў ускочыць з лаўкі, каб прыняць малую ў свае абдымкі. Яна павісла ў яго на шыі, не хаваючы радасці, і цалавала ў калючыя шчокі.

— Ты… — задыхалася ад хвалявання, — ты што тут робіш? Я думала, што больш ніколі не пабачу цябе! А ты тут, побач, увесь такі нечаканы! Але я табе рада! Так рада! — яшчэ шчыльней прыціснулася да яго.

— Я таксама, — задаволена ўсміхнуўся бацька.

— Дык што ты тут робіш? — дапытвалася Танюха, калі апынулася нагамі на зямлі.

— Разумееш, — замуляў губамі бацька, — тут такая справа… Мне патрэбна твая дапамога.

— Ты ж ведаеш, я за любы кіпеж, калі без вайны, — выгукнула дзяўчынка.

— Тады пройдземся, — прапанаваў бацька і працягнуў ёй руку.

Да Танюхінага дома яны пайшлі іншай дарогай, у абход. Бацька не хацеў, каб раней часу яго заўважыў хто-небудзь з мамінай сям'і. Ён распавёў дзяўчынцы ўсё, што здарылася з ім за той час, які яны не бачыліся, і папрасіў, калі можна, каб яе бацькі здалі яму пакой. Ненадоўга.

— Ты хочаш каля мяне жыць? — хітра паглядзела Танюха на бацьку.

— Толькі пра гэта і мару, — у тон ёй адказаў той.

— Што-небудзь прыдумаем, — запэўніла малая. — Вернем табе тваю Олю.

Дзядзька Жэня тым часам даведаўся праз прыватную размову з дырэктарам Домабудаўнічага камбіната карэйцам па прозвішчы Эм, што на балансе камбіната мелася некалькі незаселеных ведамасных кватэр, на адну з якіх бацька мог разлічваць, калі ўсё зрабіць правільна. Па-першае, дзядзька Жэня і цётка Груня сябравалі з гэтым карэйцам, таму неяк могуць паўплываць на яго. Па-другое, дзед Яўген, мамін бацька, таксама сябраваў з дырэктарам камбіната, больш за тое, прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні прадпрыемства. Па-трэцяе, Люсін муж і мамін старэйшы брат дзядзька Саша рабіў на камбінаце і лічыўся адным з лепшых працаўнікоў. Бацька мусіў выкарыстаць кожную магчымасць, каб атрымаць кватэру. Для пачатку ён сустрэўся з Люсяй, запэўніў яе, што не можа без мамы дыхаць, пры гэтым не маніў, што хоча маму вярнуць і жыць асобнай сям'ёй, а таму яму неабходна Люсіна дапамога, дакладней, яе мужа, чыя пратэкцыя, добрае слова пра бацьку, сястру і маладую сям'ю, прамоўленае да дырэктара Домабудаўнічага камбіната, можа быць лёсавырашальным. Люся павінна была ўгаварыць мужа сустрэцца з бацькам, папярэдне падрыхтаваўшы да будучай размовы, і растлумачыць сітуацыю, у якую трапілі мама з бацькам, не ў чорных тонах, а з перспектывай да лепшага. Дзядзька Саша нават слухаць не хацеў на першым этапе перамоў з жонкай пра нейкую там незвычайную сітуацыю. Яму было зразумела без усялякіх прыгожых слоў, што бацька нявартны і мезенца мамінага. Аднак, відаць, Люся дастукалася да яго сэрца, бо неўзабаве ён пагадзіўся сустрэцца з бацькам. Магчыма, дзядзька Саша спадзяваўся, што паміж мамай і бацькам узнікла не такая глабальная прорва, як яму бачылася, і што яе можна было яшчэ перакрочыць і рухацца далей.

Дамовіліся сустрэцца на тэрыторыі сопак адразу за горадам пасля рабочага дня. Гэта была ўмова дзядзькі Сашы, а бацька падумаў, што той, мабыць, шпіёнскіх фільмаў нагледзеўся ці кніжак начытаўся. Тым не менш абодва з'явіліся на выбраным месцы адначасова, правальваючыся па калені ў снег.

Дзядзька Саша не працягнуў бацьку рукі ў адказ на працягнутую ягоную, адразу ўмазаў яму па сківіцы і яшчэ колькі разоў паспеў ударыць па корпусе, куды пацэліў, пакуль бацька ачомаўся ад нечаканага нападу. Пасля перахапіў руку праціўніка, занесеную для ўдару, і балюча яе вывернуў, біцца ён не хацеў, не дзеля бойкі ішоў праз сумёты, дзеля паразумення.

— Я кахаю тваю сястру! — выкрыкнуў ён у твар швагру і адпусціў яго руку.

— Не заўважна нешта, — працадзіў дзядзька Саша, прыклаўшы пашкоджаную руку да грудзей.

— Я не хачу апраўдвацца, — сказаў тады бацька, — тым больш перад табой. Так, я вінаваты і не ўцякаю ад сваёй віны, а хачу ўсё выправіць, пакуль не позна. І мне патрэбна твая дапамога.

— Распавесці сястры, які ты прыўкрасны, а яна не заўважыла гэтага з-за ўласнай слепаты? — саркастычна заўважыў дзядзька Саша.

— Размаўляць з ёю не трэба, — цярпліва працягваў бацька. — Дапамажы атрымаць мне асобнае жыллё, куды я прывяду Вольку і сына. Ты ж ведаеш, як цяжка жыць уласнай сям'ёй пад чужымі вачыма.

— І як гэта я зраблю, цікава? — роблена засмяяўся дзядзька Саша.

— Нічога асаблівага ад цябе не патрабуецца, — працягваў бацька. — Машынка ўжо заведзена, людзі працуюць. Табе трэба пацвердзіць перад дырэктарам камбіната таварышам Эмам словы пра нас з Волькай, якія скажуць мае дзядзька з цёткай.

— І ўсё? — пасміхнуўся дзядзька Саша.

— А ты думаў, я цябе сакрэтныя дакументы папрашу выкрасці? — няўдала пажартаваў бацька. — Кватэры стаяць пустыя, нічога супрацьзаконнага, — дадаў ён.

— Я падумаю, — прамовіў дзядзька Саша і, павярнуўшыся спінай да бацькі, пашыбаваў прэч.

Бацька таксама не затрымаўся і пакрочыў у супрацьлеглым накірунку, хаця абодвум было ў адзін бок.

Танюхіны бацькі не пярэчылі часоваму бацькаваму суседству ў іх кватэры, тым больш што ён адразу заплаціў ім наперад за два месяцы, хоць і не збіраўся затрымлівацца так надоўга ў доме па Ленінградскай. Раскладушку для бацькі паставілі ў пакоі дзяўчынкі па яе настойлівай просьбе. Пытанне, ці бяспечна для малой начаваць у адным памяшканні побач з чужым мужчынам, — у гаспадароў не ўзнікла. Атрымаўшы грошы, яны, не затрымліваючыся, пабеглі ў бліжэйшую наліўайку. Танюха ведала дакладна, што бацька ніколі яе не пакрыўдзіць, а таму радавалася яго прысутнасці ў сваім пакоі, куды ён прыходзіў толькі дзеля таго, каб пераначаваць. Удзень бацька рабіў на шахце, пасля працы займаўся вырашэннем жыллёвай праблемы, гэта значыць, сустракаўся з рознымі людзьмі, якія так ці інакш маглі яму дапамагчы, а таксама з Люсяй і яе мужам у іх дома. Дзядзька Саша пад уздзеяннем жонкі, крыху павагаўшыся, палічыў слушнымі бацькавы намеры і паабяцаў замовіць за яго слова, калі спатрэбіцца. Люся, у сваю чаргу, пачала «апрацоўваць» маму памірыцца з бацькам. У адзін з прыходаў да яе, як бы між іншым, паведаміла:

— Уяўляеш, учора бачыла Мішку ў нашым двары.

— Якога Мішку? — наструнілася мама, напялася, нібы леска, агаломшаная навіной, спадзеючыся, аднак, што Люся ўспомніла кагосьці са сваіх кавалераў.

— Ой, прабач, — заўважыла тая маміна хваляванне, — язык мой — вораг мой. Не бяры да галавы, — паспяшалася змяніць тэму.

— Не, — запярэчыла тады мама, — калі пачала гаварыць, дагаворвай.

— Можа, не трэба? — хітравала Люся.

— Навошта пачынала ў такім разе? — не разумела мама.

— Ды ляпнула не падумаўшы, — паціснула Люся плечукамі.

— І ўсё-ткі? — настойвала мама.

— Праўда казаць?

— Праўда.

— Ну, добра, — пагадзілася Люся і зрабіла змоўніцкі выгляд твару. — Твой Мішка ўчора ашываўся каля пад'езда, — выпаліла яна.

— Мой?! — затрымцела мама апошнім восеньскім лістком. — Ты нічога не блытаеш?

— Ды я яго як цябе бачыла! — працягвала Люся. — Нават размаўляла з ім.

— Пра што? — адвярнулася мама да акна, робячы выгляд, што ёй нецікава, і цярэбячы чамусьці фіранку.

— Ды асабліва ні пра што, — адказала Люся. — Я здзівілася, пабачыўшы яго. Запытала, што ён тут робіць…

— А ён?

— А ён сказаў, што хоча вярнуцца да цябе, Оль, — абняла Люся маму.

Амаль непрыкметная ўсмешка мільганула на маміным твары і знікла. Мама павярнулася да Люсі. Ёй было прыемна, што бацька тут, а не там.

— Ты зразумела, што я сказала? — углядаючыся ў маміны вочы, спыталася Люся. Што яна шукала ў тых вачах? Пацвярджэння нязгасных пачуццяў да бацькі? Шпіёнка-самавучка!..

— Зразумела, — працягнула задумліва мама.

— І?.. — цікавілася далей Люся. — Даруеш яму?

Мама паціснула плячыма.

— Што ты плячыма паціскаеш? — незалюбіла Люся.

— Няхай… — задумалася мама, — няхай паспрабуе, — вырашыла яна.

— Значыцца, даеш яму шанец? — дапытвалася Люся.

— Я кахаю яго, — проста сказала мама. — А кахаць — гэта ўменне дараваць.

— Толькі без бою не здавайся, — параіла Люся.

— Чыя б карова мыкала… — жартаўліва тузанула мама Люсю.

Яна чакала яго, бо верыла ў яго, і ён яе не расчараваў. Тое, што адбылося ў Вёсцы, мама спісала на ачмурэнне, паморак мясцовага характару, які закрануў іх абаіх, хоць яна так хацела стаць там сваёй.

Бацька маракаваў, з якога боку лепш падысці да мамы, каб яна, па-першае, выслухала яго, не праганяючы, а па-другое, каб даравала і вярнулася да яго. Без асаблівых, аднак, поспехаў. Не валодаючы фантазіяй, не маючы ніякіх ведаў пра сродкі ўяўлення, ён не мог прыдумаць нічога вартага, тым больш такога, што закранула б маміна сэрца ці яе душу. З'яўленне ж яго перад мамай у любым выпадку павінна было быць эфектным. Бацька ўжо атрымаў ключы ад аднапакаёвай кватэры ў шматпад'ездным цагляным доме па Маскоўскай вуліцы і ордэр на яе, чым нязвыкла для сябе ганарыўся, бо гэта было яго ўласным маленькім дасягненнем, але толькі правам на асобнае жыллё апеляваць да мамы не мела сэнсу. Зразумела, яна ацэніць бацькаў учынак, магчыма, нават пахваліць за руплівасць, аднак ёй нядрэнна і ў пакоі бацькоўскай хаты, дзе адчувае сябе дома і дзе яе ніколі не пакрыўдзяць. Маму трэба было здзівіць, ды так, каб яна сама памкнулася да бацькі і захацела з ім жыць зноў.

Бацька б пацярпеў фіяска, калі б не Танюха. Гэтая дзяўчынка мела востры розум і зайздроснае ўяўленне. Менавіта яна прыдумала і распрацавала план па выратаванні бацькавай сям'і, а рэалізацыю яго прызначыла на Восьмае сакавіка, якое было не за гарамі.

Прырода, аднак, не спрыяла з самага ранку святочнага дня.

Снегапад абрынуўся на горад з завірухай, буранам і вятрамі. Людзі хаваліся ад снегу, нібы ад чумы, і пазіралі праз вокны сховаў на акупацыю стыхіі, як на прышэсце іншапланецян. Грамадскі транспарт неўзабаве застыў на месцы. Снег закопваў яго сабой, рыхтык мерцвяка пяском. Рэдкія прахожыя праз сілу прадзіраліся праз намеценыя сумёты.

Патыхала крахам.

Танюха разлічвала на добрае надвор'е і на палісаднік, у якім меркавалася паяднаць у адно цэлае разгубленыя і згубленыя было душы, гэтак жа, як і бацька, які,назіраючы праз акно за снегападам, кусаў у адчаі вусны. Малая, на шчасце, не паддалася паніцы і, крыху падумаўшы, падкарэктавала план, сапсаваны форс-мажорнымі абставінамі. Будзе не так яскрава і прыгожа, але ў дадзеным выпадку своечасова і нават гераічна.

Яны апрануліся, склалі ў пакет загадзя падрыхтаваны рэквізіт, які ўзялі з сабой, і выйшлі на вуліцу. Вецер ледзь не збіў Танюху з ног, як кеглю. Бацька паспеў ухапіць малую за капюшон, завязанага на вузел ззаду, і прыціснуць да сябе. Тады вецер раззлавана шпурнуў у бацькаў твар прыгаршчу калючых, як іголкі, сняжынак, але ён паспеў заплюшчыць вочы. Снег балюча хвастаў па тварах абаіх, нібы пугай. Танюха захуталася ў шалік, шапку нацягнула да брывоў, далонню ў вязанай рукавічцы ўчапілася ў бацькаву далонь, якая сціснула яе далікатнымі абцугамі. «Гэта ж не на край свету ісці, — падбадзёрвала бацьку ў думках, — усяго некалькі пад'ездаў. Адолеем!»

І яны пайшлі. З кожным крокам перамагаючы вецер. Неўзабаве апынуліся каля жаданага пад'езда, абтрэсліся, усміхнуліся адно аднаму, падняліся на апошні паверх, да маленькай лесвічкі, што вяла на гару. Люк, вядома, быў зачынены на навясны замок, але бацька хутка справіўся з ім пры дапамозе шпількі, пазычанай у Танюхі. Цяпер малая павінна была прывесці на гарышча маму. Яна спусцілася на трэці паверх і пазваніла ў кватэру, у якой жыла мама. Дзверы адчыніў Сярога. Танюха папрасіла яго паклікаць сястру. Ён быў здзіўлены, чаму з'явілася раптам Танюха, але пытанняў не задаваў і паклікаў маму.

— Ты што тут робіш у такое надвор'е?! — мама таксама здзівілася, але больш спалохалася за дзяўчынку: што здарылася? — Жыва заходзь! — узяла яе за руку і зацягнула ў кватэру.

— Нам няма калі, цёць Оля, — прыглушаным голасам паведаміла ёй Танюха. — Я па вас!

— Што? — не разумела мама.

— Збірайцеся! — загадала дзяўчынка.

— Куды? — нават разгубілася мама.

— Верце мне, усё будзе добра! — не прызнавалася Танюха. — Апранайцеся!

— Добра, — паціснула плячыма мама, зняла з вешалкі паліто, усунула ногі ў зімовыя боты, галаву захутала ў пуховую хустку. Заінтрыгаваная паводзінамі дзяўчынкі, яна яшчэ больш здзівілася, калі тая павяла яе не ўніз па лесвіцы, а ўверх, да адчыненага люка на гарышча.

— Вам туды, — паказала маме рукой Танюха на люк.

— Паслухай, — задумалася мама, — калі ў цябе такія жарты, то гэта зусім не смешна, — узяла яна дзяўчынку за рукі.

— А хто тут смяецца? — прамовіла малая. — Вас там чакаюць, — яна задрала галаву ўверх.

— Хто? — машынальна запытала мама, але ўжо адказ падсвядома ведала.

— Я! — пацвердзіў бацька, дакладней, яго галава, што вызірнула з люка і тут жа знікла.

Мама чакала. Чакала яго кожны дзень. Лічыла гэтыя дні без яго. Адчувала, што ён недзе побач пасля таго, як Люся распавяла пра яго. Ды ён усё не ішоў і не ішоў да яе. Яна ўжо і адчаялася, падумала, што не дзеля яе бацька вярнуўся ў Шахцінск. Аднак не, вось ён…

І мама ўзабралася на гарышча да бацькі, які ў закутку, у зацішшы, наладзіў у яе гонар імправізаваны стол з шампанскім, шакаладнымі цукеркамі ў прыгожай каробцы і цюльпанамі, якія, вядома, ужо страцілі таварны выгляд і выклікалі да сябе шкадобу, але сам факт усяго гэтага сведчыў пра тое, што бацька не забыў яе, што кахаў…

Ён устаў на адно калена перад мамай і папрасіў прабачыць яго. Ён быў заблытаўся, але цяпер разблытаўся і дакладна ведаў, чаго хоча і каго кахае. Прапанаваў зноў свае руку і сэрца, а ў дадатак ключы ад іх уласнай кватэры, дзе будуць жыць толькі яны ўдваіх і гадаваць сына, і тых дзяцей, якія ў іх будуць.

Мама была ўражана, не стрымалася і кінулася бацьку на шыю.

Яны цалаваліся, а Танюха, зразумеўшы, што здзейснілася задуманае, завалодала цукеркамі і ўплятала іх з зайздросным апетытам, седзячы на крайку люка, звесіўшы ногі ўніз…

А неўзабаве бацька перавёз маму са мной у атрыманую кватэру. Мэбляй абсталяваць яе дапамаглі дзядзька Жэня і дзед Яўген з Дзядзькам. Апошнія мусілі, гэтаксама як і мама, дараваць бацьку і паверыць у тое, што ён ніколі больш не пакрыўдзіць іх Вольку. Зразумела, адносіны паміж імі ўжо не адрозніваліся ранейшымі цеплынёй і даверам, але і кепскімі не былі. Дзед Яўген параіў бацьку перайсці з шахты на мыльны завод, каб часцей бываць дома і бачыць, як расце яго дзіця. Бацьку ўзялі грузчыкам у транспартны цэх разгружаць і загружаць вагоны. У грашах ён амаль нічога не страціў, нават пачаў атрымліваць больш, калі, з цягам часу, яго выбралі брыгадзірам змены. Думаю, заслужана, бо працаваў бацька і ў брыгадзірах як звычайны грузчык, ад работы не філоніў і пратрымаўся на пасадзе больш за дзесяць гадоў, пакуль не звольніўся, каб з'ехаць з Казахстана назаўсёды.

На завод прыйшла і мама пасля ўсіх дэкрэтаў, нарадзіўшы следам за памерлай Крысцінай яшчэ дваіх дзяцей — сына Алеся і дачку Таццяну. Апасаючыся за маміна здароўе, дзед Яўген уладкаваў яе спачатку ў картанажны цэх збіраць каробкі, маўляў, а там будзе бачна. Праз некаторы час маму перавялі ва ўпакоўшчыцы, потым яна рабіла транспарціроўшчыцай на складзе, лавіла бандэролі, а перад звальненнем была бункероўшчыцай, а яе патрэт на Дошцы пашаны таксама з'явіўся неўзабаве побач з бацькавым.

Мы пражылі пяць гадоў у аднапакаёўцы старэйшага квартала Шахцінска па вуліцы Маскоўскай. Дом наш, такі ж цагляны, як і астатнія вакол, стаяў ззаду Цэнтральнай кнігарні, што мясцілася па вуліцы Ленінскай насупраць Палаца культуры і будынкаў гарвыканкама. Паабапал дома знаходзіліся Гарадская станцыя пералівання крыві, медсанчасць, ювелірная крама «Тапаз», горна-індустрыяльны тэхнікум.

Пасля гэтай кватэры нам давялося змяніць яшчэ чатыры, пакуль мы ўвогуле не зніклі з горада назаўжды, які, магчыма, нават і не заўважыў, што нас не стала. Колькі такіх, як мы, пакідалі яго, беглі ад яго, невядома ад чаго ратуючыся, быццам з «Тытаніка», напачатку 1990-х?.. Але я не забыў яго і не забуду ніколі, бо менавіта Шахцінск мая радзіма, тая радзіма, пра якую так пафасна спяваюць паэты. Пагэтаму я не вяртаўся ў Вёску. Вяртаўся бацька. Больш за тое, калі б я мог, калі б мне было хаця б шаснаццаць на той момант, калі быў вымушаны падпарадкавацца бацькам, я застаўся б у Шахцінску.



Глеб ГАНЧАРОЎ

# У КНІЗЕ ЛЁСАЎ

* * *

…А што, калі Ісусы, Маісеі
Ды іншая прароцкая гурма
Вялі сябе з людзьмі, як фарысеі,
Бо ведалі, што вечнасці няма?

Што не сустрэць ніколі ўратавання:
Там — пустата і ледзяная твань! —
І хлусілі з вар’яцтвам спачування,
Каб паства не ўвасобілася ў здань?

Таму ў якімсьці насланні змярцвелым,
У хіжасці імглы і скавышу,
Аж сорак дзён над апусцелым целам
Вымотвае і скручвае душу.

Яна, што абяссілены падранак,
Ірвецца марна ў перажыты лёс!
Няўжо настолькі жудасны прыстанак
Наканаваны ёй замест нябёс?

## КЛЁН

На схіле сонца ў мёрзлым небе клён
Быў стрэты мной, што адзіноты плён.

---

*__Ганчароў Глеб Уладзіміравіч__ нарадзіўся 23 верасня 1965 года ў горадзе Мінску. Скончыў прыборабудаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1988) і гаспадарча-прававы факультэт Беларускага інстытута правазнаўства (1999). Аўтар рамана ў вершах «Каятан Чабор», паэм «Анёл Януш», «Цвет нікаціяны», «Гіпербарэйская легенда», аповесцей, апавяданняў, вершаў, п’есы «Уваскрэсенне Лазара».*

*Уладальнік гран-пры літаратурнага конкурсу «Мінск — горад майго лёсу» выдавецтва «Чатыры чвэрці» (2017), першай прэміі Літаратурнага конкурсу «Скарынавай душой узлашчанае слова» Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечанага 500-годдзю беларускага кнігадрукавання (2017).*

Яго чарнільны ствол у лубе споднім
Стаяў, як свечка, на пагорку ўсходнім.
Трывожылася лісце ва ўнісоне
Ў яго старэчай парадзелай кроне,
І покрывам з бурштынавай тафты
Драпіраваны быў адхон круты.

Маркоўны пук запозненых лістоў
Пад свежым ветрам быў напагатоў
Удалеч з чаранкоў сухіх сарвацца,
І першы з іх маланкай пяціпальцай
Ужо імчаў наўскач да лепшай долі —
Ў выразным ды прасветлым арэоле.

А тыя, што часова засталіся
З галінамі, працягнутымі ў высі,
Мне прыгадалі зменлівыя сцені —
Бы подых меланхоліі асенняй
На апусцелай, стомленай зямлі.
Яны сядзелі сціжмай на галлі
Ва ўзрушанасці зменлівых пачуццяў.
І я адчуў, як у кляновым луцці
Спыняецца паволі сок імклівы
Ды сцішвае вясновыя разлівы.

Той аблыселы шар лістоў чаканных
Стаў відарысам дзён доўгачаканых,
А клён, бы перапоўнены фіял,
Іх па адным, шкадуючы, губляў,
І так перада мной яны лunалі,
Як прадчуванне снежнай біенале…

## УРЫВАК З АПАКАЛІПСІСА

…Упала цемрадзь, і прыйшла журба,
І вад іголкай прадзіравіў скроні,
Калі ён да распаленага лба
Даткнуўся, як да вогнішча, далонню,
І падзівіўся ззяннем уначы,
І зазірнуў імгле за рэверс сподні:
Там небасхіл праменныя мячы
Прапальвалі, як полымя паходні.
Ён скалануўся і сышоў слязой,
Бо ля свяціл — янтарных, што пярэсна, —
Іх сем было… І кожнае лязо
Ў зямлю было нацэленым злавесна.
Вятрыска дзьмуў, шпурляючы пясок,

І голы шлях быў мёрзлым, быццам полаз,
І — ад няўцешнасці на валасок —
Ён раптам з неба счуў паўсюдны голас
І сціснуўся самотным дзіцянём.
Была бязлюднай цёмная дарога,
А голас пёк нябачным прамянём
І з коранем вымаў душу прарока.
І ў вуха, як у змятую трубу,
Цёк подых, прыпадоблены да гушчы,
Падказваючы вернаму рабу
Пасланне на навуку невідушчым,
Пасланне на пакорлівасць глухім,
Што неслася з навіслага адгор'я…
І ўскрыкнуў Іаан, калі над ім
Няўмольнае застыла сямізор'е,
Калі запелі трубы і калі
Пад вершнікамі храпянулі коні,
І з неба набліжаўся да зямлі
Бяскроўны жах у белым балахоне...

## МАЦІ

… І калі павялі Яго, як абавязваў закон,
Кожны волас Яго аб'яўляючы па-за законам,
Ты, за сон палічыўшы жахлівы, ганебны палон,
Да астачы чакала, мо ён зберажэцца палону.

У сярэдзіне радаснай, прагнай, што воўк, мітусні,
Між натоўпу, які вінавацціў праклёнам шчасліва,
Ты хацела сканаць, да гары скіраваўшы ступні,
Дзе драпежнае мора гуло ад людскога наплыву.

Зазіраючы ў бельмы і поўныя сліны раты,
Падзяляючы ў сэрцы пароўну любоў і пагарду
Двух аскепкаў эпохі, у сэрцы разрэзаным ты
Праз пакору адно не пасмела пакінуць спагаду.

Нават там на вяршыні, калі Яго кат крыжаваў,
А абветраны воін між рэбраў кап'ё Яму ўставіў,
Ты, схаваўшы ў грудзях апустошаных роспачны гвалт,
Разумела, што роднае — гэта цяпер супраць правіл.

Пад іржанне п'янчуг, што багата хапілі віна,
Скрозь натоўп разявак, што пацех зажадаў па-плебейску,
Ты маўкліва ішла, і расла адчужэння сцяна,
Бо ўзваліў Яго кроў на сябе твой народ іудзейскі.

І, калі вар’яваліся ўсе, бы на ловах звяр’ё,
То маленнем такім, што не снілі і высі Сіная,
Выкупляла ад чорнага космасу сэрца тваё
Ўсіх, хто роў «Разапні!», і твая міласэрнасць святая!

* * *

Мне з гэтых дзён не страшны галалёд
Ды снегам прыхаваныя палонкі…
У кнізе лёсаў — драны пераплёт,
Паточаныя шашалем старонкі.

І нашы душы безліччу вятроў
Былі гурмой патопленыя ў моры
Старонак без дакладных нумароў,
У зломках недапісаных гісторый.

І хто зрабіў пасля дарэмны чын,
Злажыў сюжэт, напісаны багамі?
Ён аркушы сабраў і спалучыў
Нязграбна, кепска, дагары нагамі.

Хто іх хапаў са спрытнасцю гульца,
Не гледзячы на сэнс апавядання,
Што лёсы без пачатку і канца
Паўсталі наўзамен наканавання?

Каму крычаць, прыкмеціўшы падлог,
На ўцеху разнастайным фаталістам?..
Маё жыццё згубіла эпілог
І маналог аб самым асабістым.





Андрэй СІДАРЭЙКА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## На ўскрайку вечнасці

Пасля таго, як старэнькая «газель», добра пабітая з-за бясконцых паездак па сельскіх дарогах, забуксавала ў чарговай каляіне, вадзіцель ускіпеў:

— Казаў — не трэба было сюды ехаць! А цяпер што? Вылазь! Піхаць будзеш.

— Я? — здзівілася прадавец, на выгляд трыццаціпяцігадовая жанчына.

— Не, я! — разлаваўся мужчына. — Ты за мяне за руль сядзеш?

Жанчына не стала спрачацца. Валодзя, якому было крыху за сорак, лічыўся самым нервовым шафёрам райспажыўсаюза. Здаралася, часам ён зварочваў з маршруту, нягледзячы на тое, што гэта быццам нельга было рабіць, таму яна хутка вылезла з кабіны, і, упёршыся рукамі ў машыну ззаду, пачала піхаць яе. Вадзіцель з усяе моцы націснуў на газ. «Газель» зараўла, абдаўшы жанчыну клубамі едкага дыму і яшчэ больш асела ў каляіне.

На шчасце, у гэты час па дарозе ехаў трактар. Шафёр хутка выскачыў з машыны, замахаў рукой.

— Што, захрас? — запытаўся трактарыст — малады хлопец.

— Ага. Трос ёсць?

— Павінен быць. Зараз зірну, — адказаў трактарыст. — Вось, — выгукнуў, усміхаючыся, ён, і выцягнуў з кабіны скручаны ў некалькі колцаў трос.

— Дзякуй богу! Выцягнеш.

— Давай, — пагадзіўся той.

— Куды едзеш? — запытаўся ў трактарыста вадзіцель, калі машына выбралася з каляіны.

— Дырэктар паслаў на палі зірнуць. Траву сеяць трэба. А ты куды цягнешся?

— Ды ў Бярозаўку. Аўталаўка.

---

***Сідарэйка Андрэй Пятровіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1985 года ў вёсцы Каравацічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Лоеўскае педагагічнае вучылішча (2004) і факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2009).*

*Аўтар кніг «Жонка на гадзіну» (2018) і «Вальс чырвоных гронак рабін»(2018), шматлікіх публікацый у беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы («Вожык», «Маладосць», «ЛіМ»).*

*Прызёр конкурсу апавяданняў газеты «Звязда» (2006 і 2015 гг.).*

— А я думаю, што за дурань у такую глухамань прэцца! Кажуць, у Бярозаўцы цяпер жыве толькі адзін чалавек. Нейкі стары. З-за яго?

— З-за яго, — уздыхнуў вадзіцель. — У нас у кабінетах разумныя сядзяць. Вырашаюць, што каму рабіць.

Ён яшчэ раз падзякаваў выратавальніку за дапамогу, потым сеў у машыну і запытаўся ў прадаўшчыцы:

— Можа, назад? Хто ведае, што там наперадзе…

— Ты што? — усклікнула жанчына. — Прэмію здымуць! Паехалі.

— Калі гэтага старога ў хуткім часе не забяруць, дык я… — шафёр вылаяўся, націснуў на газ і, зірнуўшы на прадаўшчыцу, запытаўся: — Ты наогул уяўляеш, колькі мы намотваем кіламетраў ад райцэнтра дасюль?

Жанчына пацiснула плячыма.

— Калі ехаць па прамой, то…

…Ад райцэнтра да вёскі было амаль пяцьдзясят кіламетраў. Прычым апошнія два прыходзілася пераадольваць па гравійцы. Вясною і позняй восенню ад дажджоў дарога рабілася гразкай. Яе разбівалі трактары і цяжкія грузавыя машыны, якія зрэдку праязджалі тут. Таму дабрацца сюды было не так проста лёгкай і не такой ужо моцнай «газелі».

Некалі Бярозаўка была даволі люднай вёскай. Гадоў дваццаць таму тут жыло каля трохсот чалавек. Але ішоў час, моладзь з’язджала ў гарады, шукаючы лепшага жыцця, старыя адыходзілі ў лепшы свет. Колькасць жыхароў хутка змяншалася. Вёска набыла іншы афіцыйны статус — «маланаселеная кропка». Гадоў пяць таму ў ёй засталося дзесяць жыхароў, потым іх стала сем, затым пяць… Апошнія два гады ў вёсцы дажываў свой век адзіны пастаянны яе жыхар — дзед Хведар.

Хведару было семдзесят дзевяць. «Я тут нарадзіўся, тут і памру», — казаў ён дзвюм дочкам — Волечцы і Алене, якія жылі ў сталіцы і звалі бацьку да сябе.

Прыязджалі і прадстаўнікі мясцовай улады, прапаноўвалі старому жыллё ў цэнтры вёскі. Але дзед хітаў галавой, адгаворваўся, дзякаваў за клопаты, і дадаваў: «Няма лепшай хаткі, чым тая, у якой нарадзіла матка».

Штотыдзень у вёску прыязджала аўталаўка, у якой на наступныя сем дзён Хведар набываў харч. Ён быў даволі простым: некалькі боханаў хлеба, два кілаграмы грэчкі, калі-нікалі селядзец, ды цыгарэты з запалкамі. Вядома, аўталаўка выязджала і ў іншыя «маланаселеныя кропкі», але тыя знаходзіліся за дзесяць кіламетраў ад гэтай. Вадзіцель і прадавец жартавалі, што на паліва ідзе больш грошай, чым стары купляе прадуктаў.

Час ад часу сюды прыязджалі супрацоўнікі райгаза, фельдшар, і нават, як казалі, бібліобус. Калі райгазаўцаў і фельдшара стары слухаў: першыя правяралі ці правільна падключаны балон, як працуе газавая пліта, а фельчарка ўважліва аглядала Хведара і не знаходзіла ніякіх зменаў здароўя, то на «біблiятэку на калёсах» ён махаў рукой, казаў, што чытаць не любіць.

Праўда, тут стары крыху блазнаваў. Не так даўно ён нават выпісваў раённую газету, каб ведаць, што «там» робіцца. Пра райцэнтр па тэлевізары не паказвалі, а старому былі цікавыя апошнія мясцовыя навіны. Але паштарка Зінка неяк сказала, што не трэба яму тая газета, бо ёй з-за аднаго яго намотваць лішнія пяць кіламетраў два разы на тыдзень з суседняй вёскі часу не выпадае. Маўляў, з яе і так увесь дух выходзіць, калі раз у месяц яна прывозіць яму пенсію.

— Калі якая газета застанецца, то прынясу разам з пенсіяй, — паабяцала яна.

Так Хведар перастаў чытаць газеты. Радыё перастала працаваць год таму. Адзіным сродкам, па якім можна было пачуць навіны, застаўся тэлевізар. За электраэнергію дзед плаціў своечасова. Неабходныя грошы аддаваў усё той жа Зінцы, каб тая перадала іх куды трэба.

Неяк па тэлевізары ён убачыў перадачу пра так званыя малыя архітэктурныя формы: людзі ўпрыгожвалі сядзібы living рознымі фігуркамі жывёл, птушак, садавіны. Фігуркі выразалі з фанеры, фарбавалі і крышачку прыкопвалі ў зямлю. Уцяміўшы што да чаго, Хведар зрабіў з фанеры некалькі манікенаў-людзей, чорнай фарбай намаляваў ім вочы, насы, вусны і паставіў ля суседніх хат.

— Зусім з розуму выжыў, — сказала Зінка, убачыўшы Хведаравы «шэдэўры».

— Нічога ты не разумееш. Гэта — прыгажосць, — зазначыў Хведар. — Вось буслоў яшчэ выражу, зусім па-іншаму вёска будзе выглядаць.

— Ага, ага, — засмяялася паштарка, — няма чаго рабіць, дык ты, дзед, здзяцінеў ужо. Лепш бы што так рабіў, здаравей быў бы.

— Я і так здаровы, Зінка, — казаў стары. — Фельшарка так кажа. Ды і сама бачыш, з гаспадаркай упраўляюся: агародзік, садок, дровы… А гэта, — паказваў на сваё «тварэнне», — для душы…

Паспрачацца з Зінкай Хведар любіў. Тая хоць часам і кпіла са старога, але ён ведаў: жанчына яна добрая. Зрэшты, Хведар сапраўды сам спраўляўся са сваёй няхітрай гаспадаркай, асабліва летам.

Яшчэ больш кепска, чым ранняй вясной і позняй восенню, было ўзімку, калі наваколле замятала беллю. Іншы раз даводзілася чакаць пакуль трактар з райцэнтра расчысціць снег на вуліцы, на якой стаяла хата старога. Толькі пасля гэтага сюды маглі даехаць сацыяльныя службы. А здаралася і так, што пасля моцнай завеі стары па некалькі дзён не выходзіў з хаты, быў у снежным палоне. Тады ён чакаў, пакуль снег асядзе, і можна будзе адчыніць дзверы, або калі Зінка, прыехаўшы з трактарыстам, расчысцяць ганак.

Ад снегу і моцнага ветру калі-нікалі абрывала на слупах правады. Тады, пакуль рамонтнікі з раёна не наладжвалі іх, Хведар сумаваў у хаце, чакаў, калі зменіцца надвор’е.

Улетку было лепш. У якія-ніякія хаты па выхадных прыязджалі дзеці былых гаспадароў, унукі, іншыя гараджане, хто за бясцэнак купіў у таго-сяго жытло. Хтосьці сапраўды займаўся агародам, а хтосьці (пераважна моладзь) наведваліся сюды на шашлыкі, якія добра ішлі пад гарэлку і гучную музыку.

У такі час «маланаселаная кропка» ажывала. Здавалася, што ў ёй зноў, як некалі, віруе сапраўднае жыццё. Па вуліцы хадзілі людзі, на ёй гучалі дзіцячыя галасы, смех. Старому ў такую пару было з кім павітацца, было з кім пастаяць каля чыісьціх веснічак, пакурыць, перакінуцца некалькімі словамі. Усіх сваіх, вясковых, ён добра памятаў яшчэ малымі, і яны звалі яго, як і некалі, дзядзькам Хведарам, а вось чужых не ведаў, але і тыя яго не цураліся, прывячалі: усё ж жыхар вёскі, якую летам лічылі сваёй. Але выхадныя заканчваліся, «дачнікі» раз’язджаліся, і вёска зноў сірацела.

Тады стары цэлы дзень бавіўся на сваім падворку і на агародзе. Хоць у вёсцы зямлі хапала, сеяў Хведар на сваім агародзе зусім няшмат, пяць-шэсць сотак: трохі бульбы, ды гародніну. Некалькі мяхоў пшаніцы для пяці курак на зіму купляў у знаёмых калгаснікаў з суседняй вёскі. Тыя за пачастунак ахвотна заносілі старому мяхі ў клець.

Па жыцці Хведар прывык, каб ва ўсім быў парадак. І летам не мог спакойна глядзець, як зарастаюць падворкі яго былых суседзяў. Ён браў касу і выкошваў траву на некаторых падворках: бач, прыязджалі дзеці былых сусе-

дзеў, пашумелі, пабалявалі, паехалі. А трава… Увогуле, выкошваючы такія падворкі, Хведар шкадаваў, што нестае сілы давесці да ладу і іншыя. Яму хацелася, каб вёска выглядала як мага лепш, не здавалася такой занядбанай, як цяпер, хацелася, каб хоць знешне была жывой, а не такой, як зараз…

— І сустрэць не можа, — у які ўжо раз казаў вадзіцель, калі прыехалі ў вёску і спыніліся каля хаты старога. — Навошта яму аўталаўка? Няхай бы ўжо святую ваду піў ды на абразы маліўся. Пра вечнае думаў, а не пра хлеб надзённы.

Прадаўшчыца паглядзела на яго, кашлянула ў кулак, але нічога не сказала.

— А што, не праўда?! — амаль крыкнуў вадзіцель і са злосцю націснуў на сігнал, рэзкі гук парушыў вясеннюю цішыню.

Прадаўшчыца ўздрыганула, але зноў нічога не сказала.

У думках яна праклінала сваю працу, гэты маршрут, і тое, што сёння ўсім прадаўцам аўталавак дасталіся нармальныя шафёры, адной ёй нейкі аболда. Каб не сказаць нічога лішняга і крыўднага для яго, яна хуценька пачала вылазіць з кабіны.

…Пачуўшы сігнал аўтамабіля, Хведар зірнуў у акно і ўбачыў знаёмую машыну. Ён хутка апрануўся, узяў сетачку і выйшаў з хаты.

— А, Маруська. Здароў, — павітаўся з прадаўшчыцай, якая стаяла ўжо каля машыны.

— Здароў, дзядзька Хведар, — убачыўшы яго, сказала яна. — Дарога — не дай бог. Ледзь далі рады.

— А-а, — роспачна ўздыхнуў Хведар. — Зімой жа мяло. Вось і гразка.

— Ты, давай, гэтым разам бяры ўдвая больш. Каб мы сюды не цягаліся, пакуль не падсохне.

— Ды як жа, — нібы здзівіўся Хведар. — Хлеб жа счарсцвее.

— Нічога. У вайну і не такі елі.

— Давай, дзед, рабі, што кажуць, — уступіў у размову вадзіцель, скокнуўшы з машыны на зямлю. — Праўда: цяпер да цябе хоць на самалёце ляці.

Шафёр быў раздражнёны, але стараўся трымаць сябе стрымана. Было бачна, што ён вельмі незадаволены тым, што яму сёння прыйшлося сюды ехаць.

— Не хвалюйся, дзядзька, — заўсміхалася Маруська. — Зіма скончылася. Пратрымаешся, пакуль дарога падсохне. Прыеду.

— Ды куды я, родненькія, дзенуся, — усміхнуўся Хведар. — Вядома, пратрымаюся.

— Ну вось і дамовіліся, — адказала яна.

— А ты сёння якіх мне далікатэсаў прывезла? — жартам запытаў дзед.

— Ха, далікатэсы яму падавай! Можа, табе яшчэ ананасы сюды даставіць? — усміхнулася яна.

— Не пашкодзіла б.

— Пенсіі не хопіць. Вось, звычайны набор: хлеб белы і чорны, запалкі, цыгарэты, селядзец, кілька не салёная. Сам пасоліш, калі будзе трэба. Што ты яшчэ бярэш?

— Можа, малако? Цыгарэты, запалкі яшчэ ёсць, і грэчка…

— Ёсць, малако, праўда, дарагое. Затое, месяц стаяць будзе.

— Ну давай, давай, — пагадзіўся Хведар.

Маруська хутка пачала падаваць старому тое, што ён прасіў. Хведар нетаропка разлічыўся, сказаў:

— Дык праўда, не прыедзеце на наступным тыдні?

— Надвор’е пакажа, — адказала Маруська, сядаючы ў кабіну машыны, і на развітанне крыкнула ў паўадкрытае акно: — Шчаслíва заставацца, дзед!

— Чакаю наступным разам, — адказаў Хведар.

— Чакай-чакай, — хутчэй сам сабе, чым старому, сказаў шафёр і націснуў на газ.

Машына рэзка кранулася з месца, Хведар праводзіў яе позіркам, пакуль яна не знікла за апошняй счарнелай хатай, завярнуўшы за яе ўправа на палявую дарогу, якая вяла ў райцэнтр, і толькі потым пайшоў у хату.

Частку прадуктаў стары схаваў у халадзільнік, а астатняе — на стол. Узяўшы некалькі кілек, паклаў іх у невялікую металічную талерку каля дзвярэй. Пазваў ката.

— Мурзік, кіс-кіс-кіс, ідзі сюды. У цябе сёння таксама свята. Мышэй лавіць не трэба.

Мурзік ахвотна саскочыў з печы, падбег да талеркі і пачаў прагна есці рыбу, нібы яе хтосьці збіраўся ў яго адабраць.

Хведар уключыў тэлевізар. У які раз паўтаралі кінастужку «Белыя Росы». Фільм падабаўся старому. Кожны раз ён глядзеў яго як першы, таксама, як упершыню, суперажываў героям. Нечым кінастужка нагадала яму яго жыццё, яго вёску. Гісторыя якой пачалася даўным-даўно…

…Як чуў Хведар ад аднавяскоўцаў, вёсцы было больш за дзвесце гадоў.

Некалі да рэвалюцыі Бярозаўка мела назву Панскае.

«Нават паны гэтую зямлю апрацоўвалі», — чуў ён малым ад старых вяскоўцаў.

Зямля тут і сапраўды была ўрадлівай. Усё на ёй добра расло, што ні пасадзі-пасей.

«Пэўна, таму паны і сеялі», — думаў тады Хведар.

Гісторыю сваёй вёскі стары добра не ведаў. Нідзе яна не была запісаная. Некалі бібліятэкарка Міхайлаўна з размоў са старажыламі нешта занатоўвала на паперы, але ад бібліятэкі цяпер застаўся толькі фундамент, а Міхайлаўна пераехала ў горад да дзяцей, і не вядома, ці захаваліся дзе тыя запісы.

Што да паноў, то пра іх Хведар нічога не чуў. Ніякай панскай сядзібы, а тым больш маёнтка, у вёсцы не было. А вось што вяскоўцы панамі называлі асабліва працалюбівых і заможных селян, якіх у калектывізацыю раскулачылі і некуды саслалі — пасля ніхто з іх у вёску не вярнуўся, гэта Хведар ведаў.

Ужо пры савецкай уладзе вёска змяніла назву на сучасную — Бярозаўку. За кіламетр адсюль пачынаўся прыгожы бярозавы гай. Таму якую новую назву даць вёсцы людзям доўга думаць не прыйшлося: яе падказала сама прырода.

У 1930 г. у Бярозаўцы стварылі калгас «Шлях Перамогі». Людзі ў яго ўступалі неахвотна, калектывізацыя ішла марудна. Якраз тады і зніклі з вёскі тыя «паны-кулакі»…

Дзяцінства Хведара выпала на вайну. Ён памятаў, як у вёску прыйшлі немцы, як адбіралі ў людзей харчы, як шукалі партызан: побач быў лес. Праўда, партызан тут ніхто не бачыў, яны былі недзе далей, у глухіх лясах, сутыкаліся з немцамі ў іншых месцах, дзе стаялі іхнія гарнізоны, але ворагі не верылі…

Потым немцы арганізавалі тут невялічкі лесапільны цэх, дзе прымушалі працаваць мясцовых жыхароў. Бацька Хведара, як і многія мужчыны з вёскі, ваяваў на фронце. Таму на лесапільні даводзілася працаваць жанчынам. Часам маці брала Хведара з сабой. Той бачыў, як пілавалі дошкі, а потым вывозілі іх на машынах. Гаварылі, спачатку іх дастаўлялі ў райцэнтр, дзе была чыгунка, а ўжо потым перапраўляліся ў Нямеччыну.

Напрыканцы 1943 г. вёску вызвалілі. Немцы не паспелі разбурыць лесапільны цэх, і цяпер вяскоўцы выкарыстоўвалі яго на свае патрэбы. Трэба было адбудоўваць вёску — некалькі хат у вайну згарэла.

Шмат мужчын не вярнулася дадому. Не вярнуўся і яго бацька. Маці атрымала паперу, у якой было напісана, што ён «пропал без вести». Але Хведар і маці яшчэ доўга чакалі яго… Здаралася, седзячы ў хаце, ён, хлапчук, паварочваўся да дзвярэй з сенцаў, калі раптам яны, не прачыненыя, рыпнуць ад ветру…

І нават намнога пазней, пасля таго, як у цэнтры вёскі паставілі невялічкі помнік з імёнамі загінулых на вайне вяскоўцаў, маці і ён былі супраць, каб на ім напісалі бацькава імя.

* * *

Праз некалькі дзён пасля таго, як паехала аўталаўка, Хведара наведала паштарка Зінка. Ён нікога не чакаў, таму здзівіўся госці.

— Незразумела, ці воўк ў лесе здох, ці што здарылася? — запытаўся жартам стары, убачыўшы яе на вуліцы каля сваіх веснічак: Зінка якраз каля іх да плота прыставіла веласіпед з важкімі сумкамі на багажніку. Хведар якраз выйшаў на ганак.

— Можа, і здох, — усміхнулася яна, і павіталася: — Здароў быў дзядзька, — і дадала: — Толькі давай з пенсіяй разбяромся, а потым ужо з ваўкамі.

— І табе, Зінка, добры дзень, — адказаў ён, павярнуўся да дзвярэй: — То хадзем у хату.

У хаце Хведар кінуў позірк на каляндар: было дзясятага красавіка, якраз той дзень, калі ён атрымліваў грошы.

— Неяк забыўся я, — шчыра прызнаўся стары, паглядаючы на стомленую Зінку, якая прысела на лаўку да стала.

— Ты тут адзін. Так хутка можна забыцца калі і снедаў, — зноў жартам адказала Зінка. — Ну, давай лічыць.

Яна дастала з сумкі паперу, ручку, грошы. Пералічыўшы іх, аддала Хведару. Ён узяў, не пералічваючы, сказаў:

— Здаецца, так.

— То распішыся, — прамовіла Зінка і пасунула бліжэй да яго паперку, паказала пальцам, дзе Хведар абыякава распісаўся.

— З правізіі будзеш што браць? — спытала паштарка, хаваючы ў сумку паперку.

— Не. Аўталаўка была. Набраўся, — махнуў ён рукой.

— А я што, дарэмна на веласіпедзе везла?! — абурана прамовіла Зінка. — Там і батон і хлеб, печыва.

— Ну, добра, — махнуў рукой Хведар. — Вазьму, як-ніяк, пенсія. Спатрэбіцца.

— Даўно б так, — палагаднела яна. — Глядзі, дзядзька, а то пакрыўджуся, тады больш ніколі нічога не прывязу.

— Не пакрыўдзішся, — усміхнуўся ён. — У мяне ёсць для цябе пачастунак. — І падміргнуў, узняўся з-за стала.

Ён хутка схадзіў у пярэдні пакой і вярнуўся адтуль з бутэлькай самагонкі.

— Але, — усміхнулася і Зінка. — Запаслівы…

— Зараз і чаркі вазьму, закусь якую збяру, — Хведар паставіў на стол бутэльку, узяў з паліцы, прымацаванай да сцяны, хлеб і сала.

— Ох і дзед, — задаволена прагаварыла паштарка. — Толькі ведаеш, на працы я.

— У лес не ўцячэ твая праца. Я ж цябе не кожны дзень бачу, — сказаў ён. — Ды і нагода ёсць: пенсія, да ўсяго і вясна прыйшла. Адзначым і тое і гэта.

— Хіба што так. Толькі па адной, — пагадзілася Зінка, — калі, як кажаш, нагода…

Моўчкі выпілі.

— А табе, Зінка, колькі яшчэ да пенсіі? — раптам запытаўся Хведар.

— Было два гады. А зараз жа дабавілі. То цяпер не ведаю калі, — адказала яна.

— Тады мы з табой яшчэ колькі чарак да тваёй пенсіі возьмем!

— Дай бог здароўя, дык возьмем, — усміхнулася паштарка і перайшла на іншае. — Скажы, чаму ты ўсё не згаджаешся нікуды пераязджаць? Ні да дочак, ні ў цэнтр сельсавета. Калі б у цэнтр сельсавета, то я да цябе штодзень заходзіла б. Бо сюды зімой — з ног валішся, ды і вясной — тое ж самае. Толькі летам і на пачатку восені лягчэй.

— Куды мне перасяляцца, Зіна? — пацiснуў плячамі гаспадар. — Ужо няма калі. Пачакай, не доўга табе засталося ездзіць сюды.

— Ат, не кажы лухты!.. — прамовіла госця, і пачала збірацца. — Няма мне калі заседжвацца. Дзякуй за пачастунак.

— Чакаю ў наступным месяцы. Не забудзься ж грошы за электраэнергію аддаць. А то яшчэ адключаць.

— Не, не забуду, — адказала Зінка і зачыніла за сабой дзверы.

Хведар наліў сабе яшчэ. Падумаў: «Нічога не зробіш, мабыць, засталося мне няшмат. А здавалася ж, не так даўно быў падлеткам. Цяжка жылося. Але нічога, мінулася… Усім было цяжка, але неяк выжылі…»

…Маці хацела, каб ён выбіўся ў людзі, каб набыў прафесію. Таму з радасцю выправіла яго ў школу. Але па-сапраўднаму вучыцца маглі толькі тыя, у каго былі і бацька і маці. Удовам, як і яго маці, вучыць дзяцей было нялёгка. У калгасе нічога не плацілі, на працадзень «залічвалі» палачкі… Як кажуць, жылі са свайго агарода. І вопратка — лапленая-пералапленая…

Скончыўшы так-сяк сем класаў, ужо амаль падлеткам Хведар пайшоў працаваць у калгас у паляводчую брыгаду: вазіў на кані снапы, бульбу, касіў, стагаваў, цяслярыў…

Маці працавала ў калгасе даяркай. На лесапільні, як і іншыя жанчыны, не засталася: там патрэбна была мужчынская сіла…

Хата, у якой Хведар жыў з маці, ацалела ў вайну, у ёй як было бедна тады, так не багата і цяпер. Хаця, праўда, калі Хведар стаў працаваць у калгасе, замяніў прасеўшую падлогу, ашаляваў, нават уставіў новыя вокны замест падвіслых старых.

Ішлі гады. Паступова наладжвалася жыццё, людзі будаваліся, аднаўлялася вёска, станавілася люднай, прыгожай.

Хведар рос, мужнеў, яму споўнілася васямнаццаць, затым настаў час ісці ў армію. І, хоць ён быў у маці адзіным памочнікам, яго чамусьці прызвалі разам з астатнімі хлопцамі…

* * *

На наступны дзень раніцою ў сенцах пачуўся жаночы голас.

— Бацька, ты дома?

Хведар адразу пазнаў: дачка Вольга.

Хведар на ноч ніколі не зачыняў на зашчапку дзверы (ці мала што можа з ім ноччу здарыцца — каб потым не ламалі іх). Лежачы ў ложку, мовіў:

— А дзе ж…

Дзверы ў хату рыпнулі, парог пераступіла Вольга:

— Ну і пах у цябе! Казала, паехалі да мяне. А то зусім сап'ешся тут адзін.

— Ну, выпіў крыху ўчора, — Хведар сеў на ложку. — Не адзін, з паштаркай. Пенсію ж прынесла.

— Пенсію! — недаверліва хмыкнула дачка. — У цябе тут, мабыць, кожны дзень свята. Міліцыя не ездзіць: лёг пад апарат і адзначай. Тэлевізар ды самагонка. Вунь, нават, курам зерне не сыпануў. Пэўна, галодныя ходзяць.

— Не зіма. Не прападуць. Сыпну. А ты адна прыехала, ці з Колем? — каб перавесці размову на іншы лад, стары запытаўся пра зяця.

— З Колем. На двары ён, з машынай усё ўгаманіцца не можа. Ён табе фарбы, пэндзлі вялікі і малы прывёз: у хаце падлогу, сцены падфарбаваць. Мы на дачы восенню рамонт рабілі, то фарбы засталося рознай: і блакітнай, і зялёнай, і чорнай. Ну, хопіць размоў, — спагадліва сказала дачка. — Падымайся, ды за стол. Снедаць будзем. Гарадскія гасцінцы чакаюць.

— Гэта мы хутка, — пагадзіўся Хведар.

Тым часам у хату зайшоў зяць. Падаў старому руку, пацісnуў:

— Здарова, бацька! Ого, моцны яшчэ!

— Моцны, — усміхнуўся Хведар, пацiскаючы таму руку.

За сталом зяць усё скардзіўся на дарогу:

— Ледзь дабраліся. І як толькі сюды аўталаўка даязджае?

— Была, — задаволена адказаў Хведар. — Таксама скардзіліся. Але пра мяне не забываюць. Бачыш, хлеб прывозяць.

— Яшчэ б. Ты ім усю пенсію аддаеш. І такія, як ты, у іншых вёсках. Чаму не прыязджаць? — ці то пажартаваў, ці то пакпіў зяць.

— Усю ні ўсю, але, вядома, ім аддаю, — сказаў Хведар.

Пасля трэцяй чаркі ён закрануў «цяжкую» тэму, якую ён заўсёды падымаў за чаркай і шкваркай.

— Вы лепш сюды пераязджалі б, — прапанаваў Хведар. — Столькі дамоў пустуе. Зямлі хапае. Прастора. А кватэру б дзецям пакінулі. А то і здаваць можна.

— Вёска ваша не перспектыўная: ні крамы, ні школы, ні бальніцы, дый працы няма. А ездзіць адсюль у горад — толькі на паліва і працаваць.

— Вось каб прыехалі, праца і знайшлася б, — не адступаў стары.

— Ат, бацька, зноў ты за сваё! — адмахнулася дачка. — Казала, едзь да нас. Тут, калі што, і ўрач не паспее прыехаць. А ў нас усё пад рукой. Хоць сходзіш у краму добрую.

— Што значыць, добрую? — не зразумеў Хведар. — А аўталаўка, хіба не добрая?

— Ха, аўталаўка, — заўсміхаўся зяць. — Самі кажаце: хлеб белы і чорны. А ў гарадской краме толькі аднаго хлеба — гатункаў — з два дзясяткі. Яшчэ столькі ж — белага.

— Навошта столькі? — здзівіўся стары. — Хіба вам аднаго гатунку мала? Хлеб — ён і ёсць хлеб.

— Смак розны, — патлумачыў зяць. — Эх, вас і сапраўды на экскурсію ў гарадскую краму звазіць трэба.

— Нашлі мне экскурсіі, — пакрыўдзіўся стары. — У мяне і тут экскурсій па лесе хапае.

— Ну, за тваё здароўе, — сказаў зяць, падняўшы шклянку.

— Жывы будзем, — дадаў Хведар.

— Будзем, — адказала дачка. — Але гарэлкі больш ні-ні. Спраў яшчэ шмат: хату да Вялікадня трэба прыбраць.

Гаспадар на гэта нічога не адказаў.

* * *

Калі ўжо надвячоркам Хведар праводзіў гасцей, то сказаў:

— Вы ўжо і на Вялікдзень ці Радаўніцу прыязджайце. Алена, няхай таксама прыедзе. А то ад самай восені не была. Бачыш, кабанчыка ў хляве няма, то і да бацькі не спяшаеце.

— Добра, перададзім што запрашаеш, — адказала дачка. — А пра кабанчыкаў забудзься: не галодныя. Ты лепш свой мабільны зараджай рэгулярна. А то не дазваніцца. Мы што, дарэмна табе яго куплялі?

— Навошта ён мне быў трэба? Насі толькі з сабой. Яшчэ згубіш, — адмахнуўся Хведар. Але зірнуўшы на строгі твар дачкі, адразу ж дадаў: — Добра, добра…

— Шчасліва заставацца, — сказаў зяць і паціснуў руку цесцю.

— Дык хутка чакаю вас зноў, — паўтарыў у які раз гаспадар.

— Добра. Прыедзем, — адказаў Коля.

Ён завёў машыну, пасігналіў цесцю. Машына кранулася з месца.

«Грошай хапае», — успомніў словы дачкі Хведар, гледзячы ўслед машыне.

Вядома, у горадзе добры заробак. Вунь зяць як пасля арміі прыйшоў, то адразу ўладкаваўся нафтавіком, а ім няблага плацяць, а Хведар у свой час…

…Пасля арміі ён пачаў працаваць на трактары. Хтосьці марыў атрымаць дыплом аб вышэйшай адукацыі, хтосьці — стаць лётчыкам. Ну а Хведар — хацеў быць звычайным трактарыстам. Яшчэ падлеткам ён з захапленнем глядзеў на гэтыя машыны, якія самі аралі зямлю, сеялі. Ведай сабе — толькі сядзі ў кабіне, кіруй.

Каб ажыццявіць сваю мару, ён скончыў у райцэнтры машынна-трактарныя курсы. Атрымаў пасведчанне. З ім вярнуўся ў калгас. Там яму далі на той час лепшую мадэль трактара — МТЗ-50…

А неўзабаве ён і пакахаў. Дзяўчыну звалі Адэля, была яна мясцовай, працавала ў паляводчай брыгадзе. Хведар ведаў яе са школы, але закахаўся толькі пасля арміі. Марудзіць з вяселлем не стаў, неўзабаве ажаніўся.

Новую хату маладыя не ставілі, а прыбудавалі да бацькоўскай хаты Хведара трысцен, каб было вальней. І жылі ладам між сабой і з ягонай маці. Маці з нявесткай ладзіла, з яе бацькамі — таксама. Старыя дапамагалі маладым як маглі. Хутка ў Хведара з Адэляй пайшлі дзеці. Першай на свет з'явілася Волечка. Яшчэ праз два гады — Алена.

Ішоў час, мянялася жыццё. Лепш стала жыць, вёска аднаўлялася. Праз нейкі час у ёй ужо была свая крама, бібліятэка, ФАП, школа. Шмат у ёй было дзяцей.

Але жыццё не стаіць на месцы. Мяняліся пакаленні. Адышлі з жыцця старажылы, і яго маці — таксама. Усё больш і больш са сваёй зямлі ў горад з'язджалі хлопцы і дзяўчаты.

Выраслі і яго дзеці.

Першая — Волечка. Пасля заканчэння школы паехала ў горад вучыцца на швачку, ды так і засталася там. Пайшла працаваць на фабрыку, шыла вопратку.

Затым па той жа сцежцы накіравалася і Аленка. Як і старэйшая сястра, у вёсцы заставацца не пажадала. А да гэтага Хведар, гледзячы, як яны растуць, думаў, дзе ў вёсцы будзе дапамагаць ім будаваць дамы, — ды каб зямля была там урадлівай… А аказалася, ні дамоў тых, ні зямлі дзеці не пажадалі.

І калі Волечка сказала, што паедзе ў горад, ён спачатку было запрацівіўся, але жонка падтрымала яе, казала, лепш так: хоць што ў жыцці ўбачыць… І ён згадзіўся… А потым радаваўся, што за сястрой едзе і Аленка…

Дочкі вывучыліся, выйшлі замуж, сталі нараджаць дзяцей, яго і Адэліных унукаў.

За ўвесь час дочкі не шкадавалі, што паехалі ў горад. Бацькі радаваліся за іх.

Жонку ён пахаваў шэсць гадоў таму. У апошні шлях яе разам з ім правялі яшчэ жывыя на той момант некалькі аднавяскоўцаў, дочкі, зяці, тая ж паштарка Зінка. Тады ён зразумеў, што і сам ужо проста дажывае. Бо галоўнае ў жыцці засталося ў мінулым.

Хіба мог падумаць Хведар, што праз нейкія чатыры дзясяткі гадоў усё зменіцца: вёска змарнее, апусцее, і ён застанецца дажываць у сваёй Бярозаўцы адзін? Што надыдзе дзень, вёска анямее — у ёй не будзе чутна чалавечага голасу? Што калгас, лесапілка, школа, тая ж «амбулаторыя» зачыняцца, струхнеюць, рассыпяцца?.. Што ён, Хведар, будзе хадзіць па пустых, затравелых плямах, на якіх раней месціліся гэтыя будынкі?

Калгас спачатку далучылі да суседняга, потым той да іншага, дзе сельсавет… Там вялікі пасёлак — аграгарадок называецца… Там людзі, там ёсць і школа, і магазіны, і ФАП, і лазня, і нават пабудаваны новыя дамы… Туды запрашалі пераехаць і яго, Хведара… Не, не паедзе: там яму ўсё чужое…

* * *

З прыходам вясны наступіў час бярозавіку. Хведар збіраў яго ў гаі, хоць шлях да яго, кіламетр, яму ўжо цяжкавата было пераадольваць. Але нічога, якнебудзь паціху… Стары чуў па тэлевізары, што за гэта трэба плаціць грошы ў лясніцтва, але сюды яшчэ ніводны ляснік не даходзіў, і Хведар нікому не плаціў.

Хведар склаў у дзве сеткі бляшаныя латкі, трохлітровыя шкляныя слоікі, невялічкую сякеру, павесіў іх на руль веласіпеда, прыкрыў дзверы ў сенцы і накіраваўся да невялічкай сцяжынкі, якая вяла ў гай.

Апошні раз у ім ён быў восенню. Збіраў апенькі. Тады яму трапіліся некалькі падасінавікаў, падбярозавікаў, крыху сыраежак.

Наогул хадзіць у лес стары любіў. Як толькі пачыналася грыбная пара, Хведар са сцізорыкам адпраўляўся ў лес.

І вось цяпер, дабраўшыся да гаю, углыбіўшыся ў яго, ён прыняўся падсочваць дрэвы, убіваў у іх латкі, па якім у слоікі потым пабяжыць празрыстая вадкасць. Старому бярозавіку трэба было няшмат. Таму яго ён збіраў з усяго дзвюх бяроз. Гэтага было дастаткова, кабназапасіць сабе, і даць дзецям у горад.

Свежы сок Хведар не надта любіў. Яму больш падабаўся бярозавік, які пастаяў некалькі тыдняў. У сок ён дабаўляў крыху разынак і цукру, ставіў

слоікі ў склеп. Летам, калі пякло сонца, Хведар даставаў бярозавік і наталяў ім смагу.

У лесе Хведар пабыў да паўдня і зазбіраўся дадому. Цяпер ён штораніцы будзе прыязджаць сюды на веласіпедзе з двума вёдрамі і збіраць бярозавік.

* * *

Блізіўся Вялікдзень. Хведар вырашыў упарадкаваць сад.

Нажоўкай абрэзаў сухое голле з вішань, яблынь, сліў. Потым пабяліў іх. Летам тыя ж вішні і слівы добра радзілі. Імі частаваліся дачнікі, тая ж паштарка Зінка.

Ужо позним вечарам вярнуўся ў хату. Памыў рукі, разагрэў на газнічцы суп, які надоечы прыгатаваў, сеў вячэраць. Потым адразу ж адправіўся спаць.

На наступны дзень, калі стары прачнуўся, у акно ўжо свяціла няяркае вясновае сонца. Сёння ён вырашыў падгрэбці лістоту, скласці абрэзанае надоечы голле ў адну кучу, спаліць.

Каб якая іскрынка не перакінулася на пабудовы, склаў яе далей ад хат. Потым схадзіў дадому, прынёс паліва, анучу, запалкі. Распаліў вогнішча. Праз гадзіну, калі вогнішча дагарала, Хведар зноў накіраваўся ў дом. Там у невялічкае вядро набраў бульбы, нарэзаў сала, прыхапіў лусту хлеба.

Бульбу ён паклаў пад гарачы попел, каб тая спяклася. Узяў невялічкі дубец і нанізаў на яго сала, паднёс да агню. Сала зашыпела. Гэта нагадала яму дзяцінства, маладосць, калі ён з хлопцамі і дзяўчатамі таксама сядзеў вечарамі ля невялічкіх кастроў, лупіў бульбу ў мундзірах, затым еў яе разам з засмажаным салам, заядаў хлебам…

* * *

А на наступны дзень, сабраўшы бярозавік, Хведар захацеў падфарбаваць, як думаў (чуў па тэлевізары так) малыя архітэктурныя формы, якія нагадвалі былых суседзяў старога — Ігната, Міколу, Панаса. Ён узяў фарбы і пэндзлі, якія надоечы прывезлі яму зяць з дачкой, прыняўся за справу. Хведар, вядома, не быў вялікім мастаком, але ён хоць як ды пастараўся надаць сваім «тварэнням» рысы вядомых людзей.

Так, Ігнату ён намаляваў кепку, якую той любіў насіць з вясны да позняй восені. Мікола хадзіў заўсёды з цыгарэтай, таму яму ў правай руцэ Хведар прымаляваў любімую «прыму». Панас заўсёды ўсміхаўся — на яго «твары» вялікай чорнай дужкай красавалася ўсмешка.

Хведар падышоў да Ігната.

— Ну, здароў, братка, — павітаўся з «суседам», як з жывым чалавекам, стары. — Зараз мы цябе падправім. Чакай. Будзеш выглядаць як малады. Хоць на танцы.

Хведар на імгненне замоўк, нібы ў гэты час слухаў, што ён яму адкажа. Затым падправіў «суседу» твар: вочы, вусны, бровы. Праверыў, ці той добра стаіць у зямлі.

Калі за чалавекам хто б паназіраў збоку, то падумаў бы, што ён вар’ят, ці вар’яцее на вачах.

Нарэшце, калі ўсё было зроблена, стары вырашыў прайсціся па ўсёй вёсцы…

Хведар ішоў па вёсцы і ўглядаўся ў дамы былых аднавяскоўцаў. Вось ён мінуў хату Васіля.

«Эх, добры мужык быў. Да апошняга сачыў за сядзібай. І хата пры ім была нібы лялька. А цяпер дзеці, унукі раз на тыдзень прыедуць з горада, нават як след і траву ля падворка не выкасяць, плот не падправяць, штыкеціну не падаб'юць. Пабалююць, у гамаку паляжаць — і назад. Добра, што Васіль гэтага не бачыць», — думаў Хведар.

А вось тут некалі стаяў дом Міколы. Цяпер — затравелая пустка. Сын дом забраў некуды сабе на дачу… У Міколы меўся асабісты невялічкі трактар, «прычапное». Ранняй вясной і позняй восенню ўсім выгада была: людзям не прыходзілася чакаць, калі старшыня калгасную тэхніку на агароды пашле, а самому Міколу — заробак…

А тут, на павароце, другая хата злева — жыла Алена. Да апошняга трымала кароўку. Калі статка ў вёсцы ўжо не было, выганяла Зойку на поплаў, прывязвала даўжэзную вяроўку на вялізны жалезны прут, кувалдай убівала яго ў зямлю, ішла дадому, а карова хадзіла без прыгляду, скубла траву. Два разы на тыдзень за грошы Алена і яму прыносіла трохлітровы слоік малака.

Няспешна падышоў стары да апошняга, пустога цаглянага будынка былой школы. Некалі тут вучылася каля пяцісот вучняў. Школа «маўчыць» ужо пятнаццаць гадоў…

Стары ішоў далей. Убачыўшы пусты пляц ля дома былой даяркі Барсучыхі, ён прыгадаў, што раней тут месцілася «амбулаторыя». Зараз жа на гэтым месцы быў толькі шэры цагляны фундамет, які амаль урос у зямлю…

А вось тут, крыху ўводаль перакрыжавання вуліц Савецкай і Касманаўтаў, у бок шашы, знаходзіўся аўтобусны прыпынак, невялічкая лава. На невысокім шасце трымалася прамавугольная пафарбаваная ў белы колер фанерына, на ёй чорнымі літарамі значыўся расклад руху. Хведар узгадаў, што гадоў дзесяць таму аўтобус хадзіў сюды чатары разы на тыдзень, а два дзясяткі таму — кожны дзень па два разы.

Зараз на прыпынку лавы не было. Стаяў усё той жа шост з прамавугольной фанерынай. На ім значылася, што ў Бярозаўку прыгарадны аўтобус прыязджае толькі ў пятніцу і нядзелю каля васьмі гадзін раніцы і пяці гадзін вечара. На гэтым аўтобусе Хведар праехаўся ў горад толькі некалькі разоў. А так адсюль аўтобус выязджаў заўсёды пустым.

«І гэтыя дні адменяць, — падумаў ён. — Што ім, з-за аднаго чалавека як тую аўталаўку, цэлы аўтобус ганяць».

Хведару хацелася схадзіць на месца, дзе некалі месціўся лесапільны цэх, будынак праўлення калгаса. Але да іх шкандыбаць не адзін дзясятак метраў. А час быў позні. Хведар адчуў, што стаміўся, таму вырашыў вярнуцца назад…

Павячэраўшы, ён лег адпачываць. Хведар доўга не мог заснуць: успаміны, думкі. Пра былое, сённяшняе…

* * *

Заставаўся тыдзень да Вялікадня. Два — да Радаўніцы.

І хоць быў яшчэ час, Хведар вырашыў навесці парадак на магілках жонкі, бацькоў. Ён павыграбаў там лістоту, пафарбаў зноўку крыжыкі. Прыбраў магілкі і тых аднавяскоўцаў, якіх апошнім часам ніхто не наведваў.

Вядома, з якога Хабараўска ці Іркуцка не наездзішся. А вось з райцэнтра, нават з той жа сталіцы на Радаўніцу прыязджала шмат знаёмых аднавяскоўцаў. Тыя цікавіліся яго жыццём, ён іхнім.

Больш ні ў які іншы дзень столькі людзей у вёску не збіралася. Хведар не ведаў, ці прыедуць да яго дочкі на Вялікдзень, але дакладна ведаў, што

яны наведаюць яго праз тыдзень. Прыедуць не толькі дочкі з зяцямі, але і дарослыя ўжо ўнукі. У Волечкі — Дзімка і Сашка. У Алены — Даша і Стасік. У Дзімкі, самага старэйшага ўнука, нарадзіўся не так даўно сынок Ягор, яго, Хведараў, праўнук.

Што для іх гэтая вёска? Пабудуць, ды і паедуць. А ён зноў застанецца тут. На ўскрайку адміністрацыйнай мяжы раёна, апошні жыхар так званай «маланаселенай» вёскі…

* * *

Дадому Хведар вярнуўся вечарам змораным. І з чаго стаміўся? Толькі могілкі прыбраў.

У хаце было холадна. Хведар распаліў грубку. Паставіў туды чыгунок з бульбай.

Невялічкі агеньчык мігцеў за дзверцамі грубкі. Хата паціху праігравалася. Хведар сядзеў на ўслончыку, падставіўшы рукі да засланкі, якая з кожнай хвілінай награвалася ўсё больш.

Праз засланку ён глядзеў на агонь.

Да Хведара падышоў Мурзік, улёгся побач. Гаспадар пагладзіў яго. Кот завуркатаў.

— Заўтра аўталаўка павінна быць, — сказаў Хведар гадаванцу. — Куплю табе кількі. А то бачу, зусім абленаваўся. Мабыць, пастарэў? Колькі табе гадоў, калі перавесці на чалавечыя? Пэўна, столькі як і мне.

Мурзік, вядома, нічога не адказаў. Хведар зноў угледзеўся ў агеньчык за засланкай. Яму ўспаміналася яго жыццё. Успаміны — гэта тое, што толькі заставалася старому. Пакуль ён жыў. Пакуль была яго вёска. Ён ведаў, не стане яго — і ў краіне на адну «маланаселеную кропку» стане менш.

## Цюцік

Ля пад’езда на лаўцы штовечар сядзела паўнаватая жанчына-пенсіянерка. Яна выходзіла ў двор не адна. Нязменна яе суправаджаў сябар Пірат. Для астатніх жыхароў дома ён быў проста Цюцік. Вяртаючыся з працы ці адкуль яшчэ, людзі падыходзілі да Пірата, гладзілі яго па галаве, прыгаворвалі:

— Які цудоўны ў вас сабачка, Антаніна Цімафееўна.

— Як маецца Цюцік? — пыталіся іншыя.

— Добра, — адказвала за свайго любімчыка гаспадыня. — Сёння вось хадзілі ў краму, костачак набылі. На тыдзень хопіць.

Людзі (даруем ім) зусім забываліся цікавіцца справамі самой гаспадыні. Але гэта Антаніну Цімафееўну не засмучала. Ёй падабалася ўвага да свайго гадаванца.

«Калі цікавяцца ім, значыць і мной», — меркавала яна.

У Антаніны Цімафееўны былі сівыя валасы. Ніхто не ведаў, колькі ёй гадоў. Жыла яна адна. Мужа і дзяцей у яе не было. Ніхто не бачыў, каб яе наведвалі госці. Бадай, Пірат і быў на гэтай зямлі ўсім для яе. Здавалася, жанчыну і сабаку яднаў чорны колер. Чорная была поўсць у Цюціка, у адзежу чорнага колеру заўсёды была апранута гаспадыня.

Між тым, Антаніна Цімафееўна была жвавай жанчынай. Яна ніколі нікому не скардзілася на здароўе, ёй не ў цяжар і важкая сумка, якую яна штораз прыносіла з крамы. Сабе жанчына купляла не шмат — крупы, малако,

хлеб ды што да гарбаты. Звычайна, большае месца ў сумцы займалі косці, ды іншы сабачы корм. На яго ішло нямала грошай. Бо Антаніна Цімафееўна любіла папесціць Пірата. Але калі кагосьці любіш, няхай і сабаку, то грошай не шкадуеш.

Антаніна Цімафееўна жыла ў аднапакаёвай кватэры, з якой выходзіла рэдка — каб толькі выгуляць сабаку і наведаць краму. Здавалася, што там можна рабіць амаль цэлы дзень? Але ў жанчыны заўсёды знаходзіўся занятак. У летні сезон на кірмашы яна купляла гародніну, садавіну, а дома варыла варэнне, рабіла нарыхтоўкі на зіму. Невялікія запасы, але ж... Так і атрымоўвалася, што пасядзець ля пад'езда ёй выпадала толькі вечарам.

Гэтага часу заўсёды чакаў і Пірат. Дагэтуль на вуліцы ён быў толькі ранкам. Прагулкі былі невялікія. Толькі Пірат рабіў сваю справу пад дрэвам ды прабягаў два кругі па дарожцы ля дзіцячай пляцоўкі, як гаспадыня вяла яго ў кватэру. Нават на іншых сабак, якіх таксама выгульвалі гаспадары раніцай, яму не было калі зірнуць, падбегчы, панюхацца. Нарэшце, хто яны былі для яго? Хіба ім столькі надавалі ўвагі, як яму? Магчыма, і так. Але пра гэта Пірат нават і падумаць не мог.

Апоўдні на вуліцу Пірат выходзіў не заўсёды. Але затое вечарам гаспадыня гуляла з Піратам па дзве-тры гадзіны.

Пірату была прыемна ўвага людзей. «Пэўна, я прыгожы і кемлівы», — думаў ён. Праўда, ён не разумеў, чаму яго ўсе называюць Цюцікам. Гаспадыня ж заўсёды клікала Піратам. Да таго ж, у Піратавым уяўленні мянушка «Цюцік» падыходзіла больш да маленькіх сабак. Іх, да слова, тут таксама хапала. «А я ж вялікі, статны. Ва ўсякім разе не такі, як...»

Пірат быў далёка не блакітнай крыві, без радаслоўнай, проста крыху вышэйшы за астатніх дварняковых. Нечым па росце нагадваў лабрадора. Антаніне Цімафееўне ён дастаўся дарма. Звычайная выпадковая аб'ява «аддам у добрыя рукі».

Тады ўсіх шчанюкоў разабралі. Застаўся ён — увесь чорны, як вугаль. Такога ніхто не хацеў браць. І гаспадары думалі ўжо аб тым, каб выкінуць Пірата на вуліцу з надзеяй, што яго нехта падбярэ. Але ад такога незайздроснага лёсу Пірата пазбавіла Антаніна Цімафееўна.

Спачатку Пірату яна не спадабалася. Поўная старая кабета... Ён жа хацеў трапіць у сям'ю з дзецьмі, якія, пэўна, забаўляліся б з ім штодня. І напачатку Пірату было сумна ў аднапакаёвай кватэры сваёй гаспадыні, якая, здавалася, была занятая толькі сабой і кухняй. Але мінулі два гады і сабака зразумеў, што яго жыццё не такое і кепскае. Ежа была заўсёды, да таго ж не абы-якая. Каўбаса «Бобік», крупы на мясным ці агароднінным булёне, тварог, сухі сабачы корм, і калі-нікалі косці маладых куранят-бройлераў. Што яшчэ можа быць смачней? Вольнае і размернае жыццё. А дзеці? Дзяцей ён бачыў, калі выходзіў на прагулку. І, канечне, адчуваў іх увагу. Не раз за вечар падбягалі яны да яго і гладзілі па поўсці, прыгаворваючы: «Цюцік, Цюцік...» Іншы раз Пірат і злаваўся з-за такой празмернай увагі. Яму часам не падабалася, як шкадуюць яго, ці яму не падабалася дакучлівае «Цюцік»...

Часам Пірат чуў непрыхаваную цікаўнасць да сябе:

— Добры сабачка, — казала жанчына, якая на выгляд таксама была ўжо на заслужаным адпачынку. — Мне б такога. Глядзіш, і самой не так сумна было б. Дзе вы знайшлі яго, Антаніна Цімафееўна?

Гаспадыня пачынала тлумачыць, дзе, калі і як. Жанчына стаяла, ківала галавой, прыгаворвала.

— Ага, ага. Дзе б сабе такога знайсці. Там, пэўна, ужо такіх няма.

Пірат глядзеў на жанчыну і ўяўляў, якім бы кормам ён ласаваўся, калі б жыў у гэтай таўстухі. Пэўна, не горш, чым цяпер. Наогул, спраўныя жанчыны — добрыя, галодным не застанешся.

Такіх добраахвотнікаў, якія хацелі займець Пірата, ці такога як ён, было дастаткова. Усе яны цікавіліся ў яго гаспадыні адным і тым: «дзе?» і «калі?». У такія хвіліны Пірат пачуваўся любімчыкам. Ён узгадваў сваіх братоў і сясцёр, якіх разабралі раней. Думаў, як склаўся іх лёс. Пэўна, не так удала, як у яго. Бо якімі яны былі? Бела-чорнымі, недзе рыжаватымі. Адзін ён такі прыгажун.

Неяк ён даведаўся непрыемную для сябе праўду, за што вельмі пакрыўдзіўся на гаспадыню. Гэта адбылося вечарам. Тады незнарок да іх падышоў мужчына, якога дагэтуль ён ніводнага разу не прыкмячаў.

— Добры вечар, Антаніна Цімафееўна, — павітаўся ён. — Што, падыхаць свежым паветрам разам з Цюцікам выйшлі?

— Ага, надвор’е спрыяе. Чаму не пасядзець?

— Цюцік, цюцік, прынясі палку, — прагучаў грубы мужчынскі голас.

Ён падняў галаву, убачыў, як нейкі высокі мужчына размахнуўся рукой і шпурнуў нейкую невялікую ламачыну. Яна ўпала на траву за некалькі метраў ад лавачкі.

— Ну, цюцік, давай! Прынясі палку! — паўтарыў той жа голас.

Пірат неахвотна паглядзеў на месца, дзе ляжала ламачына.

«Навошта яна табе? Хіба гэта каўбаса? І калі яна табе была патрэбная, навошта было шпурляць?» — падумаў ён.

— Не вучаны ён, — усміхнулася гаспадыня. — Ніхто не навучыў.

— Дарма, дарма, — прабасіў мужчына. — Вось у мяне некалі быў сабака, то я яго ў спецыяльную школу вазіў. Там за паўгода Жука ўсяму навучылі, нават тэпцікі раніцай, калі я прачнуся, падносіў.

— Няўжо? — не верыла жанчына.

— Аняго ж. Такі вучаны сабачка быў. Толькі неяк кінуўся за машынай, а іншая, што ехала следам, яго падбіла. Прамучыўся два тыдні. Я яго тады па ўсіх ветлячэбніцах павазіў. Ды марна. Здох. Цяпер неяк заводзіць новага не хочацца.

— А я завяла. Да гэтага ў мяне Шарык быў. Пятнаццаць гадоў жыў. Потым здох. А адной неяк сумна ў кватэры, то вось вырашыла ўзяць яшчэ аднаго.

— Так, удваіх весялей. А мне ўжо ўнукі падрамаць не даюць, — падзяліўся мужчына.

Яны размаўлялі яшчэ хвілін дваццаць. Але Пірат іх не чуў. Ён быў узрушаны пачутым.

«Як хтосьці быў? Хіба я не першы, адзіны і галоўны?» — пульсавала ў галаве Пірата.

У той вечар ён нават не стаў есці сваю любімую страву — каўбасу «Бобік». Пірат захацеў паказаць, што ён пакрыўдзіўся. Маўляў, няхай гаспадыня ведае, што ён усё зразумеў.

— Захварэў, ці што? — запыталася ў яго Антаніна Цімафееўна. — Нічога, заўтра да доктара сходзім.

Пра «доктара» Пірат пачуў упершыню. Ён не ведаў, хто гэта. І што ён робіць. І што гэты «доктар» будзе рабіць з ім.

«Магчыма, лепш з’есці каўбасу, — падумаў ён, — каб па розных урачах не хадзіць». Але самалюбства перамагло.

Ён нават лапай адсунуў міску, а потым пайшоў і лёг на сваё месца ў кутку на посцілцы.

— Пэўна, захварэў, — завойкала гаспадыня. — Нічога, нічога, ты толькі пераначуй! А з раніцы мы выправімся да доктара.

Антаніна Міхайлаўна пайшла ў свой пакойчык. Пірат чуў, як загаманіла «скрыня». Яе гаспадыня ўключала і слухала штовечар. І толькі амаль у адзінаццаць гадзін ночы «скрыня» змаўкала. Так было і гэтым разам.

Ноччу Пірат сніўся доктар. Ён здаўся яму добразычлівым і нават прапанаваў яму доктарскую каўбасу. Пірат ужо хацеў паспрабаваць яе, але ў гэты момант паверхам вышый у кватэры нешта цяжкае звалілася на падлогу. Пірат прачнуўся, агледзеўся. Зразумеўшы, што падхапіўся дарэмна, зноў пастараўся заснуць.

«Халера, — падумаў ён. — Так і не спазнаў смак доктарскай. А гаспадыня ніяк не дадумаецца мяне ёю пачаставаць».

Раніцай Пірат прачнуўся, як толькі на падлогу ўпалі першыя промні сонца. Ён ведаў, што гаспадыня спіць яшчэ недзе гадзіны дзве, і толькі потым устае. Пірат узгадаў свой сон і падумаў, што «доктар», відаць, «свой» чалавек, калі нават каўбасу ў яго гонар назвалі. І Пірат захацеў хутчэй да яго выправіцца.

Але праз гадзіны дзве Антаніна Міхайлаўна не ўстала. Пірат схадзіў на латок, і стаў зноў чакаць.

Гаспадыня з'явілася са свайго пакойчыка, калі сонца стаяла высока над іх домам. Яна выглядала зблажэлай.

— Думала, цябе сёння да доктара павяду, — сказала яна Пірату, — а тут самой трэба «хуткую» выклікаць. Бо сама не дайду.

Пірат зразумеў, што з гаспадыняй здарылася нешта кепскае.

— Ніколі такога не было, а ноччу як схапіла, то толькі зараз крыху адпусціла. Неяк паднялася.

Яна зняла тэлефонную трубку і пачала набіраць нумар.

— «Хуткая»? — перапытала жанчына. — Калі ласка, прыедзьце па адрасе…

Антаніна Цімафееўна назвала адрас.

— А калі забяруць? Хто цябе глядзець будзе? — запыталася яна ў Пірата. — Зараз суседцы патэлефаную, ключ дам. Будзе, калі што, за табой назіраць.

Яна набрала яшчэ адзін нумар. Але там доўга не адказвалі.

— А што за ліха такое? Павінна ж быць дома. Нічога, патэлефаную іншай.

Там адказалі. Але сказалі, што менавіта зараз няма часу зайсці, і што завітаюць праз гадзіну. Напрыканцы пажадалі Антаніне Міхайлаўне добрага здароўя.

— Ну вось, прыладкавала цябе. Калі што, не прападзеш, — сказала яна Пірату.

Потым, пасядзеўшы хвіліну-другую вырашыла патэлефанаваць яшчэ адной знаёмай. Тая таксама паабяцала забегчы і калі будзе трэба, паназірае за гадаванцам.

Самому Пірату гэтая гісторыя не падабалася. Ён адчуваў, што здарылася нешта кепскае. Яго гаспадыня ніколі не хварэла. А тут якое ліха? «Хуткую» ён некалькі разоў бачыў у двары. Бачыў, як у машыну заносілі людзей, а потым яна ад'язджала. Але ён ніколі не думаў, што «хуткая» прыедзе да іх. І што гаспадыню могуць забраць.

Пірат падышоў да міскі і праглынуў учарашнюю вячэру: не столькі ад голаду, колькі ад нервознасці.

У гэты час у кватэру патэлефанавалі. Ён бачыў, як гаспадыня ледзь паднялася і пайшла адчыняць дзверы. Тут жа зайшлі мужчына і жанчына. Яны праверылі ціск гаспадыні. Потым некалькі хвілін размаўлялі паміж сабой. І, нарэшце, павярнуўшыся да Антаніны Міхайлаўны, прамовілі:

— Трэба вас гаспіталізаваць, прайсці курс лячэння. Так будзе лепш. Збірайцеся.

Здавалася, Антаніна Міхайлаўна гэтага чакала. Яна пайшла ў свой пакойчык. Раптам ёй стала яшчэ горш.

— Давай, так занясём… Пад рукі, — пачуў ён голас незнаёмых людзей.

Не спяшаючыся, Антаніну Міхайлаўну пачалі выводзіць з кватэры.

— Тут ліфт. Так будзе хучэй. Пакуль па насілкі сходзіш…

— Ключы. Ключы вазьміце. Перадайце суседзям, — выдыхнула гаспадыня.

Адзін з урачоў узяў у яе ключы і пазваніў у бліжэйшыя дзверы. Адтуль выйшла жанчына.

— Каця, паназірай за кватэрай, Піратам, — папрасіла напаследак Антаніна Міхайлаўна.

У гэты час з кватэры выбег Пірат. Не, ён не хацеў заставацца адзін. Таксама яму хацелася ведаць, куды забіраюць яго гаспадыню. Таму ён кінуўся па лесвіцы ўніз.

Пірат бачыў, як Антаніну Міхайлаўну паклалі ў машыне на насілкі, закрылі дзверы. Потым машына ад'ехала. Ён хацеў бегчы следам, але праз некалькі метраў спыніўся, зразумеўшы, што машыну не дагоніць.

Пірат удосталь пагуляў у дворыку. Ніхто дадому яго не зваў, хоць яму ўжо і хацелася. Ён падышоў да дзвярэй і, калі тыя адчыніліся з адваротнага боку, прашмыгнуў у пад'езд ледзь не збіўшы з ног паўнаватую жанчыну.

— Цюцік, каб цябе! — упершыню пачуў ён грубы голас.

Па лесвіцы ён падняўся да сваёй кватэры. Дзверы былі зачыненыя. Суседка не з'явілася ні праз гадзіну, ні праз дзве. Дарма чакаў яе Пірат. Ён падняўся на заднія ногі, а пярэднімі стаў біць па дзвярах. Яму хацелася забегчы ў свой «дом» і больш не выходзіць адтуль, пакуль не з'явіцца гаспадыня. Але дзверы былі зачыненыя і ніхто не спяшаўся іх адчыняць.

Пірат зноў збег па лесвіцы ўніз і за кімсьці, хто па ёй спускаўся, выбег на вуліцу.

Вечарэла. Людзі вярталіся з працы.

— Цюцік, ты сёння адзін? — пыталіся ў яго. — А дзе ж Антаніна Цімафееўна?

— Кажуць, «хуткая» забрала, — казалі адны.

— А ён, пэўна, адзін застаўся, — хіталі галовамі іншыя.

Карміць Пірата ніхто не думаў. А яму ўжо хацелася нечага перакусіць.

Так настала ноч. Упершыню за ўсё жыццё Пірату прыйшлося начаваць на вуліцы. Ён знайшоў сабе месца ля невялічкага падстрэшша, куды людзі зносілі старую мэблю і іншыя вялізныя рэчы. Было холадна, нязвыкла.

Раніцай Пірат падаўся да дзвярэй. Нарэшце, яго павінны былі заўважыць. Калі не суседка, то хто іншы. Павінны былі адвесці дадому. Ці хоць даць паесці.

Людзі і сапраўды звярталі на яго ўвагу. Казалі добрыя, ласкавыя словы. Але не больш таго.

— Цюцік, ты з самай раніцы тут? — здзіўляліся адны.

— Ну не сумуй, хутка Антаніна Цімафееўна вернецца, — казалі другія.

Выйшла і суседка, тая, якую гаспадыня прасіла прыглядзець за ім.

— Ты тут? — запыталася яна ў яго. — Правільна. Нечага табе ў кватэры рабіць. Нашкодзіш там, потым мне прыбірай. На, касцей табе прынесла, хлеба, во міска з вадой. Хоць мог бы і з лужыны якой напіцца. Прабач, віскаса ці чаго там яшчэ, чым цябе Тоня ласавала, няма.

Суседка кінула ля лаўкі ежу і пайшла.

— У абед выйду ці пазней, яшчэ што-небудзь прынясу.

Пірат паглядзеў на свой сняданак. Вядома, гэта было не тое, на што ён разлічваў. Але голад не цётка, выбіраць не прыходзілася. Пірат з'еў тое, што яму прапанавалі.

Суседка з'явілася бліжэй да вечара. У яе руках была нейкая пластмасавая міса з аб'едкамі. Прагаладаўшыся за дзень, Пірат быў рады і гэтаму.

Ён глядзеў на людзей, якія вярталіся з працы і больш не прыпыняліся ля яго, каб пагладзіць па поўсці. Пірат не разумеў, чаму. Усёй сваёй існасцю ён хацеў сказаць: «Людзі, яшчэ зусім нядаўна кожны з вас хацеў мець такога сабаку, як я. Цяпер я адзін, без гаспадра. І што? Я больш вам не патрэбны?»

Так, ён быў нікому не патрэбны. Гэта, на жаль, Пірат зразумеў даволі позна. А той адзіны чалавек, хто аб ім клапаціўся, быў недзе далёка адсюль. І ці вернецца? Ужо зусім зблажэлай была Антаніна Цімафееўна ў той дзень, калі яе забрала «хуткая».

Мінуў тыдзень. Пірат схуднеў. Ён працягваў начаваць на тым жа месцы, што і ў першую ноч, на вуліцы. Людзі, нарэшце даведаўшыся, дзе яго гаспадыня, нешта кідалі яму. Вядома, добрай стравай тое нельга было назваць. Але не здыхаць жа?..

Пірат сумаваў па сваёй гаспадыні. І больш не любіў тых, хто не так даўно прыязна гладзіў яго па поўсці. Ён зразумеў: нікому ён не быў патрэбны і дагэтуль.

Яшчэ праз тыдзень Пірат убачыў у дворыку «хуткую». Тыя ж мужчына і жанчына, што былі ў іх кватэры, спачатку выйшлі з машыны, а потым, праз хвілін дваццаць вярнуліся назад. Раптам у Пірата прачнулася нейкая нянавісць да гэтых людзей. Гэта яны забралі яго гаспадыню і недзе трымаюць. Гэта з-за іх яму прыходзіцца цяпер жыць так, як ён жыве.

Калі машына ад'ехала, ён кінуўся за ёй. Пэўна, спрацаваў сабачы інстынкт. Пірату хацелася дагнаць машыну і ўкусіць за яе жалезны бок. Ён усё бег за машынай, пакуль яна выязджала з двароў, кінуўся за ёй следам, калі машына выехала на праезджую частку.

Раптоўна ён пачуў ззаду сігнал і на імгненне прыпыніўся. Адчуў страшэнны боль у левым баку, здаецца, падляцеў, нібы птушка, уверх, а потым балюча шмякнуўся на асфальт. Ён паспеў зірнуць перад сабой. Белая машына з ненавіснымі для яго людзьмі аддалялася. Яе ён не дагоніць. Не зможа. Ногі не рухаліся. Недзе ззаду пачуўся рэзкі гучны сігнал, і Пірат зноў адчуў боль ва ўсім целе. А яшчэ праз імгненне свядомасць пакінула яго.

Антаніна Цімафееўна дадому не вярнулася. Праз тыдзень яна сканала ў бальніцы, так і не даведаўшыся, што стала з яе Піратам. Хоць думала аб ім да апошняга дня. І нават два разы тэлефанавала суседцы, каб даведацца пра свайго гадаванца. На жаль, тая ёй так і не адказала.

Можа, гэта было і да лепшага…



Аляксандр БЫКАЎ

# СВЕЧКІ Ў БОГАВАЙ СКРЫНІ

## САКАВІК

Набрынялы снег пачварай
На краі ляжыць страхі…
Можа, стане боскай карай
Ён камусьці за грахі.

Сакавіцкая адліга,
Дзён зняверaных імша.
І разгорнутая кніга
З простай назваю — Душа!

* * *

І вось яно, новае лета,
І новы, не спраўджаны лёс.
І сонца глядзіцца з нябёс
Падкінутаю манетай…

## БАЦЬКОЎСКІ ПАГОРАК

Туды, дзе бацькоўскі пагорак
Як спраўджаны сон паўстае,
Вяртаем з далёкіх вандровак
Стамлёныя сэрцы свае.

---

***Быкаў Аляксандр Генадзевіч*** *нарадзіўся 7 верасня 1954 года ў горадзе Барысаве. Працаваў трактарыстам у аб'яднанні «Барысаўдрэў», затым — карэспандэнтам у шматтыражцы «Трыбуна наватара» завода БАТЭ, узначальваў аддзел эканомікі Мядзельскай раённай газеты «Нарачанская зара». Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1985). Вершы друкаваліся ў раённым і рэспубліканскім перыядычным друку, альманахах «Дзень паэзіі-2005», «І зоркі над Бярэзінай-ракой», «Міншчына літаратурная». Аўтар зборнікаў вершаў: «Кветка папараць» (2005), «Пад небам бусліным» (2007), «За межы круга» (2013), «І тым не менш…» (2016), а таксама прозы — «Бабуліны макі» (2015). Лаўрэат прэміі «Залаты купідон» (2014).*

Паволі адгрукаюць колы,
І гром адляскоча турбін.
І нашы з табою анёлы
З палёгкай зірнуць з аблачын…

## СНЕГ НАД ЧЭХАМІ

***Юрасю Камандзірчыку***

І заціх на імгненне свет,
Што ляцеў кудысь апантана…
Лістападаўскі першы снег —
Як дзяўчо нечапанае.

Пакрасуе і знікне. Не час
Жыць зімовымі ўцехамі.
Памаліся за ўсіх за нас —
Снег над Чэхамі!

## ЯК СТАЦЬ БОГАМ

Смаўжа, што выпаўз на дарогу,
Пашкадаваў. Жыві наноў!
Так лёгка станавіцца Богам,
Калі адзін ты між смаўжоў!

## У СВЯТЛЕ СВЕЧКІ

Халоднае зорак святло
Чаруе і кліча спрадвечна.
А сонца, што промні ліло,
Трымціць вечароваю свечкай.

Як тысячу год да мяне…
І цемра — ад краю да краю.
І ў гэтай вось, вечнай вайне,
Чарговая свечка згарае.

І зімна, і роспачна зноў,
І тахкае сэрца збалела,
У пекле жыццёвых віроў,
Душа да канца не згібела.

І покуль агарак не стлеў,
І цені мяне не скарылі,
Яшчэ застаецца спадзеў —
На свечкі, што ў Богавай
скрыні…



**Вадзім КРУК**

# АПОШНЯЕ СОНЦА

*Апавяданне*

...Шчыльны нябесны кілім, які ўсю ноч хаваў ад людзей зоры і месяц, урэшце з’ехаў за далягляд, каб накрыць сабой другую палову Сусвету. І сонца, якое спачатку грукнулася ў гэты бетонны покрыў, разбілася і расцяклося па ім крывавым морам, нарэшце паказалася над горадам. Яно промнямі прабегла па дахах прыватных дамкоў, пакратала вокны ў кватэрах і нарадзіла цені.

Чалавек, які, здаецца, адзіны на ўвесь раённы цэнтр назіраў за такой складанай перамогай святла над цемрай у сваім аўто, уздыхнуў, сцепануўся і пацёр рукі — ноч была халоднай, дарма, што на двары ліпень. Гэта быў трыццацічатырохгадовы мужчына з чорнымі густымі калянымі валасамі, рымскім профілем і ненатуральна чырвонымі тонкімі вуснамі. Звалі яго Міхалам.

Ён не спаў усю ноч і таму адчуваў, як ягоныя вочы адказваюць рэззю на кожны рух павекаў. Толькі спаць не прыходзіцца, калі хочаш падзарабіць прыватным чынам, асабліва калі заробак незаконны. Зарабіць жа ў ноч на нядзелю, калі мясцовы працоўны і тусовачны люд пацягнуўся да бараў і клубаў, а тутэйшых таксістаў не хапае.

Міхал заплюшчыў і расплюшчыў вочы, каб адагнаць ад сябе сон, і дастаў цыгарэту. Трэба было сабрацца, прывесці да ладу думкі, якія ад стомы стварылі ў галаве штосьці падобнае на пчаліны рой і ніяк не маглі звязацца ў паслядоўны ланцужок мыслення. З асалодай зацягнуўся і адразу выхапіў з рою думак некалькі: «Ехаць дахаты і спаць! Хопіць на сёння. Усіх грошай не заробіш, як ні старайся».

Выкінуў недакурак, завёў машыну і крануўся. Але праз некалькі паваротаў каля чыгуначнага вакзала ўбачыў, як ад аўтобуснага прыпынку да дарогі хапатліва рушылі два чалавекі. Першы бугаяваты, кароткастрыжаны, высокі. Другі нізкі, але жылісты, з цёмным пакетам у руках.

Нізкі ўскінуў руку і характэрным жэстам запрасіў машыну спыніцца. Міхал прытармазіў за прыпынкам, апусціў шкло і пачаў чакаць, назіраючы ў люстэрка задняга віду, як хлопцы подбегам шыбавалі да аўто.

---

*__Крук Вадзім Анатольевіч__ нарадзіўся 15 снежня 1987 года ў горадзе Кохтла-Ярве, Эстонія. Скончыў факультэт тэлекамунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (2011).*

*Працуе вядучым інжынерам лабараторыі выпрабаванняў сродкаў інфармацыйнай бяспекі ЗАА НТЦ «Кантакт».*

*Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».*

— Здарова, — нізкі схіліўся да адкрытага акна і ўсміхнуўся кіроўцы.

— Зда-а-ро-оў, — ляніва пазяхнуў той.

— Возіш?

Міхал адказваў, не гледзячы на суразмоўцу, — інстынктыўна назіраў у бакавое люстэрка за бугаём, які перамінаўся з нагі на нагу каля задніх дзвярэй машыны:

— Калі вам трэба, важу.

— То падкінь.

— Куды?

— У Колбавічы.

— Дык гэта ж за горад, кіламетраў з пятнаццаць ехаць.

Міхал скрывіўся, як уявіў пра яшчэ, лічы, гадзіну ў машыне: пакуль туды, там шукай хату, потым едзь назад. Гадзіну не гадзіну, але хвілін сорак дакладна выйдзе. Падумаў: «Можа, не ехаць? Ну яго, і так падзарабіў за ноч… Дома гарбаткі б цёплай папіць… Але ж і незвычайнае сёння сонца, страшнае…Чырвонае… Крывавае...»

— Ну дык што, едзем? — абудзіла кіроўцу пытанне.

— Залежыць ад сумы.

— А колькі будзе?

— Трыццаць, — Міхал вырашыў, што калі губляць сон, то не за так.

— Штосьці да-да-да храна, — адгукнуўся, заікаючыся, бугай.

— Хлопцы, я і так ноч без сну. Калі паедзем, то за трыццаць. А калі не, дык бывайце.

Ён пачаў зашпільваць рэмень бяспекі, але той, што вёў перамовы, уздыхнуў:

— Хай сабе, паехалі!

— Грошы наперад.

Кліент пагадзіўся і з нейкай хіжай усмешкай палез у кішэню. Міхал тым часам дацягнуўся і адчыніў заднія дзверцы. Расселіся. Бугай кінуў сумку на сядзенне за месцам кіроўцы, а сам цяжка ўваліўся пасярэдзіне, каб было зручна глядзець праз лабавое шкло. Нізкі сеў побач з кіроўцам, працягнуў грошы і жалезным голасам загадаў: «Ну то паехалі».

«Відаць, раззлаваўся, што шмат плаціць давядзецца, — заспакойваў сябе Міхал — Можа, яно і так. Неяк нават няёмка. Зашмат узяў. Але ж маглі не плаціць, калі падумаць. Я не прымушаў. Паехаў бы сабе дахаты, у цёплы ложак. А так… Пагадзіўся плаціць, а потым хмыкае». Так і пераканаў сабе, што ўсё добра, прагнаў прэч згрызоты сумлення.

Ехалі моўчкі. Звычайна Міхал спрабуе гутарыць з кліентамі, але гэтым разам не хацелася. Нават не прадставіўся. Ды і хлопцы нейкія нешматслоўныя, напружаныя. Вокны былі закрытыя, таму Міхал амаль адразу адчуў пах алкаголю. Сталі трохі зразумелымі такія нязветлівыя паводзіны пасажыраў: не кожны ў гуморы, калі вып’е.

Выехалі за горад. За пару кіламетраў ад павароту на Колбавічы пасажыры ўстрывожыліся.

— Там пе-пе-пе-рад пavароткай аўтобусны п-прыпынак. Стань там, — сказаў бугай.

Міхалу спыняцца не хацелася: хучэй бы давезці і дахаты. Ён паспрабаваў запярэчыць ветліва, але цвёрда:

— Нашто? Там ехаць яшчэ кіламетраў пяць-сем.

— С-спыніся кажу! Гарэліца п-паветрам падыхаць хо-хоча. Бо будзеш с-сам салон чысціць, к-калі што.

Міхал гучна ўздыхнуў і працадзіў:

— Добра. Але на пару хвілін.

Сталі на невялікай пясчанай пляцоўцы на ўзбочыне.

— Давайце хуценька — і паедзем, — Міхал адшпіліў рэмень бяспекі і абвяў, расцёкся ў сядзенні.

І тут у адказ грукнула, рассякло маланкай паветра:

— Ты — не паедзеш! У цябе канцавы прыпынак, правальвай.

Ад такой нечаканай нахабнасці Міхал разгубіўся і адразу зразумеў, што адбываецца. Розум яшчэ не дапяў, але ў падсвядомасці, на ўзроўні пачуццяў, усе было ясна. Сэрца паляцела ў бездань — чорную і вусцішную — а адтуль пачаў уздымацца ліпкі страх. Міхал зірнуў на суседа вачыма, якія на імгненне ператварыліся ў вочы антылопы, калі тая заўважае кракадзіла ў нільскай вадзе, апусціўшы ў раку морду. Хаця ён не быў баязліўцам, не быў слабаком, аднак на гэтае страшнае імгненне штосьці зламалася ўнутры. А што трэба было рабіць: біць, уцякаць, дамаўляцца?

Ён паспеў толькі вымавіць вялае «давайце без жартаў, мужыкі» перад тым, як наважыўся бараніцца. Сціснуў кулакі, але не паспеў узняць рук, як сцямнела ў вачах. Ягоную галаву хістанула ўбок, цела павяло, і ён ілбом цюкнуўся ў руль. Гэта напомніў пра сябе другі кліент. Бугай скеміў, што таксіст надумаў супраціўляцца, і таму дзейнічаў рашуча і без разваг. Ягоны цяжкі кулак праляцеў каменным ядром між пярэдніх сядзенняў і патрапіў акурат у Міхалу ў скіўіцу.

Удар быў магутным. Міхал пачуў як стукае сэрца. «Бум-бум-бум!» — яно панеслася кудысьці, як ашалелае. Ноздры хлопца расшырыліся, ад злосці рыпнулі зубы. Ён рэзка ўскінуў галаву і адначасова нязручна — замінаў руль — але на ўсю сілу ўдарыў у накірунку суседавай галавы. Аднак удар не дапяў мэты, бо моцная рука ззаду паспела абхапіць Міхала за горла і прыціснуць да падгалоўніка. Міхал паспрабаваў вызваліцца, адарваць ад сябе гэтую руку, якая пітонам сціскала шыю, аднак атрымаў пад дых. Дыханне перахапіла. А тут і другая рука ззаду легла далонню на Міхалаў лоб і канчаткова зафіксавала небараку ў сядзенні, закрыла пры гэтым яму яшчэ і агляд, пагрузіўшы кіроўцу ў цемру…

Няшчаснага апанаваў нават не страх, а паніка. Паспрабаваў крычаць, ды марна: горла сціснулі так, што ледзьве дыхаў. Таму замест крыку атрымаўся прыглушаны хрып ды нейкае булькание. Пачаў хаатычна махаць рукамі, біць ва ўсе бакі з надзеяй патрапіць бандытам у твар, драпаць пазногцямі такія дужыя, нібы не чалавечыя рукі-абцугі. Жах, злосць, шкадаванне сябе, нежаданне паверыць у тое, што ўсе адбываецца па-сапраўднаму — эмоцыі сыпаліся на Міхала. Эмоцыі і ўдары ў тулава, па рэбрах, па жываце.

— Ва-валер, тваю маць, вы-выключ-чай яго! Ён мне ўсе рукі абдзёр.

— А я што раблю, …ць, — вылаяўся той, што сядзеў справа.

Шоргат пакета, удар — і раптам Міхал адчуў пякучы боль у падрабрынні. Такі моцны, што сілы імгненна пакінулі яго, цела ахапіла слабасць, бязвольнасць. Яшчэ ўдар, ізноў боль, і разуменне, што гэта нож, гэта — смерць. «Чаму я, чаму гэта не сон? Не веру! За што?..» — сілы засталіся толькі на думкі і жаласлівы, працяглы стогн. Міхал сутаргавата скалануўся ды пачаў абмякаць. Павольна заплюшчыліся вочы.

У галаве паўстала карціна: кватэра, кухня, прыгожая маладая жанчына завіхаецца каля пліты, а на крэсле за сталом сядзіць чарнявы, адзін у адзін Міхал, пяцігадовы хлопчык. Жонка і сын.

Бугай нарэшце адпусціў ахвяру, і Міхал з’ехаў, заваліўся на дзверы. Ён яшчэ дыхаў і чуў.

— Ты н-нахалеру яго п-падрэзаў?

— А што было рабіць? — паціснуў плячыма забойца, выціраючы нож. — Чаго ён тапырыцца пачаў? Сказалі адваліць — адвалі і будзеш цэлы.

— Вы-выклікаў бы м-мянтоў, — задумліва адзначыў бугай.

— Тым больш. А калёсы нам патрэбныя. Таму, Пашуня, давай. Трэба хуценька звальваць.

Валер выскачыў з машыны і далёка ў поле выкінуў абцёрты ад крыві ды адбіткаў пальцаў нож, абабег машыну і адчыніў дзверцы з боку кіроўцы. Міхал верхняй паловай тулава глуха гупнуўся на зямлю, а нагамі застаўся ў салоне. Тым часам з машыны выйшаў і Павел. Злачынцы разам адцягнулі Міхала за прыдарожны хмыз у поле.

— Ё-ён яшчэ ж-жывы? — пачухаў патыліцу Павел-бугай.

— Хрэн яго ведае. А-а-а, грошы, — забойца пляснуў сабе па ілбе і хуценька прыняўся абшукваць кішэні кіроўцы ды бурчэць сабе пад нос: — Бач, які сквалыга. Яшчэ трыццаць зарадзіў за такую дарогу. Падлюка.

Выцягнуў грошы і радасна пакруціў імі перад кампаньёнам. Але той не ацаніў святочнасці моманту, раздражнёна адмахнуўся:

— Ай, н-няма часу. П-паехалі.

Міхал чуў, як аддаліліся крокі, грукнулі дзверы і раўнуў матор ягонай машыны, а потым — спакой! Шаргаталі лісцем, пагойдваліся на ветры прыдарожныя таполі, палявыя птушкі срэбным вадаспадам галасоў залівалі наваколле, ды дзесьці, відаць, у Колбавічах, натужліва сіліўся, бурчэў трактар.

Ён прыўзняў павекі і ўбачыў агромністае чырвонае вока на небе — міжвольнага сведку злачынства, сваё апошняе сонца.

* * *

Некалькімі тыднямі раней на шырокім двары-паркоўцы таксапарка, што ляжаў паміж адміністрацыйным будынкам з уязной брамай з аднаго боку і гаражамі-боксамі з супрацьлеглага, а з двух астатніх бакоў быў абнесены бетонным плотам, адбывалася пакуль яшчэ маўклівае супрацьстаянне.

Перад высокім, упрыгожаным абапал стройнымі калонамі-туямі, ганкам адміністрацыі стаяла чалавек пад шэсцьдзясят мужчын-таксістаў. Са сцятымі вуснамі, напружаныя, яны раз-пораз перакідваліся між сабой рэдкімі словамі і з нядобрым прыжмурам глядзелі на ганак, дзе невялікай купкай у шэсць-сем чалавек стаялі іхнія начальнікі. Тыя, у сваю чаргу, абводзілі натоўп позіркамі, у якіх праскоквалі ледзь заўважныя нахабства і самаўпэўненасць. Дуэль маўчання цягнулася некалькі хвілін, пакуль з ганка не азваўся невысокі і мажны, як вялізная вінная бочка, мужчына ў кашулі з кароткімі рукавамі. Кіраўнік. Ён выбухнуў рашуча, быццам стрэліў па натоўпе з гарматы:

— Ну-у-у? І доўга будзеце стаяць, як школьнікі ля бардэля? Калі вырашылі ладзіць сход, дык пачынайце тлумачыць, у чым справа.

Натоўп зашаптаўся.

— Ну-у-у? — наступаў кіраўнік, адчуўшы сваю моц.

З натоўпу пачуўся ўпэўнены голас:

— Ты, Сцяпан, гхм-гхм, Пятровіч, не раві, як лось па згубленых рогах. Не ў лесе. Калі сабраліся, даведаецеся, чаму. Без дай прычыны не збіраліся б.

— Хто там такі смелы? — Сцяпан Пятровіч нахмурыў кусцістыя бровы.

Людзі расступіліся, і наперад выйшаў пажылы ўжо чалавек. Падцягнуты, сівы, са светла-блакітнымі вачыма.

— Здарова, Пятровіч. Як справы? — усміхнуўся ён кіраўніку, а потым павярнуўся і хітравата падміргнуў грамадзе.

— А-а-а. Іван Мікалаевіч. Хто б сумняваўся. Знайшоўся воўк у авечым статку, — Сцяпан Пятровіч засмяяўся свайму жарту.

Засмяялася і ягоная світа.

— А цяпер, Ваня, давай па справе. Пажартавалі і хопіць. Ты, я бачу, завадатар...

— Не завадатар, а прадстаўнік — запярэчыў Іван Мікалаевіч.

— Хай і так, — махнуў рукой кіраўнік. — Чаго хочаце?

— Тарыфы трэба падвышаць на перавозку. Хутка сабе ў страту вазіць будзем. І так ледзьве хапае на рамонты і паліва.

Грамада ўрэшце асмялела. Узняўся гул, падобны на стогн марскіх хваляў, што б'юцца аб камяністае ўзбярэжжа, і на ганак упалі кроплі-папрокі:

— Жэрці што!?

— Падаткі аддавай, вам абаненцкую плаці!

— Транспартны збор два разы плацім!

— Колькі гадоў па старых тарыфах возім!

Сцяпан Пятровіч чакаў. Слухаў. Слізгаў позіркам па людзях, каб паспець ухапіць таго, хто крычыць гучней. Іван Мікалаевіч моўчкі, з усмешкаю, глядзеў Сцяпану ў твар. Аднак шум паціху згасаў. Людзі вызваліліся ад цяжару незадаволенасці і хацелі пачуць, што прапануе таксапарк у асобе Сцяпана Пятровіча. Таму Іван Мікалаевіч, калі зразумеў, што больш ніхто нічога не скажа, працягнуў дыялог:

— Сам бачыш, Сцяпан Пятровіч, трэба штосьці рабіць. Далей так немагчыма.

Сцяпан Пятровіч не адказаў адразу. Пачухаў жывот, пазяхнуў, патрос галавою і басавіта прамовіў:

— Бачу… Не сляпы. Але бачу і тое, што вы бачыць не хочаце. На колькі за апошні год кліентаў паменела? Вам што, адным жыць цяжка? Уздымеш тарыф — ніхто да вас увогуле ў машыну не сядзе. Будзеце адзін аднаго катаць. Таму, мужыкі, не дурыце галавы. Разыходзьцеся!

Ізноў пачаў нарастаць незадаволены гул, аднак напароўся на гучнае Іванава «Ці-і-і-і-ха!», і натоўп сціх, як прысаромлены настаўнікам вучань.

— А мы не тое, каб просім, Сцяпан, — не спыняўся прадстаўнік грамады. — Мы — патрабуем! Вы ўздымайце, а праблемы з кліентамі — наша справа. Нікуды кліенты не дзенуцца.

— Я ж сказаў — не! Таму ты хоць патрабуй, хоць не патрабуй. Тым больш, што гэта так проста не робіцца.

— Глядзі, Сцяпан Пятровіч, атрымаеш тады, — голас Івана Мікалаевіча станавіўся ўсе больш сталёвым.

— Што гэта я атрымаю? — пытанне ледзь прасачылася скрозь сціснутыя Сцяпанавыя зубы.

— Забастоўку, Сцяпан.

Словы гэтыя цяжкай хмарай павіслі над таксапаркам, над галовамі людзей. Але Сцяпан Пятровіч засмяяўся. Ды не шчыра, а неяк нервова. Быццам смехам гэтым хацеў прыхаваць раз'юшанасць, выйграць час, каб не нагаварыць неабдуманых рэчаў. Світа ж ягоная ад слова «забастоўка» пабялела, нібы зайцы-белякі ўвосень.

— Ваня, колькі гадоў цябе ведаю: дваццаць пяць, трыццаць? Не мяняешся… Не хочаш запомніць, што калі я сказаў, як будзе, то так яно і будзе, — кіраўнік пачаў надзімацца, пачырванеў і раптам загрымеў: — Усім кажу, не дурыце! Дагуляецеся! Сядзеце без кліентаў з голымі азадкамі, дык праз пару тыдняў ізноў будзеце тут стаяць, прасіцца на працу!

— Не хочаш, значыцца? — Іван працягваў наступаць на начальніка. — Заўтра ніхто не выйдзе на лінію. Пабачым, колькі часу пройдзе, як вам людзі пачнуць пытанні задаваць, чаму гэта ўвечары дахаты не даехаць.

І тут жа звярнуўся да калег:

— Так, хлопцы?

— Та-а-а-ак! — зашумелі тыя ўпэўнена.

Толькі сапраўднай упэўненасці было не ў кожнага. Некаторыя азіраліся, паглядалі адзін на аднаго, шукалі маральнай падтрымкі. Але крычалі ўсе. Бо калі разам, дружна, то і страшнае слова «забастоўка» не так палохае.

Крычаў і Міхал. Ён стаяў бліжэй да боксаў і далей ад начальства. Крычаў хоць і гучна, ды няшчырасць усмешкі выдавала ягоныя сумненні.

— Глядзі, Сцяпан Пятровіч. Калі яшчэ людзі на такую калатнечу былі здольныя? Зразумей, няма куды дзявацца! Канец! Вілы!

Сцяпан пакрывіўся, як ад кіслага яблыка, уздыхнуў.

— Разумею, Іван. Аднак і ты зразумей. Усе зразумейце! Тарыфы — не мая вотчына. Не я вырашаю, а там, — ён шырока раскрыў вочы і ткнуў некалькі разоў указальным пальцам у неба.

Зроблена гэта было так важна, быццам гэтае «там» знаходзіцца дзесьці побач з боскім Алімпам. Праўда, людзей такія жэсты не ўразілі. Ізноў зашумелі, пачало даносіцца сям-там «а нам што рабіць?», «дык вырашай там!», «заўсёды я не я».

— Вось і будзе вам наша забастоўка ў дапамогу, — раіў Іван Мікалаевіч,— каб «там», — тут ён іранічна падміргнуў і, перадражняючы Сцяпана, узняў палец, — былі больш згодлівымі. Таму ад заўтра ніхто людзей не возіць. Так, мужыкі?

— Т-а-а-к!

— Ну вось і прагаласавалі. Разыходзімся! Бывай, Сцяпан Пятровіч. Калі што вырашыце, то сувязь — праз мяне.

— Эх ты, Іван, Іван. Давай, будзь здароў, — Сцяпан Пятровіч махнуў рукой і рэзка павярнуўся да дзвярэй.

Людзі пачалі разыходзіцца. Хто да машын, хто па кабінетах. Некаторыя яшчэ засталіся на пляцоўцы: перакурыць, абмеркаваць, як усё прайшло.

Ужо на лесвіцы ў будынку галоўны інжынер, хударлявы, з чорнымі вусікамі, у акулярах, нерашуча прамовіў:

— Відаць, трэба будзе прасіць, каб далі згоду падвысіць тарыфы. Згасім тады забастоўку.

— Ты што, Яўген Іванавіч, ачмурэў? — ажно тарганууся ад здзіўлення кіраўнік, які правільна зразумеў гэтыя словы за першую спробу абмеркаваць сітуацыю. — Не ведаеш, якім будзе адказ? То я раскажу табе, што будзе пасля такой просьбы. Спачатку нас разгоняць за тое, што развялі тут бардак, і прышлюць сваіх людзей у адміністрацыю. Потым папруць з дзясятак самых актыўных дурняў-рэвалюцыянераў. Астатнія пабягуць на працу.

— Дык што рабіць? — разгублена развёў рукамі галоўны інжынер.

— Па-першае, будзем маўчаць. А як наверсе дазнаюцца пра забастоўку, то будзем дакладваць, што сітуацыя пад кантролем, што адміністрацыя цвёрда стаіць на сваіх пазіцыях. Паўстанцы… Хай сабе паўстаюць. Пабачым, што ім жонкі скажуць праз тыдзень-два, калі ў краму не будзе з чым пайсці. Тады палова з іх пойдзе ў бамбілы[1], і ніякія гараджане нічога не заўважаць. Ім пляваць, каму плаціць. А другая палова, з чэсных, прыйдзе прасіцца назад,

[1] Бамбіла — нелегальны перавозчык.

бо ўбачыць, што іх план праваліўся праз штрэйкбрэхераў. Рэвалюцыя, Яўген Іванавіч, задушыць сама сябе.

— А калі не атрымаецца?

— Тады будзем здавацца наверх, няхай там вырашаюць, што далей рабіць. Урэшце не хвалюйся, Яўген, атрымаецца. Хіба я людзей не ведаю? Пажыў троху, нагледзеўся.

* * *

…Міхал сядзеў у светлай, прасторнай, на сучасны лад адрамантаванай кухні. Перад ім на стале стаяў кубак астылай ужо кавы, а сам ён пустымі вачыма ўтаропіўся ў планшэт і вяла гартаў стужку навін сацыяльнай сеткі. Навіны, відаць па ўсім, яго не цікавілі, бо рабіў ён гэта заглыбіўшыся ў свае думкі, на аўтамаце. Таму і не заўважыў, што нехта не вельмі ўдала спрабаваў трапіць у кватэру: скробся, шаргацеў за дзвярыма, тузаў ручку. Нарэшце ключ пацэліў у замок, і дзверы грукнулі ў сцяну.

— Міша-а-а, ты дома? — пачуўся з калідора мяккі жаночы голас.

Гэта абудзіла Міхала. Ён падскочыў і хутка пайшоў у калідор. На парозе стаяла маладая жанчына з кароткімі, трохі ніжэй вуха, прамымі русымі валасамі, круглым мілавідным тварам і невялікім кірпатым носам. Ягоная жонка, Наста. Дзве вялікія напакаваныя торбы, якія яна трымала ў руках, недарэчна выглядалі на фоне яе вытанчанай постаці ў лёгкай блакітнай сукенцы. Міхал спехам забраў торбы, пацалаваў жонку ў чырвоныя, малыя, але пухленькія, як у лялькі, вусны і панёс усё на кухню.

— Ох і цяжкія торбы! — выдыхнула з палёгкай жанчына. — А быццам бы нічога і не купіла.

— Дык навошта сама ў краму пайшла? — крычаў муж з кухні ў адказ. — Маглі б разам увечары прагуляцца.

— Не. Увечары трэба будзе Слаўку да доктара везці, я талон узяла. Вось ты яго і звозіш.

Наста адразу пайшла на кухню і ўзялася гаспадарыць: згрузіла брудны посуд у ракавіну, уключыла электрычны імбрык ды пачала разбіраць пакупкі. Міхал спачатку ўхіляўся, каб не сутыкнуцца з гаспадыняй, а потым адышоў і стаў у дзвярах.

— Ты чым займаўся, што дзверы не адчыніў? Кава недапітая, планшэт валяецца.

— Ай, штосьці задумаўся і падвіс.

— Усё месца сабе знайсці не можаш? — пыталася Наста, раскладваючы прадукты ў лядоўні.

— Так. Сяджу як лайдак. Два тыдні ўжо, а штосьці не чуў, каб развозіць людзей не было каму. Напісалі ў газеце — і канец на гэтым.

Наста ўрэшце села на крэсла і падняла на Міхала свае вялікія шэра-блакітныя вочы.

— Не хвалюйся наконт лайдака. Лічы, што ў цябе адпачынак. Большасць з таго, што тут ёсць, — яна абвяла рукой кухню, — зароблена праз тваё, лічы, жыццё ў таксі. Таму адпачыць — не грэх. Лепей зрабі мне гарбаты, вада закіпела.

— Яно быццам і так, але ўсе роўна няёмка. Жонка, сын, а ты сядзіш, быццам інвалід які, без ног і рук.

— Міша, калі табе так ахвота папрацаваць, то і заняўся б хатнімі справамі. А то кіснеш, як капуста ў кадцы.

— Гэта не тое, — Міхал паставіў перад жонкай кубак і сеў побач. — Сітуацыя гэта. Разумееш, Наста, мне здаецца, што я ператвараюся ў вясковага дзядка, які толькі і можа, што пасядзець у хаце ды бабам дапамагчы, пакуль мужыкі па сур'ёзных справах разышліся. Ды і грошы патрэбныя. Колькі на тваю зарплату пражывеш. Нарабілі дурноты з гэтай забастоўкай, каб яе чэрці ўзялі.

— Грошы ў нас пакуль ёсць, хоць і невялікія. А з такой сітуацыяй, як у вас, ты і сам ведаеш, што працаваць было немагчыма. Нават стратна.

— Яно ўсё так.

Міхал устаў, пачаў хадзіць па кухні з канца ў канец.

— Сёння Максіма сустрэў. Ездзіў на аўтарынак па масла і сустрэў.

— Гэта каторы *мажор*?

— Ён. Пастаялі, кавы папілі.

— І як яму дома сядзіцца, таксама перажывае?

— Яму ніяк не сядзіцца, бо ён працуе ўжо тыдзень.

— Як так? — Наста ад здзіўлення грукнула кубкам аб стол.

— Вось так. Бамбіць. Мне мусіў прызнацца, бо я яго з кліентам падлавіў. Ён таго акурат на рынак і прывёз.

Наста паківала галавой:

— Але глянь, якая поскудзь гэты ваш Максім.

— Ну чаму адразу поскудзь? — прабурчэў на гэта Міхал.

— Чаму? — у жончыных вачах заскакалі іскрынкі гневу. — Таму што гэта здрада сваім сябрам і калегам, таму што людзі сядзяць на бабах і церпяць, а яму больш за ўсіх зарабіць трэба. Ягоныя бацькі некалькі павільёнаў у гандлёвіку трымаюць. На халеру ён увогуле ў таксі папёрся?

— Кажа, што весела, а бацькоўская справа яго не цягне, — чамусьці вінавата апраўдваў знаёмага Міхал.

— Ясна! Яму абы весяліцца. А на тое, што ў людзей гэта жыццё — пляваць! — Наста амаль перайшла на крык.

— Чаго ты так усхадзілася?— прымірэнча мовіў Міхал.

— Таго, што надоечы бачыла Волю. У іх з Глебам зусім цяжка з грашыма. Двое дзяцей. Якія ў яе там заробкі ў дзіцячым садку? Адно ратуе, што бацькі могуць трохі дапамагчы. І людзі трываюць, людзі не здраджваюць. А гэты. Слоў няма.

Цішыня апанавала кухню. Наста супакоілася, дыханне яе стала роўным, а позірк застыў на кране, з якога мерна і бязгучна у ракавіну падалі кроплі. Міхал з паўхвіліны глядзеў ці то на белыя з фіялетавымі кветкамі фіранкі, ці то праз іх на двор, цяжка дыхаў. Потым ціха, але цвёрда і ўпэўнена заявіў чужым голасам:

— Не ведаю, поскудзь Максім ці не поскудзь, але — хай, я вырашыў падзарабіць.

— Як гэта, падзарабіць? — спыталася Наста, якая не адразу асэнсавала словы мужа, але хутка зразумела, куды той вядзе, і не стрымалася: — Ты зусім з глузду з'ехаў?

Яна разгубілася, расхвалявалася, і словы яе рассыпаным гарохам хаатычна паскакалі па кухні.

— Ты… Як гэта? А сябры што? Воля. Глеб. А калі ўбачаць?

Наста збянтэжана чакала тлумачэнняў і глядзела на мужа. Той адказаў не адразу, так і стаяў, утаропіўшыся ў акно. А потым рэзка павярнуўся і пачаў заўзята даводзіць, што такі выбар — правільны, і што задума з забастоўкай — лухта, прычым, лухта, шкодная для сям'і.

— Тыдзень, два, тры, а выніку няма. Усе думалі, горад заўважыць, што таксі зніклі, пачнуцца пытанні. Толькі людзям пляваць, няма і няма, — палка запэўніваў ён жонку. — Думалі, што адміністрацыя спалохаецца, пачне дамаўляцца. Аднак і там нічога не робяць. А мы вымушаныя праз гэта сядзець з голым задам. Дык вось што я скажу: хрэн ім!

— Тады можа лепш усім сабрацца, абмеркаваць, — нясмела прапанавала Наста. — Бо, можа, таму і не заўважыў горад, што вы ўсе падпрацоўваеце?

Міхал расчырванеўся і голасна адчаканіў у адказ:

— Няма чаго абмяркоўваць! Агучыш гэта, то дакладна за здradніка прымуць. Дамовіліся на забастоўку ў таксапарку — я дамову трымаю. А вісець без грошай на жончынай шыі, без магчымасці дзіцяці што-небудзь купіць дамовы не было. Так хутка ўсе запасы праямо.

— Мне ўсе зразумела. Не зразумела толькі, чаго гэта ты на мяне крычыш? — Наста злосна прыжмурыла вочы. — Спачатку некалькі тыдняў пераконваеш мяне, што забастоўка — адзінае выйсце, а цяпер, выходзіць, што не. Я яшчэ і вінаватая, што тады цябе падтрымала.

— Я ні ў чым цябе не вінавачу, — паспрабаваў улагодзіць жонку Міхал.

— Рабі як хочаш, але калі цікавіць мае меркаванне, то лепш усё абмеркаваць калектыўна і вырашыць, што рабіць далей. Бо зловяць — праблем не абярэшся.

— Не зловяць, — усміхнуўся Міхал, і абняў жонку.

* * *

Суботні вечар пачаў саступаць ночы. Неба зацягнула хмарамі, таму сцямнела раней, чым звычайна. Мог пайсці дождж. Міхал мітусіўся: апранаўся, заварваў гарбату ў тэрмас, складаў пакунак з ежай, а за ім крок у крок бегаў сын. З пакоя пачуўся голас Насты:

— Нешта сёння ты ранавата.

— Дождж можа пайсці — кліентаў пабольшае.

Жанчына выйшла ў калідор.

— Міша, а можа застанься сёння дома. Я ўсё хвалююся, што ты хлопцаў падводзіш. Няправільна гэта.

— Нікога я не падводжу, я ў адміністрацыю не пабег і дамову трымаю. Затое ўяві нашу сямейную кішэню, калі б я пяты тыдзень сядзеў без работы. Не хвалюйся. Я думаю, хутка ўсё гэта скончыцца.

З гэтымі словамі ён перакінуў цераз плячо невялікую, пад дакументы, сумачку, узяў пакет з ежай і рушыў у дзверы. Ды не зрабіў і кроку, як на ягонай назе павіс хлопчык.

— Та-а-тка-а, я з табой! — звонка закрычаў ён.

Міхал спыніўся і ласкава паглядзеў сыну ў вочы:

— Не, Слаўка, сёння я сам. Давай мы лепей заўтра з табой у парк сходзім, на каруселях пакатаемся, добра?

Хлопчык адпусціў бацькаву нагу, кіўнуў — пагадзіўся — і са смехам пабег у пакой. Вясёлае «заўтра ў парк» панеслася па кватэры.

Міхал рассмяяўся сыну ўслед, потым пацалаваў Насту і выправіўся насустрач свайму апошняму сонцу.

# ЗАСТАЛАСЯ ДУША ЯГО ТУТ...

***Кола дзён — гісторыя спяшаецца,***
***як бы цяжка ні далося нам —***
***зноў імёны добрыя вяртаюцца***
***чэсным людзям,***
***слаўным гарадам.***

Давід СІМАНОВІЧ

«*Этот город принял меня однажды и уже никогда от себя не отпустит…*» Гэтыя радкі напрарочылі сувязь двух лёсаў — Паэта і Горада. Імя Давіда Сімановіча непарыўна і назаўжды атаясамліваецца з Віцебскам.

Ён быў заўсёды. Паўсюль. З усімі. У цэнтры культурнага жыцця горада. У цэнтры горада. У цэнтры жыцця. Яго нязменнае «Прывітанне!» гучала на вуліцах, у залах, у бібліятэках, імчала па тэлефонных правадах ад сэрца да сэрца…



*Давід Сімановіч каля помніка Марку Шагалу.*

Давід Рыгоравіч Сімановіч нарадзіўся 26 чэрвеня 1932 года ў горадзе Нароўля Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, літсупрацоўнікам рэдакцыі абласной газеты «Віцебскі рабочы», рэдактарам, старшым рэдактарам, загадчыкам аддзела мастацкіх перадач Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Віцебскага аблвыканкама. З 1971 па 1981 год узначальваў Віцебскае абласное літаратурнае аб’яднанне і абласное аб’яднанне маладой творчай інтэлігенцыі «Вяснянка».

Узнагароджаны медалём «За доблесную працу. У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна». Лаўрэат Шагалаўскай прэміі (1992), абласной прэміі імя У. Караткевіча (2001) ды інш.

Старшыня Шагалаўскага камітэта. Старшыня Пушкінскага камітэта. Аўтар праектаў: «Адкрытыя ўрокі паэзіі ў школах» (1983), «Дні літарату-

ры, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу» (1986), «Пушкінскае свята паэзіі ў Віцебску» (1989), «Віцебскі дзень Уладзіміра Маякоўскага з лірычнымі адступленнямі ў мінулае і будучыню» (2002). Заснавальнік і аўтар міжнародных праектаў: «Шагалаўскія дні», «Шагалаўскія чытанні», «У гасцях у Марка і Бэлы».

Значную ролю ў жыцці і творчасці Давіда Сімановіча мела сустрэча з выбітным пісьменнікам Канстанцінам Сіманавым, які падтрымаў маладога паэта, надрукаваў у часопісе «Новый мир» вялікую падборку яго вершаў — аснову будучай кнігі.

Першы верш «Парк Победы» апублікаваны ў студзені 1948 года ў дзвюх газетах — мазырскай абласной «Бальшавік Палесся» і рэспубліканскай «Зорька». Першая кніга вершаў «Весенняя сказка» выдадзена ў 1959 годзе.

Давід Сімановіч — аўтар больш як трыццаці кніг паэзіі і прозы, тэлеп’ес, сцэнарыяў; яго вершы перакладзены на ідыш, іўрыт, беларускую, нямецкую, англійскую, французскую, латышскую, грузінсую, чэшскую мовы.

Так выглядае афіцыйная біяграфія паэта. Аднак ці можна скупымі фактамі перадаць маштаб яго Асобы? Старажытны Віцебск, у якім Давід Сімановіч быў знаёмы амаль з кожным, дакладна ведае: ёсць у яго свае анёлы-ахоўнікі — Марк і Бэла, што лунаюць над старымі вулачкамі, і летуценная душа Віцебскага Паэта…

Давід Сімановіч пайшоў з жыцця 9 мая 2014 года, але памяць пра яго беражліва захоўваецца блізкімі, сябрамі, людзьмі, неабыякавымі да мастацкага слова і да гісторыі Віцебска. 20 чэрвеня 2016 года на Стара-Уланавічскіх яўрэйскіх могілках у Віцебску на магіле паэта быў пастаўлены помнік, створаны віцебскімі скульптарамі Аляксандрам Гвоздзікавым і Іванам Казаком. Праз некалькі дзён, 26 чэрвеня, у дзень нараджэння Давіда Сімановіча, побач з домам, дзе ён жыў, была адкрыта мемарыяльная дошка.

І галоўнае: працягваюцца традыцыі, закладзеныя Сімановічам у Віцебску — традыцыі літаратурных сустрэч, вечарын, кансалідацыі творчай інтэлігенцыі горада.

Так, маштабнай ініцыятывай, якая атрымала шырокі рэзананс, стаў унікальны паэтычны марафон «1000 вершаў пра Віцебск», прысвечаны памяці Давіда Сімановіча. Марафон адбыўся ў ліпені 2016 года і стаў кульмінацыяй II Фэсту вулічнага мастацтва «На сямі вятрах» у рамках Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Ля помніка Пушкіну (усталяванага, дарэчы, па прапанове Давіда Сімановіча) у цэнтры горада ў рэжыме нон-стоп з 9 раніцы да 23 гадзін гучалі вершы пра Віцебск. Усяго прагучала 852 вершы. Іх чыталі самі аўтары, а для чытання вершаў паэтаў, якія не прыехалі на фестываль, арганізатары запрасілі акцёраў віцебскіх тэатраў і валанцёраў. Зацікаўленасць публікі пераўзышла ўсе спадзяванні. Акцёры змянялі адзін аднаго, паэты далучаліся да слухачоў, а гараджане і госці Віцебска выстройваліся ў чаргу, каб прачытаць вершы незнаёмых ім людзей пра любімы горад, проста дакрануцца да паэзіі. Гэтае чароўнае ўзаемадзеянне людзей адно з адным і з вершамі нараджала пачуццё яднання з горадам, з паэтычным словам. Запомніліся гараджанам і мінулагоднія творчыя сустрэчы ды акцыі, праведзеныя ў гонар 85-гадовага юбілею паэта.

Варта адзначыць, што да традыцый захавання памяці пра Давіда Сімановіча зусім не выпадкова далучыліся Музей Марка Шагала і яго Апякунскі савет. У новую гісторыю Віцебска Давід Рыгоравіч увайшоў поруч з Маркам Шагалам. Сімановічу давялося прайсці праз замоўчванне, неразуменне і пратэсты з боку кіраўніцтва горада і рэспублікі, жыхароў Віцебска. Толькі



*«Шагалаўскія дні». Давід Сімановіч з Рыгорам Барадуліным, Васілём Быкавым і Ванкарэмам Нікіфаровічам.*

дзякуючы яго неверагодным намаганням імя сусветна вядомага мастака вярнулася на радзіму. На працягу 23 год Давід Рыгоравіч узначальваў Шагалаўскі камітэт у Віцебску, быў арганізатарам, натхняльнікам і тым «маторам», які рухаў справу Марка Шагала. З яго ўдзелам адкрывалі першую экспазіцыю работ мастака ў Віцебску, вярталі назву роднай вуліцы Майстра, адкрывалі помнікі і мемарыяльныя дошкі, і, канечне, стваралі музей. Давід Сімановіч быў пастаянным выступоўцам на Шагалаўскіх чытаннях, а таксама рэдактарам і ўкладальнікам Першага Шагалаўскага зборніка, які ўключаў матэрыялы навуковых канферэнцый. Створаныя ім міжнародныя праекты «Шагалаўскія дні», «Шагалаўскія чытанні», «У гасцях у Марка і Бэлы» працягваюць жыць і штогод збіраюць у Віцебску навукоўцаў і прыхільнікаў творчасці мастака. Супрацоўнікі музея Марка Шагала вельмі часта задаюцца пытаннем: ці быў бы зараз у Віцебску музей Марка Шагала, калі б не было Давіда Сімановіча?

Таму менавіта Арт-цэнтр Марка Шагала ў Віцебску стаў пляцоўкай для правядзення вечара аўтарскай песні і паэзіі «На Пушкінскім мосце цябе я чакаю», дзе адсвяткавалі 85-ы дзень нараджэння паэта. У Віцебску ні для каго не сакрэт, што свой дзень нараджэння Давід Рыгоравіч ператвараў у «дзень адчыненых дзвярэй». Дзверы яго дома, сапраўды, не зачыняліся, а кватэра паэта не здольная была змясціць тых, хто прыходзіў павіншаваць яго. Арганізатары вечара паспрабавалі захаваць гэтую традыцыю: у Арт-цэнтры сабраліся тыя, хто шануе памяць пра паэта і Чалавека — Давіда Сімановіча — і хто вырашыў павітаць яго ў дзень нараджэння сваёй творчасцю.

Дырэктар музея Марка Шагала ў Віцебску Ірына Воранава прапанавала зрабіць такія вечарыны традыцыйнымі і штогод, 26 чэрвеня, адзначаць дзень нараджэння Давіда Сімановіча ў Арт-цэнтры Марка Шагала ў коле сяброў. Ініцыятыву з удзячнасцю падтрымалі! І сёлета, 26 чэрвеня, Арт-цэнтр Марка Шагала ў Віцебску зноў чакае ўсіх сяброў Давіда Сімановіча і прыхільнікаў яго таленту. Мы прапануем дыстанцыйна далучыцца да вечарыны і ўсім чытачам часопіса «Полымя» ды пачытаць вершы Давіда Сімановіча ў перакладах вядомых беларускіх паэтаў.

***Алена КРЫКЛІВЕЦ,***
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава; Ірына ВОРАНАВА,***
***дырэктар музея Марка Шагала ў Віцебску.***

**Давід СІМАНОВІЧ**

# Я МАЮ ГОНАР СЫНАМ БЫЦЬ...

І Шагал, як біблейскі Адам,
мовіў сумна, з жыццём развітваючыся:
«Засталася душа мая там…»
Зноў зрабіліся вочы блакітнымі.

Можа, яблынь забытых кара
нагадала той дом, што туліцца
да самоты гаспадара
на Вялікай Пакроўскай вуліцы.

Сохнуць на плытах гарлачы,
вокны — у свет вачыма яўрэйскімі,
асядлалі дах скрыпачы,
козы скачуць рагатымі фрэскамі.

І ступаюць забытыя сны
па зямлі, спавітай дарогамі.
З Бэлай светла лятуць яны
па-над цэрквамі, сінагогамі.

Незабыты ўсміхаецца край
даваеннай Дзвіной незахмаранай.
І крычу я праз пекла, праз рай:
«Дык з вяртаннем Вас, Марк Захаравіч!»

Ёсць мяжа жыцця і пакут,
неўміручасць узнагародаю…
Засталася душа яго тут
неразгаданая, першародная.

***Пераклад з рускай Рыгора Барадуліна.***

* * *

Я маю гонар
сынам быць
таго гаротнага народа,
якога гналі ў вір без броду
і гналі ў полымя — спаліць.

Ён патанаў, і дым сівы
яго душыў у змрочных гета.
Я выпаўз на святло тым летам
з-пад мерцвякоў… з ракі крыві…
І хтось: «Жывы... уздых лаўлю я…» —
сказаў і даў глыток вады…
Карціну жудаснай бяды
які Шагал нам намалюе?

Як ён сумее узнавіць
трагедыю і боль народа,
якому не давалі жыць
у доме, дзе жыла б свабода?
Я маю гонар
сынам быць
таго вялікага народа!

* * *

І з'едуць тыя, хто мне блізкі быў…
Забыўшыся, што ён вястун нябесны,
Архангел развітанне пратрубіў
і горка сам загаласіў, балесны.

Каля магіл, дзе продкі ў вечным сне
спачылі, я з сябрамі расстаюся…
Я тут, асірацелы, застаюся,
і белы свет не мілы болей мне.

Я іх любіў, сяброўствам даражыў.
Каго любіць і сябраваць з кім буду?
Архангел развітанне пратрубіў.
Ніякаму ўжо не адбыцца цуду.

* * *

У знаным аркестры
са скрыпкай з забытых надзей
застаўся на месцы
гэты апошні яўрэй.

Зала замёрла
перад узлётам смычка.
Цісне за горла
музыкі вечнай туга.

Шмат у аркестры
блізкіх было людзей,
застаўся на месцы
гэты апошні яўрэй.

Хтосьці ў Ізраіль
з'ехаў, іграе ў кафэ,
кагосьці прагналі
па сумнавядомай графе.

Музыкі крылы,
зала замерла ў цішы.
Што ты зрабіла,
краіна,
з сваёй душы?

Ці ж уваскрэснеш,
лепшых згубіўшы дзяцей?..
У знаным аркестры
застаўся апошні яўрэй.

* * *

Я восенню па Віцебску хаджу,
Дзвіну перасякаю, як мяжу,
якая горад на дзве часткі падзяляла.
Зліліся ў неразрыўнае адно
далёкае і блізкае даўно
ад цёмнага кутка да новага квартала.

Імкнецца горад стромка ў вышыню,
гатэль з-пад хмар міргае ветла дню
і вокнамі стакроць ён сонца паўтарае…
А змрок мінулага ахоўвае муры.
Тут Благавесця Дух плыве да нас з гары:
царква разбурана, а Дух не памірае.
Мы захавалі ў сэрцах назаўжды
гісторыю сваю і на зямлі сляды,
адвечныя балючыя прыкметы…
На беразе паміж пажоўклых дрэў,
стаіць кафэ… цябе я там сустрэў…
Цяпер кідаю ў аўтамат манету.

Адразу, быццам з вечара ў зару,
каханая, табе зноў паўтару,
«Хай нашы крыўды вецер прэч пазносіць…
На мосціку ля Пушкіна стаю,
чакаючы цябе, вясёлачку маю —
благаславі нас, віцебская восень!»

***Пераклад з рускай Уладзіміра Папковіча.***

* * *

Па горадзе крочыў стары паэт,
не, не стары, а крыху пасталелы,

не пасталелы, а ледзь пасівелы —
толькі, прынамсі, набыў імпэт.

Ён размаўляў, нібыта з людзьмі,
з кветкамі, сонцам, зялёнымі дрэвамі,
ён падзяляўся сваімі ідэямі,
кожнай галінцы жадаў:
«Ляці!»

Аднойчы, калі мы прачнуліся ўсе,
на майскіх, як сон, летуценных арэлях —
у першай расе, у вясновай красе
дрэвы ўзялі сапраўды — і ўзляцелі.

І саграваў адмыслова душы,
і выпраменьваў юначы імпэт.
Новыя цуды ўжо адчуўшы,
па горадзе крочыў стары паэт.

* * *

Прыняў гэты горад мяне аднойчы,
як на свет калісьці палеская акушэрка.
І пачуў я цёплае:
«Наш ты, хлопча!» —
гэта сказала Успенская горка.
Замкавая вуліца яе падтрымала:
«Жыві, і нікуды з’язджаць не трэба».
Старая ратуша глядзелася ў неба:
«Мы раскажам табе пра Марка Шагала…»
І цяпер, калі стаю над Дзвіною
з жыццём і з думкамі сваімі ў згодзе,
над лёсам маім лунаюць стагоддзі,
вітаюцца, размаўляюць са мною.
Бачу:
Пушкін у фурманцы едзе ссыльны,
Маякоўскі крочыць брукаванкаю вуліц…
Я жыву ў гэтым горадзе верным сынам,
сустракаю сучаснасць, праводжу мінулае.
Ды наступнаму дню
зазіраю ў вочы,
як заўжды — з патаемным чаканнем цуда.
Прыняў гэты горад мяне аднойчы
і да скону ўжо не адпусціць нікуды.

***Пераклад з рускай Алены Крыклівец.***

# УГЛЕДЗЬЦЕСЯ Ў ВОЧЫ НАЧЭЙ

*Міжнародныя літаратурныя стасункі — з'ява, якая, як і ўсялякі кірунак творчасці, мае розныя абліччы. Часта, вельмі часта лідарамі ў дарозе да чытача ў перакладзе на іншыя мовы становяцца паэты, празаікі, хто зусім і не выяўляе галоўныя тэндэнцыі развіцця нацыянальнай літаратуры. Альбо здараецца і такое, што класіку іншага мастацкага свету перастварае той перакладчык, які не зусім добра і родным словам валодае, не чуе і не бачыць усе яго галасы і колеры. Так, на жаль, часта здараецца... Як абысці, пазбегнуць штучнага, несапраўднага, як вылучыць сапраўднае на фоне мітуслівага і шараговага?!. Пытанне з пытанняў. Але і не задаваць яго, уваходзячы ў чужаземную, не знаёмую дагэтуль прастору, проста нельга...*

*Апошнім часам на старонках беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі пачалі з'яўляцца публікацыі паэтаў і празаікаў Чачэнскай Рэспублікі. Вось і зараз часопіс «Полымя» прадстаўляе беларускаму чытачу падборку з твораў чатырох паэтаў — Лулы Куна, Адама Ахматукаева, Пецімат Пяціравай, Вахіда Ітаева і аднаго празаіка — Сулімана Мусаева. Канешне ж, гэтыя некалькі старонак — толькі невялічкі зрэз сучаснай чачэнскай літаратуры. Магчыма, з часам да беларускага чытача прыйдуць творы і іншых нашых сучаснікаў — чачэнскіх паэтаў, празаікаў, драматургаў Арбі Усманава, Руслана Юсупава, Шарыпа Цуруева, Ільмана Юсупава, Алвадзі Шайхіева і шмат каго яшчэ. Сённяшняя «палымянская» падборка такая як ёсць. Над ёй шчыра рупіліся нашы беларускія перакладчыкі — Марыя Кобец, Юлія Алейчанка, Валерыя Радунь, Іна Фралова, Бажэна Мацюк.*

*Публікацыя ў «Полымі» — магчыма, яшчэ і адказ на сённяшнія памкненні чачэнскіх літаратараў адкрыць беларускую літаратуру для свайго чытача. На старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў Чачэнскай Рэспублікі «Нана», «Вайнах», «Гоч», у газеце «Даймохк» у апошнія некалькі гадоў з'явіліся пераклады твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Міколы Купрэева, Анатоля Сыса, Таццяны Сівец і шмат яшчэ каго з беларускіх пісьменнікаў, якія працавалі ў літаратуры ў ранейшыя часіны і працуюць зараз. Найболей актыўна рупіцца на перакладчыцкай ніве Адам Ахматукаеў. Ён дзеля гэтага не аднойчы прыязджаў і ў Беларусь, удзельнічаў у міжнародным «круглым стале» беларускіх і замежных пісьменнікаў у час Дня беларускага пісьменства ў Полацку ў верасні 2017 года. Прымаў удзел і выступаў на Міжнародным сімпозіуме літаратараў «Пісьменнік і час» у Мінску ў сакавіку 2018 года. Характар беларускай нацыянальнай паэзіі ён пазнае па падрадкоўніках, па адкрыцці асоб, імёны якіх яму падказваюць беларускія сябры. Не выпадковым, відавочна, з'ўляецца зварот Адама Ахматукаева да пераўвасаблення на чачэнскую вершаў Анатоля Сыса і Міколы Купрэева.*

*З такой жа шчырасцю адкрывае для роднага чытача беларускую паэзію Лула Куна на старонках літаратурна-мастацкага часопіса «Нана». Перакла-*

*дзеныя ёй вершы Юліі Алейчанкі і Таццяны Сівец — спадзяёмся, — гэта толькі пачатак знаёмства чачэнцаў з тымі працэсамі, якія адбываюцца сёння ў беларускай паэзіі. Невыпадкова, што менавіта Лула Куна, якая ў значнай ступені на старонках часопіса «Нана» абапіраецца на чачэнскую літаратурную моладзь, звярнулася да паэзіі беларускай моладзі. За пісьменніцай, вопытным рэдактарам і актыўным перакладчыкам літаратур народаў Расіі стаіць вучоба ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя М. Горкага, знаёмства з шматнацыянальнай паэзіяй постсавецкіх краін. Усё гэта і дапамагае рабіць правільны выбар. Маючы трывалы электронны камунікат з Лулай Куна, досыць перыядычна лістуючыся з ёю па розных тэмах, мы неаднойчы гутарылі пра мастацкія вежы, збудаваныя Янкам Купалам і Максімам Багдановічам, Аркадзем Куляшовым і Рыгорам Барадуліным. Чачэнская перакладчыца выяўляла і працягвае выяўляць свой высокі досвед, яе выказванні характарызуюцца надзвычайнай начытанасцю, спазнанасцю беларускай літаратуры. Таму, зразумела, у фарміраванні «палымянскай» падборкі сваю ролю адыгралі аўтарытэтныя меркаванні Лулы Куна. Спадзяёмся, што яе і Адама Ахматукаева парады і надалей дапамогуць выбудоўваць трывалы, заснаваны на сапраўдных мастацкіх крытэрыях мост дружбы чачэнскай і беларускай літаратур.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

## Лула КУНА

### ЧАС АГНЮ

Калі запаведзі Госпада нашага гінуць у небыцці душ аблудных,
свет апускаецца ў бездань граху:
усюды пануюць гвалт і варожасць,
звон ненавіснага металу заглушае голас сумлення,
свой несправядлівы суд беспакарана дзеюць моцныя свету гэтага...
І людзі слепнуць у змроку адчаю...
Але калі кожны — на ўскрайку сляпой бездані —
заслоніць ад вятроў свету падпаленую свечку Веры,
душы нашыя будуць захаваныя для Вечнасці
і дазволена ім будзе дасягнуць берагоў Зямлі абетаванай...

***(Кніга Забыцця. Запавет апошніх часоў...)***

### ДАРОГА

Дарога...
Яна пралягае крывавым рубам
праз сэрца кожнага сына роду чачэнскага.
Угледзьцеся ў вочы начэй:
у іх попел тулянняў —
ад каўчэга Ноя да пыльных ваенных дарог.
У іх — маўчанне фатальнай безвыходнасці,
у іх — апантанасць праўдзівасці верніка ў Вышэйшае наканаванне,
у іх я — Прад-веданне...

Што ёсць для нас дарога?
Жыццё!
Праз Смерць, праз Пекла неразумення і непрымання — да Неба...
Праз маўчанне нясмелых і нянавісць, што страцілі права
на Гэтую Дарогу.

Што мы для Дарогі? ..
Пыл, што памятае босыя пяткі адпрэчаных светам прарокаў?
Але пыл развеюць вятры.
Камяні, на якіх збіваліся ў кроў далікатныя пяткі немаўлятаў —
ахвяраў Ірада?
Але камяні сціраюцца ў пыл... а пыл развеюць вятры.
Мы самі і ёсць — Дарога,
бясконцая, як ёсць бясконцы Час
у гэтым сляпым ад лютасці сонца свеце.

Мы — Дарога. Дарога — мы.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ СЛЯЗА АДЧАЮ...

Ён быў брадабрэем.
Гэтае слова яму больш падыходзіла.
«Цырульнік» — гэта пobліск халодных нажніц
і ліпкасць заспаных шчок
ранняга кліента пасля дзяжурнага ласьёну.
Не... Лепей — брадабрэй.

Вазген ведаў у гэтай справе толк.

Горад быў невялікі, і майстра ведалі ўсе гараджане.
Горад, як мы адзначылі, быў невялікі.
І ўсе яго жыхары ведалі не толькі пра тое, што Вазген,
альбо Вася, як зазвычай яго называлі, — выдатны майстар,
але і пра тое, што ўжо некалькі гадоў у яго хварэе жонка.
Маладзенькая ціхая жанчына-свечачка, на якую ён не мог надыхацца.
Яна ціха сыходзіла з гэтага свету,
і толькі ён — Вазген-Вася, вясёлы брадабрэй з сумнымі вачыма,
па-хлапечы адчайна спрабаваў утрымаць яе.

Горад быў маленькі.
І кліенты ў Васі былі розныя —
ад шумных заўсёднікаў прывакзальнай піўной
да маўклівых істот за таніраваным шклам свежых іншамарак.

...Горад мігцеў ападаючай лістотай.
У паветры стаяў трывалы пах прэлага лісця
і дыму ад маленькіх касцяркоў у зацішных закутках.
На дзверы цырульні ўжо некалькі дзён вісела таблічка «Зачынена».

Праз тыдзень мужчыны гарадка чыталі кароткае паведамленне:
«Патрэбны грошы на аперацыю жонцы. Шмат. Дапамажыце. Вазген».
У горадзе ведалі, што жонка яго безнадзейная.
Ведаў гэта і Вазген.
Аднак усімі сіламі спрабаваў утрымаць яе ў гэтым свеце.
І таму да будынка бальнічкі прыходзілі і прыносілі — хто колькі можа.
Вазген моўчкі ціснуў руку кожнаму.
Сіл на словы ўжо не было.

...Грошай хапіла толькі на пахаванне і памінкі.
За доўгім сталом панура сядзелі госці.
Вазген плакаў п’янымі слязьмі.

У панядзелак майстар адкрыў цырульню.
Пад’ехаў першы кліент.
Выйшаў з машыны.
Звыкла кіўнуў кіроўцу — іншамарка ціха прашапацела за вугал.
Шумна павітаўся: «О! Вася! Даўно нешта не было!
Ну што... Давай, як зазвычай...»

Пабліск нажніц. Ліпкія шчокі кліента пасля ласьёну.

Горад за вокнамі жыў сваім жыццём.

## ПА ТОЙ БОК БЯДЫ

Апошні вясновы месяц 95-га.
Невялікае фотаатэлье на ўскраіне Урус-Мартана.

Людзі моўчкі тоўпяцца ў чарзе.
Усім патрэбныя фотаздымкі на часовыя пашпарты:
Пратэрмінаваны — нагода ваенным ўсумніцца ў тваёй добранадзейнасці —
Затрымаюць пры першым жа пашпартным кантролі.
Увядуць.
Альбо згінеш без вестак, альбо згнояць ў душагубцы...

Томімся ў задусе.
Не па-вясноваму гарачае сонца не спяшаецца да заходу.
Не чуваць пустых размоў. Уваччу — туга і ўжо звыклая спустошанасць.
Усё, што можна, выплакалі
Усё, што маглі і смелі, выказалі...
Ні эмоцый, ні думак — пакорлівае чаканне незваротнасці агульнага лёсу.

Нечакана — лёгкае ажыўленне ў чарзе...
Чуецца чыйсьці прыдушаны смяшок і тонкі дзявочы галасок
з грудным прыдыхам выводзіць: «Ма! Пачакай... Дай папраўлю!»
І зноў — бісерынкамі — смех.
Каму гэта так весела?
Відаць, не кранула людзей гора, калі могуць так залівацца смехам...
Разлічыўшыся з фатографам, прапіхваюся да выхаду скрозь натоўп разявак.

Ля самых дзвярэй стаіць, нязграбна нахіліўшыся, высокая пажылая жанчына.
Маленькая дзяўчынка... не, дарослая дзяўчына — невысокая гарбуння
з незвычайна чыстым тварам — прыгладжвае ёй валасы.
Старая маці збянтэжана апраўдваецца перад дапытлівымі:
«Вось... хоча дачка сваю маці на старасці гадоў прыгажуняй зрабіць...»
Дзяўчына весела пырскае ў далоньку...
Падымае вочы і з непрыхаванай любоўю глядзіць на маці.
Тая, саромеючыся староннiх,
з пяшчотай назірае за дачкой, што мітусіцца вакол яе,
пакорліва падстаўляе галаву пад яе клапатлівыя ручкі...
Дапамагаючы, закарузлымі далонямі папраўляе хустку на плячах...

«Няшчасныя...», — усхліпвае ўздых побач.
«Не. Шчаслівыя», — абрывае хтосьці паўшэптам.

***З чачэнскай. Пераклад Марыі КОБЕЦ.***

## Адам АХМАТУКАЕЎ

* * *

Я рос на руках мацярынскіх, узнятых ў малітве,
А моцаю слова мужчын я у бацькі свайго прычасціўся.
Мелодыі песень надзей, што з калыскі вядомы,
Мне зоркамі сталі над дахам знаёмага дома.

«І светлыя тыя шляхі, што нам сем прабацькоў паказалі,
Не вартыя памяці словы, якія наказам не сталі», —
Мне голас дзяцінства ізноў праз туманы ліецца,
Як той запавет, што навечна схаваны у сэрцы.

Святымі рубцамі напеў гэты сэрца мне раніць,
Да волі, надзеі імчыць, да святла мяне вабіць.
Калі я не выпаў тады з мацярынскіх далоней —
Павінны пражыць як мужчына, як бацька, як воін…

* * *

Дзевяноста дзявяты год.
Лета. Кірмаш на плошчы.
Тлумна. Крычыць народ,
А ты зноў хаваеш вочы.

Крыкнуць можа табе?
Лепей пайду насустрач…
У светлай маёй журбе
Памяць слёзы асушыць.

Выйшаў і зноў перасёк
Двойчы табе дарогу.
Быццам па скуры ток —
Мне не адолець знямогу.

Толькі ты моўчкі прайшла,
Пырхнула ў зыркае лета…
Галоўнага я не сказаў —
Сабе не прабачыць гэта.

* * *

Я паслухаю. Ты гавары.
Толькі вельмі прашу: не спяшайся.
Зорка лёсу ўзышла угары —
Ты у самым таемным прызнайся.

Як бы горка мне ні было,
Гэтай памяці даўкі боль
І хвалюе, і радуе кроў,
Быццам ўсё яшчэ не прайшло.

Тваім вобразам дзева адна
Да мяне скрозь мроі гадоў
Самым светлым сумам прыйшла,
На каленях сядзіць ізноў…

Адчуваю подых яе,
Ды яшчэ не магу ўразумець,
Як мне выжыць у той журбе,
Што вуголлем працягне тлець…

* * *

Сняжынкі ў танцы за маім акном.
І казкай белай памяць мне вяртаюць.
Пра тое, што сышло чароўным сном,
Пра тое, што ўжо не павянчаюць

Шчаслівыя усмешкі болей нас.
Памылкі толькі цягнуць зноўку долу.
Агеньчык нашай веры цёплы згас,
Матыў гучыць павольны, невясёлы…

Ды толькі зноў у ледзяным акне
Твой твар каханы маразы малююць.
І светла, і гаротна будзе мне,
Бо нас нябёсы болей не пачуюць.

Няхай той памяці нябачнае крыло
Мяне атуліць, ад бяды схавае.
Усё прайшло, усё даўно сплыло.
І сэрца сціхла, цудаў не чакае…

***З чачэнскай. Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

## Пецімат ПЯЦІРАВА

* * *

Скажы мне, што і ў горняй вышыні
Я ззяю для цябе яскравай зоркай.
Я згодная, як хочаш — падмані…
Грахом не будзе, будзе агаворкай.

Паверу, што я мара, я вясна.
Святой няпраўда стане, без загану.
Не дагаворвай мне, што ёсць Яна,
Сама чакаю ад цябе падману.

Пакуль табой напоўненыя сны,
І думкі, што вясновая паводка,
Ратуй мяне ад чорнай злывады,
Падман хай будзе нам надзейнай лодкай.

І покуль сэрца енчыць у агні,
А думкі топяць глыбкія знадворку.
Ты аддалі мяне… Не, лепей падмані!
Грахом не будзе, будзе агаворкай.

* * *

Твой шлях з маёй сцяжыначкай не ў змове,
Віхляе ён каля суседскіх хат.
Як зразумець, мне нестае любові
Ці ад пачуццяў я хачу зашмат?

Чакаю вестку, каб на кожным слове
Нібы з гары сумневы йшлі на спад.
Як зразумець, мне нестае любові
Ці ад пачуццяў я хачу зашмат?

Здзіўляе смеласць у маёй вымове,
Але сардэчны як суняць разлад?
Як зразумець, мне нестае любові
Ці ад пачуццяў я хачу зашмат?

* * *

Калі мая ў нябёсах згасне зорка
Ці мой прамень твой ранак праміне,
Калі на вусны ляжа прысмак горкі,
Хоць зрэдку, але ўспомні пра мяне…

І як дажджамі ўсхліпне адзінота,
Усход мой перастане чырванець,

Ды разліецца песняю самота,
Хоць зрэдку, але ўспомні пра мяне…

Калі вясной абуджаная кветка
З маёй душою будзе пунсавець.
Нястомным рэхам адгукнуся: «Зрэдку,
Хоць зрэдку, але ўспомні пра мяне…»

* * *

Ты — сонца, што ўзышло з-за хмар,
Герой нязломны, ты — змагар.
А я — бяру нябёсы ў сведкі —
Слабая, ледзь жывая кветка.
Ты наталіў зямлю цяплом,
Каб я жыццё піла нагбом.
Ты — дождж у ліпеньскую спёку,
Нясеш чаканую палёгку.
А я — завялая сцябліна,
На белым свеце сіраціна.
Табой здаволю смагу ўдосталь,
Каб годнасць акрыліла постаць.
Ты ззяеш мне далёкай зоркай,
А я зямным палынам горкім
Святла ўначы здаўна шукаю.
Свой боль, свой лёс ім спавіваю.

***З чачэнскай. Пераклад Іны ФРАЛОВАЙ.***

## Вахід ІТАЕЎ

* * *

Я гваздзікі чырвоныя прынёс —
Пацiснула плячыма і вярнула.
Прынёс фіялкі палявыя —
Яна ж, скрывіўшы вусны, кпіць з мяне.
І ў дом пайшла, і ў адчужэнні бездань.

Адчай свой разарваў я на кавалкі
І дачакаўся жорсткай навальніцы.
Мяцежнікам сляпым кідаўся ў неба,
Сухой маланкі вецце абрубіў,
Прынёс яго і кінуў ёй у вокны.

Імгненне не паспела праляцець —
І адчыніла весніцы імгнення.
І я пачуў яе таропкі шэпт:
— Заходзь, мой віцязь,
Я цябе чакала!

## АННЕ АХМАТАВАЙ

Аднойчы,
Як ад мрояў
Ужо аціхлі гукі дня,
І ўсё вакол даверылася снам,
Ў Аргунскую цясніну я ўвайшоў
І доўга крочыў.
Мой слых Аргун напоўніў
Лагодным буркатаннем.
І тут, зусім знянацку,
Насустрач мне выходзіць ноч,
Гаворыць ціха:
— Прывітанне!
Мяне не пазнаеце Вы?
Я — Анна.
А вобраз месяцовай ночы
Я прыняла наўмысна.
Вас чакала
Я тут, за паваротам,
Ля той вежы.
Я чакала доўга.
Цяпер… паслуга за паслугу,
Мяне праводзьце вы.
Ды ведайце,
Жыву не блізка.
Аж на краі Сусвету,
Дзе зоры вечны прыпыняюць бег
Магічнай і незразумелай моцай
Хадзем.
Паспееце да рання да Каўказа,
Я вам адкрыю таямніцу
Тунэляў свету векавечных.

* * *

Ускрай вуліцы сонца садзілася,
І салома яго жорсткіх промняў,
Бы іголкамі, твар калола.
І жанчына, вельмі зямная,
Ледзь глянуўшы, міма прайшла.
Я ўслед паглядзеў ёй, і раптам
Яна паглядзела таксама.
Імгненне адно нам сказала,
Што падчас не раскажа і век.
Дзесьці было знаёмства,
І каханне плыло.
У Вавілоне, магчыма.
Ці ў пераможным Рыме калісь.
Я адбіў яе звонкім мячом.
Ці ў дзікай мангольскай ардзе

Я браў горад залатагаловы.
І павёз яе ў вольныя стэпы.
Ах, душа,
Бачу, ты пагуляла калісьці,
Бо так часта сваіх пазнаеш.

* * *

У мінулым жыцці,
Калі я быў магутным кракадзілам
І загароджваў шляхі на пераправах
Антылопам гну,
Я думаў дакладна
Ды мэту сваю добра бачыў.
Цяпер я чалавек.
Думак — процьма,
Сумненняў — бездань.
І простага шляху
Не існуе…

***З чачэнскай. Пераклад Валерыі РАДУНЬ.***

## Суліман МУСАЕЎ

### Абавязак

*Апавяданне*

Стары быў хворы. Ужо больш за два тыдні ляжаў ён, прыкаваны да ложка. Вярэдлівы, працяглы боль у грудзях не адпускаў яго ні на імгненне. Па ўсім целе разлілася такая слабасць, што не давала магчымасці яму варушыць ні рукой, ні нагой, але цвярозасць розуму і памяць не змянялі яму. На ўсе ўгаворы сямейнікаў легчы ў бальніцу Азім катэгарычна адмаўляўся, толькі раніцай і ўвечары прыходзіла да іх дзяўчына-суседка, што працавала ў мясцовай бальніцы медсястрой, і рабіла абязбольваючыя ўколы, ды ўрач, якога некалькі дзён таму малодшы сын Ахмед прывозіў да іх дамоў, выпісаў некалькі лекаў. Азім ведаў, што гэтыя лекі не дапамогуць яму і піў, пераадольваючы агіду, толькі для таго, каб не засмучаць сына. Ды і няма на ўсім белым свеце такіх лекаў, якія б выратавалі ад непазбежнага — смерці. Прыйшла яго чарга. Ён ужо размяняў дзявяты дзясятак, няма чаго і Бога гнявіць. Што ж, ён сустрэне гэтае апошняе выпрабаванне ў нашым тленным свеце з імем Усявышняга на вуснах, з годнасцю, як сустракаў за сваё доўгае жыццё ўсе падараваныя Ім радасці і нягоды. Ужо шосты дзень ён не дакранаўся да ежы, але не адчуваў, як ні дзіўна, ні голаду, ні патрэбы ў ёй. Яго паілі булёнамі, пладовымі сокамі, але пасля некалькіх глыткоў ён шчыльна сціскаў вусны (словы прыносілі боль), паказваючы, што болей не хоча. Каля падгалоўя хворага ўвесь час сядзеў адзін з сыноў, намагаючыся прадбачыць любое яго жаданне.

Жаданняў жа ў Азіма не было ўжо ніякіх, хіба толькі каб яго пакінулі аднаго. Але ў гэтым сыны не слухаліся яго і па чарзе дзяжурылі каля ложка бацькі. Старому не хацелася нікога турбаваць, і часам ён з вялікай цяжкасцю

душыў стогн, які ішоў з глыбіняў палаючых жарам грудзей. Зараз яму, відавочна, не ўдалося стрымаць стогн, і ён праз прымружаныя павекі ўбачыў, як пакутліва скрывіўся ад душэўнай пакуты твар сына, напоўніліся вільгаццю яго вочы, быццам боль бацькі па нябачнай нітцы перадаўся яму. Азім пастараўся зрабіць выгляд, што спіць. Можа, пойдзе сын, хаця б часова? У адзіноце і думалася лягчэй. Яму ў яго стане толькі гэта і заставалася: думаць, перажываць сваё жыццё наноў, успамінаць шчаслівыя, радасныя дні такога далёкага зараз дзяцінства.

Маці сваю Азім памятаў цьмяна. Успаміны захавалі толькі надзвычайную цеплыню яе рук, падобныя да цукру зубы, што адкрываліся ў ціхай усмешцы, вялікія цёмныя вочы, якія засцілаліся туманам задуменнасці, калі яна напявала яму якую-небудзь сумную песню. Матыву песні ён не мог потым ажывіць у памяці, як ні спрабаваў, але, здаецца, гэтай песні ён больш ніколі не чуў. Потым яе не стала. Азіма і яго двух братоў выхаваў бацька Керым, які больш так і не ажаніўся. Бацька быў моцным гаспадаром, і сыны раслі падобнымі да яго — працалюбівымі. Керым паставіў на ногі дзяцей, ажаніў іх, двух старэйшых сыноў аддзяліў. Старэйшаму брату Азіма — Ідрысу — бацька выдзеліў невялікі млын, праз які той потым і пацярпеў. Новыя ўлады раскулачылі яго як эксплуататара працоўнага народа, хоць ён не трымаў у сябе ніводнага працаўніка, ды ў іх і патрэбы не было.

У час доўгага шляху — падчас высялення ў 1944-м — у перапоўненым вагоне сканаў стары Керым, і яго цела на адным з заснежаных паўстанкаў вынеслі канваіры. Другі брат Азіма — Хадзіс — памёр у Казахстане на трэці год перасялення, жонка яго вярнулася да сваіх родных. Дзеці Хадзіса памерлі ў першую ж вясну, атруціўшыся нейкай травой. З сям'і Ідрыса ніхто не выжыў. Азім застаўся адзін. Не, не зусім так. Побач з ім усе гэтыя цяжкія часы была Бікату, яго жонка. Як ён удзячны Усявышняму, што паслаў яму ў спадарожніцы такую жанчыну! Гэта яна сваёй моцай духу, сваёй цярплівасцю дапамагла яму цвёрда сустрэць усе ўдары лёсу, не апусціць рукі пры чарговым горы. Некалькі год назад ён страціў яе, і цяпер надыходзіць час іх сустрэчы ў праведным свеце.

Нешта ў горле перасохла. Азім расплюшчыў вочы. У пакоі прыцемак. Хто гэта сядзіць каля ўзгалоўя? Махмуд?

— Махмуд, падай мне вады, — слабым голасам папрасіў ён.

Махмуд хутка наліў мінеральнай вады і, прыўзняўшы за плечы бацьку, паднёс шклянку да яго вуснаў.

— Паеш хаця б крыху, дада[1], — у яго голасе гучала просьба. — Прынесці чэпалгі?[2] Ты ж любіш іх. Хаця б пакаштуй!

— Не хочацца мне, Махмуд, — ён зрабіў некалькі глыткоў, і сын паклаў яго назад на падушку. — Ідзі, адпачні крыху, ты ўжо даўно тут сядзіш. Мне нічога не трэба, — перамагаючы боль, прамармытаў Азім.

— Я не стаміўся. Можа, чагосьці іншага пад'ясі, дык ты скажы.

Стары слаба пахітаў галавой, паказваючы, што нічога не хоча, і зноў заплюшчыў вочы.

Добра ён пражыў сваё жыццё, шчыра. І гора, і радасць сустракаў аднолькава, бо ведаў, што ўсё ад Алаха. Быў працалюбівым, справядлівым да ўсіх. За гэта яго і паважалі суседзі, аднавяскоўцы. І дзеці ў яго былі добрыя. Чаты-

[1] Зварот да мужчыны.

[2] Традыцыйная чачэнская ляпёшка з пшанічнай мукі, хатняга тварагу, яек, цыбулі, масла.

ры сыны і дачка. Усе знайшлі сваё месца ў жыцці: сыны жанатыя, працуюць усе, дачка замужам. Унукаў дванаццаць. Ніхто не можа нічым папракнуць ні Азіма, ні яго дзяцей.

Успаміны зноў перанеслі яго ў мінулае. Вось ён з аульскай дзятвой катаецца па ваколіцах на санках. Ва ўсіх дзяцей ад доўгага знаходжання на холадзе пачырванелі твары і рукі, але ніхто не спяшаецца дамоў. Санкі ў Азіма самыя лепшыя, хуткія, ён ганарыцца імі. Іх падарыў яму гэтай зімой брат Хадзіс: сам ён ужо выйшаў з дзіцячага ўзросту. З-за пагорка каля крайняй хаты аула паказваецца Хадзіс. Ён вядзе каня на вадапой. Тады Азім так разганяецца, перш чым упасці на свае санкі, што даязджае амаль да рэчкі. Потым падымаецца і з гонарам глядзіць у бок брата.

А вось усе яны, браты і бацька, у лесе. Яны прыйшлі сюды па жэрдкі для новага плота. Бацька выбірае прыдатныя дрэўцы і ссякае іх, Адрыс абцярэблівае ад непатрэбнага вецця, а яны з Хадзісам адносяць гатовыя жардзіны да фурманкі. Як добра летам у лесе! Ганарліва высяцца стогадовыя чынары і гонкія сосны, дзесьці кукуе нябачная зязюля. Віецца між дрэў, цурчыць ручаёк. Тут не адчуваецца ліпеньская спякота. Пакуль Ідрыс цярэбіць ствол ад вецця, яны з Хадзісамназіраюць за работай бацькі. Бацька, закасаўшы рукавы, абыходзіць дрэўца, прыдзірліва разглядаючы яго, потым, узяўшыся рукой за ствол, узмахвае сякерай, і р-раз! — ссечаны адным ударам малады граб павольна, чапляючыся веццем за дрэвы, валіцца на зялёны дыван. Азім любуецца спраўнай работай бацькі і марыць хутчэй пасталець, каб вось так жа лёгка і прыгожа арудаваць сякерай. У бацькі любая работа ідзе спорна.

— Чаго стаіш, рот разявіўшы? Глядзі, каб муха не заляцела! — дзелавіта прыкрыквае тым часам Хадзіс, узяўшы больш тоўсты канец ужо гатовай жэрдкі. Бацька стрымана ўсміхаецца, Ідрыс смяецца.

Паступовa гэты малюнак цьмянее і яго змяняе іншы. Азім бачыць сябе ўжо юнаком. Ён едзе праз лес на сваім кані Цешам. Звычайна спакойны, на гэты раз ён не змог стрымацца ад патоку неўтаймоўных пачуццяў, саскоквае з каня і зухавата танцуе вакол бярозкі лезгінку. Потым, схамянуўшыся, аглядаецца вакол. «Бачыў бы хто мяне, падумаў бы — малодшы сын Керыма звар'яцеў», — усміхаецца ён і ўскоквае на каня. Чаму гэта ён такі вясёлы? А-а, тады Азім вяртаўся з суседняга аула, куды ездзіў на спатканне са сваёй нявестай Бікату! Два гады заляцаўся ён да гэтай ганарлівай сястры сямі братоў. Сёння ён адправіўся да яе з веселуном і жартаўніком Ясо, сваім суседам і сябрам, і вось ужо едзе дамоў з хусткай, якую яна дала як заруку свайго кахання і вернасці слову! Ясо застаўся пагасцяваць у свайго стрыечнага брата.

Азім дастае з-пад пахі пунсовую хустку, прыкладае яе да твару і глыбока ўдыхае пах, што хвалюе яго ўяўленне. Раптам злева, за дзвесце метраў, пачуўся стрэл. Азім спыніўся і прыслухаўся. Здаецца, ля дарогі. Что ж там здарылася? Ён спешыўся, узяў каня за аброць і накіраваўся ў той бок. Хутка да яго слыху данесліся гучныя галасы. Прывязаўшы каня да дрэва і вызірнуўшы з густых зараснікаў ляшчыны, ён убачыў фурманку, што стаяла сярод дарогі, на ёй, прыціснуўшы рукі да грудзей і шырока расплюшчыўшы вочы ад жаху, сядзела дзяўчынка гадоў васьмі-дзесяці. Паклаўшы руку на кінжал, каля фурманкі стаяў мужчына гадоў пяцідзесяці, у зношаным бешмеце, чорнай авечай папасе. Вакол іх на выдатных скакунах гарцавалі тры коннікі, узброеныя стрэльбамі. У аднаго з іх у правай руцэ быў рэвальвер — відаць, гэта ён страляў.

— Ехалі б вы сваёй дарогай, — пачуў Азім роўны голас мужчыны, што стаяў каля фурманкі, — не бралі б грэх на душу.

Азім пазнаў яго. Гэта Умар, яго аднавясковец. У яго быў невялікі пладовы сад, і ён штогод вазіў яблыкі і грушы на продаж у горад. Акрамя таго, Умар быў аульскім актывістам, хоць і не ўступаў у партыю.

— Вах-ха-ха, — смачна рассмяяўся невядомы з пісталетам. — Ты чуў, Асвад? «Грэх на душу!» Ды мы зробім богаўгодную справу, калі прыстрэлім цябе, вырадак, які прадаўся за міску юшкі Саветам. Але я сёння добры. Так што, выкладай выручку, распрагай каня і выбірайся адгэтуль, пакуль я не перадумаў.

— Пасаромеўся б, калі не маёй сівізны, дык хаця б гэтай дзяўчынкі, — спакойна вымавіў Умар.

— Няма чаго віхляць! Распрагай давай каня! — выказаў нецярплівасць Асвад, малады коннік, які апынуўся ў гэты час побач з зараснікам, наўпрост спінай да Азіма. Палец яго быў на курку стрэльбы, гатовы націснуць на яго ў любую хвіліну.

— Хутчэй, калі хочаш жыць! — гаркнуў той, што з пісталетам. Відавочна, ён быў у іх галоўным.

— Хасолт, давай раз’едземся кожны сваёй дарогай, — гэтак жа спакойна сказаў Умар, сціскаючы рукаяць кінжала. — Калі ты пра мяне чуў, табе павінна быць вядома, што, пакуль я жывы, вы не атрымаеце ні каня, ні рубля грошай ад мяне!

Умар быў удзельнікам грамадзянскай вайны з белымі і здабыў сабе славу бясстрашнага воіна. Расказвалі, што ў час Стодзённых боек з белаказакамі Бічарахава ў Грозным пры чарговай вылазцы горцаў ён апынуўся ў акружэнні пяці ўзброеных казакоў. Закалоўшы ў рукапашнай схватцы трох ворагаў кінжалам, ён вырваў у чацвёртага пісталет і, зрашэціўшы з яго двух астатніх, вярнуўся да сваіх.

— Пазнаў, сабака! — прашыпеў Хасолт, і Азім заўважыў, як ён зрабіў амаль нябачны знак свайму таварышу Асваду — таму, хто быў спінай да Азіма.

Пра Хасолта, завадатара шайкі, чуў і Азім. У тыя гады ў гарах і лясах хавалася нямала абрэкаў, барацьбітоў з новай уладай (прычым шмат хто з іх у недалёкім мінулым ваяваў і супраць царскай улады), якія карысталіся павагай і падтрымкай адной часткі насельніцтва і нянавісцю іншай, лаяльнай да Саветаў. У той жа час былі і такія, хто, называючы сябе абрэкамі, займаліся адкрытым рабаваннем. Іх народ пагардліва называў «куракрадамі». З іх ліку быў і Хасолт. У п’янай звадцы ён забіў свайго аднавяскоўца і, хаваючыся ад кроўнікаў, стаў на шлях «абрэцтва».

Асвад падняў стрэльбу і нацэліўся. Азім, з намерам кінуцца да яго, пацягнуўся да кінжала і тут толькі заўважыў, што трымае ў руках нешта мяккае. Гэта была хустка, якую ён атрымаў сёння ад Бікату. Сотні думак роем закружыліся ў галаве. Гэтыя тры маюць агнявую зброю. Ён са сваім кінжалам нічым не зможа дапамагчы Умару. Толькі дарма загіне. Ён успомніў вочы Бікату, перад яго позіркам узнікла яе ўсмешка. Няўжо ён яе больш не ўбачыць?..

Пачуўся стрэл, адразу ж за ім немы крык дзяўчынкі.

Азім ужо адышоў ад месца трагедыі на некалькі крокаў, калі прагучаў другі стрэл…

Стары пачаў кідацца ў ложку. Ужо другія суткі памяць паказвала перад ім адну і тую ж карціну юнацтва. «О Алах, за што? Чаму ты адняў у мяне мужнасць у той дзень? Чаму зараз устрывожаная памяць упарта вяртае мяне ў адзін і той жа дзень?»

Здавалася б, той выпадак даўно ўжо схавалі за сабой за доўгае жыццё іншыя падзеі, больш ці менш знамянальныя. Але не. Як увесну, калі растае снег, з’яўляюцца ўсё новыя астраўкі чорнай зямлі, так і ў свядомасці праз чараду ўсіх падзей выразна, да самых драбніц, вымалёўваецца той злашчасны дзень позняга лета.

Дом Азіма замёр у трывожным чаканні. Хворы быў ужо зусім слабы. У яго пакоі сабраліся ўсе чатыры яго сыны. Двое старэйшых, змяняючы адзін аднаго, бесперапынна чыталі над Азімам «Ясін». Прыходзілі родныя, суседзі, аднавяскоўцы, цікавіліся яго здароўем. З цяжкасцю перасоўваючыся, прыйшоў Ясо, іх сусед.

— Як бацька? — спытаўся ён у Махмуда, які выйшаў сустракаць яго.

— Вельмі слабы. Ужо другі дзень непрытомны, — ціха адказаў той.

— Э-эх, жыццё наша! — стары прысеў на табурэт. — Жывём, круцімся, мітусімся, як мурашы, але для кожнага прыходзіць дзень, калі трэба прыняць непазбежнае. Але не падай духам, на ўсё воля Алаха! Будзем спадзявацца, што Азім акрыяе.

Пасядзеўшы яшчэ крыху, Ясо пайшоў дамоў.

Але Азіму не станавілася лепей. Знешне ён быў нерухомы, але ў памяці зноў і зноў перажываў той выпадак шасцідзесяцігадовай даўніны, паверыўшы, што Бог за маладушнасць прымушае яго бясконца адчуваць сорам і ганьбу за свой учынак. Вось і зараз ён зноў апынуўся каля той дарогі супраць сваёй волі, убачыўшы скрыўлены ад нянавісці твар Хасолта, пачуўшы яго словы:

— Пазнаў, сабака!

Але што гэта? Такое адчуванне, быццам не памяць узнавіла перад ім гэты малюнак, а ён сам праз дзесяцігоддзі неверагодным чынам перанёсся ў той дзень. Вось ён адчувае на сваім твары ласкавы павеў летняга ветрыку… Ён чуе шоргат лісця… Удыхае водар лясных траў, змяшаны з пахам конскага поту. У правай руцэ сціскае мяккі шыфон хусткі. Няўжо ён ужо памёр і ў якасці пакарання за сваю баязлівасць асуджаны зведаць гэтыя вечныя пакуты?

Асвад падняў стрэльбу. Раздумваць не было калі. Азім хутка засунуў хустку глыбока пад паху і, выхапіўшы кінжал, выскачыў з зарасніку. Асвад азірнуўся на хруст вецця, але Азім быў ужо побач і ўзмахнуў кінжалам. З адсечанай рукі фантанам забіла кроў. Стрэльба ўпала разам з рукой. Асвад дзіка закрычаў, конь ірвануўся, і ён зваліўся на зямлю. Каб спыніць кроў, ён заціснуў рану рукой і з рыкам качаўся па зямлі. Азім падскочыў да аслупянелага ад нечаканасці Хасолта і ўжо занёс руку для ўдару, краем вока заўважыўшы, як у бойку, выхапіўшы кінжал, ірвануўся Умар, і тут невядомая сіла рэзка штурхнула яго ў спіну, і ён паваліўся на зямлю за два метры ад Хасолта. Гэта стрэліў другі таварыш Хасолта.

«Трэба было спачатку расправіцца з ім. А Хасолт аказаўся не такім ужо і смельчаком», — паспеў падумаць Азім, перш чым знепрытомнець.

— Я выканаў свой абавязак, — прашаптаў хворы, — я выканаў свой абавязак!

Ён расплюшчыў вочы і азірнуўся. «Што гэта было, сон?» — пранеслася ў галаве думка. Убачыўшы побач з сабой усіх сваіх дзяцей, ён слаба ўсміхнуўся. Папрасіўшы вады, Азім зрабіў некалькі глыткоў і доўга моўчкі глядзеў пасвятлелым позіркам на іх. Потым адкінуўся на падушку, заплюшчыў вочы, глыбока ўздыхнуў і заціх.

Вялікі, прасторны двор Азіма поўны людзей. Выказаць спачуванні людзі прыязджаюць нават з далёкіх вёсак. З хаты выносяць закручанага ў саван нябожчыка і кладуць на дыван. Мужчыны ўстаюць на паласы і дываны, якімі

ўсланы двор, і здзяйсняюць над ім намаз. Затым, паклаўшы нябожчыка на насілкі, з гучным зікрам — рэлігійным спевам — накіроўваюцца на могілкі. Пад павеццю на доўгіх лаўках застаюцца сядзець толькі некалькі старых, каб прымаць спачуванні людзей, што ўсё прыходзяць. Сярод іх і Ясо. Хутка да яго падсаджваецца Зубайр. Ён лічыцца чалавекам набожным, праведным, і яго часта запрашаюць, каб абмыць памерлага. Зубайр некаторы час сядзіць, павольна перабірае тасбіх. Відавочна, што яму не дае спакою нейкае пытанне. Нарэшце, схаваўшы тасбіх у нагрудную кішэню і падсеўшы да старога яшчэ бліжэй, ён ціха пытаецца:

— Ясо, ты ж добра ведаў Азіма?

— Азіма? Я? Ды я з ім, можна сказаць, разам вырас. Да высялення жылі побач, дзятвой разам бегалі, юнакамі хадзілі на вячоркі, белхі. Мы былі неразлучныя, як браты. У Казахстане апынуліся ў адной вёсцы. І пасля вяртання пасяліліся побач, — стары задумаўся і сумна дадаў: — Усё жыццё былі побач. Цяпер я застаўся адзін. Відаць, і мая чарга недалёка.

— А дзе яго паранілі?

— Паранілі? — здзіўлена перапытаў Ясо. — Не быў ён ніколі паранены! Ды і дзе яго маглі параніць?! На вайне ён не быў. Хадзіў некалькі разоў у ваенкамат, ды не ўзялі яго. Не быў ён ніколі паранены, — упэўнена паўтарыў ён.

— Я чаму пытаюся, — знізіў голас да шэпту Зубайр, — Азім з'яўляецца для мяне, як ты ведаеш, далёкім сваяком, і я таксама ніколі не чуў пра яго раненне. Але я абмываў яго цела і бачыў шнар — след ад кулявога ранення, бачна, што скразнога. Куля прайшла ўсяго за тры пальцы ад сэрца, — ён разгублена пацiснуў плячыма.

— Шнар?! Не можа быць! — Ясо выпрастаўся.

Памаўчаў хвіліну і дадаў:

— Наогул, здаецца мне, была нейкая гісторыя яшчэ да яго вяселля… У лесе, па-мойму, ён натрапіў на бандытаў… — голас яго гучаў няўпэўнена. — Не, гэта я блытаю. Гэта быў нехта іншы, а не Азім…

Падумаўшы яшчэ крыху, ён з жалем паматаў галавой:

— Э-эх, памяць! Быццам сіта, нічога ўжо не трымае.

У гэты час на двор прыйшла для спачуванняў новая група людзей, і ўсе ўзнялі рукі. Ясо шаптаў словы малітвы, аднак думкі яго былі далёка, у пошуках адказу на гэтае хвалюючае пытанне.

***З чачэнскай. Пераклад Бажэны МАЦЮК.***



**Таццяна ФІЦНЕР**

# ЖАНОЧАЯ ЭМАНСІПАЦЫЯ ПРАЗ ПРЫЗМУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ 20-Х ГАДОЎ ХХ СТАГОДДЗЯ

Жаночая эмансіпацыя (эмансіпацыя — «вызваленне ад якой-небудзь залежнасці» [1]) — гэта прадастаўленне жанчынам раўнапраўя ў грамадскім, працоўным і сямейным жыцці; імкненне да роўных правоў мужчын і жанчын.

Даследчыкі-сацыёлагі, што аналізуюць савецкія гендарныя адносіны, вылучаюць у іх чатыры перыяды. Нас у дадзеным даследаванні цікавіць першы, паслярэвалюцыйны, межы якога — 1918 — пачатак 1930-х гадоў. «Кон вызначае яго як перыяд бальшавіцкага эксперыментавання ў сферы сексуальнасці і сямейна-шлюбных адносін. Гейл Лапідус называе яго перыядам палітычнай мабілізацыі жанчын, або перыядам жанаддзелаў. У цэлым бальшавіцкі перыяд можа быць прадстаўлены як гендарная палітыка рашэння жаночага пытання з дапамогай дэфамілізацыі і палітычнай мабілізацыі жанчын», — зазначаюць расійскія навукоўцы [2, с. 304]. (Дэфамілізацыя — «магчымасць годнага жыцця незалежна ад шлюбнага статусу, наяўнасці сям'і і характару ўнутрысямейных адносін, што дасягаецца пасродкам занятасці або сацыяльнага забеспячэння» [3]).

Нягледзячы на тое, што праграма вырашэння «жаночага пытання ў Беларусі, як і ў СССР», сфармуляваная ў 1920-я гг., была на той час «прагрэсіўнай і ліберальнай», сёння відавочна, што практыка яе вырашэння «з'явілася адной з самых вялікіх гістарычных містыфікацый» [4]. Замест эмансіпацыі савецкая жанчына атрымала трайную (дом, праца, грамадскія абавязкі) і часта непасільную нагрузку, пры гэтым так і не атрымаўшы «права рэальна вызначаць свой лёс» [4]. Каб зразумець гэта, патрэбен быў час, а ў 20-я гады мінулага стагоддзя (прынамсі, у арганізатараў) была вера ў магчымасць рэалізацыі такога праекта.

«Сведкамі» ажыццяўлення афіцыйнай гендарнай палітыкі ў Савецкай краіне з'яўляюцца, акрамя дырэктыўных дакументаў партыі і дзяржавы, прававых актаў рознага ўзроўню, дакументаў грамадскіх арганізацый, афіцыйных СМІ і інш., мастацкія тэксты, напісаныя ў той час. Адразу варта зазначыць, што праблема жаночай эмансіпацыі мала даследаваная беларускімі пісьменнікамі ў 20-я гады ХХ стагоддзя. Магчыма, патрэбен быў час для яе асэнсавання, а яго якраз і бракавала маладой беларускай літаратуры (30-я, а потым і 40-я гады адцягнулі ўвагу пісьменнікаў ад гэтай тэмы па прычыне вядомых гістарычных падзей). Героем часу і адпаведна галоўным персанажам твораў мастацкай літаратуры па-ранейшаму быў мужчына. Тыя нешматлікія творы, у якіх усё ж прадстаўлены вобраз «новай жанчыны» (фармулёўка А. Калантай) [5], не з'яўляюцца лепшымі ў скарбонцы аўтараў, як правіла маладых, якія толькі заяўлялі аб сабе. Усё ж у асобных творах М. Зарэцкага, К. Чорнага, старэйшага за іх З. Бядулі гэтая праблема (хоць у большасці схематычна, аднабакова) абазначылася. Праблема жаночай эмансі-

---

***Фіцнер Таццяна Адамаўна,*** *дацэнт кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны, кандыдат філалагічных навук.*

пацыі асэнсоўвалася аўтарамі ў празаічных творах *малой* формы, напісаных у 1924—1925 гг., калі праца аддзелаў па рабоце сярод жанчын (жанаддзелаў), што ажыццяўлялі іх палітычную мабілізацыю, закранула самыя аддаленыя беларускія вёскі. Гераінямі твораў названых аўтараў сталі якраз сялянкі. Ніжэй будуць разгледжаны блізкія па ідэйнай скіраванасці і пафасе апавяданні — «Гануля» М. Зарэцкага, «Дэлегатка» З. Бядулі і «Радасць жанчыны» К. Чорнага.

Перш чым перайсці да іх аналізу, мэтазгодна ўзгадаць, што *жанаддзел* — партыйная структура, створаная па ўказанні ЦК РКП(б) у 1918—1920 гг. пры ўсіх ЦК нацыянальных кампартый, абласных і павятовых партыйных камітэтах. Мэтай жанаддзелаў якраз і была «барацьба за ўраўноўванне ў правах жанчын і мужчын, барацьба з непісьменнасцю сярод жаночага насельніцтва, інфармаванне аб новых умовах працы і арганізацыі сям'і» [6]. Ініцыятарам іх стварэння была Аляксандра Калантай (яна ж і Інэса Арманд сталі першымі загадчыкамі Цэнтральнага жанаддзела). Праіснавалі жанаддзелы да 1929 г. і былі прызнаныя немэтазгоднымі. Насамрэч, дзяржава не мела сродкаў на ажыццяўленне іх праграм.

На думку даследчыкаў, былі і іншыя прычыны скасавання жанаддзелаў. Так, дзяржава наогул «не прызнавала наяўнасці ў жанчын спецыфічных інтарэсаў, якія б адрозніваліся ад агульнакласавых» [4]. Да ўсяго, жанаддзелы праводзілі палітыку, адрозную ад партыйнай [4], што магло прывесці да перараджэння іх у аўтаномныя арганізацыі, да ўзнікнення «феміністычных ухілаў» [2], што не ўваходзіла ў планы партыі. І, нарэшце, «гендарная палітыка дзяржавы станавілася больш жорсткай і была перагледжана ў кантэксце задач сацыялістычнай мадэрнізацыі 1930-х гадоў» [2].

Акрамя жанаддзелаў гендарная палітыка бальшавікоў з 1918 года забяспечвалася створаным зверху рухам жаночых мас — *дэлегацкімі сходамі*. «Дэлегаткі, згодна з квотай, выбіраліся на вытворчых сходах работніц і накіроўваліся на палітычнае навучанне, арганізаванае жанаддзеламі. Дэлегаткі праводзілі палітыку жанаддзелаў на месцах, прадстаўляючы ўзоры грамадскай актыўнасці работніц і сялянак» [2, с. 308]. Стаўленне да жанаддзелаў і дэлегацкіх сходаў было неадназначным і сярод членаў партыі, і ў іншых сацыяльных пластах. Пра гэта сведчылі пратэсты мужоў «супраць разняволення жонак», што выяўляліся ў спальванні папер жанаддзелаў, пісьмы работніц у рэдакцыі часопісаў жанаддзелаў («Работница», «Крестьянка», «Комсомолка») пра канфліктныя сітуацыі ў сям'і, у наіўнай «агітпропаўскай» прозе гэтых часопісаў [2].

Адной з мэтавых груп уздзеяння бальшавіцкай палітыкі, як зазначалася, з'яўляліся «найбольш свядомыя сялянкі» [2, с. 307], як правіла, бядначкі, якія вымушаны былі самі клапаціцца аб сабе з-за абставін, што скласіся ў іх жыцці. Мастацкую рэалізацыю праектаў савецкай улады па разняволенні жанчын-сялянак якраз і паказалі М. Зарэцкі, З. Бядуля і К. Чорны ў згаданых вышэй апавяданнях. Менавіта такімі з'яўляюцца гераіні твораў: Гануля з аднайменнага апавядання М. Зарэцкага (1924), Аўгіня з апавядання З. Бядулі «Дэлегатка» (1925) і Ганна з апавядання К. Чорнага «Радасць жанчыны» (1925). Пры параўнальным аналізе спынімся на трох момантах: 1) мінулым гераінь, 2) пераломным момантце ў іх лёсе і 3) новай, светлай будучыні, якія, на наш погляд, дэманструюць эвалюцыю гераінь, ступень іх эмансіпіраванасці і выяўляюць тыпалагічнае падабенства твораў.

Мінулае ўсіх трох жанчын-сялянак падобнае і вызначаецца неўладкаваным асабістым жыццём, фізічна цяжкай сялянскай працай, беднасцю, не- ці малапісьменнасцю, беспрасветнасцю і нават беспрытульнасцю:

— гераіня М. Зарэцкага, маці-адзіночка Гануля, у нядаўнім мінулым бяздомная парабчанка (*«А цяпер Гануля — дзеўка старая. <...> І цяпер пры Ганулі дзіцёнак, хлопчык сінявокі»* [7, с. 159]). З аповеду пра сябе і самахарактарыстыкі гераіні, якой яна шчыра падзялілася з прадстаўніцай жанаддзела, паўстае наступная карціна: «*Нічога не маю, за кавалак хлеба хаджу на падзёншчыну. А часамі — зусім няма чаго есці. Дзіцёнак малы. <...> Я... так сабе... дзеўка... <...> Была ў нас*

*хатка старэнькая, дык, як матуля памёрла, яна брату дасталася. А ён прагнаў мяне* ***пасля таго*** (вылучана намі. — *Т. Ф.*)... *Жыву цяпер, дзе прыйдзецца, куды пусцяць*» [7, с. 159—160]. Як відаць з прыведзенай цытаты, Ганулеля стала бяздомнай «*пасля таго*», то бок пасля нараджэння пазашлюбнага дзіцяці.

З гісторыі вядома, што «адным з першых дэкрэтаў савецкай улады ў правах ураўноўваюцца дзеці, народжаныя ў шлюбе і па-за ім. Такім чынам, з права выключаецца катэгорыя незаконнанароджанага дзіцяці і змяняецца стаўленне да "пазашлюбнай маці"» [2, с. 306]. Аднак сяляне былі той сацыяльнай катэгорыяй, якая ў большасці сваёй прытрымлівалася традыцыйнага сямейна-гендарнага ўкладу, патрыярхальных нормаў, пры якіх асуджалася пазашлюбнае мацярынства. Такі падыход якраз і дазволіў брату Ганулі выгнаць сястру з бацькоўскай хаты. Праблемы, звязаныя з выхаваннем дзіцяці (і маральныя, і матэрыяльныя), кладуцца на плечы гераіні, гэта плата за неадпаведныя грамадскай норме паводзіны. Нават найменшую іх частку не прымае на сябе ні біялагічны бацька, ні родныя (у дадзеным выпадку брат) Ганулі, не дапамагае ёй (на гэтым этапе жыцця) і дзяржава. Як бачна з тэксту, на сацыяльную неўладкаванасць гераіні накладваецца і гендарная дыскрымінацыя. У адзначаны перыяд на савецкіх прадпрыемствах праводзілася палітыка сацыяльнага забеспячэння жанчыны. Клопат аб дзецях бралі на сябе савецкія выхаваўчыя ўстановы. Правы жанчыны-маці забяспечваліся магчымасцю адпаведнага звароту ў суд з мэтай прызначэння аліментаў дзіцяці ад бацькі, пры гэтым бацькоўства вызначалася па заяве маці. І такая практыка мела месца, але гэта наўрад ці тычылася вёсак.

Мінулае Аўгіні З. Бядулі — руплівай «старой гаспадыні», прыкутай да печы, адчайна цярплівай, неадукаванай ды абмежаванай — выпісана на яе твары, які *«прывык штодня моршчыцца ад плачу, і іншы выгляд ён ужо прыняць не можа»* [8, с. 174]. Апавядальнік зазначае, што Аўгіня *«<...> ведае толькі хату, поле сваё і той блакітны блін неба, які вісіць у яе над галавой»* [8, с. 174]. Яе жыццё калі і вылучаецца на агульным фоне жыцця вясковых кабет, то толькі большай няміласцю лёсу да яе: маючы агрэсіўнага мужа-п'яніцу (*«Прыдзе Яўхім (муж Аўгіні) п'яны і зараз жа бярэцца біць жонку. За што? Чаму?»* [8, с. 174]), Аўгіня яшчэ і бяздзетная *(«Дзяцей у Аўгіні няма»* [8, с. 174]). Бяздзетнасць сям'і адна з магчымых прычын такіх адносін Яўхіма да жонкі, бо на той час такая *сямейная* праблема звычайна лічылася *жаночай*... Бяспраўнасць, безабароннасць, ды яшчэ маўклівасць Аўгіні таксама дадавала імпэту нецвярозаму мужу, бо *«як на чужых наступіш, дык яны, — дзіўная рэч, — як тая качарга, зараз-жа на лоб Яўхіма наскочаць. Ён, хоць п'яны ўдрызг, а гэтага не любіць»* [8, с. 174]. Даўно ўжо змірылася з такім станам рэчаў Аўгіня, бо жыла з вялікай, выратавальнай да пэўнага часу ўпэўненасцю ў тым, што *«Так трэба!»* [8, с. 174], сфарміраванай патрыярхальнымі ўстаноўкамі грамадства. Праблема насілля і прававой неабароненасці жанчыны ў сям'і выходзіць за межы дадзенага даследавання, аднак узгадаем як найбольш вядомы і паказальны прыклад з айчыннай літаратуры трылогію Я. Коласа «На ростанях», дзе «падлоўчы (бацька Ядвісі) звёў сваю жонку са свету і застаўся без пакарання» [9].

Мінулае Ганны К. Чорнага — незамужняй 35-гадовай, яшчэ прыгожай вясковай жанчыны-дзяўчыны (наўмысная аўтарская загадка/правакацыя ці ненаўмысная недакладнасць), што жыве *«пры брату»*, неадукаванай, абмежаванай жыццём у межах адной вёскі, разам з тым чулай, здольнай да самарэфлексіі — сялянская праца з самага ранку (*«Пасля доўгай ночы дзень прабіваўся праз маленькія аконцы паволі і нясмела. І яшчэ доўга да гэтага ўставала Ганна»* [10, с. 113] і да позняга вечара (*«<...> часам у цемнаце вечара яшчэ хадзіла па полі...»* [10, с. 113]), папрокі брата і яго жонкі дармаедствам, калатня ў хаце, чаканне нечага светлага, *«на што было ў Ганны так многа надзей»* [10, с. 114]. Аднастайнае жыццё і час зрабілі сваю справу, таму надзеі з'яўляліся ўсё радзей і *«пакідалі пасля сябе надоўга тупое незадавальненне і смутак»* [10, с. 114]. Светлыя надзеі-спадзяван-

ні тычыліся асабістых планаў дзяўчыны ці нечага іншага, з тэксту не зразумела. Адметнасць данага твора ў тым, што наогул цяжка размежаваць у ім мінулае (падаецца праз апавядальніка і ўнутраныя маналогі гераіні ў І і ІІ частках), сучаснае і будучае. Чытач «пражывае» з гераіняй адзін, і той нават няпоўны, дзень, але ён адметны, больш таго, вырашальны для ўсяго далейшага жыцця Ганны.

Класічна апавяданне падае «адзін вызначальны выпадак, здарэнне ў жыцці чалавека» [11, с. 173]. У кожным з аналізуемых твораў прысутнічае свой **выпадак**, які стаўся апошняй кропляй цярпення гераіні і справакаваў яе пераўвасабленне, прывёў да кардынальных змен у жыцці:

— для Ганулі М. Зарэцкага — гэта прыезд у вёску прадстаўніцы жанаддзела, асабістая размова з ёю. Гануля, у адрозненне ад пераважнай большасці жанчын, якія не паставіліся да сказанага *«гарадской»* сур'ёзна, інтуітыўна адчула ў яе словах ратунак для сябе, разгледзела сваю будучыню: *«Гарадская доўга з Ганулян гаварыла. <...> І пачало ў Ганулі нешта расквітаць усярэдзіне. Сярод чорнай беспрасветнасці пачалі мігаць ружовыя праменні надзеі. Часамі смяялася Ганулька. Невыразная радасць дух уздымала.*

*— А мо што і будзе? Хоць бы пад старасць дажыць...»* [7, с. 160];

— для Аўгіні З. Бядулі выпадкам, што раптоўна змяніў *«яе вечнае “так трэба” на “так не трэба”»* [8, с. 177] становяцца чарговыя пабоі неапахмеленага (*«ніводнай пляшкі сівухі не дастаў — баяліся даць»* [8, с. 176]) мужа. Яго бядзе паспрыяў сялянскі сход супраць самагоншчыкаў. Яўхім, перабіўшы ўсё ў хаце, *«накінуўся на сваю жонку... Пачаў яе біць»* [8, с. 176—177]. Аднак незвычайная рэакцыя Аўгіні, якая ўпершыню *«падняла громкае галошанне-выццё»* [8, с. 177], спыніла яго. Гэтае здарэнне абудзіла думкі гераіні і разам з імі *«крыўду на мужа, на сваю вечную пакорлівасць, на сваю цемнату...»* [8, с. 177]. *«Рэвалюцыя нібы абмінула іхнюю хату»* [8, с. 174], — зазначае аўтар. Пасля згаданага здарэння Аўгіня сама пайшла «даганяць» яе ў вясковую хату-чытальню, *«дзе можна гаварыць аб усім, нават аб сваіх крыўдах...»* [8, с. 178].

— для Ганны К. Чорнага паваротам да новага жыцця сталася чарговая неабгрунтаваная агрэсія з боку нявесткі і брата (*«<...> падбегла Аляксеева жонка і ўпілася Ганне ў валасы. Ганна хацела бараніцца — з енкам падняла руку ўгору, ды падскочыў Аляксей і даў Ганне кулаком у плечы. І Ганна вырвалася і з плачам выбегла на вуліцу і пайшла па ёй, затуліўшыся вялікаю хусткаю»* [10, с. 115]), якая паскорыла сустрэчу гераіні з прадстаўніцай жанаддзела ў суседняй вёсцы, куды Ганна забрыла, развейваючы сваю роспач пасля сямейнага здарэння. Яна слухала, як прыезджая жанчына распавядала пра *«цемнату жыцця»* і вучыла, што *«трэба ўсім разам і выходзіць на светлую дарогу», «трэба арганізавацца».* Пасля сходу адбылася шчырая, даверлівая размова паміж імі: *«І сказала Ганна па дарозе аб усім, што было ў яе нявыказанае. А тая раптам, як сястра, пачала пра сябе гаварыць»* [10, с. 119].

Тыпалагічная блізкасць твораў выявілася і ў тым, што кожны з аўтараў **будучае** сваіх гераінь паказаў як лепшае за ранейшае, што можна трактаваць як пазітыўнае стаўленне да вырашэння жаночага пытання з дапамогай жанаддзелаў, да палітыкі маладой дзяржавы. І гэта цалкам зразумела, калі браць пад увагу той факт, што М. Зарэцкі, З. Бядуля і К. Чорны на час напісання твораў уваходзілі ў літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», члены якога лічылі сябе «закліканымі ствараць новую, пралетарскую літаратуру» і творчасць якіх адрозніваў «пафас адмаўлення старога». Аналізуемыя апавяданні з'яўляюцца тыповай раннемаладнякоўскай бадзёра-ўзвышанай, прасякнутай аптымізмам прозай. Але звернемся да тых перамен, што адбыліся з гераінямі апавяданняў пасля вышэй згаданых выпадкаў. У кожным з твораў пра іх паведамляе апавядальнік, які выступае адначасова «ў ролі сведкі і інтэрпрэтатара паказаных асоб і падзей» [12, с. 337], выяўляе псіхалагічны, ідэалагічны і нават гендарны пункт гледжання «на тое, што падаецца».

Так, будучае Ганулі адзначана:

— па-першае, зменамі ў яе ўнутраным свеце (*«І пачало ў Ганулі нешта расквітаць у сярэдзіне... Невыразная радасць дух уздымала»* [7, с. 160]);

— па-другое, пераменамі ў стаўленні да гераіні з боку вяскоўцаў (*«Усе паважаць сталі Ганулю. Нават мужчыны <...>. Увосень у сельскі Савет Ганулю выбралі»* [7, с. 162]). На гэта моцная палова вяскоўцаў адрэагавала наступным чынам: *«Што ж. І бабы не ўсе бабы. Часам і разумныя бываюць...»* [7, с. 162]. Наогул жа сяляне не жадалі абіраць жанчын куды б ні было, бо лічылі, што жанчына не здольная выконваць функцыі кіравання, а таксама засцерагаліся, што грамадская праца адцягне яе ад хатняй справы і ад сям'і [4]. Апошняе, праўда, мала тычылася маці-адзіночкі Ганулі;

— па-трэцяе, канкрэтнымі дзеяннямі Ганулі, што выявіліся ў арганізацыі падчас летніх палявых работ ясляў (*«Надышло лета. <...> На гародах, у полі мурашкамі людзі запоўзалі. <...> Занылі працоўныя плечы. Цяжка... Ганулі таксама — хоць разарвіся. У цеснай хацёнцы — пузатымі клёцкамі поўзаюць. Гвалтуюць на весь шырокі дзіцячы рот. Сапраўднае пекла. Свежы чалавек звар'яцее, калі зойдзе ў хату. Але Ганулі нішто»* [7, с. 161]), а затым і пральні (*«Вам жа цяпер, цётачкі, вопраткі памыць няма часу. Вось бы я і мыла патроху»* [7, с. 162]); а ўзімку чытальні (*«Гануля газеты чытае сялянам, тлумачыць усё чыста, што сама ведае, чула»* [7, с. 163]); зімой адбылася і першая ў вёсцы пастаноўка спектакля (*«Гануля таксама іграла на сцэне. Што ж, што старая трохі... Абы дух малады!»* [7, с. 163]).

Зразумела, што шлях Ганулі да актыўнай грамадскай дзейнасці, нягледзячы на аўтарскае прыхарошванне сітуацыі, яе спрошчванне, не мог быць роўным і гладкім. У межах апавядання аўтар не выявіў усёй складанасці ўнутраных трывог і перажыванняў гераіні, адно ўказваў на іх кароткімі заўвагамі, напрыклад: *«Гануля трохі пісьменная была. Кніжкі чытала ноччу пры лучыне. Удзень хоць бы і быў час — нельга, засмяюць. І то трохі кпілі: грамацейкай празвалі»* [7, с. 160]. У творы М. Зарэцкага не акцэнтуецца ўвага на любоўна-інтымных перажываннях Ганулі, толькі згадваецца яе кароткае дзявочае шчасце і пазнейшая пакута, дзявочае красаванне-цвіценне і страта прыгажосці. Змест жыцця «новай жанчыны», на думку А. Калантай, не зводзіцца да любоўных перажыванняў, «каханню пачынае адводзіцца тое падначаленае месца, якое яно займае ў большасці мужчын» [5, с. 24]. І гэтая выснова цалкам слушная ў дачыненні да гераіні М. Зарэцкага, якая «не культывуе» ў сабе пачуцці і ўспаміны, не жыве мінулым, а змагаецца за сваё (і дзіцяці) выжыванне, стварае сваю будучыню. Толькі часам, зазначае апавядальнік, пры жарце кагось з вясковых кабет адносна арганізаваных ясляў, што *«замужам не была, а дзяцей — поўная хата»*, *«Ганулі нешта ў сэрца кальне. Успомніцца старое: тыя сонечна-светлыя дзянькі, зорныя ночы. Возьме яна тады свайго Яначку, шчыльней прытуліць, галоўку сукрыстую гладзіць. Песціць сумна-ласкавым поглядам. Але ненадоўга гэта. Усміхнецца апошняй, смутнай усмешкай і — зноў замітусілася па хаце»* [7, с. 161]. Актыўнасць гераіні, як сведчыць фінал твора, не засталася незаўважанай — у хуткім часе Ганулю запрашаюць на працу ў павятовы жанаддзел.

Будучае Аўгіні таксама адзначана шматлікімі дасягненнямі, якія, на наш погляд, аўтарам-апавядальнікам падаюцца ідэалізавана (з элементамі казачнасці), таму малапераканаўча: *«Нібы ў казцы цудоўнай, перад Аўгіняй разгарнулася новае цікавае жыццё»* [8, с. 180]. Заўважна, што пераўвасабленне гераіні адбываецца занадта хутка. Перамен у яе жыцці і рэальных дзеянняў гераіні ў творы апісана многа, але за які тэрмін яны адбыліся, апавядальнік не канкрэтызуе. Часавыя межы твора не акрэсленыя, часавая арганізацыя дзеяння сціснутая «з-за ўшчыльнення мастацкага матэрыялу» [11, с. 156]. Кардынальныя змены адбыліся, згодна з тэкстам, без вялікіх фізічных і душэўных намаганняў Аўгіні, за выключэннем працэсу навучання грамаце. Гэты эпізод падаецца аўтарам метафарычна, з выкарыстаннем разгорнутых параўнанняў *(«Аркуш паперы здаваўся ёй велізарным*

*жытнім полем, якога яна не здолее зжаць»* [8, с. 180]) і можа лічыцца асобным мікрааповедам у творы. З. Бядуля, як і М. Зарэцкі ў апавяданні «Гануля», фіксуе змены, што адбыліся з Аўгіняй. Гэта тычыцца:

— па-першае, яе ўнутранага свету (*«<...> зусім іншым чалавекам зрабілася»* [8, с. 180]), што выявілася ў росце яе самапавагі як выніку навучання грамаце, штодзённым наведванні хаты-чытальні, дзе жанчына даведалася *«шмат цікавых рэчаў»*, а потым і выступленнях на сходах з прамовамі. Як слушна зазначае Т. Вароніч, «удзел у сходах даваў актывісткам некаторую магчымасць атрымаць веды па знешняй і ўнутранай палітыцы дзяржаў, усведаміць свае правы ў сям'і і грамадстве, адчуць самакаштоўнасць сваёй асобы» [4], што і дэманструе вобраз гераіні З. Бядулі;

— па-другое, адносін у сям'і (*«<...> яе муж Яўхім пачаў менш піць і зусім перастаў біць яе, узяўся за наладжанне сваёй гаспадаркі»* [8, с. 179]);

— па-трэцяе, знешняга выгляду гераіні (*«Яе новае жыццё, цікавая праца знялі з яе твару вечны выраз плачу: вочы былі спакойныя, задумлённыя і смелыя, зморшчыны згладзіліся»* [8, с. 181]).

Пры выкананні грамадскіх абавязкаў таксама (бясспрэчна) былі поспехі, закладзеныя ранейшай працаздольнасцю і руплівасцю Аўгіні: *«Яе талент <...> да сялянскай працы пераліўся цяпер у яе новую грамадзянскую працу. А разам з гэтым яна не менш, чым раней, працавала і ў хаце»* [8, с. 180]. Апошнюю заўвагу аўтара варта пракаментаваць. Ужо акцэнтавалася ўвага на тым факце, што сяляне небеспадстаўна баяліся, каб грамадская праца не адцягнула жанчын ад хатняй справы і сям'і. Як відаць з тэксту, з Аўгіняй гэтага не адбылося, яна аднолькава добра спраўлялася з падвойным цяжарам: і з грамадскімі абавязкамі, і з хатняй працай. Магчыма таму, што ўся сям'я Аўгіні — муж (які нарэшце сам узяўся за гаспадарку), кот ды певень. Часта рэакцыя мужоў на грамадскую дзейнасць жонак, як адзначалася вышэй, была негатыўная. Што пацвярджае і паблажліва-крытычная заўвага мужчын-аднавяскоўцаў адносна грамадскай дзейнасці гераіні М. Зарэцкага, маці-адзіночкі Ганулі: *«Што ж. Ёй вальней, часу хопіць. Гаспадаркі не мае, не звязана нічым»* [7, с. 162]. Грамадская актыўнасць гераінь аналізуемых твораў звязана не толькі з пострэвалюцыйнымі пераўтварэннямі жыцця, іх сацыяльным паходжаннем (неабходнасцю выжывання), а вынікае з неўладкаванага / неаброненага асабістага жыцця жанчын. Разам з тым пісьменнікі падкрэсліваюць іх дзейсны характар.

Што да Аўгіні, то яна ў хуткім часе стала аўтарытэтам для вясковых кабет, «будзіла» іх, цёмных, да лепшага жыцця, вырашала іх крыўды, была побач у святы (на чырвоных хрэсьбінах або вяселлях). А пазней *«<...> набыла да сябе павагі не толькі ў роднай вёсцы, але ва ўсім сельсавеце», «яе заўсёды выбіралі дэлегаткай на з'езды кабет-працаўніц»* [8, с. 180], дзе яна адстойвала інтарэсы сялянак. У выніку ўся ваколіца стала зваць Аўгіню «дэлегаткай».

Спецыфіка твора К. Чорнага ў тым, што будучае Ганны вынесена за межы апавядання, але яна ўнутрана зусім ужо гатовая да тых змен, якія яно прынясе, бо доўга і павольна «ішла» да іх, з маладосці задумвалася над існуючым станам рэчаў (*«у зусім маладыя гады пачала яна думаць»* [10, с. 113].). Канфлікт з братам толькі паскорыў надыход таго новага, што несла з сабою гендарная палітыка бальшавікоў у асобе «стрыжанай». Вобраз Ганны найперш раскрываецца праз яе ўнутраныя маналогі, якія аўтар выкарыстоўвае ў момант знаходжання гераіні ў крытычнай сітуацыі, у хвіліны яе найвышэйшага напружання, роспачы, напярэдадні прыняцця лёсавызначальнага рашэння. Дзякуючы ўнутраным маналогам, чытач мае магчымасць назіраць за зменамі ў пачуццях Ганны, яе думках, за якімі варта чакаць дзеяння: *«<...> пачалі патроху знікаць у Ганны крыўдныя і горкія пачуцці ад свайго жыцця, а сталі наплываць думкі. <...> Вось тут і там, пад гэтымі стрэхамі, жывуць людзі. Жывуць яны ў цемнаце і гразі, і многія з іх думаюць, што толькі і свету, што тут, пад гэтымі шэрымі стрэхамі. <...> І рап-*

*там стала шкада Ганне ўсіх гэтых людзей. Прапала свая ўласная крыўда, зусім прапала, без следу. І брат Аляксей, які пабіў нядаўна яе, стаў родным і блізкім. Стала невыразна шкада яго, хворага і ад гэтага сярдзітага чалавека»* [10, с. 116]. Чужое гора «адкрывае» Ганне вочы. Яна разумее, што яе жыццёвая сітуацыя — не выключэнне, так жывуць многія, нават не задумваючыся аб прычынах такога жыцця. Як больш свядомая, Ганна перажывае не толькі за сябе, гатовая мяняць не толькі сваё жыццё, а і паказваць шлях у лепшае будучае іншым: *«А нешта трэба рабіць, цягнуць некуды гэтых людзей...»* [10, с. 117]. Пастаянная самарэфлексія Ганны раптоўна «выбухнула» праграмай дзеяння, хоць і неакрэсленай. Упарадкаванасць яе думкам надала прадстаўніца жанаддзела. Яе словы ўпалі на падрыхтаваную глебу.

Чытач вольны дадумаць магчымыя варыянты далейшага жыцця Ганны, аднак, якімі б яны ні былі, зразумела, што жыццё гераіні зменіцца да лепшага. Як адзін з верагодных варыянтаў — яна зможа працаўладкавацца ў жанаддзел і матэрыяльна ўтрымліваць сябе, а значыць не залежаць больш ад брата і яго сям'і. Не выключаны нават пераезд на жыхарства па месцы працы.

Прадстаўленая эвалюцыя гераінь у кожным з трох прааналізаваных твораў выяўляецца адметна. У апавяданні М. Зарэцкага — гэта эвалюцыя жанчыны-сялянкі, маці-адзіночкі, малапісьменнай Ганулі ад бяздомнай парабчанкі да супрацоўніцы павятовага аддзела *«па працы сярод кабет»* [7, с. 163]. Пры гэтым Ганулі была першай у вёсцы жанчынай, якая пачала на практыцы здзяйсняць новую палітыку дзяржавы. У творы З. Бядулі мы назіраем эвалюцыю бяздзетнай, неадукаванай жанчыны-сялянкі, «*прыкутай*» да «вечнага агню» печы Аўгіні ад хатняй гаспадыні, якая не мае свайго голасу, да грамадска актыўнай жанчыны-дэлегаткі. Аўгіня, у адрозненне ад Ганулі, далучылася да таго новага, што ўжо прынесла рэвалюцыя ў жыццё вёскі, але якое жанчыну да пэўнага часу не тычылася і не хвалявала. У апавяданні ж К. Чорнага выяўлена не падзейная, а ўнутраная эвалюцыя гераіні (Ганны), яе рэальных дзеянняў у творы яшчэ няма, але яна гатовая да іх і рашучая ў сваёй гатоўнасці, што не выклікае сумненняў у яе далейшай паспяховай дзейнасці ў якасці прадстаўніцы жанаддзела: *«<...> заўтра скажу я ўсім аб тым, што стала мне ясным сягоння; папярэджу я словам сваім прыезд к нам заўтра гэтай старшай нашай сястры. Няхай я першая, можа пакуль што адна, але падтрымаю гэты светлы прыход у маю вёску, бо прыход гэты — збавенне ад горычы жыцця...»* [10, с. 119].

Тыпалагічнае падабенства апавяданняў выяўляецца і пры апісанні аўтарамі прадстаўніц жанаддзелаў:

— па-першае, яны не маюць імёнаў (К. Чорны «Радасць жанчыны»: *«тая»*, *«стрыжаная»*; М. Зарэцкі «Гануля»: *«тая, з горада»*, *«гарадская»*; З. Бядуля «Дэлегатка»: *«супакоілі цётку Аўгіню камсамолкі»*);

— па другое, іх адрознівае ад вясковых кабет вопратка і нехарактэрныя для жанчын-сялянак таго часу кароткія валасы (*«<...> на прызбе стаяла ва ўвесь рост незнаёмая жанчына, адзетая ў сінім, падстрыжаная»* [10, с. 117]);

— па-трэцяе, жанчыны-актывісткі спачувальна ставяцца да гераінь твораў, вабяць іх сваёй адкрытасцю, шчырасцю, уменнем слухаць і пераконваць.

Стаўленне ў мастацкіх тэкстах да іх неадназначнае: вобразы актывістак станоўчыя з пункту гледжання апавядальніка, бо нясуць новае, лепшае жыццё. Характарыстыка ж, якую ім даюць іншыя героі твораў, не заўсёды станоўчая. Сялянская грамада ўспрымае іх як чужых (*«Усміхаліся ядавітымі ўхмылкамі бабы і мужчыны ў грамадзе, гледзячы на гэтую жанчыну»* [10, с. 117]). Жанчыны-сялянкі ставяцца нават варожа і здзекліва (*«Ды гэта з горада, ужо другі раз прыехала, лахудра гэтая; па вёсках строіцца аб'язджаць. Падгаварвае на нешта»* [10, с. 117]; або: «*Нялюба бабам, што жыццё іх кратаюць, ды варушаць, ды пераглядаюць з усіх бакоў. Прывыклі ў запечны...*» [7, с. 160]. Разам з тым тэксты сведчаць, што калі прадстаўніцай жанаддзела (ці дэлегаткай) станавілася

кабета са сваёй вёскі, то паважалі яе і жанчыны, і нават мужчыны-аднавяскоўцы (*«Ахвотна слухалі Ганулю, дарма што баба. Слухалі, бо зналі, што яна ўсё добра разрахуе — што каму, нікога не пакрыўдзіць»* [7, с. 162]; *«Калі хто з бяднячак была чым пакрыўджана — ішла за парадай да Аўгіні»* [8, с. 180]).

Напрыканцы зазначым, што аўтары-маладнякоўцы не былі настолькі празорлівыя, каб паказаць вынікі працы жанаддзелаў для далейшага развіцця грамадства, змены гендарнай парадыгмы, бо працэс толькі пачынаўся. Усё ж некаторыя праблемы, звязаныя з палітыкай дзяржавы ў адносінах да жанчын праз жанаддзелы і дэлегацкія сходы, пісьменнікі агучылі. У цэлым працэс эмансіпацыі жанчыны ў прааналізаваных апавяданнях падаецца М. Зарэцкім, З. Бядулем і К. Чорным як станоўчы.

У дадзеным кантэксце нельга не ўзгадаць апавяданне М. Зарэцкага «Дзіўная», у якім аўтар агучвае тую ж праблему. Але гэта адметны, больш сталы, псіхалагічна ўскладнены твор (хоць таксама маладнякоўскі) і, на наш погляд, патрабуе асобнага падрабязнага аналізу.

## Спіс літаратуры:

1. Общий толковый словарь русского языка [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://tolkslovar.ru/ie1444.html. — Дата доступа: 05.05.2017.

2. Здравомыслова, Е. А., Тёмкина, А. А. Государственное конструирование гендера в советском обществе / Е. А. Здравомыслова, А. А. Тёмкина // Журнал исследований социальной политики. — 2003. — Том 1 (3/4). — С. 299—321. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://ecsocman.hse.ru/data/072/627/1-219/zdravomyslova_temkina_gosudarstvennoe_konstruirovanie. — Дата доступа: 14.01.2018.

3. Ярская-Смирнова, Е. Р. Социальная политика и социальная работа: гендерные аспекты / Е. Р. Ярская-Смирнова [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://nashaucheba.ru/v62025/ярская-смирнова_е.р._социальная_политика_и_социальная_работа_гендерные_аспекты?page=2. — Дата доступа: 15.01.2018.

4. Вароніч, Т. Сацыяльны і палітычны статус беларускай жанчыны. У новай і найноўшай гісторыі / Т. Вароніч // Беларускі калегіюм [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/varonicz_02.htm. — Дата доступу: 05.05.2017.

5. Коллонтай, А. Новая женщина / А. Коллонтай [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.odinblago.ru/novaia_moral/1. — Дата доступа: 10.09.2017.

6. Щурко, Т. «Женское предназначение», или Как а Беларуси экономят на социальной сфере / Т. Щурко // Новая Эўропа. — 2014. — от 30 января [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://n-europe.eu/article/2014/01/30/zhenskoe_prednaznachenie_ili_kak_v_belarusi_ekonomyat_na_sotsialnoi_sfere. — Дата доступа: 03.09.2017 г.

7. Зарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Зарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 1989. — Т. 1. — 526 с.

8. Бядуля, З. Збор твораў: у 4 т. / З. Бядуля. — Мінск: Дзяржвыдавецтва БССР, 1951. — Т. 1. — 451 с.

9. Фіцнер, Т. А. Праблема гендарных узаемаадносін у творчасці класікаў беларускай літаратуры ХХ стагоддзя / Т. А.Фіцнер // Роднае слова. — 2010. — № 1. — С. 20—23.

10. Чорны, К. Збор твораў: у 6 т. / К. Чорны. — Мінск: Маст. літ., 1988. — Т. 1. — 431 с.

11. Яцухна, В. І. Тэорыя літаратуры : дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей ВНУ / В. І. Яцухна; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь,

Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2006. — 279 с.
12. Хализев, В. Е. Теория литературы: учебник / В. Е. Хализев. — 3-е изд., испр. и доп. — М.: Высш. шк., 2002. — 437 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 16 студзеня 2018 года.

## Рэзюмэ

Таццяна ФІЦНЕР

## Жаночая эмансіпацыя праз прызму беларускай літаратуры 20-х гадоў ХХ стагоддзя

УДК 821.161.3
У артыкуле аналізуюцца тыпалагічна блізкія апавяданні М. Зарэцкага («Гануля»), З. Бядулі («Дэлегатка») і К. Чорнага («Радасць жанчыны»), у якіх асэнсоўваецца гендарная палітыка Савецкай дзяржавы, у прыватнасці, вырашэнне жаночага пытання, у першае дзесяцігоддзе яе існавання. Эвалюцыя жаночых вобразаў твораў, супастаўленне іх мінулага жыцця і новай рэчаіснасці сведчаць, што працэс эмансіпацыі жанчыны падаецца аўтарамі як пазітыўны.

**Ключавыя словы:** апавяданне, праблематыка, жаночыя вобразы, эвалюцыя гераіні, гендарная палітыка, жаночая эмансіпацыя.

## Summary

Tatsiana FITSNER

## Women's emancipation through the prism of Belarusian literature of 20-ies years of XX century

The article analyzes typologically close stories by M. Zaretsky («Ganulya»), S. Byadulya («Delegatka») and K. Chorny («The Joy of a Woman»), in which the gender policy, in particular, the solution of the women's question, of the Soviet state is being realized at the first decade of its existence. The evolution of female images in the works, the comparison of their past lives and new reality demonstrate that the process of women's emancipation is presented by the authors as positive.

**Keywords:** story, problems, female images, the evolution of the heroine, gender policy, women's emancipation.



**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# ГЛЫБІНЯ СПАСЦІЖЭННЯ КЛАСІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

***Жук, І.*** *Прыхінуцца да крыніцы / І. Жук. — Гродна: ГрДУ, 2017. — 235 с.*

Аўтарытэт Ігара Васільевіча Жука бясспрэчны. Навуковец, кожнае выступленне якога было важкім, слушным, глыбокім. І. Жук пісаў пра важнае, сутнаснае, асэнсоўваў ключавыя пытанні беларускай літаратуры, культуры, нацыянальнай жыццястойкасці. Быў першапраходцам у літаратуразнаўстве — даследаваў рытм як выражэнне нацыянальнага менталітэту (манаграфія «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання»).

Найважнейшай праблеме беларускай культуры — асэнсаванню *Беларускага шляху*, ключавых пытанняў нацыяўсведамлення прысвечана апошняя кніга даследчыка, якая пабачыла свет пасля заўчаснага сыходу І. Жука і была падрыхтавана ягонымі вучнямі і калегамі — «Прыхінуцца да крыніцы».

Аўтар звярнуўся да пераасэнсавання твораў нацыянальнай класікі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. І зварот гэты не выпадковы. Менавіта класічныя творы выступаюць квінтэсэнцыяй як светапоглядных пошукаў нацыянальнай літаратуры, так і ўвасабленнем яе нацыянальнай самабытнасці. Гэтыя праблемы пастаянна знаходзіліся ў полі зроку даследчыка (манаграфіі «Сустрэчны рух», «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання»).

Ігар Жук у сваёй рабоце ўздымаецца да навуковых абагульненняў на філасофскім узроўні. Нельга не пагадзіцца з аўтарам прадмовы да манаграфіі І. Штэйнерам («Вянок айчыннага літаратуразнаўства»), які піша пра тое, што «Прыхінуцца да крыніцы» — гэта не набор асобных артыкулаў аднаго аўтара, а сапраўды Кніга, прадуманая, вывераная, з дакладнай і важкай канцэпцыяй. Аналагічна высокі статус — Кніга — атрымаў у свой час «Вянок» М. Багдановіча. «Вянок» тут таксама ўспрымаецца як даніна памяці даследчыку, як «Вянок» М. Багдановіча — даніна памяці С. Палуяну.

Іван Штэйнер называе навуковую манеру гродзенскага даследчыка «высакароднай», самога аўтара — «вялікім вучоным», сцвярджае, што ён «стварыў

уладную методыку даследавання, якая роўнавялікая пошукам еўрапейскага літаратуразнаўства» [9, с. 5—6].

У цэнтры разваг І. Жука — праблема ўсведамлення класічнай літаратурай спецыфікі Беларускага шляху, ключавая для нацыянальнага прыгожага пісьменства і культуралогіі вось ужо цэлае стагоддзе — ад твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага да Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка. Можна прыгадаць і багаты навуковы дыскурс: І. Канчэўскі, Ул. Самойла, Ант. Луцкевіч, В. Ластоўскі, Ул. Конан, М. Тычына, І. Бабкоў, В. Булгакаў, А. Рагуля і многія іншыя.

Мастацкі твор — феномен перш за ўсё эстэтычны, але ў пэўныя перыяды развіцця літаратура прымае на сябе іншыя функцыі: філасофіі, нацыястварэння. Менавіта такая сітуацыя склалася ў нас у пачатку XX стагоддзя. Беларуская літаратура была не толькі прыгожым пісьменствам, але і выконвала ролю генератара нацыянальна-цывілізацыйных сімвалаў, выступала пэўным спосабам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Тэзіс пра літаратурацэнтрызм беларускай нацыі з’яўляецца бясспрэчным. Так, І. Афанасьеў піша: «Расейцы шануюць сваю культуру як спараджэнне гісторыі. Беларусы намагаюцца зрабіць з нацыянальнай культуры (і літаратуры) падмурак гісторыі» [4, с. 7].

Менавіта ў пачатку XX стагоддзя ў значнай меры закладваліся асновы асноў нацыянальнага прыгожага пісьменства, «код сістэмы», які, як адзначаў А. Яскевіч, «колькі б потым ні мянялася мастацтва і ў якія новыя, адпаведныя часу формы не адзявалася, заўсёды будзе несці ў сабе яе ўнутраную нацыянальна спецыфічную сутнасць, яе аснову, яе класічную меру і заключаную ў яе прыродзе патэнцыю» [10, с. 151], а далейшае развіццё нацыянальнага мастацкага слова «самавызначаецца ў адносінах да гэтага цэласна-гарманічнага яе стану» [10, с. 153].

Сцвярджэнне самабытнасці беларускай нацыі, выпрацоўка канцэпцыі **Беларускага шляху**, вербалізацыя поглядаў беларуса на свет і чалавека былі магістральнымі ў гісторыі нашай літаратуры XX стагоддзя.

Вызначальныя інтэнцыі нацыянальнага прыгожага пісьменства першай трэці XX стагоддзя — сцвердзіць Беларусь і беларускасць. А галоўнай «эпічнай падзеяй» (Г. Штонь) гэтага часу стала паўстанне Беларусі.

Манаграфія «Прыхінуцца да крыніцы» складаецца з двух раздзелаў — «“Шляхам жыцця” Янкі Купалы: вянок трыпціхаў» і «Якуб Колас: Patria eterna».

Здавалася б, колькі напісана вартых навуковых работ, прысвечаных асэнсаванню творчасці класікаў, але І. Жук пазначае новыя, філасофскія ракурсы даследавання. Даследчык піша: «Твор значны, вялікасны даецца чытачу «навырост». Мы толькі-толькі дацягваемся да яго некаторых дасягальных зместавых вышынь, а ён адштурхоўваецца ад чарговай ступенькі эмпірыкі — і зноў расце ўвысь. І так бясконца: першасная змястоўная гарызанталь разбурае ўстойлівасць сваіх межаў пастаянным памнажэннем на новыя і інакшыя вымярэнні мастацкіх сэнсаў паэмы. Натуральна, такое адбываецца не безадносна да тэксту, а ў тых выпадках, калі некаторыя апазнавальныя знакі знаходзіліся ўжо ў першаснай матэрыі твора» [7, с. 165].

Параграф манаграфіі «Трыпціх першы: відзенне Бацькаўшчыны» прысвечаны асэнсаванню творчасці Янкі Купалы. Работу І. Жука вылучае вельмі ўдумлівае і скрупулёзнае прачытанне твораў паэта: «У Купалы адбываецца пераход ад эмпірычна назіральнай побытавасці да быццёвасці, калі, звычайна, усе вонкавыя прыкметы «шляху» становяцца або лёсам літаратурнага героя, або складаюцца цэльным чалавечым характарам. У Купалы ж метафізіка шляху стала і лёсам літаратурнага героя, і, як аказалася, яго асабістым грамадзянскім і жыццёвым лёсам» [7, с. 27—28].

Надзвычай цікавымі, эўрыстычнымі бачацца назіранні над рытмічнай арганізацыяй Купалавых твораў: «Сам вялікі, сэнсава значны дзяржаватворны панятак «Беларусь» нібы створаны быў для анапестычнага памеру (параўн. палітычна-геаграфічныя назвы краін-суседзяў: «амфібрахійнай» Расіі, «харэічнай» Польшчы ці «ямбічнай» Літвы)» [7, с. 110].

Ігар Жук здолеў пабачыць і расшыфраваць у класічных творах новыя глыбокія сэнсы. У сацыяльнасці твораў Якуба Коласа (другі раздзел манаграфіі) разгледзеў увасабленне агульнакультурных кодаў: «Гэта ў Я. Коласа атрымліваецца на дзіва паслядоўна: сацыяльны дыскурс тэксту не проста адлюстроўвае мову гістарычных абставін канца XIX стагоддзя. Ён мае больш важкі эстэтычны аргумент — прарастае кодамі мастацкага эстэтычнага бачання агульнакультурных планаў» [7, с. 167].

Асэнсоўваючы паэму «Новая зямля», І. Жук гаворыць пра адпаведнасць твора не менш як «нацыянальным **анталагічным** запатрабаванням»: «…мастацкаму ж твору калі наканавана неўміручасць, то палягае яна не ў вонкавай сферы, не ў тым, што падпарадкоўваецца закліканым на дапамогу «жыццям» вонкавага тэзаўрусу, не ў самым коле сацыяльна і культурна абумоўленых абставін ці іх выпадковым збегу, а ў глыбінных нетрах праднаканаванай анталагічнасці, г. зн. у такой якасці, калі ў ладзе індывідуальнага мастацкага мыслення вырашаліся чаканні несканчонага ліку шматлікіх папярэднікаў і прадугадваюцца вераемнасныя хады мастацкіх шуканняў наступнікаў. Гаворка, такім чынам, пойдзе пра ўключанасць «Новай зямлі» ў нашы нацыянальныя анталагічныя запатрабаванні» [7, с. 133]. І крыху ніжэй: «Чым далей адыходзіць ад нас гістарычны час, адлюстраваны ў паэме, тым настойлівей адкрываецца твор глыбіннымі анталагічнымі сэнсамі: сацыяльная “энцыклапедыя” перанараджаецца нацыянальнай “легендай”» [7, с. 164]. Даследчык адзначае, што паэма «выходзіць з цела слова і становіцца realiora мастацкага духу» [7, с. 135].

Аўтар разважае пра схаваныя ў паэме «прароцтвы і тайнапіс нацыянальна-духоўнага ДНК». І сапраўды ў «Новай зямлі» зашыфраваны быццёвы і быційны вопыт нацыі. А. Анціпенка пісаў, што «нацыянальны тэкст ёсць найвышэйшай праявай творчага нацыянальнага духу, крэатыўных здольнасцей нацыі. Ён утварае культурніцкую прастору жыццяздольнасці нацыі… і ў кожнай сваёй новай генерацыі нацыя мае магчымасць самааднаўлення сябе праз прачытанне гэтага Тэксту» [3, с. 44]. У пэўныя гістарычныя перыяды і ў пэўных нацый менавіта літаратура, па сцвярджэнні І. Бабкова, выступае «ўніверсальным тыпам пісьма, межы якога супадаюць з межамі нацыянальнай культурнай прасторы» [5, с. 7].

У свой час Ул. Конан назваў паэму «Новая зямля» Якуба Коласа «эстэтычнай экзістэнцыяй беларуса». Гэта твор, дзе ўвасоблены Космас нацыянальнага быцця, побыт і светапогляд, выяўлены адметнасці нацыянальнага характару і хранатопу. А. Адамовіч лічыў паэму першым беларускім раманам [1]. І. Жук разглядае яе як **метатэкстуальную метафару:** « “Новая зямля” сёння — уся цалкам метатэкстуальная метафара. Славутая энцыклапедыя сялянскага жыцця «ўспамінае» сябе зараз у новай якасці — у якасці метафары, тым самым вызваляючы «зямныя», «сялянскія» канкрэты для іх анталагічнага асэнсавання» [7, с. 135—136].

Ігар Жук сцвярджае, што паэма сцягвала «разрэджаную прастору» анамальнага беларускага літаратурнага развіцця ў адзіны згустак, у адзінае эстэтычнае асяроддзе [7, с. 138], піша пра «шматслойны паэтычны дыскурс «Новай зямлі» («эпас, падтрыманы метафарай, метафара, прапісаная паверх эпічнай») [7, с. 139], называе паэму «вялікасным эстэтычным феноменам — нацыянальным эпасам вершаванай форме» [7, с. 147]. А эпас, як вядома, — гэта найбольш аб’ектыўная мадэль самаацэнкі нацыі.

Даследчык асэнсоўвае ўвасабленне ў паэме Якуба Коласа «манументальнай быційнай свядомасці», глыбінных нацыянальных першавобразаў-архетыпаў, ментальна-псіхалагічных комплексаў, нацыянальна-іманентнае.

Аўтар манаграфіі адзначае арыгінальнасць характару будовы паэмы, дзе праз апісанне лёсу адной сям’і ўзнаўляецца лёс цэлай нацыі: «Сям’я — самадастатковыя душэўныя светы, і іх так многа, і яны такія запамінальныя! — вырастае ў эпас таксама праз метафару сям’і як нацыі. Лёсы выводзяцца з сямейнай хронікі воляю аўтара ў нешта значна большае — у вялікія працэсы гісторыі…» [7, с. 139]. І тут даследчык піша пра ўнікальнасць паэмы Якуба Коласа ў еўрапейскім кан-

тэксце, дзе адсутнічае «вершавана-эпічная мастацкая структура “ўласная сям’я”»: «Спаборнічаць з ім (творам. — *А. М.*) няма каму нават у еўрапейскай літаратуры» [7, с. 139].

Ігар Жук гаворыць пра пазачасавасць паэмы Якуба Коласа, яе выключны мастацкі патэнцыял, «прыхаваныя і нявідныя па часе матыўныя патэнцыі, вобразныя алюзіі і намёкі»: «І калі наноў актуалізуюцца ўніверсаліі вобразнай памяці, калі культурна-вобразныя пасылы перакрыжоўваюцца знітаваннем новых семантычных якасцяў, тады і адбываецца «дарастанне» грамадскай свядомасці да адной з новых і чарговых ступенек зашыфраванай універсальнай мастацкай інтуіцыі, ведання і вопыту, да чарговага расчытання эстэтычных кодаў, якія ў творы дрэмалі да пары да часу, а зараз пачалі адкрывацца сэнсамі невыпадковых прароцтваў. У такія моманты твор ужо не расцягваецца на цытаты, універсаліі падказваюць і ажыўляюць першапачатковыя коды мастацкага тэксту новымі ўяўленнямі — твор пачынае дзіўна свяціцца *цалкам*, споўнены незвычайнай тайны мастацкага ўвасаблення анталагічнасці нацыяльнага быцця» [7, с. 145].

Канцэптуальным момантам разважанняў І. Жука з’яўляецца сцвярджэнне пра **гістарычны ракурс,** увасоблены ў паэме: «Лічу гэты момант — момант ва ўсім растворанай і ўсім эстэтызаванай гісторыі — падкрэсліць неабходным асабліва з тае прычыны, што і сама тэма шляху ў «Новай зямлі» была не проста тэмай сялянскага шляху — яна замыслялася, гістарызавалася і эстэтызавалася як тэма шляху *беларускага чалавека* наогул» [7, с. 152]. Падобны аспект твора вылучаны гродзенскім даследчыкам упершыню. І тут І. Жук палемізуе з аўтарытэтным польскім даследчыкам Р. Радзікам, які сцвярджаў наступнае: «Ніякай ідэалогіі, апрача ідэалогіі «кавалка хлеба», у беларускай паэме няма. Гэты твор практычна па-за часам, па-за гісторыяй, па-за ідэалогіяй — і па-за нацыяй» [8, с. 292], «беларускасць, у яе розных тэрміналагічных разнавіднасцях, згадваецца з нагодаў тапанімічна-побытавых, а не нацыянальна-гістарычных. За «беларускімі» азначэннямі хаваецца, хутчэй, этнаграфічны змест, а не надлакальная, «вышэйшая» — нацыянальная — культуры» [8, с. 293].

Ігар Жук піша менавіта пра «мару-ілюзію» Якуба Коласа «новага этнічнага ўладкавання», пра тое, што «Якуб Колас *сам* пастаянна карэктуе сацыяльныя парыванні герояў гісторыка-нацыянальнымі абставінамі іх дзеяў» [7, с. 152].

Падобнае прачытанне ўздымае твор Якуба Коласа на ўзровень нацыянальна-ідэалагічны. Таму што менавіта гістарычнае вымярэнне, гістарычны ракурс фарміруе нацыю. Вядома, што адчуванне нацыянальнай прыналежнасці мае як прасторавае, так і часавае вымярэнне. Згодна з Б. Андэрсанам нацыя — гэта супольнасць са сваім мінулым, сучасным і будучыняй [6]. Нацыянальная гісторыя — гэта своеасаблівы наратыў, які будуецца на аснове пэўных гістарычных падзей і асоб. Выбар гэтых падзей залежыць ад запатрабаванняў нацыі ў асэнсаванні яе сучаснага становішча. Невыпадковым у гэтым кантэксце выглядае выбар Якубам Коласам Віленскага наратыву.

Падарожжа ў Вільню дзядзькі Антося ацэньваецца І. Жуком як «выхад да трансцэндэнтных каштоўнасцяў»: «Маштаб паэмнага жанру выгнуў ход першаснага побытавага бачання дзядзькі ў Вільні з вонкавай прастаты вершаванага і трохі жартаўлівага апавядання ў нешта змястоўна і функцыянальна больш значнае — у глыбінны эпічны роздум пра шлях нацыянальны: *Колас марыў пра Айчыну*. А Айчыны акурат і не магло існаваць у паэме без хоць якой-небудзь алюзіі на яе гістарычную трываласць» [7, с. 171].

Узыходжанне дзядзькам Антосем на гару Гедыміна трактуецца І. Жуком як «метафарычнае ўзыходжанне на сімвал сакральны — па сваю нацыянальна-гістарычную самакаштоўнасць» [7, с. 175].

Даследчык гаворыць менавіта пра працэс нацыянальнай ідэнтыфікацыі, адлюстраваны ў паэме: «Такім чынам ствараецца дастаткова грунтоўны спектр каштоўнасцяў, якія па-мастацку і менавіта *вобразна* ўвасабляюць ідэю нацыянальнай ідэнтыфікацыі. З поўным правам, азіраючы аўтарскі тэкст Вільні, можна

гаварыць і пра міфалагему аб дзяржаўным паходжанні, і пра адзінства этнічнай тэрыторыі (з гэтай прычыны пейзаж Вільні функцыянальна роўнакаштоўны пейзажным апісанням лесніковай пасады), і пра агульнасць матэрыяльнага ўкладу, і пра наяўны і сфармаваны кансалідуючы цэнтр культурна-гістарычнай спадчыны» [7, с. 175—176]

Ігар Жук піша пра «далікатна-інтэлектуальнае адцемліванне **нацыянальнай ідэі»,** уласцівае ўсёй творчасці Коласа: «У адных выпадках прамое ўказанне, што няўхільны рух праз гісторыю зарос «не чаратом, не лебядою // А *беларускаю* бядою». У другіх — як нечаканая тэкстуальная падказка:

І толькі шкода: абмяжован
Ты, круг жыцця, і ў путы *скован*
*Варожым поясам* спавіты,
Сатканы *злыднямі* ў тры ніты,
З прыбітай цёмнаю пячаццю,
Як ***падзалежнае*** закляццю.

Іншым разам — гэта анаграмная алюзія-намёк:

Я знаю: скончыцца дарога,
Бо ноч нябыту, ноч-аблога
Сачыць *наш* час ***ад*** дня ***раджэння***
Сляпымі зрэнкамі зацьмення…

І нават ёсць момант алюзіі на этнічна-колеравую палітру твора. З усяго мнагацвеცця жыцця Колас палічыў магчымым вылучыць па-мастацку толькі дзве колеравыя дамінанты — чырвоны і белы» [7, с. 154—155].

Ключавымі канстантамі нацыянальнага прыгожага пісьменства першай трэці XX стагоддзя выступаюць канцэпты *зямля*, *чалавек*, *Бацькаўшчына*, *Родны кут*. Зямля — цэнтр беларускага вобраза свету, своеасаблівае этнічнае падглеб’е нацыі, што і адлюстравана нашай літаратурай. У той час, калі нейкія грамадскія ці дзяржаўныя ўтварэнні ў Беларусі на працягу яе гісторыі не былі стабільнымі, зямля заставалася нязменнай каштоўнасцю пры ўсіх сацыяльных пертурбацыях.

Ігар Жук адзначае: «Механізм этнічнай ідэнтыфікацыі закладзены ўжо ў самім канцэпце «зямля». Множнасць значэнняў, якімі раскашуе гэтае абагульняльнае паняцце пад пяром беларускага творцы, варта дапоўніць ці не самым галоўным, анталагічна-значным і каштоўным. Зямля як пэўная тэрыторыя, абжытая і асвоеная з рук і поту людзей блізкай супольнасці, ад самага пачатку выступае ***ядравым*** носьбітам этнічнага самавызначэння» [7, с. 167]. І сапраўды, па словах Э. Бэрджыса, «зямля забяспечвала найбольш рэчыўны і фундамэнтальны пункт рэферэнцыі чалавечай дзейнасці і чалавечага сэнсу» [6, с. 62]. Грунтоўнае тэарэтычнае асэнсаваннне зямлі як сутнасці, зямлі як асновы, зямлі як феномена культуры і сімвала нацыі пададзена ў работах М. Хайдэгера («Выток мастацкага тварэння», «Рэч», «Тлумачэнні да паэзіі Гёльдэрліна»).

Зямля, «свая зямля» мае ў творах беларускай літаратуры — Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі — філасофскае значэнне: гэта адначасова і Бацькаўшчына, Радзіма. Гісторыю беларускія пісьменнікі разглядаюць як укарэненасць у гэтую зямлю, тэрыторыю. Сакралізацыя *роднага кута* ў нацыянальным прыгожым пісьменстве — гэта імкненне сцвердзіць права народа на сваю тэрыторыю. Семантычнае развіццё канцэпта зямля ў беларускай літаратуры наступнае: зямля — сям’я (род) — народ — нацыя. Філасофія *сваёй зямлі* ў беларускай літаратуры заключаецца ва ўкарэненасці ў прасторы, жыццёвай трываласці беларускага чалавека

У канцы кнігі змешчаны пералік асноўных навуковых публікацый Ігара Жука. Ёсць нейкі сімвалізм у тым, што *кальцуе* кнігу Іван Штэйнер, які напісаў вельмі прачулую і глыбокую прадмову да манаграфіі, і менавіта кнізе І. Штэйнера быў прысвечаны апошні надрукаваны артыкул гродзенскага даследчыка.

## Спіс выкарыстаных крыніц:

1. Адамовіч, А. Беларускі раман: Станаўленне жанру / А. Адамовіч. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1961. — 292 с.

2. Андерсон, Б. Воображаемые сообщества. Размышления об истоках и распространении национализма; пер. с англ. / Б. Андерсон. — М.: «КАНОН-пресс-Ц», «Кучково поле», 2001. — 288 с.

3. Анціпенка, А. Этнас, нацыя й нацыянальная самасьвядомасьць / А. Анціпенка // Анталёгія сучаснага беларускага мысленьня. — Санкт-Петербург: «Невский простор», 2003. — С. 38—45.

4. Афанасьеў, І. М. Чарнобыльскае светаадчуванне ў сучаснай беларускай літаратуры. Вып. 1: Бягучы літаратурны працэс у крытычным аглядзе / І. Афанасьеў. — Мінск: Беларус. навука, 2001. — 206 с.

5. Бабкоў, І. Традыцыя і мета-мова / І. Бабкоў // Культура. — 1993. — 19 ліпеня. — С. 6—7.

6. Бэрджыс, Э. Эўрапейскія межы: гісторыя прасторы / прастора гісторыі / Э. Бэрджыс // Фрагмэнты. — 2000. — № 3—4. — С. 42—67.

7. Жук, І. В. Прыхінуцца да крыніцы / І. Жук. — Гродна: Гр ДУ, 2017. — 235 с.

8. Радзік, Р. «Новая зямля»: Вобраз грамадства ў паэме Якуба Коласа / Р. Радзік // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: зб. да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса; пад рэд. С. Запрудскага і інш. — Мінск: Лімарыус, 2007. — С. 291—296.

9. Штэйнер, І. Вянок айчыннага літаратуразнаўства / І. Штэйнер // Жук, І. Прыхінуцца да крыніцы. — Гродна: ГрДУ, 2017. — С. 3—14.

10. Яскевіч, А. Наватарскія тэндэнцыі ў беларускай літаратуры пачатку 20 стагоддзя / А. Яскевіч // Нараджэнне новага мастацтва: Сацыялістычны рэалізм — заканамернасць гістарычнага развіцця беларускай літаратуры. — Мінск: Навука і тэхніка, 1980. — С. 133—201.



Зінаіда ДРАЗДОВА

# ХРЫСЦІЯНСКІЯ МАТЫВЫ Ў ТВОРЧАСЦІ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

Даследчыкі літаратуры справядліва называюць Францішка Багушэвіча адным з пачынальнікаў крытычнага рэалізму ў нашай літаратуры, першым народным і нацыянальным беларускім пісьменнікам. Маленства будучага таленавітага песняра прайшло ў спадчынным маёнтку Кушляны Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці). Паспяхова скончыўшы ў 1861 годзе Віленскую гімназію, Францішак, сын незаможнага кушлянскага шляхціца, паступае на 1-ы курс Пецярбургскага ўніверсітэта, адкуль, правучыўшыся ўсяго некалькі месяцаў, звальняецца «з прычыны цяжкай хваробы» і «неспрыяльнага клімату», вяртаецца на радзіму. Працуе ў школцы на Лідчыне, вучыць сялянскіх падлеткаў, дзе яго і застае паўстанне 1863 года. Пасля разгрому паўстання выехаў на Украіну, пакінуўшы родны кут аж на дваццаць гадоў. Скончыўшы Нежынскі юрыдычны ліцэй, працаваў следчым. У 1882 годзе вярнуўся ў Вільню. Лічыцца, што менавіта з гэтага часу і пачынаецца актыўная творчая дзейнасць беларускага песняра, хоць першыя спробы пяра Багушэвіч робіць ужо ў 1863 годзе. У 1891 г. у Кракаве быў выдадзены першы зборнік вершаў паэта — «Дудка беларуская», праз год там жа асобным выданнем выходзіць яго празаічная аповесць — так аўтар сам вызначыў жанр гэтага твора — «Тралялёначка». У 1894 годзе ў Познані выйшаў новы зборнічак Багушэвіча — «Смык беларускі».

Апошнія гады жыцця, пакінуўшы працу прысяжнага паверанага пры Віленскім акруговым судзе (1898), праводзіць у нанова адбудаванай бацькоўскай сядзібе ў Кушлянах, працягвае пачатую ім раней нялёгкую працу па складанні слоўніка беларускай мовы, маючы намер у далейшым выдаць і граматыку роднай мовы, піша апавяданні і вершы, здае ў Віленскую губернскую друкарню паэтычны і празаічны зборнікі, лёс якіх застаўся невядомым.

Творчасць Багушэвіча шырока разглядалася ў савецкі час. Ёй прысвечана вельмі салідная манаграфія выдатнага беларускага даследчыка, акадэміка НАН Беларусі В. Барысенкі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (Мінск, 1957), кнігі С. Майхровіча, А. Рудко, У. Содаля. Аналізу яго светапогляду, асаблівасцей мовы твораў, яго ролі ў станаўленні стылю беларускай літаратуры XIX стагоддзя прысвечаны кандыдацкія дысертацыі У. Яршова-Мазурава, В. Марозава, Н. Тарэлкінай, доктарская дысертацыя названага ўжо намі В. Барысенкі. Аднак, на наш погляд, мала даследаванай засталася ў яго літаратурнай спадчыне хрысціянская тэматыка, хрысціянскія матывы, ігнараванне якіх не садзейнічае паўнаце ўспрыняцця мастацкага твора, яго духу, разуменню своеасаблівасці светабачання пісьменніка. Тым больш, што ў паэзіі, прозе і ў публіцыстыцы кушлянскага пясняра вельмі выразна праглядваецца яго хрысціянскі твар, падкрэсліваецца яго каталіцкае веравызнанне. Савецкае атэістычнае літаратуразнаўства, вядома ж, не магло выпукляць прысутнасць гэтага магутнага струменю ў творчасці паэта-дэмакрата. Між тым, эстэтычнае пачуццё Багушэвіча, як і кожнага сапраўднага пісьменніка, грунтуецца на хрысціянскіх уяўленнях аб прыгожым і добрым, глыбока засвоеных народам. Разарваць сувязь з гэтымі ўяўленнямі значыць страціць маральныя арыенціры, перастаць адрозніваць дабро і зло, што, на жаль, і пачало адбывацца ў сучасным мастацтве.

«Як цяжка багатаму ўвайсці ў Царства Нябеснае, лягчэй вярблюду прайсці праз ігольныя вушкі, чым багатаму ўвайсці ў Царства Божае», — сцвярджае Ісус Хрыстос у Евангеллі. Гэтая думка Збаўцы выразна і настойліва гучыць у творчасці Багушэвіча, асабліва ў яго вершы «Быў у чысцы», які абапіраецца на вучэнне каталіцкай царквы аб чысцілішчы. Менавіта каталіцкай, якая гаворыць пра тры магчымасці замагільнага існавання памерлага. Ён становіцца жыхаром пекла, раю або прамежкавага месцазнаходжання — чысцілішча, у якое трапляюць душы хрысціян, якія не цярпелі на зямлі часовага пакарання за грахі, таму тут ачышчаюцца праз пакуты, пакуль гэта лічыць патрэбным Бог. Праваслаўная ж царква адвяргае ідэю чысцілішча, даводзячы, што душы людзей пасля смерці трапляюць толькі ў рай або ў пекла, ад аковаў якога могуць вызваліцца па малітвах тых, што жывуць на зямлі, па малітвах Царквы.

Эпічны герой верша Багушэвіча «Быў у чысцы» просты беларускі мужык Мацей, вяртаючыся дадому, крыху падвыпіўшы, нечакана сустракае на дарозе памерлага аканома, які просіць у яго дапамогі:

Брацiку, — кажа, — браце Мацей!
Ратуй маю грэшную душу
З чысца, з рук подлых чарцей,
Альбо навекі загінуць я мушу!
Дваццаць пяць лет, што у чысцы я пёкся,
Усе грахі выбыў, усіх жа адрокся,
Толькі на сэрцы вот грэх, як смала,
Прыліп да мяне і не змыты;
То за жонку тваю: саграшыў, як жыла,
За цябе, што нявінне быў біты.
Ох, ідзі ты са мной, зачарпнуўшы вады,
Аж да чысцу таго, аж на дне,
І выбач ты мяне, што як быў малады,
Твая жонка-краса спадабалася мне.

Шчодрая душа Мацея не замарудзіла адгукнуцца на бяду таго, хто ў зямным жыцці па сутнасці быў яго ворагам, палюбоўнікам жонкі. Яго сэрца напаўняецца жалем і спачуваннем. Аглядваючы жыхароў чысцілішча, Мацей зусім не схільны быў лічыць, што ў ім пакутуюць толькі эксплуататары, як гэта даводзілі савецкія даследчыкі творчасці Багушэвіча.

І каго ж тут няма? — тут і пан, і жабрак,
Ганарал і салдат, аканом і мужык.
А што баб і дзявок — сказаць так —
Ўтрое больш, як мужчын ёсць на лік.
Хто за што, а як баб — дык найбольш за язык.
Языкі ж даўжыні — так, як добры ручнік.
Іх і паляць смалой, і нажамі скрабуць
І ніяк дабяла прапаліць не магуць.
Надта шмат маладых, што дурылі мужоў:
Чараўніц а і зводняў старых…

Сярод тых, хто пакутуе ў змрочным вогненным царстве знаходзяцца і духоўныя асобы, закліканыя весці людзей да Бога, аднак страсць да зямных асалод перакрыла ім дарогу да раю:

Я ж то думаў, што ксяндзоў тут няма.
Калі зірк! Аж і ксёндз тут сядзіць:
Чорт яго аблажыў грашыма,
Запаліў у грашах тых, і ксёндз так гарыць.
А другі дык вісіць, але як? —
Дык і стыдна мне вам гаварыць,
А са стыду чырвоны, як рак,
Вочы жмура, як кот, і гарыць.
А тут баба яго так кляне
Ды так лае з астатніх жа слоў…

Пакуты чысцілішча ў паказе Багушэвіча непараўнальныя па цяжары з пакутамі зямнымі, але невядома, ці цяжэйшыя за пякельныя. Яны працяглыя ў часе. Пан аканом, які просіць Мацея паліць яму на сэрца вадой (гэта значыць, просіць памаліцца за яго), знаходзіцца ў гэтым «сярэднім» месцы ўжо дваццаць пяць гадоў, а ніяк не можа пазбавіцца грахоў пралюбадзеяння і біцця нявіннага чалавека. Вядома ж, тут не ідзе гаворка пра тое, што ў гэтым месцы людзі практыкуюцца ў добрых справах.

Ствараючы верш «Быў у чысцы», Багушэвіч адштурхоўваўся ад евангельскай прытчы аб багацеі і бедным Лазары. Багацей прасіў святога Аўраама злітавацца над ім і паслаць Лазара, каб той абмачыў канец пальца ў вадзе і прахаладзіў язык яго, бо ён мучыцца ў пякельным полымі.

Тэма багацця і беднасці — адна з асноўных у творчасці пісьменніка-хрысціяніна Багушэвіча. У творы «Балада» ён расказвае сумную гісторыю жыцця працавітага селяніна Ануфрыя, калісь заможнага і шчаслівага, а пасля збяднелага і няшчаснага. Жыццё Ануфрыя цяжарам выпрабаванняў нагадвае жыціе святога Іава Шматпакутнага. Як і біблейскі герой, Ануфры ў кароткі час страціў дзяцей, скаціну, гаспадарку. Пажар спаліў гумно, недарод паспрыяў таму, што ў яго згніло збожжа, сена, быў загублены агарод. Не стала грошай на выплату падатку, выкуп зямлі. Нястача давяла да адчаю, Ануфры дайшоў да таго, што вырашыў прадаць душу д’яблу, каб разлічыцца з даўгамі. Чорт не замарудзіў з дапамогай, прынёс бедаку капялюш з грашыма. Аднак вядомы ў літаратуры матыў продажу душы чорту гучыць у Багушэвіча нестандартна, па-новаму. Ануфры, набыўшы багацце, пачаў абыходзіцца з ім па-хрысціянску. Аплаціў усе нядоімкі, падаткі ў воласць, набыў добрую гаспадарку, стаў высочваць тых, каму патрэбна дапамога, спагадаць бедным, даваць грошы на царкву, чытаць Слова Божае і жыціі святых, есці посную зацірку, маліцца, што, вядома ж, не спадабалася нячысціку:

Чорт аж кіпіць, аж скрыгоча,
Што гэтак Ануфры жывець:
Не толькі чорту служыць не хоча, —
Свянцонай вадой кожны раз абальець.

Чорт чакае смерці Ануфры, каб хоць тады забраць яго душу. Аднак дух героя ціхенька выйшаў з цела і сеў на касцёле. Усе намаганні д’ябла залучыць душу хрысціяніна аказваюцца марнымі, бо і пасля смерці Ануфры аказваецца страшным для яго. Раскалыша званы, і чорт, які царкоўнага баіцца пазвону, адразу знікае. «Д’ябальскія» грошы, такім чынам, даводзіць аўтар, могуць паслужыць і на добрыя справы.

Пісьменнік верыць у Бога, у вечнае жыццё. Яго творчасць напоўнена гарачым спачуваннем да бед і пакут прыгнечаных народных мас, аднак ён разумее, якім выпрабаваннем з’яўляецца для чалавека і багацце. У вершы «Не ўсім адна смерць» Багушэвіч кантрастна малюе два станы: багацце і беднасць, г. зн. сацыяльную няроўнасць людзей. Пры гэтым думка яго сягае ад кароткага зямнога жыцця пана і мужыка да іх будучага, вечнага жыцця:

Еў ды піў ды крыўдзіў народ,
Ды грошы здзіраў, гдзе прымог.
Мусіць, думаў — *тут вечны жывот*,
Аж іначай падумаў сам Бог.

Мужык таксама не быў анёлам, некалі нават быў першым падлізам у пана, аднак цярпенне пакут змяніла яго ў лепшы бок. Паміраў ён, як праведнік. Вось як кажа аб яго апошніх хвілінах сама смерць:

«…ён дык лёгка умёр,
Клікаў смерць, бо хлеба не стала.
Ён прад тым і у споведзі быў;
Уміраў, як заснуў, ні пікнуў!»
Чорт са злосці сабакам завыў…

У творчасці Багушэвіча бедны чалавек у духоўным плане часцей за ўсё вышэйшы за пана. Сумленна працуючы, ён выконвае запаведзь Божую, якая заклікае працаю сваіх рук здабываць хлеб штодзённы. У гэтым ён і знаходзіць сваё суцяшэнне. Верш «Афяра» якраз і раскрывае гэтае адчуванне перавагі працоўнага чалавека над тым, хто жыве з чужых мазалёў. Ён не зайздросціць пану, не хоча яго долі, разумеючы грахоўнасць гэтага шляху:

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
< >
Каб сваю мне зямельку араць
І умёрці на ёй хоць калі.
Дык прасі ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі не быў!

Паводле Евангелля, багацце — гэта дар Божы, які чалавек павінен скарыстоўваць на дапамогу бедным, а не для ўласнай насалоды і раскошы. Вобраз евангельскага багацея, які ў зямным жыцці весяліўся на балях, не звяртаючы ўвагі на пакуты бедных, а ў жыцці будучым стаў насельнікам пекла, як бачым са шматлікіх твораў Багушэвіча, моцна хваляваў свядомасць пісьменніка. Вось чаму часовыя зямныя няшчасці і пакуты, цесны жыццёвы шлях ён лічыў шляхам да Царства Нябеснага.

З мужыкоў тут не надта каб шмат,
А ўсё больш дык багатых паноў.
На зямлі адцярпеўшы, наш брат
На той свет, як па масле, пайшоў.

Гэтыя радкі з ужо разгледжанага намі верша «Быў у чысцы» яскрава гавораць пра салідарнасць Багушэвіча з евангельскай ісцінай аб будучым замагільным жыцці чалавека, аб мэце, дзеля якой ён створаны.

Вершы Багушэвіча напоўнены згадкамі аб біблейскіх героях, аб святых Божых. Святыя прарок Маісей, прарок Іона, прарок і Хрысціцель Гасподзень Іаан, Архангел Міхаіл, святы вялікапакутнік Георгій, святы першавярхоўны апостал Пётр — вось далёка не поўны спіс вядомых і дарагіх кожнаму хрысціяніну імён вялікіх святых, што ўшаноўваюцца і праваслаўнымі і каталікамі, якія сустракаюцца на старонках кніжак Францішка Багушэвіча.

У вершы «Штодзень слабнуць сілы…» Багушэвіч разважае аб біблейскай гісторыі знаходжання прарока Іоны ў чэраве кіта. Нагадаем, што Гасподзь загадаў прароку Іоне ісці ў язычніцкі горад Ніневію і паведаміць яго жыхарам, што ён знішчыць іх, калі яны не пакаюцца. Але Іона не паслухаў голас Божы, сеў на карабель і выправіўся ў іншую краіну. Гасподзь падняў на моры моцную буру, і напалоханыя людзі вырашылі кінуць жэрабя, каб даведацца, з-за каго спасцігла іх бедства. Тады Іона прызнаўся ў сваім граху і сказаў, каб яго кінулі ў мора. У моры прарока праглынула вялікая рыбіна, якая ў Бібліі названа вялікім кітом. Тры дні і тры ночы Іона прабыў у чэраве кіта, молячы Бога аб літасці. І Гасподзь захаваў яго жывым і непашкоджаным, каб прарок пайшоў у Ніневію для выканання волі Божай.

А Іона цэлым
Вылез з бруха рыбы.
Мы з яе, брат, цела
Выйшлі б кашай хіба.

Што хвалюе Багушэвіча ў гэтым вядомым біблейскім сюжэце? Вядома ж, ён, як веруючы чалавек, не лічыць неверагоднай такую з’яву, разумеючы, што ў падзеі з прарокам Іонаю дзейнічала сіла Божая. А яшчэ — вялікая вера самога прарока ў літасць Божую, у яго ўсемагутнасць, якой, з сумам канстатуе ён, няма ў яго сучаснікаў. Таму такі цуд і не можа адбыцца з імі.

Вобразы-ўвасабленні абапіраюцца ў беларускага пісьменніка на біблейскую аснову. З біблейскай вобразнасці вырастае, напрыклад, байка «Воўк і авечка». «Сцеражыцеся лжэпрарокаў, якія прыходзяць да вас ў авечым адзенні, а ўнутры ёсць ваўкі драпежныя», — папярэджвае Гасподзь на старонках Евангелля. У Багушэвіча ж маці-авечка распазнае ваўка ў авечай скуры, з'еўшага яе сына, які прыйшоў з ілжывай весткай аб дабрабыце сына:

Ды скінь скурку, дабрадзею,
Бо зубкі відаць.

Творчасць Багушэвіча пазначана сур'ёзнай увагай да народных паданняў, звычаяў, абрадаў, свежай крыніцы фантазіі роднага люду, што зближае яго і з творчасцю рускага класіка М. В. Гогаля, і з творчасцю беларускага пісьменніка Яна Баршчэўскага. Пазней гэты магутны фальклорны струмень, міфалагічны пласт, фантастычнасць светабачання прыцягне самабытнага чараўніка слова беларускага празаіка Лукаша Калюгу, які быў рэпрэсаваны ў 1930-я гады.

Хітры чорт, які мог здзекавацца з чалавека, уводзіць яго ў зман, не аднойчы паўстане перад чытачом у баладных творах Багушэвіча. Так, у вершы «Здарэнне» апавядаецца аб тым, як селянін, вяртаючыся дадому, убачыў ля дарогі бочку. Цікаўнага героя, які адразу пачаў марыць аб тым, каб гэтая была бочка з сялёдкай або яшчэ лепш з алеем, не насцярожыла і незвычайная рэакцыя каня:

А конь добры быў — мой белы.
Тыц! стаў конь, наравіцца!
І храпець і дыба стаў,
Што не можна прыступіцца,
Чуць аглоблі не зламаў.

Не насцярожыла яго і тое, што збоку бочкі былі трохі відаць рогі. Нямала давялося панервавацца селяніну, сутыкнуўшыся з прывідамі, навеянымі нячыстай сілай, перш чым ён зразумеў, з кім мае справу:

Так-то чорт наш грэшных кусіць!
Каб не крыж, — прапаў бы мусіць?

«Д'ябальскія падкопы» і грэшны чалавек (грахі даюць д'яблу ўладу над ім) цікавяць Багушэвіча і ў вершах «Гдзе чорт не можа, там бабу пашле» і «Хцівец і скарб на святога Яна», дзе фантастычнае цесна пераплятаецца з рэальным. Гэтыя і падобныя да іх творы з элементамі фантастыкі і міфалогіі адрозніваюцца жывой народнай мовай, сакавітай, трапнай, выразнай, афарыстычнай. Аўтар у іх расказвае ад імя сваіх герояў — каларытных працаўнікоў са своеасаблівымі ўласнымі поглядамі на свет і акаляючую рэчаіснасць, — менавіта расказвае, а не малюе.

Вуснамі сваіх герояў ён гаворыць аб сваім разуменні ісціны, якая звязваецца ў яго з Хрыстом (верш «Праўда»).

Ды пашлі ж ты, Божа, Праўду сваю тую
З неба на зямельку, слязьмі залітую!
Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі,
Мучылі за праўду, сілай паканалі…

Вера ў ірацыянальнае — важная адзнака мастацкага свету Багушэвіча. Яму ўласцівы духоўны погляд на рэчы і праблемы — жыцця і смерці, праўды і маны, веры і бязвер'я, святасці і граху, вечнага і тленнага. Яго вершы ў большасці сваёй уяўляюць роздумы аб маральнай сістэме сучаснага яму чалавека, месцы ў ім маралізму, гуманістычных прынцыпаў.

Погляд на творчасць Багушэвіча з хрысціянскага пункту погляду, як бачым, дапамагае па-новаму асэнсаваць яго духоўны воблік, вытокі яго вобразнасці, нават пэўныя старонкі яго біяграфіі, напрыклад, адвакацкая міласэрнасць, пра якую хораша сказаў Рыгор Семашкевіч:

На ўсю Беларусь мільён пракурораў
І толькі адзін, толькі ён адвакат.

Віктар ЖЫБУЛЬ

# «...ЗДЗІВІЦЬ МОЖНА ТОЛЬКІ НЕЧАКАНЫМ»

*Пра дзённік Леаніда Гаўрылава*

З рукапіснай спадчыны загінулага на Другой сусветнай вайне паэта Леаніда Гаўрылава (2.02.1918, в. Бердыж Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці — 1941) захаваліся толькі тры напаўагульныя сшыткі[1]. Два з іх складаюць вершы 1935—1936 гг. Яны пісаліся, калі аўтару было ўсяго 17—18 гадоў і ён вучыўся спачатку ў Мінскім інстытуце народнай гаспадаркі, а потым — на літаратурным факультэце Гомельскага педінстытута. Трэці сшытак — гэта дзённік, які паэт вёў цягам 1937 г.

Няпросты лёс у гэтых рукапісаў. «Амаль усё згубілася б у ваенным ліхалецці, калі б не маці, якая за калючым дротам фашысцкага лагера зберагала каля сэрца аркушы, сагрэтыя дыханнем сына, напоўненыя яго голасам, радасцю і натхненнем» [3, с. 16], — пісаў падпалкоўнік запасу і журналіст Міхаіл Кадзет, які займаўся вывучэннем біяграфіі Л. Гаўрылава. Потым родныя паэта — маці Пелагея Іванаўна Гаўрылава і сястра Валянціна Рыгораўна Бухаўцава — перадалі рукапісы ягонаму сябру паэту Кастусю Кірэенку, у якога яны і захоўваліся некалькі дзесяцігоддзяў, пакуль у 1985 г. у Сярэдняй школе № 150 г. Мінска не быў адкрыты школьны літаратурны музей «Да штыка прыраўнялі пяро», прысвечаны беларускім пісьменнікам, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. Кіраўнік музея, настаўніца Дзіяна Рыгораўна Гальпер, расшукваючы для экспазіцыі дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю Л. Гаўрылава, звярнулася і да К. Кірэенкі, і той перадаў ёй вершы і дзённік.

Доўгі час тры сшыткі Леаніда Гаўрылава з’яўляліся, бадай, самымі каштоўнымі матэрыяламі школьнага музея. Але ў 2002 г. Дзіяна Гальпер з’ехала ў эміграцыю. Непакоячыся за лёс экспанатаў, яна перадала іх у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Дакументы склалі частку фонду № 55 і сёння налічваюць 46 спраў за 1936—1990 гг. Пятнаццаць з іх — калекцыя дакументаў Леаніда Гаўрылава: БДАМЛМ, ф. 55, воп. 1, адз. зах. 378—392. Акрамя вершаў і дзённіка, у архіве-музеі цяпер захоўваюцца паштоўка паэта да жонкі Кацярыны Гарнак (1939), пасведчанне начальніка штаба 374 стралковага палка танкавага батальёна, у якім служыў Л. Гаўрылаў (1940), здымкі індывідуальныя і ў групах, дакументы пра паэта: пісьмы К. Гарнак, М. Кадзета і К. Кірэенкі да Дз. Гальпер, успаміны сясцёр, фатаграфіі родных і інш.

Свае юнацкія вершы Леанід Гаўрылаў ацэньваў вельмі стрымана, нават крытычна. На апошняй старонцы аднаго са сшыткаў паэт напісаў:

*«У гэтым сшытку — вершы, якія я лічу асноўнымі і характэрнымі для ўсяго майго пісання ў гэтым годзе. Я не ўпісваў сюды вершы, пісаныя для насценгазет, таксама як і шматлікія інтымныя, адрасаваныя.*

*Не ўпісаны дзве паэмы: «Надзя Камоска» і «Дружбе падарунак» — самыя першыя мае паэмы.*

---

[1] Выключэнне — паштоўка да жонкі, дасланая з Гомеля 9.01.1939 г., у якой паэт пісаў пра здачу інстытуцкай сесіі.

*Усё, што тут ёсць, — перапісана так, як было напісана спачатку. Я нічога не перапрацоўваў, хоць можна нешта (я і сам цяпер ведаю), варта было б перапрацаваць, але хай застанецца для памяці.*

*Леанід Гаўрылаў. Снежань 1935 г.»* [2, арк. 40].

Але, па жорсткай іроніі лёсу, менавіта па гэтых ранніх сшытках мы цяпер складаем уяўленне пра паэзію Л. Гаўрылава, і менавіта яны — за выняткам пяці вершаў, апублікаваных у 1939 г., — леглі ў аснову яго пасмяротнай кнігі «Вернасць» (1961), укладзенай К. Кірэенкам. Больш таго — гэтыя вершы (хоць і, на думку самога аўтара, не надта дасканалыя) даюць падставу казаць пра «новае вымярэнне паэтычнага свету» і, паводле прафесара Івана Штэйнера, з'яўляюцца «выразнікамі светапогляду не толькі канкрэтнай асобы, але і ўсяго пакалення, дэманструючы філасафічнасць, глыбіню, задуменнасць, люструючы светларадаснае ўспрыманне жыцця» [5, с. 37].

Значна менш даследаваны дзённік Леаніда Гаўрылава, хоць, дзякуючы яго даступнасці ў школьным музеі, аўтары некаторых біяграфічных публікацый мелі магчымасць з ім пазнаёміцца: М. Кадзет, напрыклад, пра гэты дзённік згадваў [3, с. 16], а К. Кірэенка прыводзіў з яго вытрымкі [4, с. 212]. Але цалкам ён (маю на ўвазе не «цытатную», а «асабістую» яго частку) раней ніколі не публікаваўся.

Што ж уяўляе з сябе згаданы дзённік? Гэта стары, патрапаны сшытак без вокладкі, аб'ёмам 28 аркушаў (56 старонак), спісаны фіялетавым атрамантам і сям-там — простым алоўкам (БДАМЛМ, ф. 55, воп. 1, адз. зах. 380; далей — спасылкі на гэтую архіўную крыніцу з пазначэннем адзінкі захоўвання і аркушаў у дужках). Часткова ён нагадвае так званы «літаратурны дзённік», падобны да тых, якія і ў наш час вядуць студэнты гуманітарных ВНУ, выпісваючы цытаты з прачытаных твораў або канспектуючы іх кароткі змест. Гэтак рабіў у 1937—1938 гг. і Л. Гаўрылаў, студэнт літаратурнага факультэта Гомельскага педінстытута. Частка аўтараў, да кніг якіх звяртаўся аўтар дзённіка, — сапраўды хрэстаматыйна вядомыя пісьменнікі, прызнаныя класікі, без чыіх твораў нельга ўявіць сусветны літаратурны працэс: Фрыдрых Шылер, Ёган Вольфганг Гётэ, Аляксандр Дзюма, Кнут Гамсун, Фёдар Цютчаў. Аднак шмат выпісак Л. Гаўрылаў рабіў і з твораў сваіх сучаснікаў (праўда, аўтараў пераважна расійскіх), чые кнігі, выдадзеныя пераважна ў 1935—1936 гг., чытаў амаль «па гарачых слядах», уважліва сочачы за выдавецкімі навінкамі. Гэта проза Мікалая Астроўскага, Кірыла Левіна, Ільі Ільфа і Яўгена Пятрова, паэзія Аляксандра Безыменскага, Мікалая Рыленкава, Аляксандра Рэшатава, Аляксандра Каваленкава, Аляксандра Гатава, Мікалая Брауна, Марыі Камісаравай, а таксама венгерскага літаратара Антала Гідаша. Творы некаторых з гэтых аўтараў у будучыні набылі хрэстаматыйную вядомасць, а ў пэўных выпадках і папулярнасць («Залатое цяля» Ільфа і Пятрова), спадчына ж іншых застаецца, скажам так, па-за звыклым колам чытання студэнта-гуманітарыя ці проста аматара літаратуры.

Такім чынам, відавочна, што выпісванне Л. Гаўрылавым цытат далёка не абмяжоўвалася «праграмнымі» аўтарамі, а мела шырэйшы дыяпазон; малады паэт вёў гэты дзённік яўна не для справаздачы перад інстытуцкімі выкладчыкамі, а найперш для сябе, для сваёй самаадукацыі і самаразвіцця. У гэтым ключы часам цікава паназіраць, што менавіта ён выпісваў, якія радкі, аўтарскія думкі прачытаных аўтараў лічыў для сябе істотнымі. Напрыклад, каментуючы ўласныя выпіскі з рамана «Вучнёўскія гады Вільгельма Мейстэра» Ё. В. Гётэ, Л. Гаўрылаў зазначае, што занатаваў найбольш упадабаныя месцы. Сярод іх, напрыклад, такія: *«Разумны чалавек павінен абавязкова карыстацца глупствамі свайго бліжняга і атрымліваць з іх карысць»*, *«Верш павінен быць або выдатным, або зусім не павінен існаваць»*, *«Шчаслівы той, хто хутка паспявае заўважыць, што жаданні перавышаюць ягоныя сілы!»* (арк. 4 адв. — 5).

На некалькіх старонках дзённіка (арк. 21—23) у поўным аб'ёме змешчаны вершаваныя тэксты, аўтарства якіх не пазначана. Многія з іх («Дремлют плаку-

чие ивы…» Аляксея Цімафеева, «Я люблю пережитые были…» Іосіфа Уткіна, народныя «Я одинок, а ты проходишь мимо…», «Запад погас и лучи догорели…», «Разбойник») у розныя часы былі пакладзены на музыку і ўваходзілі ў рэпертуар выканаўцаў народных песняў і рамансаў. Гэтыя выпісы сведчаць пра яшчэ адну цікаўнасць Леаніда Гаўрылава, яго захопленнасць песеннай культурай.

Пачаўшы весці дзённік 27 студзеня 1937 г., паэт кароткі час спрабаваў нумараваць прачытаныя кнігі, але неўзабаве кінуў гэтую справу. А 5 сакавіка перастаў і ставіць даты над запісамі. Свае выпіскі часта дапаўняў занатоўкамі асабістых уражанняў, і ўрэшце пачаў запісваць — часткова па-руску (мабыць, знаходзячыся пад моўным уплывам кніг, якія ў той час чытаў), часткова па-беларуску — уласныя думкі на самыя розныя тэмы, якія яго хвалявалі. *«Аказваецца, мой «чытацкі» дзённік пераходзіць у сапраўдны інтымны дзённічак,* — зазначыў паэт 1 сакавіка 1937 г. — *І там, дзе я хацеў запісваць выдатныя вытрымкі з прачытаных кніг, я там размазваю ўсялякую асабістую дробязь. Але, так і быць! Хоць мне дагэтуль не ўдаваўся дзённік, гэты, магчыма, атрымаецца. Пішу, што ўздумаецца: усялякую лухту»* (арк. 9 адв.).

Дзённікавыя запісы Л. Гаўрылава вельмі разнародныя. Акрамя ўражанняў аб прачытаных кнігах, сярод іх ёсць кароткія ўспаміны дзяцінства, спробы пейзажных замалёвак, псіхалагічных характарыстык знаёмых. У запісах адчуваецца юнак, які толькі ўвайшоў у жыццё і пачынае ўдумліва спасцігаць свет. Але можа і прымяраць на сябе іншыя ролі: адзін з фрагментаў дзённіка напісаны ад імя сталага, «пабітага жыццём» чалавека, які з вышыні свайго вопыту павучае кагосьці іншага, значна маладзейшага: *«А чалавек, хлопча мой, гэта перш за ўсё — пачуццё абавязку і пачуццё меры пачуццяў.* […] *Трымай сябе моцна ў руках, каб не разгубіўся»* (арк. 13 адв. — 14).

Асабліва шмат увагі Л. Гаўрылаў надае філасофскаму асэнсаванню прыроды паэтычнай творчасці. Аўтар размяжоўвае сутнасць паэта і звычайнага «чалавека» (у вузкім сэнсе слова) Паэт, паводле Л. Гаўрылава, — стварэнне асаблівай прыроды, *«уцялесненне розуму і пачуццяў вялікага гурту людзей, усяго чалавецтва»*. А таму — *«Паэт забывае назаўсёды на ўсе чалавечыя слабасці, на ўсю ўмоўнасць і этыкетнасць чалавечага быцця. Ён робіць, творыць, паступае толькі згодна ўласна свайго генія, які-б ён ні быў, кім бы ні быў народжаны і выхаваны»* (арк. 15—15 адв.). Падобна, што на эстэтычны светапогляд Л. Гаўрылава паўплывала творчасць Ё. В. Гётэ, які лічыў, што «паэт увесь павінен належаць сабе самому, жыць у непарыўнай сувязі з тым, што ён стварае. Шчодра надзеленыя ўнутранымі якасцямі, яны вельмі мала ў чым адчуваюць патрэбу звонку» — гэтую цытату з нямецкага класіка таксама знаходзім у дзённіку (арк. 5).

Многія разважанні Л. Гаўрылава на тэму паэта і паэзіі гучаць афарыстычна, уражваюць глыбінёй і разважлівасцю, а некаторыя могуць падацца максімалісцкімі і, мабыць, занадта катэгарычнымі. Паэт для яго — духоўны бунтар, які супрацьпастаўляе сябе грамадству:

*«Паўналецце паэта наступае пры яго смерці.* […]

*Сапраўдны паэт не павінен зважаць на тое, як да яго адносіцца так званая «малва».* […]

*Паступай так, як загадвае табе твой розум, незалежны і зусім вольны ад уплываў розных старонніх меркаванняў і асуджэнняў «свету».*

*Літаратура, паэзія і служэнне ёй замяняе (павінна замяніць) для паэта і бацьку, і матку, і брата, і сястру, і сябра, і жонку.*

*Чалавека больш займаюць знадворныя, адчуваемыя на зрок і на слых з'явы і метамарфозы іншых людзей»* (арк. 15 адв. — 16 адв.).

Наконт «знадворных, адчуваемых на зрок і слых з'яў» зазначым, што акурат такога ў дзённіку вобмаль: як сапраўдны паэт, а не проста «чалавек», Л. Гаўрылаў сваё непасрэднае штодзённае жыццё акрэслівае неахвотна, толькі рэдкімі дробнымі штрыхамі: *«Былі на кватэры... Чыталі там вершы...»* (арк. 10) або:

*«Я сам галадаю, і мне зводзіць страўнік спазмамі...»* (арк. 23). Паэт больш сканцэнтраваны на сваіх унутраных перажываннях. Ён спрабуе разабрацца ва ўласных пачуццях, «складаным і ўедлівым хаосе думак», аналізуе свае адносіны з блізкімі, сябрамі, каханымі, з жалем прызнаецца: *«Адчуваю сябе даволі адзінокім. Мяне ніхто не разумее. [...] З кім мне падзяліцца сваімі думкамі [...]? [...] Мяне мучыць тое, што я не маю дыскусіянера, які бы спрачаўся са мной»* (арк. 10). Думаецца, менавіта ў гэтым і была прычына, якая падштурхнула маладога паэта весці дзённік.

Леаніда Гаўрылава хвалявалі праблемы літаратурна-мастацкай творчасці, узаемадачыненняў пісьменніка і чытача, агульны ўзровень тагачаснай літаратурнай прадукцыі. Ён ставіў да літаратуры вельмі высокія патрабаванні: *«Існуе той твор, які чытаюць, і чытаюць не асобныя людзі, а шырокія масы народу, жыве той твор, які ўспрыняты народам як арганічна ўласнае ўтварэнне, які пашыраецца з вуснаў у вусны і перадаецца, пераходзіць па спадчыне з пакалення ў пакаленне»* (арк. 19 адв.). Крытычным, надзвычай патрабавальным быў Л. Гаўрылаў і да самога сябе: *«Зараз я буду пісаць адзін верш, абдумваючы і апрацоўваючы яго, патуль, пакуль ён будзе беззаганны і магчыма яго надрукаванне. Друкаваць то пакуль што я не збіраюся, але мне трэба, каб мае вершы выходзілі не горшымі за друкуемыя вершы маіх «сверстнікаў»»* (арк. 17 адв. — 18).

Тут застаецца чарговы раз пашкадаваць, што з паэтычных рукапісаў Л. Гаўрылава захаваліся толькі вершы 1935—1936 гг., якія ён пазней ацэньваў ужо даволі скептычна: *«...я пісаў як узбрыдзе ў галаву, пісаў як пішацца...»* (арк. 17 адв.). Цікава, якія ж вершы ён ствараў у 1937-м, падчас вядзення дзённіка? На жаль, невядома. Затое пазней, у 1938—1941 гг. ён апублікаваў у часопісе «Полымя рэвалюцыі», газетах «Палеская праўда» (з 1941 г. «Гомельская праўда»), «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена» яшчэ шэраг твораў. Некаторыя з іх («Цішыня», «Запахнуць ноччу духавітай травы...», «Арлёнак») трывала ўвайшлі ў паэтычныя анталогіі. У іх сапраўды заўважаюцца адточанасць паэтычнага радка, тонкі лірызм, трапныя вобразы, стройнасць кампазіцыі:

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
І плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Па вачах любімых, па губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зараніцы,
П'юць расу палеткі на зары, —
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня [1, с. 207 — 208].

(*«Цішыня», 1939*[1])

---

[1] У кнізе Л. Гаўрылава «Вернасць» (1961) верш памылкова датуецца 1941 г.

Кароткія занатоўкі ўражанняў аб прачытаным і разважанні пра прыроду творчасці паступова пераходзяць у Л. Гаўрылава ў практыкаванні ў літаратурнай крытыцы. Пра гэта яскрава сведчыць апошні запіс у сшытку, які ўяўляе з сябе, па сутнасці, лаканічную спробу параўнальнага аналізу кінафільма «Выпадковая сустрэча» Ігара Саўчанкі і апавядання «Крывая сцежка» Усевалада Краўчанкі, што маюць падобны сюжэт (і там, і там галоўны герой разрывае сувязь з каханай, даведаўшыся, што яна цяжарная). Той факт, што Л. Гаўрылаў як літаратурны або кінакрытык у друку так і не паспеў выявіцца, робіць гэты запіс яшчэ больш каштоўным — гэтаксама, як і ў пейзажных замалёўках паўстае непраяўлены Гаўрылаў-празаік. У сваіх разважаннях Л. Гаўрылаў спрабуе адстойваць прынцыпы жыццяпадабенства ў мастацтве, супастаўляючы фільм і апавяданне з тым, як усё магло б адбыцца ў рэальным жыцці. На думку аўтара дзённіка, канцоўка фільма (дзе адмоўны герой — трэнер Грыша — не мяняецца і атрымлівае асуджэнне) выглядае больш праўдападобнай і матываванай, чым фінал апавядання (дзе герой — трактарыст Сяргей — «перарабляецца ў вельмі кароткі тэрмін»).

Да якога часу належыць гэты апошні запіс у дзённіку — дакладна вызначыць праблематычна: пасля 5 сакавіка 1937 г. Л. Гаўрылаў перастае ставіць даты над запісамі. Але сцвярджэнне *«Апавяд[анне] я чытаў ужо даўнавата (гэтым летам)»* (арк. 26) падказвае, што запіс рабіўся не адразу пасля лета, а недзе бліжэй да канца года.

Ці пісаў Л. Гаўрылаў дзённікі пазней — таксама невядома. Але хацелася б пазнаёміць чытача прынамсі з гэтым дзённікам 1937 года — як з тым нямногім, што захавалася са спадчыны загінулага ў 23 гады паэта. Як і два сшыткі юнацкіх вершаў сталі асноўнай крыніцай яго паэтычнай спадчыны, так і гэты дзённік — свайго кшталту ключ для разумення творчага светапогляду, а таксама крыніца асобных фактаў біяграфіі Леаніда Гаўрылава.

Тэкст дзённіка публікуецца паводле аўтарскага рукапісу: БДАМЛМ, ф. 55, воп. 1, адз. зах. 380, арк. 1 — 28. Пры гэтым шматлікія выпіскі з твораў іншых аўтараў прыбраны, з адпаведнымі пазнакамі ў квадратных дужках; пакінуты толькі назвы кніг на мове арыгінала. Запісы, зробленыя Л. Гаўрылавым на рускай мове, пададзены ў перакладзе. Беларускамоўная частка дзённіка друкуецца з захаваннем аўтарскага правапісу.

## Літаратура і крыніцы:

1. Гаўрылаў, Л. Паэзія / Л. Гаўрылаў // Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. — У 3 кн. Кн. 1 / уклад., уступ. слова, біягр. давед. пра аўт. і камент. А. Бельскага. — Мінск: Белар. кнігазбор, 2005.

2. Гаўрылаў, Л. Р. Вершы. Сшытак. З калекцыі музея СШ № 150 г. Мінска. 1935 г. / Л. Р. Гаўрылаў // БДАМЛМ. — Ф. 55. — Воп. 1. — Адз. зах. 378.

3. Кадзет, М. «Я ворага першы спаткаю ў баю…» / М. Кадзет // Літаратура і мастацтва. — 1990. — 19 студз.

4. Кірэенка, К. Шчырасць юнацкага сэрца / К. Кірэенка // Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. — У 3 кн. Кн. 1 / уклад., уступ. слова, біягр. давед. пра аўт. і камент. А. Бельскага. — Мінск: Белар. кнігазбор, 2005.

5. Штэйнер, І. Новае вымярэнне паэтычнага свету: Леанід Гаўрылаў / І. Штэйнер // Роднае слова. — 2010. — № 3. — С. 37.

**Леанід ГАЎРЫЛАЎ**

# ДЗЁННІК

*27 студзеня 1937 г.*
1. Фридрих Шиллер[1]. Стихотворения. 1936 г.
[Выпіскі з прадмовы да кнігі (біяграфія Ф. Шылера) і твораў]

*1 лютага 1937 г.*
2. Гёте. «Ученич[еские] годы Вильгельма Мейстера»[2].
[Выпіскі з твора]
І шмат-шмат яшчэ найцудоўнейшых месцаў было ў гэтай кнізе, якія мне як найболей спадабаліся, але якія я не паспеў выпісаць. Увогуле кніга Гётэ моцная і багатая кожным сваім словам: навучае ці адвучвае, паказвае, расказвае і прымушае.
Абавязкова здабуду яшчэ што-небудзь Гётэ.

*7 лют.*
3. Александр Дюма[3]. «Три мушкетера».
Вельмі цікава; чытаў, пакуль не прачытаў.

*9 лютага 1937 г.*
4. Кирилл Левин. «Записки из плена»[4].
Уяўляе з сябе праз меру «нататкі». Што пра гэтую кнігу запісаць, дык я і сам не ведаю. Сяму-таму яна, вядома ж, вучыць. Апісвае пакуты і цярпенні рускіх салдатаў у нямецкім палоне. І прачытаўшы гэтую кнігу, я мяркую, што цярпенне ў мяне някепскае.

*13 лютага.*
4. Кнут Гамсун[5]. Полн. собр. соч. Т. 10.
«Царыца Тамара» — драма вельмі цікавая, эстэтычнага, а можа, і гістарычнага характару, пра грузінскую царыцу Тамару і яе мужа — князя Георгія. Добрая сваім добрым канцом. Мне ж ад яе — толькі тое, што я некалькі гадзін займаў сябе пэўнай цікавасцю і не сумаваў, а болей, здаецца, нічога.
«Драма жыцця» менш займальная, але, здаецца, больш павучальная. Скнарніцтва, скупасць вядуць да няшчасця. Багацей Отэрман паскупіўся пасланць па доктара для сваёй дачкі Тэрэзіты; пайшоў закаханы ў яе тэлеграфіст Енс Спір; яго здымаюць з працы за прагул, ён бяднее. Яна, акрыяўшы, прысылае яму рэвальвер, а «Справядлівасць» застрэліў яе самую. Багач Отэрман паскупіўся выдаць працы філосафа Карэна, дзеля гэтага ён падпальвае вежу, у якой яны знаходзіліся, і з імі згараюць яго двое дзяцей.

*16 лют.*
5. Александр Решетов. «Крутой волной». Стихи[6].
[Выпіска з кнігі]

*17 лютага.*

Сёння за цэлы дзень я не прачытаў ні радка. Між іншым, думаў я сёння многа. Усё з-за гэтай Т.[7] Яна так шчыра і так сардэчна давяраецца мне, што міжволі ахоплівае не абы-які роздум. Цяжка яе зразумець. Яна разумная, прыгожая дзяўчына. Яе шмат хто любіць, і, здаецца, яшчэ больш любілі б яе, калі б яна нікому не аддавала перавагі. Але яна сапраўды нікога не любіць і сёння мне ў гэтым прызналася. Але сказаць так больш нікому не можа.

*18 лют.*

Чытаў «Залатое цяля» Яўгена Пятрова і Ільі Ільфа[8].

*19 лют.*

Скончыў чытаць «Залатое цяля». Думка па прачытанні: чалавек жыве пасапраўднаму, калі мае перспектыву. Па дасягненні мэты жыццё робіцца лішкавым. Трэба заўсёды імкнуцца да чаго-небудзь, не дасягаючы яго. Асалода і задавальненне, што сыходзяць ад усведамлення карысці дзеяння, — вось жыццё.

Мне з дзіўнай пачуццёвасцю ўспамінаюцца маляўнічыя віды з майго далёкага зялёнага дзяцінства. Прыгожыя паплавы з кустамі рабіны і густою пахучай травой. Багатыя жытнёвыя прасторы важна калышуцца шырокімі хвалямі пад устойлівым санцапёкам. Вялікая вёска на пакатай гарэ, з якой відаць на ўсе чатыры бакі за некалькі км. Пад гарою ўпрыгожанае зарасцямі — лязо ракі, перасякаючай неаглядную далячыню сенажаці[9].

Той вечар быў апошнім вечарам майго жыцця ў вёсцы[10]. Я доўга падрыхтоўваў яго і нарэшце дачакаўся поўнага выканання задуманага.

*20 лютага 1937 г.*

На занятках адчуваў сябе звычайна. Нічога асаблівага не адбылося, калі не ўлічваць, што надумаў ням[ецкую] м[ову] вывучаць спачатку, каб ісці заўсёды шырокім крокам, размахваючы па ветры крысамі паліто і высока ўзняўшы галаву супраць ветру.

*21 лют.*

Нічога не чытаў.

Настрой нейкі тужлівы, няпэўны: ці то вясна распусцілася не ў час і абліла мяне хваляй пачуццяў, жаданняў, памкненняў, дзіўнасцяў, ці то рамантычная ідылія чамусьці закапрызіла, разладзіла ўвесь вясёлкавы канцэрт і сапсавала сімфонію простай простасці і асалодных перакананняў. Сам не ведаю. Між іншым, размаўляў сёння з Ів. Т.[11] Гутарыў вельмі шмат, але ўражанні пакуль яшчэ не акрэсліліся. Тып гэты з тых, якія не дурныя, але занадта фанабэрыстыя, самаўпэўненыя, саманадзейныя, выхвальныя і рацыянальныя. Магчыма, ён будзе паэтам, нават можна верыць у паспяховасць, бо ён да кожнага і любога мае належную арыенціроўку, і ашукаць яго будзе нялёгка каму б там ні было. Але і шырокай уплывовасці як паэта, ён, на маю думку, не заслужыць, хоць і як паэта я яго стаўлю яшчэ вышэй, чым як чалавека. Чалавек ён мне не падабаецца, але здольнасць мае. Дзеля фокусу ён можа выдумаць што-небудзь. Шукае выпадку палічыць іншых, нават таварыша, ніжэй за сябе.

Сёння ён выдумаў мне гісторыю пра сваё няшчаснае каханне; узяўся напісаць мне за сённяшнюю ноч прысвячэнне. І я таксама сяду зараз пісаць яму прысвячэнне. Буду пісаць «для яго».

*1 сакавіка 1937 г.*

Аказваецца, мой «чытацкі» дзённік пераходзіць у сапраўдны інтымны дзённічак. І там, дзе я хацеў запісваць выдатныя вытрымкі з прачытаных кніг, я там размазваю ўсялякую асабістую дробязь. Але, так і быць! Хоць мне дагэтуль не

ўдаваўся дзённік, гэты, магчыма, атрымаецца. Пішу, што ўздумаецца: усялякую лухту. Напрыклад: за апошні час «асаблівага» нічога не здарылася. Сур'ёзнага нічога і не ўзяўся прачытаць. Сёння толькі перачытаў Някрасава[12] «Каму на Русі жыць добра».

Узяўся за Надсана[13].

Бачыў М. С-ну. Займаецца на падрыхт[оўчых] курсах. Былі на кватэры з Ів. Т. Чыталі там вершы. Успаміналі былых сяброў. Д. Ф-а нагадала мне мой боль ад Сл. Н.[14] — майго брата і былога добрага сябра. Ён на мяне забыўся.

Мае цяперашнія пачуцці, як лёгкі вясновы туман уранку — то густы, то рассеяны. Мая сястра Т. Я. са мною за гэта не ладзіць.

Як ні шумна, як ні па-дзівацку я баўлю час і сярод хлопцаў і дзяўчат у інтэрнаце, і сярод сяброў, — але ўсё ж адчуваю сябе даволі адзінокім. Мяне ніхто не разумее.

*2 сакавіка 1937 г.*

Анатоль Гидаш. «Я дважды твой»[15].

[Выпіскі]

*3 сакавіка.*

Н. Островский. «Рожденные бурей»[16] (нататкі асобна).

*4 сакавіка.*

Александр Коваленков. «Зеленый берег»[17].

[Выпіскі]

*5 сакавіка.*

Александр Гатов. «Закон тяготения». Лирика[18].

Самастойна і цэласна сапраўды выдатнага і каштоўнага нічога не ўлавіў.

[Выпіскі з твораў А. Безыменскага[19], Э. Б. Сінклера[20], У. Адоеўскага[21] (з памылковай пазнакай «Здаецца, Карамзін[22]»), М. Ісакоўскага[23], М. Горкага[24], М. Брауна[25], М. Рыленкава[26], М. Камісаравай[27] і неўстаноўленага аўтара.]

І падыдзе такі дзень, хлопча мой, калі ты забудзешся, што ты ёсць дзіця, народжанае сваім[і] бацькамі, што ты быў горкае бестурботнае дзіця. Ты адчуеш сябе чалавекам, і толькі чалавекам. А чалавек, хлопча мой, гэта перш за ўсё — пачуццё абавязку і пачуццё меры пачуццяў. Сорам і знявага, крыўда і злосць, пяшчота і спагада, гонар, гонар за радасць і смех, каханне, хваляванне — усё гэта ўласціва з усведамленнем прыгажосці і важнасці для жыцця толькі чалавеку. Ніякая жывёла не можа смяяцца, дзіця не мае гонару і свядомасці жыцця, і толькі чалавек у поўнай меры ўладае ўсімі гэтымі багаццямі душы. Хоць, што я кажу, хлопча мой. Няпраўда гэта. Не кожны ўладае ў поўнай меры, не кожны. Мае гэтае багацце ў душы кожны, кожны. Але ўладае імі не кожны. Рэдкі чалавек — сапраўды чалавек. Гэта ты і сам ведаеш. А сапраўды гэта і ёсць той, хто ўладае сваёй душой.

Я… ведаеш, хлопча мой, таксама губляў сваю душу і дробнымі частачкамі, і вялікімі кавалкамі. І бывала, што і не знаходзіў потым нічога на пустое месца. З пустымі, хваравітымі ямінамі, хлопча мой, прыдзецца мне і да крыжа, да магілы цягнуць сваю душу. Цяжка. Пустая, а цяжка. Не сулю табе падобнага нічога. Трымай сябе моцна ў руках, каб не разгубіўся.

А я табе раскажу, як са мной было.

Старыя мараць пра сучаснае.

[Цытата з верша «К Эмме» Ф. Шылера ў перакладзе В. Жукоўскага[28].]

Кажуць: «Гэты чалавек — паэт». Суб'ект як такавы можа змяшчаць у сабе адным разуменне як чалавека і як паэта. З фізіял[агічнага] боку, вядома, ён чала-

век. Можа быць чалавекам і не толькі з фіз[ялагічнага] боку, а і з псіхалагічнага боку. Але гэта толькі для людзей. Толькі людзі, пабочныя наглядальнікі, могуць бачыць у суб'екце адначасова і паэта, і чалавека.

Сам жа суб'ект, калі ён не губляе ўсведамлення, што ён чалавек, значыць ён не з'яўляецца і не можа быць паэтам. І наадварот: паэт, калі ён ёсць сапраўды паэт, ён ахвяроўвае назаўжды разуменнем таго, што зав[ецца] «чалавек»; ён толькі паэт, уцелясненне розуму і пачуццяў вялікага гурту людзей, усяго чалавецтва. Паэт забывае назаўсёды на ўсе чалавечыя слабасці, на ўсю ўмоўнасць і этыкетнасць чалавечага быцця. Ён робіць, творыць, паступае толькі згодна ўласна свайго генія, які-б ён ні быў, кім бы ні быў народжаны і выхаваны.

Паўналецце паэта наступае пры яго смерці. А то аж да самай смерці, да самага скону жыцця, паэт як малое дзіця ловіць усе новыя гукі, вучыцца гаварыць (але ніколі не здолее дагаварыць усё тое, што яму хацелася-б сказаць, што ў яго маецца ў галаве), увесь час наогул чаму-небудзь вучыцца, з кожным часам мяняецца ў сабе, бо расце і рухаецца.

Сапраўдны паэт не павінен зважаць на тое, як да яго адносіцца так званая «малва».

Паэт нішчыць у сабе чалавека (у вузкім сэнсе слова) для людзей, каб зберагчы яго (чалавека ў шыр[окім] с[энсе] слова) для ўсяго чалавецтва.

Паступай так, як загадвае табе твой розум, незалежны і зусім вольны ад уплываў розных староніх меркаванняў і асуджэнняў «свету».

Літаратура, паэзія і служэнне ёй замяняе (павінна замяніць) для паэта і бацьку, і матку, і брата, і сястру, і сябра, і жонку.

Чалавека больш займаюць знадворныя, адчуваемыя на зрок і на слых з'явы і метамарфозы іншых людзей. Вельмі рэдка хто і мала хто заўважае і цікавіцца ўнутраным, псіхалагічным жыццём чалавечых істот, а калі і заўважаюць, то часта не веруць. Нават сам за сабой не кожны сочыць.

Узяць да прыкладу літаратурна-мастацкую творчасць нашага часу. Больш за ўсё інтарасуе чытачоў знешняя пабудова інтрыг, калізій, звязка фактаў і дзеянняў у іх узаемадачыненні. Можа быць, гэта адносіцца да простых, некампетэнтных у гэтай справе цікавячыхся асоб, шукаючых асалоды і задавальнення ў грубых праявах шчаслівых і няшчасных бакоў жыцця ў розных (родных і няродных ім, блізкіх і далёкіх) тыпаў. Але гэта так, і гэта ў большасці выпадкаў сярод існуючага зараз акаймлення паказу і бачання жыцця.

Як і заўсёды было і ёсць і будзе, як і павінна быць заўсёды і ўсюды (Усюды) — здзівіць можна толькі нечаканым. Чаканы, але здзіўляючы матар'яльны факт (шэдэўр) не меньш слабы па сваёй сіле, але вымагае не мала сіл як для яго выяўлення, паказу, так і для яго бачання. Трэба ўмець яго бачыць і ацаніць.

Трэба, каб кожны верш значыў штосьці сам сабой. Дагэтуль я пісаў як узбрыдзе ў галаву, пісаў як пішацца. Бывала так, што я хадзіў месяц-другі, ні разу не ўспомніўшы пра вершапісанне, а потым ні з таго ні з сяго садзіўся і за адзін вечар штукі тры вершы «выпякаў». Цяпер я зразумеў, што гэты вельмі шкодна, а не толькі дрэнна. Зараз я буду пісаць адзін верш, абдумваючы і апрацоўваючы яго, патуль, пакуль ён будзе беззаганны і магчыма яго надрукаванне. Друкаваць то пакуль што я не збіраюся, але мне трэба, каб мае вершы выходзілі не горшымі за друкуемыя вершы маіх «сверстнікаў».

У час, калі грызуць сумненні, калі адаляе слабасць, маладушнасць і нявер'е з свае сілы, — з кім мне падзяліцца сваімі думкамі, хто мне дапаможа разабрацца ў гэтым складаным і ўедлівым хаосе думак? Якая сістэма якой філасофіі ўзніме мяне на вышыню ўзаемаразумення і самаразумення? Гэта мяне мучыць. Мяне мучыць тое, што я не маю дыскусіянера, які бы спрачаўся са мной. А сіла, рост вызначаецца толькі ў спрэчках, у дыскусіі, ва ўпартай барацьбе мыслей, ідэй,

сузіранняў, супастаўленняў. Я не маю каго аспрэчваць у вочы, а пагэтаму нярэдка прыходзіцца спрачацца з сабой, лавіць сябе на супярэчнасцях, разбіваць свае сумненні, разбіваць маладушнасць і выкоўваць свой погляд. Ці-ж не магчымы адсюль памылкі? Ці-ж не выключаны заблуджэнні? Але хай самым аўтарытэтнейшым маім крытыкам і папраўшчыкам будзе само жыццё. Хай ад гэтага мне можа быць больш адчувальна балюча, але я не зламлюся. А зламлюся — няма будзе на каго крыўдзіцца — так значыць устаноўлена будзе самім жыццём. Толькі быць верным свайму пачуццю, самому сабе! Нікому ніякага зніжэння!

Думаючы аб сучаснай паэзіі, думаецца, што многае з напісанага не пражыве шмат часу. Творы адамруць раней сваіх аўтараў. А гэта вельмі прыкра, калі напісанае аджывае раней напісаўшага. Натуральна, калі аўтар-паэт-пісьменнік не дажывае да сваіх твораў. Біялагічна ён сыходзіць з жыцця яшчэ да таго, як расцвітуць яго творы. Але ў гісторыі такім разам імя такога аўтара не гіне доўга. Твор надуманы паэтам — яшчэ не значыць, што ён існуе. Твор напісаны паэтам — яшчэ не значыць, што ён існуе. Твор надрукованы ў газэце, у часопісу, у кнізе і інш. — яшчэ таксама не значыць, што ён існуе. Існуе той твор, які чытаюць, і чытаюць не асобныя людзі, а шырокія масы народу, жыве той твор, які ўспрыняты народам як арганічна ўласнае ўтварэнне, які пашыраецца з вуснаў у вусны і перадаецца, пераходзіць па спадчыне з пакалення ў пакаленне. Толькі такія творы жылі, жывуць і будуць жыць, толькі такія творы патрэбны, толькі такія творы, якія служаць усяму чалавецтву гістарычна, павінны надзяляцца затратамі чалавецтва. У іншым выпадку на якога д'ябла жаваць, марнаваць час і сродкі выдавецтву, друкарні і інш. і інш., ухадзіць у заблуджэнне самому аўтару?

Гэта вельмі няправільна, што ў нас кожнага пішучага вершы, кожнага здольнага рыфмаваць наз[ываюць] паэтам. Памылкова! Паэт не той, каторы **сам** пяе нават і добра, а той, песні якога пяе народ, пяюць часы (калі не сказаць — вякі).

Выйшаў з хаты. На дзіва прыгожая ноч. Светлая, месячная, чыстая. Глянеш удалеч, і відаць усё за цэлыя кіламетры. Прама перад вачамі далёка цягнецца балота, роўнае, з невялікімі возеркамі, якія пад месяцам блішчаць, нібы сапраўднае люстра. Відаць нават купіны на балоце. За ім цямнее гай і суседняя вёска. У вёсцы многа садоў, і, здаецца, будынкі яе тонуць у зяленіве. Недзе далёка-далёка чуецца сабачы брэх, і толькі. Кругом празрыстая, лёгкая цішыня.

Сеў на ганку, закурыў папяросу і задумаўся.

Вось такая плывучая, лятучая, быццам крылатая ноч. А ты адзін. Колькі такіх начэй, колькі раз здарыцца яшчэ так наглядаць яе аднаму?

Праляцелі мігам у памяці мінулыя ночы. Яны былі наліты хлапечай бяздумнасцю. Тады яны не заўважаліся. І тады было лягчэй. Тады праз усе прыкрасці і нягоды праходзілася безтурботна, без аглядкі. Прайшло, ну й добра. Памылкі і вывіхі перажываліся бязследна, знаходзілася шмат уцех і забаў. Бязклопатна і гулліва рабіліся такія справы, якія маглі мець значэнне на ўсё жыццё. Успомніліся ночы восені 1934 г., праведзеныя ў Б. р. (Н. П.)[29] і ранейшыя і пазнейшыя. Успомніліся ночы вясны 1936 г. У агульным гэта былі цудоўныя ночы. Яно і зараз — асноўная клапота зусім не вялікая, калі глыбока, падрабязна і сур'ёзна ўглядацца. Але клапота ёсць. Адчуваецца нейкая ўява звязанасці і прытым несумленнасці.

Лічыць сябе абавязаным чаму-небудзь і каму-небудзь — гэта не зусім прыемна. А галоўная-ж прычына ўсяму гэтаму — тое, што ў мяне вынікла значнае разыходжанне пачуццяў з розумам. Пачуцці галасуюць за К.[30], а розум супраць. Вось тут і разбярыся. А яшчэ гэтая праклятая, тройчы ненавісная і разам з тым незаменная прыгожая любая ноч.

[Цытата з украінскай народнай песні «Ой, хто в лисе, отзовися…», выпіскі вершаў М. Лермантава[31], С. Надсана, А. Цімафеева[32], І. Уткіна[33] (без пазначэння аўтарства), тэкстаў рускіх рамансаў невядомых аўтараў.]

Халера бяры! Якія часам бываюць дзіўныя настроі. Напрыклад, вось цяпер я чытаю Эміля Заля[34]. Адзін яго раман («Здабыча») раздражняў мяне сваёй перасычанасцю, перасычанасцю ўсялякай: і матэрыяльнай, і маральнай, плоцкай, жывёльнай і духоўнай. Другі раман («Чэрава Парыжа»), хоць я яго толькі што пачаў чытаць, раздражняе мяне сваім апісаннем галадаючых. Я сам галадаю, і мне зводзіць страўнік спазмамі, да таго што па целе праходзяць нейкія прыкрыя голкі, якія і расслабляюць, і злуюць. Як мне здаецца, Фларан быў задаволены, што сумесна з ім галадае Клод. Але мяне чамусьці гэта прыводзіць да такіх гіпербалічна незадаволеных адчуванняў, што цяжка ўвогуле разабрацца ў зладжанасці і сістэмнасці наяўных пачуццяў. Адно толькі няпэўнае расплывістае жаданне жаданняў, але нежаданне штосьці рабіць, мысліць, пісаць. Няхай усё гэта будзе ложкам, ямай далейшых падмуркаў.

[Выпіскі з вершаў Ф. Цютчава[35]]

Бачыў сёння кінофільм «Выпадковая сустрэча»[36]. Якое ўражанне яна зрабіла на мяне, дык гэта не выразіць трапна ў некалькіх словах. Аб гэтым я змог бы гаварыць надта доўга. Адным словам, пры першай жа магчымасці я перагледжу яе яшчэ раз і яшчэ і яшчэ. Другім жа словам, перагледжу і гэтую «карціну».

Мне прыпомнілася адно апавяданне Краўчанкі «Крывая сцежка»[37]. Агульны тон, агульная лінія і ў гэтым апавяданні, і ў фільме «Вып[адковая] сустр[эча]» адна і тая-ж. Толькі ў фільме дадзена больш рашуча, больш смела, жыццёва і таму больш правільна. Не ведаю, ці мелася якая кольвечы сувязь у стварэнні апавядання і фільма. Фільм створан раней апавяд[ання], і, магчыма, Краўч[анка] прагледзеў яго раней напісання свайго апав[ядання], а магчыма і не. Толькі неяк не верыцца, каб самастойнасць Краўч[анкі] магла так дакладна супадаць з ідэяй сюжэта фільма. Апавяд[анне] стала толькі, на мой погляд, імправізацыяй фільма на бел[арускай] глебе, на бел[арускім] матар'яле, і к таму не толькі на белар[ускім], але на сялянскі лад.

Апавяд[анне] я чытаў ужо даўнавата (гэтым летам). У ім не супадае з фільмам (не супадае прынцыпова) толькі канец. І гэты канец, які выводзіць Краўчанка, я цяпер лічу недахопам. У фільме адмоўны герой застаецца канчаткова і рэзка асуджаным, выгнаным з паласы нават спачування. І гэта лагічна правільна. Гэта дае пэўны закончаны тып, даведзены да канца, завершаны паводле галоўных ідэйных матываў тэмы.

Дапусціць-жа нейкую пераробку, пераапрацоўку, змену ці наогул змяняльнасць такога тыпа ў лепшы, дадатны бок, як гэта зроблена Краўчанкам, будзе не рэальна, не дыялектычна. Дапусціць, што такі тып перарабляецца нават у вельмі кароткі тэрмін, як у Краўчанкі, будзе катэгарычна безпадстаўна і не апраўдана. Праўда, у апав[яданні] Краўч[анкі] выведзены ім тып таксама палоніць і не ўхіляецца ад сымпатый чытача, але ж гэта большая ві[н]а [ўмоў]насцей аўтара, чым праўдзівасці і правільнасці палажэння. Гэта ўносіць няпоўнасць, неакрэсленасць героя. Я цалкам схіляюся да палажэнняў фільма.

Праглядваючы фільм і пасля ўжо прагледзеўшы яго, я пачаў разважаць і меркаваць. Як жа я адношуся да такіх і падобных карцін. Як жа я адношуся да іх не толькі ў апавяданнях, фільмах і г. д., а ў сам[ім] што-ні-на-ёсць сапраўдным, рэчаісным жыцці? І я сказаў сам сабе, што колькі я не бачыў такіх карцін у натуры, я ніколі не задумваўся над імі, ніколі не аналізаваў іх, быў беспрыстрасным суглядатаем. За гэта я цяпер дакараю сябе, але — што зробіш? Я не думаў тады, што кожны павінен уладжваць сваё жыццё (і сямейна-інтымнае, і грамадзкае) не па-свойму, а ў залежнасці ад агульнай характэрнай для большасці ідэевай накіраванасці. Многа яшчэ сярод нашых совецкіх людзей несовецкіх, несучасных перажыткаў.

[1937]

## Каментарыі:

[1] Шылер Ёган Крыстаф Фрыдрых фон (1759—1805) — нямецкі паэт, філосаф, гісторык і драматург, прадстаўнік рамантычнага кірунку ў літаратуры.

[2] Гётэ Ёган Вольфганг фон (1749—1832) — нямецкі паэт, пісьменнік і навуковец. У рускім перакладзе А. Сахаравай раман «Гады вучэння Вільгельма Мейстэра» выходзіў у 1897 г.

[3] Дзюма Аляксандр (1802—1870) — французскі празаік, драматург і журналіст.

[4] Левін Кірыл Якаўлевіч (1892—1980) — рускі савецкі празаік. Згаданая кніга выйшла ў 1928 г.

[5] Гамсун Кнут (сапр. Педэрсен Кнуд; 1859—1952) — нарвежскі празаік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1920 г. Поўны збор твораў, які чытаў Л. Гаўрылаў, выдаваўся ў Маскве чатыры разы ў 1910-х гг. Том 10, на які спасылаецца Л. Гаўрылаў, выходзіў, адпаведна, у 1908, 1909, 1910 і 1911 гг.

[6] Рэшатаў Аляксандр Яфімавіч (1909 — 1971) — рускі савецкі паэт. Згаданая кніга выйшла ў 1936 г.

[7] Скароты ініцыялаў сяброў і сваякоў паэта ў большасці выпадкаў аднавіць не ўдалося.

[8] Пятроў (сапр. Катаеў) Яўген Пятровіч (1902—1942) і Ільф Ілья (сапр. Іехіел-Лейб бэн Ар'е Файнзільберг; 1897—1937) — рускія савецкія пісьменнікі-суаўтары. На рускай мове згаданы раман упершыню ўбачыў свет асобнай кнігай у 1933 г. (першае выданне выйшла ў 1932 г. на англійскай мове ў ЗША).

[9] Леанід Гаўрылаў апісвае ваколіцы роднай вёскі Бердыж, што месціцца на беразе ракі Сож.

[10] Падобна, што аўтар згадвае 1932 год, калі ён закончыў вясковую школу-сямігодку і паступіў у Мінскі чыгуначны тэхнікум (неўзабаве быў адлічаны з прычыны кепскага зроку і перайшоў у Чачэрскі заатэхнікум).

[11] Ів. Т. — імаверна, маецца на ўвазе Іван Цімашкоў, паэт, аднакурснік Л. Гаўрылава па літаратурным факультэце Гомельскага педінстытута.

[12] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821—1877/1878) — рускі паэт, празаік, публіцыст, класік рускай літаратуры.

[13] Надсан Сямён Якаўлевіч (1862—1887) — рускі паэт.

[14] Сл. Н. — маецца на ўвазе Слава (Вячаслаў Мікалаевіч) Новікаў, стрыечны брат Л. Гаўрылава.

[15] Гідаш Анатоль (Антал, сапр. Дзьюла Санта; 1899—1980) — венгерскі паэт і празаік. Доўгі час жыў у СССР. Згаданая кніга вершаў выйшла ў 1936 г.

[16] Астроўскі Мікалай Аляксеевіч (1904—1936) — рускі савецкі празаік. Згаданы раман (дакладней, яго першая частка) быў напісаны і выдадзены ў 1936 г.

[17] Каваленкаў Аляксандр Аляксандравіч (1911—1971) — рускі савецкі паэт і празаік. Згаданая кніга вершаў выйшла ў 1936 г.

[18] Гатаў Аляксандр Барысавіч (1899—1972) — рускі савецкі паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Згаданая кніга выйшла ў 1936 г.

[19] Безыменскі Аляксандр Ільыч (1898—1973) — рускі савецкі паэт і журналіст.

[20] Сінклер Эптан Біл (1878—1968) — амерыканскі пісьменнік і сацыялістычны дзеяч.

[21] Адоеўскі Уладзімір Фёдаравіч (1804—1869) — рускі пісьменнік і мысляр эпохі рамантызму.

[22] Карамзін Мікалай Міхайлавіч (1766—1826) — расійскі гісторык, выбітны літаратар эпохі сентыменталізму.

[23] Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч (1900—1973) — рускі савецкі паэт, празаік, перакладчык.

[24] Горкі Максім (сапр. Пяшкоў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — выбітны рускі празаік, драматург, публіцыст.

[25] Браун Мікалай Леапольдавіч (1902—1975) — рускі савецкі паэт, празаік, перакладчык.

[26] Рыленкаў Мікалай Іванавіч (1909—1969) — рускі савецкі паэт.

[27] Камісарава Марыя Іванаўна (1904—1994) — руская савецкая паэтка.

[28] Жукоўскі Васілій Андрэевіч (1783 — 1852) — расійскі паэт, перакладчык, крытык, адзін з пачынальнікаў рамантызму ў рускай паэзіі.

[29] Скарот не расшыфраваны. Вядома, што ў 1934 г. Л. Гаўрылаў працаваў сакратаром Бердыжскага сельсавета, а ўвосень паехаў у Мінск вучыцца на шасцімесячных педагагічных курсах.

[30] К. — імаверна, Кацярына Лаўрэнаўна Гарнак, будучая жонка Л. Гаўрылава, з якой ён пазнаёміўся ў 1935 г., калі вучыўся ў Мінскім інстытуце народнай гаспадаркі.

[31] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814—1841) — рускі паэт, празаік, драматург, мастак.

[32] Цімафееў Аляксей Васільевіч (1812—1883) — рускі паэт і празаік.

[33] Уткін Іосіф Паўлавіч (1903—1944) — рускі савецкі паэт і журналіст.

[34] Заля Эміль (1840—1902) — французскі празаік, публіцыст і палітычны дзеяч. Магчыма, Л. Гаўрылаў чытаў II і III тамы яго Поўнага збору твораў, выдадзеныя ў перакладзе на рускую мову ў 1928 г.

[35] Цютчаў Фёдар Іванавіч (1803—1873) — рускі паэт, публіцыст, дыпламат.

[36] «Выпадковая сустрэча» — савецкая лірычная чорна-белая кінакамедыя рэжысёра Ігара Саўчанкі. Прэм’ера фільма адбылася 21 кастрычніка 1936 г.

[37] Краўчанка Усевалад Ігнатавіч (1915—1961) — празаік, драматург, перакладчык. Апавяданне «Крывая сцежка» друкавалася ў часопісе «Полымя» (1937, № 4).

***Першая публікацыя.***
***Падрыхтоўка да друку і каментарыі Віктара ЖЫБУЛЯ.***



# «ЧАКАЮ АД ЦЯБЕ ЛІСТА...»

*Чытачы часопіса «Полымя» пазнаёміліся ўжо з лістамі як самога народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, так і з пісьмамі самому Івану Пятровічу. У перапісцы закраналіся творчыя пытанні, выдавецкія і перакладчыцкія справы, бытавыя праблемы. Прапануем пазнаёміцца з чарговай падборкай лістоў. Спадзяёмся, што яны дапамогуць чытачам, а таксама даследчыкам беларускай літаратуры ўдакладніць тыя або іншыя звесткі па творчасці І. Шамякіна і іншых беларускіх пісьменнікаў, а таксама звесткі з грамадскага і палітычнага жыцця таго часу.*

## 1
## У. Сеўрук — І. Шамякіну

*21 лютага 1982 г., Масква*

Глыбокапаважаны Іван Пятровіч!

Мяркую, што ўсе Вашы турботы адносна публікацыі другой часткі рамана скончыліся. І Вашы мясцовыя, і нашы маскоўскія перастрахоўшчыкі тут яўна перастараліся. Спачатку і мяне заблыталі. Прыйшлося засесці за паперы, пераварушыць усе цыркуляры, каб усё паставіць на месца.

Спадзяюся, што Кузьмін і Паўлаў Вам ужо аб гэтым паведамілі. Вельмі рады, што праца Ваша прадоўжыцца без гэтых непатрэбных дробязей.

Што датычыцца заключных радкоў Вашага апошняга ліста, то я, як кажуць, ужо не толькі сівы, але і лысы. А гэта нейкае ўсё-такі сведчанне мужчынскай сталасці.

Шкада, што не папрацавалі разам, але, што зробіш. Зноў збіраюся ў дарогу. На гэты раз за Урал.

З шчырай павагай

У. Сеўрук

*Ліст напісаны Уладзімірам Мікалаевічам Сеўрукам (1932—2005), журналістам, перакладчыкам, партыйным дзеячам. З 1966 года на адказных пастах у апараце ЦК КПСС. Ліст датуецца па маскоўскім паштовым штэмпелі на канверце.*

*...Вашы турботы адносна публікацыі другой часткі рамана скончыліся.* — Размова ідзе пра раман І. Шамякіна «Петраград—Брэст». Адбылася затрымка публікацыі другой часткі рамана. Першая змяшчалася ў «Полымі» ў 1981 годзе, другая — у 1983 годзе. Пераклад твора на рускую мову быў прапанаваны У. Сеўруку, які спачатку згадзіўся, але потым адмовіўся.

*Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918—2003)* — савецкі і беларускі партыйны дзеяч, сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (1971—1986).

*Паўлаў Савелій Яфімавіч (1934—2017)* — беларускі пісьменнік, публіцыст, дзяржаўны дзеяч Беларусі. На час напісання ліста — у апараце ЦК КПБ.

## 2
## К. Мазураў — І. Шамякіну

*27 жніўня 1982 г., Масква*

Паважаны Іван Пятровіч!

Шчыра дзякую за пісьмо і за Вашу кнігу. З цікавасцю і з прыемнасцю зноў перачытаў «Сердце на ладони», а з раманам «Возьму твою боль» азнаёміўся ўпершыню.

Мне падабаюцца ўсе Вашы раманы (я калісьці гаварыў Вам пры сустрэчы аб сваіх уражаннях ад рамана «Атланты и кариатиды»).

Цікава было б прачытаць Ваш новы гістарычны раман, аб якім Вы гаворыце ў пісьме. Шкада, што яго выданне затрымліваецца.

Даруйце, што спазніўся з адказам на Ваша пісьмо. Калі яно прыйшло, мяне не было ў Маскве.

Шкадую, што мы не сустрэліся, калі Вы былі ў Кунцава. Буду рады пабачыцца. Калі будзеце ў Маскве і будзе час, пазваніце па тэлефоне 561-65-98 (або 561-65-80). Калі захочаце напісаць, мой адрас: Масква, вул. Аляксея Талстога, дом 15, кв. 14.

Добрага Вам здароўя, добрага настрою і творчага натхнення!

З глыбокай павагай,

Ваш К. Мазуров

27 жніўня 1982 г.

*Ліст напісаны Кірылам Трафімавічам Мазуравым (1914—1989), савецкім партыйным і дзяржаўным дзеячам, Героем Сацыялістычнай Працы (1974).*

*...прачытаць Ваш новы гістарычны раман...* — раман «Петраград—Брэст».

*Шкада, што яго выданне затрымліваецца.* — Гл. каментарый да ліста № 1.

*...калі Вы былі ў Кунцава.* — У маі 1982 года І. Шамякін аслеп на левае вока. З 5 мая больш як месяц знаходзіўся ў Кунцаўскай бальніцы (г. Масква).

## 3
## І. Шамякін — А. Лойку

*1 мая 1981 г., Мінск*

220074

Мінск

Адоеўскага 81 кв. 31

Лойку

Дарагі Алег Антонавіч!

Добры чалавек нараджаецца ў добры дзень. Ваш дзень — 1 Мая. Свята вясны. Уся наша сям’я шчыра віншуе Вас з самым прыгожым, самым радасным юбілеем — 50-годдзем. І з Першамаем. Вас і ўсю Вашу дружную сям’ю.

Вашы чыстае сумленне, дабрыня, улюбёнасць у людзей, у родную прыроду ўвайшлі не толькі ў Вашу іскрыстую жыццесцвярджальную паэзію, гэтымі якасцямі прасякнута ўся Ваша работа прафесара БДУ, дзе Вы штодня рашаеце пачэсную задачу — прывіць моладзі любоў да роднага слова, да роднай літаратуры, да гераічнай гісторыі народа.

Мне прыемна аднаму з першых павітаць Вас як выдатнага празаіка, што Вы давялі сваёй кнігай «Як агонь, як вада».

Новых Вам творчых адкрыццяў ва ўсіх жанрах, новых радасцяў! І ўсяго-ўсяго добрага Вам асабіста і ўсім блізкім Вашым.

Шамякіны,

Іван, Марыя, Таццяна, Алеся.

*Ліст адрасаваны Алегу Антонавічу Лойку (1931—2008), беларускаму паэту, празаіку, літаратуразнаўцу, педагогу, члену-карэспандэнту НАН Беларусі (1989), лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990).*

*...сваёй кнігай «Як агонь, як вада».* — Раман-эсэ Алега Лойкі «Як агонь, як вада» (1984) пра Янку Купалу.

*Марыя* — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. Шамякіна.

*Таццяна* — Шамякіна Таццяна Іванаўна (нар. 1948), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, педагог. Дачка І. Шамякіна.

*Алеся* — Шамякіна Алеся Іванаўна (нар. 1961), беларускі літаратуразнавец, тэкстолаг. Дачка І. Шамякіна.

## 4
## І. Шамякін — Р. Кісялёву

*Сярэдзіна 1960-х гг., Мінск*

Міністру асветы БССР
тав. Кісялёву Р. Я.

Рыгор Якаўлевіч!

Ёсць у Гомельскім раёне вёска Церуха. У гэтай вёсцы я некалі вучыўся, з гэтай вёскі мая жонка і я там штогод адпачываю і пішу свае раманы, хаваючыся ад шуму гарадскога. Але ў апошні час я прыязджаю туды і саромеюся паказацца людзям на вочы. Яны лічаць мяне сваім пісьменнікам, сваім дэпутатам і многа гадоў ужо просяць аб адным: дапамагчы, каб у іх пабудавалі школу. Я пісаў у Міністэрства, атрымліваў запэўненні Вашых папярэднікаў, пісаў у абкам КПБ. Былі абяцанні, а школы няма. Сярэдняя школа дагэтуль змешчана ў былым драўляным папоўскім доме, дзе 35 год таму назад вучыўся і я, грэшны. За гэты час школа не стала лепшай, яна стала на амаль паўстагоддзя старэйшая і зусім развальваецца. А побач саўгас пабудаваў цагляныя двухпавярховыя дамы для спецыялістаў, райспажыўсаюз — цудоўны сельмаг, чайную. І толькі органы асветы ніяк не могуць збудаваць школы. Няўжо мы такія бедныя? А стаіць гэты асеўшы ў зямлю папоўскі дом пры самай магістралі Ленінград—Кіеў, па якой цяпер дзень і ноч едуць усялякія турысты, нашы і чужыя. Аднойчы пры мне спыніліся нейкія англічане, фатаграфавалі, гады, «маю школу», і мне ад сораму хацелася збегчы ў… Міністэрства асветы. Гэта — не жарт, гэта — крык душы. Памажыце! Пашліце камісію! Паглядзіце самі! Нельга ў такой школе далей працаваць і вучыць дзяцей!

Спадзяюся на Вас. Гэта не толькі мая просьба, гэта просьба ўсіх жыхароў Цярускага сельсавета, якую яны выказваюць мне шмат год.

З павагай
Іван Шамякін,
пісьменнік, дэпутат Вярхоўнага
Савета БССР.

*Ліст адрасаваны дзяржаўнаму дзеячу БССР Рыгору Якаўлевічу Кісялёву (1913—1970), які ў 1964—1968 гг. быў міністрам асветы БССР.*

*Церуха* — вёска ў Гомельскім раёне Гомельскай вобласці.

*...каб у іх пабудавалі школу.* — Размова ідзе пра будаўніцтва новага будынка школы ў вёсцы Церуха.

*...пры самай магістралі Ленінград—Кіеў...* — вёска Церуха знаходзіцца на вядомай шашы Ленінград—Кіеў. *Ленінград* — назва г. Санкт-Пецярбурга ў 1924—1991 гг.

## 5
## А. Вярцінскі — І. Шамякіну

*24 верасня 1985 г., Мінск*

Дарагі Іван Пятровіч!

Прачытаў раздзелы з Вашага новага рамана «Зеніт» у «Звяздзе», хацеў пазваніць і сказаць пра тое, як добра, што Вы звярнуліся да тых падзей — вельмі натуральна, пераканаўча, цікава ідзе ў Вас апавяданне пра перажытае ўласна. Ды тут падаспеў чарговы нумар «Маладосці» з Вашымі «Карэннямі і галінамі». Я накінуўся на іх і ўжо не змог — далібог — адарвацца, каб не дачытаць да канца… Гэта, скажу я Вам, было надзвычай цікавае, з адпаведнай унутранай аддачай, з жывым суперажываннем, чытанне. Павучальнае ў многіх адносінах. І ў сэнсе пазнання нашай нядаўняй гісторыі і ў сэнсе лепшага разумення Вас як чалавека, грамадзяніна і творцы. І ў сэнсе таго, як нам трэба ставіцца да сваіх «карэнняў», да сваіх блізкіх, да працоўнага, простага (і не такога ўжо простага, як Вы пераканаўча, наглядна даказваеце) чалавека. І ў сэнсе той аўтарскай пазіцыі, калі пісьменніку, аказваецца, зусім не трэба выходзіць да чытача на катурнах і з адпаведнасці мінаў, а трэба толькі быць самім сабой, быць гранічна даверлівым, шчырым, чалавечным, быць, словам, жывым чалавекам. Бо інакш — тая самая «сачынёнасць», як Вы заўважаеце. (У класікаў была гэтая смелая, без аглядкі і хітрай абачлівасці, спавядальная шчырасць, а мы «іграем ролю» ўсё).

У сэнсе вызначэння жанру, Вы ці яўна паскромнічалі. Гэта — нешта іншае, больш значнае (хаця справа, вядома, не ў назве). Больш значнае і па форме, і, галоўнае, па зместу, фактах, высновах, праблемах, па мудрасці аўтарскай — чалавечай і грамадзянскай!

Дзякуй Вам чытацкае. Паклон Марыі Філатаўне.

Дабра і здароўя!

А. Вярцінскі

*Ліст напісаны беларускім паэтам Анатолем Ільічом Вярцінскім (нар. 1931). Датуецца па паштовым штэмпелі на канверце.*

*Прачытаў раздзелы з Вашага новага рамана «Зеніт» у «Звяздзе»…* — Урыўкі з рамана былі апублікаваны ў газеце за 1, 3—8, 10, 11 верасня 1985 года.

*…чарговы нумар «Маладосці» з Вашымі «Карэннямі і галінамі».* — Дзённікі апублікаваны ў № 9 за 1985 год.

*…Марыі Філатаўне.* — Гл. каментарый да ліста № 3.

## 6
## І. Шамякін — М. Дзяльцу

*Канец 1976 — пачатак 1977 г., Мінск*

Старшыні Дзяржаўнага камітэта
Савета Міністраў БССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі, кніжнага гандлю
т. Дзяльцу М. І.

Паважаны Міхаіл Іванавіч!

Загадам Камвыдата аб'ём майго збора твораў у шасці тамах, які плануецца да выдання ў 1977—79 гг., вызначаны ў 150 аўтарскіх аркушаў.

Не скарджуся на тое, што такі лістаж не дае мне магчымасці ўключыць у збор твораў многія творы — раман «У добры час», дзве аповесці, большасць апавяданняў, усе п'есы і сцэнарыі, літаратурна-публіцыстычныя і крытычныя артыкулы,

якіх набіраецца на цэлы том. Няхай прыжыццёвы збор твораў абыдзецца без іх. Непакоіць мяне, што пры такім аб'ёме цяжка скампанаваць тамы. «Трывожнае шчасце» — 30 аркушаў, скараціць немагчыма. У першы том разам з раманам «Глыбокая плынь» я планую ўключыць аповесці аб рэвалюцыі, у якіх апісаны вобраз Леніна. Зноў жа набіраецца на 30 аркушаў. Далей, каб вытрымаць запланаваны лістаж, я павінен даваць у том па адным рамане — па 20—22 аркушы. Будзе вялікая розніца ў аб'ёме тамоў, непрыгожа будзе выглядаць увесь збор твораў.

Мне хочацца да раманаў «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы» падвярстаць некаторыя самыя лепшыя апавяданні, аповесці, у прыватнасці аповесць «Шлюбная ноч». Тамы атрымаліся б па 26—28 аркушаў. Але для гэтага патрэбна дадаткова мінімум 18 аркушаў.

Прашу Вас павялічыць аб'ём майго збору твораў да 170 аўтарскіх аркушаў.

Народны пісьменнік БССР І. Шамякін

*Ліст адрасаваны Міхаілу Іванавічу Дзяльцу (1918—1999), старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю БССР (1973—1989).*

*Размова ў лісце ідзе пра павелічэнне аб'ёму шасцітомнага Збору твораў Івана Шамякіна, які выйшаў у 1977—1979 гг.*

## 7
## І. Шамякін — Ц. Глушакову

*Другая палова 1978 г., Мінск*

Першаму сакратару
Брагінскага РК КПБ
т. Глушакову Ц. І.

Паважаны Цімафей Іванавіч!

Год назад памёр вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Барысавіч Карпаў. Сям'я Карпава, ратуючыся ад голаду на Паволжы ў 1921 годзе, пераехала ў Беларусь, у Камарын і там доўга жыла. Маленства, школьныя гады, юнацтва будучага пісьменніка прайшло ў Вашым раёне. Рашэннем ЦК і Саўміна БССР увекавечана памяць пісьменніка. Яго імем названа вуліца ў Мінску. Імя Ул. Карпава прысвоена Камарынскай пасялковай бібліятэцы. Нам бы хацелася, каб бібліятэка, якая носіць імя праслаўленага партызана і выдатнага пісьменніка, заставалася самастойнай адзінкай. Пытанне гэтае ўзнікае ў сувязі з цэнтралізацыяй бібліятэк.

Пажадана, каб бібліятэка імя Ул. Карпава мела багаты кніжны фонд, належны выгляд, мастацкае афармленне, добрую шыльду.

Гэта не запісана ва ўрадавай пастанове, але ў адносінах вядомых дзеячаў культуры часта робіцца па рашэнню мясцовых партыйных і савецкіх органаў, — устанаўленне мемарыяльных знакаў на дамах, установах, у мясцінах, дзе жылі, працавалі, адпачывалі гэтыя людзі. Не кажучы ўжо аб мностве знакаў, звязаных з жыццём Янкі Купалы, Якуба Коласа, такія знакі ўстаноўлены на радзіме Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, Пятра Глебкі, Івана Мележа, Тараса Хадкевіча, Паўлюка Труса і інш.

У Камарыне захаваўся дом, у якім жыла сям'я Карпава і ён сам. Вельмі просім устанавіць на гэтым доме сціплую, але выразную і прыгожую мемарыяльную дошку.

Мы, у Саюзе пісьменнікаў, рыхтуем выезд брыгады пісьменнікаў у Ваш раён, якая правяла б вечары памяці Уладзіміра Карпава, Рамана Сабаленкі і літаратурныя вечары, прысвечаныя 60-годдзю БССР.

Будзем удзячны, калі Вы дадзіце згоду на правядзенне такіх вечароў. Аб часе

іх правядзення мы дамовіліся б асобна. Безумоўна, зрабіць гэта трэба па завяршэнню уборачных работ. З цікавасцю сачу за поспехамі Вашага раёна ва ўборцы багатага ураджаю. Жадаю асабіста Вам, Вашым калегам, усім працоўным выдатных поспехаў.

Першы сакратар праўлення
Саюза пісьменнікаў БССР (І. Шамякін)

*Ліст адрасаваны першаму сакратару Брагінскага райкама КПБ Цімафею Іванавічу Глушакову.*

*Год назад памёр вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Барысавіч Карпаў.* — Памёр 6 жніўня 1977 года.

*...ад голаду на Паволжы ў 1921 годзе...* — голад на Паволжы 1921—1922 гадоў — масавы голад у час Грамадзянскай вайны ў Расіі на тэрыторыях, якія кантраляваліся бальшавікамі. Вядомы як голад на Паволжы, у сувязі з тым, што рэгіёны Паўднёвага Урала і Паволжа пацярпелі найбольш працягла і масава. Пік голаду — восень 1921 — вясна 1922 года.

*Камарын* — гарадскі пасёлак Брагінскага раёна Гомельскай вобласці.

*...Янкі Купалы... — Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942)* — беларускі паэт, драматург, перакладчык. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941).

*...Якуба Коласа... — Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956)* — беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946, 1949).

*...Кузьмы Чорнага... — Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944)* — беларускі празаік, драматург, перакладчык.

*...Міхася Лынькова... — Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975)* — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1953). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

*...Пятра Глебкі... — Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969)* — беларускі паэт, крытык, перакладчык. Акадэмік АН БССР (1957).

*...Івана Мележа... — Мележ Іван Паўлавіч (1921—1976)* — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

*...Тараса Хадкевіча... — Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912—1975)* — беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

*...Паўлюка Труса... — Трус Паўлюк (1904—1929)* — беларускі паэт.

*...Рамана Сабаленкі... — Сабаленка Раман Карпавіч (1907—1975)* — беларускі паэт, празаік.

У гонар пералічаных вышэй пісьменнікаў названы вуліцы, устаноўлены мемарыяльныя дошкі, створаны музеі і г. д.

## 8
## М. Даніленка — І. Шамякіну

*20 лістапада 1981 г., Гомель*

Дарагі Іван Пятровіч!

У «Советском писателе» ляжыць мой аднатомнік. Ёсць дзве станоўчыя рэцэнзіі. Ёсць і перакладчык (у каго іх няма!) — Эдуард Карпачоў. Гутарыў я з рэдактарам выдавецтва Іванам Кірэенкам. (Ён родам з Гомельшчыны, працуе ў «Советском писателе», здаецца, гадоў тры-чатыры). Уся справа ўпіраецца, — каб трапіць у выдавецкі план.

Цяпер фарміруюць планы на 1983—84 гады. Добра было, каб пры выпадку ты закінуў за мяне слоўца дырэктару выдавецтва Яроменку. З-за сталічных «карыфеяў» цяжка мне прэтэндаваць, — сам разумееш. А тваё слова, як заўсёды, важкае і аўтарытэтнае…

Жадаю бадзёрасці, шчасця і здароўя!

Гомель,

20 лістапада 1981 года

Міх. Даніленка

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Міхасём (Міхаілам Пятровічам) Даніленкам (нар. 1922).*

*У «Советском писателе»...* — *«Советский писатель»* — савецкае і расійскае выдавецтва, заснавана ў 1934 годзе ў Маскве.

*...ляжыць мой аднатомнік.* — Аднатомнік апавяданняў і аповесцей «Мать Марья» выйшаў у 1985 годзе ў Маскве.

*...Эдуард Карпачоў. — Карпачоў Эдуард Маркавіч (нар. 1937)* — беларускі і рускі пісьменнік, перакладчык.

*...Іванам Кірэенкам.* — Іншых звестак, акрамя тых, што ёсць у лісце, выявіць не ўдалося.

*...Яроменку. — Яроменка Уладзімір Мікалаевіч (1928—?)* — рускі празаік і журналіст. Старшыня праўлення выдавецтва «Советский писатель» (1978—1988).

## 9
## Ул. Бягун — І. Шамякіну

*Пасля 22 чэрвеня 1976 г., Мінск*

Шаноўны Іван Пятровіч!

Пасылаю Вам пісьмо ад Ота Шудэля, члена рэдкалегіі швейцарскай камуністычнай газеты «Форвертс», якое, магчыма, Вас зацікавіць. Тут водгук на Вашы «Снежныя зімы», што выйшлі на англійскай мове.

Я знаёмы з Шудэлем па сустрэчы ў Мінску і пасылаў яму Ваш раман. Цяпер гэты раман прасіла мяне прыслаць на рускай знаёмая Шудэля Н. Шэкоц, з якой я нядаўна сустракаўся.

Можа, у Вас што перакладзена на нямецкую ці французскую мовы? Гэтыя мовы ім вядомыя лепш. Хацелася б ім яшчэ што паслаць, добрыя яны людзі, нашы сябры.

З павагай

Уладзімір Бягун

рэд. газ. «Голас Радзімы»

тэл. рэд. 33-02-80

хатні — 26-08-00

*Ліст напісаны рэдактарам газеты «Голас Радзімы» Уладзімірам Бегуном. Да ліста быў прыкладзены ліст Ота Шудэля ад 22 чэрвеня 1976 года на нямецкай мове. Ліст У. Бегуна датуецца на падставе ліста Ота Шудэля.*

*«Форвертс»* — газета Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі. Заснавана ў 1876 г. у Лейпцыгу. У 1878 г. — забаронена. З 1891 года газета ўзноўлена ў Берліне. З 1933 да 1940 г. выдавалася ў Празе і Берліне. З 1948 да 1955 г. выходзіла пад назвай «Neuer Vorwarts», з 1955 г. выходзіць пад першапачатковай назвай.

*«Снежныя зімы»* — раман (1969) І. Шамякіна.

*«Голас Радзімы»* — інфармацыйна-асветная газета для беларусаў за мяжой. Выдаецца з 1955 года ў Мінску на беларускай мове.

## 10
## М. Танк, І. Шамякін, В. Зуёнак — Я. Сакалову

*16 студзеня 1990 г., Мінск*

16 студзеня 90

Першаму сакратару ЦК КП Беларусі

тав. Сакалову Я. Я.

Паважаны Яфрэм Яўсеевіч!

У апошні час гаворыцца аб увазе да культуры, аб адраджэнні беларускай культуры, мовы і нацыянальнай самасвядомасці, але пісьменніцкую грамадскасць непакоіць, што для гэтага не прымаецца канкрэтных захадаў, больш таго, разбураецца ўжо створаная база, якой карысталіся да гэтай пары. Так, у Пастанове Савета Міністраў СССР «Аб першачарговых мерах па пераходу Беларускай ССР з 1990 года на новыя ўмовы гаспадарання на аснове самакіравання і самафінансавання» Дзяржкамдрук БССР пераўтвараецца з саюзна-рэспубліканскага камітэта ў рэспубліканскі. У сувязі з гэтым паўстала многа складаных пытанняў аб матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, якія, на наш погляд, не можа Дзяржкамдрук БССР вырашыць самастойна.

Як нам вядома, большая частка выдаваемай у рэспубліцы літаратуры з'яўляецца стратнай. Напрыклад, вучэбная літаратура дае штогод 1,3 млн. руб. страт, дзіцячая — 420 тыс. руб., мастацкая літаратура на беларускай мове — каля 2 млн. руб., раённыя газеты — 1,67 млн. руб., газета «Голас Радзімы» — 571 тыс. руб., часопісы «Беларусь» — 133 тыс. руб. і «Полымя» — 136 тыс. руб. страт штогод і гэтак далей. Сума агульных страт на выданне гэтай літаратуры складае каля 6 млн. руб. Вялікую частку гэтых страт Дзяржкамдрук БССР перакрываў з дапамогай Дзяржкамзабеспячэння СССР, Дзяржкамдруку СССР, бо выдаваў штогод літаратуру па саюзнаму эксперыменту ў абмен за макулатуру аб'ёмам каля 250 млн. лістоў-адбіткаў, дзеля чаго атрымліваў дадаткова, мінаючы Дзяржплан БССР, з цэнтралізаваных фондаў 6 тыс. тон паперы. Выдадзеная такім чынам літаратура давала прыбытак у 25 млн. руб., што дазваляла пералічваць у Дзяржбюджэт БССР 13,3 млн. руб. і выдаваць вышэйназваныя стратныя выданні. Таму і паўстае пытанне: як будуць кампенсавацца страты Дзяржкамдруку БССР далей, калі гэта папера не будзе выдзяляцца?

І некалькі слоў аб паліграфічным абсталяванні, якое працуе на мяжы сваіх магчымасцей; асабліва складана з вырабам вокладак да кніжак. Многія паліграфічныя машыны працуюць больш за 20 год, іх выкарыстоўваюць у тры змены. Можна сказаць, што адну гадзіну гэтыя машыны працуюць, а другую гадзіну іх рамантуюць, бо ні запчастак, ні агрэгатаў у запасе няма. І калі машыны спыняцца, наогул не выйдзе ніводнай кнігі.

Раней забеспячэннем паліграфічным абсталяваннем займаўся Дзяржкамдрук СССР. Так, за чатыры гады XII пяцігодкі рэспубліканскі камітэт атрымаў толькі паліграфічнага абсталявання дзеля перааснашчэння прадпрыемстваў на суму 17 млн. руб., у тым ліку імпартнага — на 10,1 млн. руб., якое было аплачана валютай у цэнтралізаваным парадку. Прычым Дзяржкамдрук БССР аплаціў абсталяванне савецкімі рублямі.

Гэтыя і іншыя пытанні, як нам вядома, Дзяржкамдрук БССР ставіў перад Саветам Міністраў БССР і ЦК КП Беларусі, але да гэтага часу яны не вырашаюцца.

Такая сітуацыя выклікае сур'ёзную заклапочанасць пісьменнікаў і выдаўцоў. Думаем, што рэформа, якая не паляпшае, а пагаршае справу ў той ці іншай галіне, не мае права на ажыццяўленне.

Максім ТАНК, Іван ШАМЯКІН,
старшыня праўлення СП БССР, галоўны рэдактар БелСЭ,
Васіль ЗУЁНАК,
першы сакратар праўлення СП БССР

*Ліст адрасаваны беларускаму савецкаму партыйнаму дзеячу, першаму сакратару ЦК КПБ (1987—1990) Яфрэму Яўсеевічу Сакалову (нар. 1926).*

*Ліст падпісаны Максімам Танкам (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995), народным паэтам БССР (1968), акадэмікам АН БССР (1972), Героем Сацыялістычнай Працы (1974), лаўрэатам Ленінскай прэміі (1978), лаўрэатам Сталінскай прэміі (1948), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1966); Іванам Пятровічам Шамякіным (1921—2004), народным пісьменнікам БССР (1972), Героем Сацыялістычнай Працы (1981), акадэмікам НАН Беларусі (1994), лаўрэатам Сталінскай прэміі (1951), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1968, 1982); Васілём Васільевічам Зуёнкам (нар. 1935), беларускім паэтам, перакладчыкам, лаўрэтам Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).*

*«Голас Радзімы»* — гл. каментарый да ліста № 9.

*«Беларусь»* — штомесячны ілюстраваны грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1944 года ў Мінску на беларускай мове.

*«Полымя»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1922 года ў Мінску на беларускай мове.

## 11
## П. Панчанка — І. Шамякіну

*24 красавіка 1979 г., Мінск*

Дарагі Іван Пятровіч!

Сардэчна віншую цябе і Марыю Філатаўну з Першамайскім святам і Днём Перамогі.

Жадаю Вам здароўя і радасці!

Пімен Панчанка
24.IV 79

*Ліст напісаны народным паэтам БССР Піменам Емяльянавічам Панчанкам (1917—1995).*

*...Марыю Філатаўну...* — гл. каментарый да ліста № 3.

## 12
## І. Шамякін — М. Г. Мінкевічу

Міністру асветы БССР
т. Мінкевічу М. Г.

Паважаны Міхаіл Гаўрылавіч!

Пракопаўскай школай Гомельскага раёна, пра якую пішуць мае землякі і ў якой некалі давялося працаваць мне, я займаўся гады чатыры-тры назад.

У выканкаме Гомельскага абласнога Савета (т. Сцяпук Ул. С.) згадзіліся, што школу абавязкова трэба будаваць (стары будынак — былы памешчыцкі дом, якому сто гадоў, у жахлівым стане) і будаваць яе трэба ў гэтай жа вёсцы — Пракопаўцы.

Чаму зноў узнікае пытанне? Прашу Вас зрабіць усё магчымае, каб будаўніцтва школы пачалося хутчэй. Што датычыць месца, то, безумоўна, школа павінна быць у Пракопаўцы. Вёска гэтая — цэнтр сельсавета, цэнтр калгаса, галоўнае — у цэнтры сельсавета тэрытарыяльна, на адной прыкладна адлегласці ад Макаўя, Будзішча, Чарацянкі, зусім блізка ад Займішча. Чарацянка ж у баку, бліжэй да цэнтра другога сельсавета — Маркавіч, дзе ёсць добрая дзесяцігодка. Пра гэта, між іншым, пішуць і мае земляні.

Мяне асабіста глыбока засмучае, што праект, выходзіць, не прывязаны да месца.

Старшыня Вярхоўнага Савета БССР І. Шамякін

*Ліст адрасаваны міністру асветы БССР Міхаілу Гаўрылавічу Мінкевічу. Размова ідзе аб будаўніцтве новага будынка школы ў вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна Гомельскай вобласці.*

*...ад Макаўя, Будзішча, Чарацянкі...* — вёскі ў Гомельскім раёне Гомельскай вобласці.

***Падрыхтоўка тэксту і каментарыяў***
***Алесі ШАМЯКІНАЙ.***



Ягор ДЫНЕЙКА

# ЦЯПЛО АГМЕНЯ ДАЎНІНЫ

*Той рэдкі выпадак, калі хочацца пачаць з цытаты. Генадзь і Аляксандр КахаНоўскія — бацька і сын — так дакладна сказалі пра Канстанціна і Яўстаха Тышкевічаў — двух братоў — што, бадай, немагчыма знайсці іншыя словы, якія б гэтак коратка, але разам з тым і вычарпальна ахарактарызавалі значнасць таго, што зрабілі для навукі, дзеля беларускасці гэтыя славутыя вучоныя, прысвяціўшыя сваё жыццё, здавалася б, такой далёкай ад іх сацыяльнага статусу працы: «Гэта яны, не зважаючы на свой высокі графскі тытул, бралі ў рукі рыдлёўкі і вялі раскопкі старажытных кургаНоў. Гэта яны здымалі з сябе сурдуты і апраналіся ў простае сялянскае адзенне, заходзілі ў хаты вясковай беднаты паслухаць шчырую гутарку пра побыт, даведацца пра абрады і забабоны ды запісаць народныя песні. У душы прысягнуўшы служыць свайму народу, браты Тышкевічы ніколі не адступалі ад сваіх перакананняў, шчыра працавалі на карысць роднага краю [...]. Замалада ўзяліся за пачэсную справу і, бадай, на адным энтузіязме заклалі трывалы падмурак навуковай археалогіі, а таксама этнаграфіі, фалькларыстыкі і краязнаўства. Яны першыя ўвялі ў навуковы ўжытак раней зусім невядомыя матэрыялы, праявіўшы пры гэтым уласцівы ім тэмперамент даследчыкаў, сказалі сваё слова ў розных галінах ведаў, якія цяпер аб’ядноўваюцца ў адзін цыкл грамадскіх навук. Гіпотэзы вучоных, іх меркаванні, высновы, проста здагадкі, а таксама прыведзеныя аргументы і факты — крыніца для нашчадкаў, каму дарага нацыянальная спадчына».*

*Пасля ўсяго сказанага застаецца толькі, прыцягваючы як мага больш фактаў, спасылаючыся на сведчанні тых, хто быў знаёмы з гэтымі даследчыкамі, паказаць, як браты Тышкевічы «рыхтавалі глебу для засеву нацыянальнага зерня будучай плеядай беларускай інтэлігенцыі».*

*Для пачатку ж не лішне даведацца, што гэта за такі род — Тышкевічы, у якім графы не цураюцца, здавалася б, зусім не графскай працы.*

## Лагойск — родавае гняздо

Род Тышкевічаў меў герб «Ляліва». Гэтым прыватнаўласніцкім гербам на Беларусі, Украіне, у Польшчы і Літве карысталіся каля 350 родаў. Апроч Тышкевічаў — Абрамовічы, Аляхновічы, Глябовічы, Дарагастайскія, Забярэзінскія, Манівідавічы, Сяняўскія, Тарноўскія, Чапскія. На блакітным полі быў адлюстраваны залаты маладзік рагамі ўгору, а над ім — залатая шасціпрамянёвая зорка. Кляйнод меў такі выгляд: над прылбіцай з каронай на паўлінавых пёрах знаходзіліся гэткія ж маладзік і зорка. Існуюць, аднак, і іншыя варыянты гэтага герба: з чырвоным полем; са стралой, што выходзіць угору з зоркі, кляйнод — 3 страусавыя пёры; з маладзіком рагамі ўніз над ім.

Пачынальнікам роду Тышкевічаў быў іх далёкі продак, нехта Цішка, ці Тышка — яго і так называлі. Жыў у канцы XV сагоддзя, у дакументах застаўся як

Цімафей Тышка. Ягоны праўнук Тодар Тышкевіч быў падскарбіем Вялікага Княства Літоўскага, пазней стаў ваяводам у Наваградку, уваходзіў у склад пасольства ВКЛ, якое ездзіла ў Маскву.

Тышкевічы ў розныя часы валодалі шмат якімі беларускімі гарадамі. У тым ліку Валожынам, Маладзечнам, Астрашыцкім Гарадком, Лагойскам… Да лагойскай лініі належаў і бацька Канстанціна і Яўстаха — Піус Феліцыянавіч. Заснавальнікам гэтай лініі роду стаў Васіль Тышкевіч (Цішкевіч). Ён першым і займеў тытул графа.

Піус Тышкевіч часта выязджаў з Лагойска, каб адшукаць матэрыялы, звязаныя з разгалінаваннямі свайго роду. Вельмі дбайна клапаціўся і пра добраўпарадкаванне родавага гнязда. Шмат рабіў, каб давесці да ладу стары парк. Мог папрацаваць разам з запрошанымі рабочымі, чым выклікаў з іх боку не толькі здзіўленне, а і павагу. Адначасова Піус Феліцыянавіч з разуменнем ставіўся да нямых сведкаў даўніны. Непадалёку ад сядзібы, у паўднёвым напрамку захаваліся рэшткі колішніх умацаванняў, якія ніхто не збіраўся знішчаць.

Будучы чалавекам таленавітым ва ўсіх адносінах, ён любіў пашчыраваць над дрэвам. Чаго толькі не атрымлівалася з дрэва, дзякуючы ўмелым рукам Піуса Феліцыянавіча! І побытавыя, і розныя фігуркі жывёл, птушак. Мог і прыгожа інкруставаць пісьмовы столік, зрабіць гэткую ж прыгожую рамку для карціны.

Ведаў і сапраўдную цану кнігам. Іх у яго было вельмі шмат. І тых, якія засталіся ў спадчыну, і новыя, купленыя ў Мінску, Вільні, Пецярбургу, куды часта наведваўся. Любіў граф Тышкевіч і мастацтва. Ягонай карціннай галерэі і так многія маглі пазайздросціць, а ён пастаянна папаўняў яе новымі творамі. Захапляўся таксама музыкай. Цудоўна іграў на скрыпцы, дый на папулярнай у той час нямецкай файцы.

Усё ў графа было добра, усё ў яго ладзілася. Калі ў чым і не пашанцавала, дык у асабістым жыцці. Ажаніўся позна, узяўшы ў жонкі Людвіку з Серакоўскіх, але яна цяжка хварэла, таму і памерла рана, у 1803 годзе, не пакінуўшы нашчадкаў. Тады Піусу Феліцыянавічу было 47 гадоў. Пагараваў-пабедаваў і новай яго жонкай стала маладзейшая на 26 гадоў Аўгуста Плятар, якая паходзіла са знакамітага нямецкага роду, яшчэ ў сярэднявеччы пераехаўшага з Баварыі ў Беларусь.

Аўгуста падарыла свайму мужу трох сыноў і дачку. Першынец Канстанцін нарадзіўся 5 (17) лютага 1806 года. Малодшаму з сыноў далі імя Яўстах, ён упершыню пабачыў свет 6 (18) красавіка 1814 года. Якраз у год ягонага нараджэння Піус Феліцыянавіч пачаў узводзіць у Лагойску новы двухпавярховы палац. Поруч са старым, тут жа, каля маляўнічай Гайны. Будаўніцтва працягвалася чатыры гады. Пасля завяршэння работ з'явіўся прыгожы будынак, выкананы ў класічным стылі. Знешні выгляд яго захаваўся на адной з гравюр Напалеона Орды. Сам жа палац быў разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У Лагойск з задавальненнем наведваліся знакамітыя людзі. Пабываў у родавым гняздзе Тышкевічаў і Павел Шпілеўскі. Праўда, гэта адбылося пазней, калі ён працаваў над сваім «Падарожжам па Палессі і беларускім краі». Павел Міхайлавіч застаўся ў захапленні ад пабачанага: «[…] асабліва цудоўны ў Лагойску памешчыцкі *архіў* (тут і далей курсіў П. Шпілеўскага. — *Я. Д.*), што ўвабраў у сябе калекцыю кніг, медалёў і розных прадметаў мастацтва і майстэрства […]. У цяперашні момант кніг налічваецца да 3000 тамоў выбраных твораў, больш на польскай і французскай мовах, з якіх каля 500 старажытных, і некалькі рукапісаў і аўтографаў і грамат. Медалёў і манет захоўваецца 1140 штук […] З прадметаў рэдкасцей у архіве заслугоўваюць увагі: царкоўны крыж часоў Жыгімонта І; два старыя мячы з пазалочанымі адлюстраваннямі Стэфана Баторыя; сцяг, забраны ў шведаў Стэфанам Чарнецкім, і *шпага* (сабля. — патлумачыў *П. Ш.*) *Пятра Вялікага.* З прадметаў мастацтва і майстэрства цудоўныя: 200 карцін італьянскага жывапісу, часткай копій, часткай арыгінальных твораў Рыма, Фларэнцыі і

Неапаля; 48 копій барэльефаў грэчаскага Парфенона; некалькі медалёў з нагруднымі адлюстраваннямі — работы вядомага аматара-скульптара, наваградскага памешчыка Рафала Слізеня; 229 гравіраваных медных блях літоўскай работы XVII стагоддзя, што ўяўляюць важны матэрыял для вывучэння гравіравання ў старажытнай Літве; нарэшце, збор старажытных ваз этрускіх з ліку знойдзеных у Пампеі і Геркулануме».

## У кожнага з братоў — свой пачатак

Канстанцінн і Яўстах з ранніх гадоў праявілі вялікую цікаўнасць да мінуўшчыны. Паколькі розніца ва ўзросце ў іх была не такая істотная, то, несумненна, малодшы Яўстах шмат у чым знаходзіўся пад уплывам старэйшага. Кастусь, канешне, раней пачаў чытаць кнігі, а таму і падказваў брату, на што трэба звярнуць увагу. Дый Яўстах, будучы хлапчуком дапытлівым, не мог не звяртаць увагі, як старэйшы брат займаецца дома: першапачатковае выхаванне яго праходзіла, па сведчанні паэта Вінцэся Каратынскага, «[…] пад кіраўніцтвам настаўніка Гусека і пад наглядам адукаванай і набожнай маці, дабратворны ўплыў якой пакінуў на ўсё яго жыццё глыбокі след у лагоднасці абыходжання і нязломнай сумленнасці (тут і далей пераклад В. Каратынскага з польскай мовы Уладзіміра Мархеля. — *Я. Д.*)».

Потым К. Тышкевіч вучыўся ў Полацку ў езуіцкай школе, пасля заканчэння яе яшчэ год — у школе ксяндзоў-дамініканаў у Забеллі, што ў Віцебскай губерні. Пасля гэтага была вучоба ў гімназіі ў Вільні і на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Атрымаўшы вышэйшую адкацыю, у 1828 годзе пачаў працаваць у Міністэрстве фінансаў Царства Польскага. Праз чатыры гады вярнуўся ў Лагойск, дзе разгарнуў актыўную гаспадарчую дзейнасць. Праўда, падступы да гэтага зрабіў яшчэ годам раней, калі ў 1837 годзе ў сваім родавым гняздзе заснаваў фабрыку баваўняных і льняных тканін.

Наладзіў і ліцейную вытворчасць, пастаўляючы як самому Лагойску, так і навакольным вёскам чыгуны, катлы, а таксама іншыя вырабы, патрэбныя ў гаспадарцы і пры працы на зямлі. Выраблялі ў Лагойску і цукар. Не прайшла марна для К. Тышкевіча і праца ў міністэрстве фінансаў. Набыты вопыт дапамог яму адкрыць крэдытны банк, якім карысталіся мяшчане і заможныя сяляне. Нарэшце вялікую папулярнасць мелі лагойскія мінеральныя крыніцы, да якіх летам прыязджалі з аддаленых губерняў многія хворыя, якія пакутавалі моцным рэўматызмам, і большая частка з іх пасля двухмесячнага лячэння станавілася зусім здаровымі.

У малодшага Яўстаха ў гэты час біяграфія складвалася па-свойму. Хто яго спачатку вучыў, невядома. В. Каратынскі абмяжоўваецца такім сведчаннем: «[…] першую адукацыю набываў ён дома, пад вокам бацькоў, ад настаўнікаў і настаўніц са старэйшых класаў мінскай гімназіі […]». Аднак дакладна вядома, што ў 1824 годзе бацькі накіравалі свайго малодшага сына ў гімназію ў Вільню. Але пра тое, як праходзіла там яго навучанне, звестак не захавалася. Бадай, трэба пагадзіцца з Г. і А. Каханоўскімі, чаму для навучання была выбрана Вільня, а не Мінск, да якога ад Лагойска не так і далёка: «У Вільні над юнаком з Лагойска апекаваўся, напэўна, па пратэкцыі бацькоў, прафесар універсітэта Ян Вашкевіч. Рабіў уплыў на яго і прафесар гісторыі Казімір Асмольскі ды іншыя дасведчаныя людзі».

Толькі неўзабаве — па якой прычыне, таксама загадка — Яўстах усё ж развітаўся з Вільняй і перавёўся ў мінскую гімназію. Скончыў яе ў 1831 годзе. Збіраўся працягваць вучобу ў Пецярбургу. Але ў апошні час чамусьці перадумаў. Не без шкадавання В. Каратынскі зазначыў: «Яго разумовае выхаванне не давялося дапоўніць вышэйшай і глыбейшай школьнай вучобай; засталося яно элеганцкім,

вытанчаным, але не глыбокім. Тышкевіч не меў нават магчымасці дасканала вывучыць латынь, гэты неабходны сродак для заглыблення ў краёвую гісторыю. Аднак ужо ў ранняй маладосці, акружаны помнікамі розных вякоў, навучыўся ён сягаць думкай і сэрцам на ланах мінуўшчыны, а выгляд скарбаў польскага гісторыязнаўства ў царскай публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу канчаткова яго запаланіў і пацягнуў на дарогу даследаванняў. Гэта ў сваю чаргу выклікала тое, што юнак вяльможнага і заможнага дому, пайшоўшы за рэдкім у гэтых сферах прыкладам, кінуўся да самастойнага напаўнення ведаў і, можна сказаць, уласнымі рукамі назапасіў вялікія скарбы гістарычнай навукі»,

Праўда, пакуль што назапашаныя «вялікія скарбы гістарычнай навукі» заставаліся незапатрабаванымі. І раптам — рэзкі паварот у біяграфіі. Хто паспрыяў гэтаму — невядома. Яшчэ адна загадка, але 9 снежня 1833 года Я. Тышкевіч уладкаваўся на службу ў Ордэнскі капітул Сената. Гэта была вельмі прэстыжная ўстанова, якая падпарадкоўвалася толькі імператару. Яно і не дзіўна, бо ў абавязкі нешматлікіх супрацоўнікаў капітула ўваходзіла афармленне дакументаў на атрыманне дзяржаўных узнагарод. Недзе каля двух гадоў Я. Тышкевіч поруч з іншымі чыноўнікамі займаўся гэтай адказнай справай. Паколькі ж ён, як і астатнія працаўнікі, быў чалавекам дзяржаўным, то ягоны далейшы лёс залежаў не столькі ад яго самога, колькі ад начальства. Яно ж у паўсядзённай дзейнасці кіравалася інтарэсамі свайго ведамства, а таму пры неабходнасці перамяшчала чыноўнікаў з месца на месца. Часта ўвогуле адпраўляла іх са сталіцы. Такі лёс напаткаў і Я. Тышкевіча. Яго перавялі ў канцылярыю Віленскага генерал-губернатарства. Аднак і там доўга не затрымаўся — накіравалі ў распараджэнне Харкаўскага генерал-губернатара. Знаходзячыся ў ягонай свіце, Я. Тышкевіч выконваў розныя даручэнні, нярэдка звязаныя з выездам за межы горада. Так ён пабываў у Чарнігаве, Палтаве, Нежыне, Канатопе і іншых гарадах.

Але асаблівае задавальненне і заспакаенне атрымліваў тады, калі мог заняцца самаадукацыяй. Як і ў Пецярбургу, наведваў архівы. Запісаўся ў бібліятэку Харкаўскага ўніверсітэта, якая, на яго здзіўленне, аказалася багатай на літаратуру. Узрадавала і тое, што ў фондах яе было шмат рэдкіх кніг, сярод якіх — даўнія фаліянты. Завітвалі ў бібліятэку і прафесары ўніверсітэта. Знаёмства з імі таксама дало яму нямала, бо гаворка часам зводзілася да таго, што яго ўсё больш цікавіла. А гэта была археалогія. Чаму менавіта на яе звярнуў увагу, пазней патлумачыў так: «Жаданне высвеціць ісціну і супрацьставіць яе ўяўленням простага народа і наіўных суседзяў унушыла мне думку патрывожыць месцы, прызначаныя вечнаму спачыну».

Хоць і не прызнаваўся, чаму ўзяўся за раскопкі, няцяжка здагадацца, што ягоны інтарэс да археалогіі таксама быў выкліканы жаданнем зазірнуць у глыб стагоддзяў. Тым больш, што ў Лагойску і ваколіцах было нямала курганоў. Дый начытаўся ўжо пра тое, наколькі багатая на падзеі гэтая зямля. Атрымліваецца, што абодва браты амаль у адзін і той час загарэліся жаданнем «патрывожыць месцы, прызначаныя вечнаму спачыну». Але ж нехта з іх усё ж быў першым. К. Тышкевіч прызнаваўся ў сваёй кнізе «Аб курганах на Літве і Заходняй Русі»: «На працягу дваццаці з лішнім гадоў пастаяннага, так сказаць, даследавання нашага мінулага, разрыўшы ўласнаручна значную колькасць магіл на Літоўскай Русі, у Літве, уласна кажучы, і ў Беларусі, я захапіўся гэтай навукай».

Згаданая кніга выйшла ў Вільні ў 1865 годзе. Значыць, адбылося гэта ў 1834 — 1835 гг. Але Адам Кіркор, якому даводзілася неаднойчы займацца раскопкамі разам з братамі Тышкевічамі, а значыць, ён ад іх асабіста ведаў, хто з братоў першы далучыўся да гэтай справы, сцвярджаў іншае: «[…] гонар прызвання да жыцця літоўскай археалогіі належыць Я. Тышкевічу. У 1837 г., разрыўшы першы курган, ён, так сказаць, зросся са старажытнасцю […], аб’ездзіў амаль увесь край, раскапаў тысячы курганоў».

Хоць, калі разабрацца, не так ужо гэта і важна. Галоўнае, што абодва браты ўзяліся за вельмі важную справу. Хоць з самага пачатку памкненні іхнія разніліся. Яўстах абмежаваўся толькі раскопкамі курганоў. Старэйшага ж брата цікавілі не толькі курганы, а і гарадзішчы. Дарэчы, менавіта раскопкам гарадзішчаў і прысвечана яго праца «Аб курганах на Літве і Заходняй Русі». У ёй не толькі апісаны абследаваныя ім дзесяць гарадзішчаў. Упершыню К. Тышкевіч даў тапаграфічныя планы гэтых археалагічных помнікаў, а таксама зрабіў спробу класіфікацыі іх, хоць з пункту гледжання прафесіяналаў яна выглядала наіўнай. Гарадзішчы ён дзяліў на «ўмацаваныя замкі», «ахвярныя гарадзішчы» і гарадзішчы зваламі ніжэй пляцоўкі. Гэта тычылася і класіфікацыі курганоў. Што ж — пачатак ёсць пачатак. Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць, а хто шмат робіць — цягам часу пазбаўляецца сваіх памылак.

Не ўсё спачатку ладзілася і ў малодшага Тышкевіча, але Яўстах да ажыццяўлення пастаўленай перад сабой мэты ішоў больш упэўнена, хоць цяжкасцей і перашкод у яго было не менш, чым у старэйшага брата. Каб паехаць на радзіму, трэба было браць дазвол у начальства. Аднак куды большыя цяжкасці ўзнікалі на месцы. Для раскопак мусіў, як і Канстанцін, наймаць рабочых. Але сяляне, даведаўшыся, што трэба раскопваць магілы (пра даўнія захаванні ў курганах яны ведалі), адмаўляліся ад прапанаванай работы. Гэта лічылі грахом, за які Бог абавязкова пакарае. Давялося павялічыць аплату. Дый асабісты прыклад паказваў: упэўніўшыся, што з графам нічога не здарылася, самыя смелыя сяляне таксама пачыналі капаць.

Канечне, у ягонай рабоце сказвалася і археалагічная нявопытнасць. Давала аб сабе знаць і прафесійнае дылетанцтва, адсутнасць спецыяльнай падрыхтоўкі. Знайшоўшы ў курганах дарагія ўпрыгожванні, паспяшаўся зрабіць вывад, што на згаданай тэрыторыі (сюды ён адносіў увесь тагачасны Барысаўскі павет) людзі жылі ў вялікім дастатку. А паколькі знойдзеныя завушніцы, пацеркі, гэтаксама як рэчы побытавага ўжытку, былі не мясцовага паходжання, за адным памылковым вывадам зрабіў другі. Выказаў меркаванне, што колісь на Лагойшчыне жыло нейкае дзіўнае племя, якое паходзіла ці не з … Італіі.

Ды надыходзіла чарговае лета, браў дазвол у начальства і ехаў на радзіму. Зімой жа ў вольны час парадкаваў знойдзены матэрыял, перапісваўся з археолагамі. Асноўныя знаходкі пакідаў у бацькоў. У час раскопак шмат дапамагаў брат. Лягчэй стала, калі звольніўся з канцылярыі генерал-губернатара і вярнуўся ў Лагойск. З'явілася магчымасць выязджаць і за межы Лагойшчыны. Раскопкі праводзіў ці не па ўсёй Міншчыне, дабіраўся да Заходняй Дзвіны. Матэрыялаў збіралася ўсё больш і больш. Хутка іх стала столькі, што браты задумалі адкрыць у бацькоўскім палацы спецыяльны музей.

Бацька такую ідэю ўхваліў. Для экспазіцыі падрыхтавалі некалькі залаў. У іх і размясцілі разнастайныя матэрыялы, у тым ліку і карціны, зброю, ваенны рыштунак, іншыя экспанаты, што захоўваліся дагэтуль у сям'і. Але асаблівую цікавасць выклікалі знойдзеныя ў час раскопак. Не толькі ў саміх гаспадароў, а і ў шматлікіх гасцей. Канстанцін ці Яўстах былі ў Лагойску, яны ахвотна праводзілі экскурсіі. Аднак больш за іншых гэты занятак упадабаў Піус Феліцыяновіч. З такой нагоды ён абавязкова апранаўся ў сурдут з байкі зялёнага колеру і чырвоную камізэльку з кашміру. Выглядаў проста, па-хатняму, што стварала адпаведны настрой — даверлівы, адкрыты, шчыры, калі лёгка ўдаецца заўладаць увагай госця ці гасцей, а тыя, хто завітаў, у сваю чаргу становяцца самой увагай, бо даўно ўжо наслухаліся нямала добрага і пра самога гаспадара палаца, і пра яго сыноў. Дый пра багатую экспазіцыю хатняга музея, таму з нецярпеннем чакалі, калі ж удасца пачуць абавязкова нешта такое, чаго яны яшчэ не ведаюць.

Аднак, як ні ўтульна было ў бацькоўскім палацы, браты часта пакідалі яго. Часцей адлучаўся Яўстах. Калі Канстанціна часам стрымлівалі гаспадарчыя

справы, дык малодшы мог вальней распараджацца сваім часам. Захоплены даследаваннем курганоў, вывучэннем пахавальнага рыштунку, ён імкнуўся на аснове знойдзеных матэрыялаў глыбей зразумець жыццё продкаў, каб рэканструяваць даўні побыт на Лагойшчыне, а калі глядзець шырэй — на ўсёй Барысаўшчыне. Цікавіўся і рассяленнем плямёнаў у згаданых рэгіёнах, задумваўся над іх паходжаннем. Безумоўна, чым часцей праводзіць ракопкі, тым можна было атрымаць больш таго, што само, як кажуць, загаворыць. Вядома, не лішнімі былі б і кантакты з навукоўцамі, у тым ліку і з замежнымі. Дый вывучэнне архіваў у іншых краінах магло б нямала даць.

У 1843 годзе Я. Тышкевіч наведаў Хельсінкі, а потым Стакгольм, Капенгаген. Плённа папрацаваў у мясцовых архівах і бібліятэках, асабліва пашанцавала яму ў сталіцы Швецыі. У Стакгольме пазнаёміўся з рукапісамі, якія тычыліся гісторыі Польшчы і Беларусі сярэдніх вякоў. У іх было нямала новых для яго звестак. Акрамя таго, знайшоў невядомыя графічныя работы з літоўскіх (чытай — беларускіх) земляў. У Капенгагене натрапіў на звесткі, што тычыліся вайны караля Швецыі Карла XII з Расіяй, прынамсі, падчас баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі. У матэрыялах, якія паказалі яму ў адным з архіваў, напаткаў назвы, што крануліся душы лёгкай хваляй замілавання. Чытаў іх і нібыта вяртаўся на Радзіму: Гродна, Мінск, Клецк, Слуцк, Нясвіж, Маладзечна, Радашковічы... Зацікавіла Я. Тышкевіча і канцэпцыя пабудовы дацкага нацыянальнага музея старажытнасцей. У ёй знайшоў нямала таго, што можна прымяніць і пры падрыхтоўкі экспазіцыі ў мясцовых музеях. Уражанні аб паездцы знайшлі адлюстраванне ў кнізе Я. Тышкевіча «Лісты пра Швецыю», выпушчанай у 1847 годзе ў Вільні.

## Лепшыя сілы згуртаваў музей

Гэтым разам, як на першы погляд, кола інтарэсаў Я. Тышкевіча было ў нечым далёкае ад археалогіі. Але ў яго ўжо жыла яшчэ адна значная ідэя. Ён хацеў стварыць музей, у якім можна размясціць не толькі археалагічныя матэрыялы, а і гістарычныя. Ухвальна ставіўся да гэтага і Канстанцін. Цяпер, пасля знаёмства Я. Тышкевіча з замежнымі музеямі, асабліва пасля таго, як набыткам яго стаў дацкі вопыт у гэтым кірунку, ідэя, што даўно не давала спакою, канкрэтызавалася.

Безумоўна, хатні музей — добра, але не выйсце. Неабходны такі музей, у які б маглі зайсці не асобныя наведвальнікі. Дый каб экспанатаў было вельмі шмат. Толькі дзе падобны музей адчыніць? Выйгрышны варыянт у Лагойску, бо тут ужо ёсць нямала матэрыялаў. Але, калі рабіць музей у Лагойску, то гэта адштурхне многіх патэнцыяльных наведнікаў. Далёка не ўсе паедуць у правінцыю, каб пазнаёміцца, няхай сабе і з цікавай, экспазіцыяй. «Напрошваўся» Мінск. Аднак зноў жа — наколькі заманліва было гэта, настолькі і не рэальна.

Не забывалі, аднак, браты і пра Вільню, якая, у чым яны ўсё больш упэўніваліся, з’яўляецца важным культурным цэнтрам. І не адной Віленскай губерні. Туды цягнуцца людзі інтэлігентныя і з іншых губерняў. Для прыкладу, з Мінскай. Неабходна загадзя паклапаціцца аб тым, каб яны маглі ўпэўніцца, якія немалыя перспектывы для горада адкрывае стварэнне ў ім музея. Дзеля гэтага Я. Тышкевіч парупіўся правесці ў Вільні краязнаўчую выстаўку. Падшукаў і адпаведную «музейную залу». У 1845 годзе ў ягоным «палацыку» адкрылася невялікая экспазіцыя, што складалася з часткі антыкварнай калекцыі Я. Тышкевіча. Неўзабаве да яе дадаліся матэрыялы са скасаваных кляштараў. Шмат што падарылі сябры Тышкевічаў. Яўстах жа Піевіч, калі наведваўся ў Лагойск, назад абавязкова вяртаўся з якімі-небудзь экспанатамі, каб прадставіць іх на выстаўцы.

Будучы ў Вільні, зазірнуў на выстаўку і мінскі губернатар А. Сямёнаў. Яна

Аляксею Васільевічу спадабалася. Значыць, можна разлічваць на ягоную падтрымку і настойваць усё ж на Мінску? Не, як бы там ні было, аднак Мінск як культурны цэнтр у параўнанні з Вільняй прайграваў. Браты сышліся на тым, каб канчатковае рашэнне аб месцы будучага музея ўсё ж было б прынята ў Пецярбургу. Мінск альбо Вільня…

У сталіцы спыніліся на Вільні. Пасля гэтага Канстанцін і Яўстах пачалі загадзя рабіць захады, каб будучы музей, які афіцыйна назвалі Віленскім музеем старажытнасцей, у перспектыве мог папаўняцца новымі экспанатамі. Сабралі аднадумцаў, абмеркавалі планы, вырашылі арганізацыйныя пытанні. Я. Тышкевіча выбралі старшынёй музея, ён жа ўзначаліў і Віленскую археалагічную камісію. Былі названы таксама правадзейныя члены, дабрачынцы музея, сярод якіх быў і К. Тышкевіч, а таксама ганаровыя члены і члены-супрацоўнікі. Усе яны атрымалі членскія білеты Віленскай археалагічнай камісіі, што дазваляла кожнаму выязджаць у экспедыцыі, весці навукова-даследчыцкую работу.

Музей быў заснаваны 29 красавіка 1855 года, а ўрачыстае адкрыццё яго адбылося 1 снежня 1856 года ў будынку бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. У. Сыракомля з нагоды гэтай падзеі напісаў спецыяльны верш-вітанне. Гэты твор быў аддрукаваны і ўручаўся кожнаму прысутнаму ў якасці памятнага лістка. А наконт экспанатаў… Зразумела, найперш паклапаціліся самі Тышкевічы, каб перадаць музею свае калекцыі. І не толькі археалагічныя, а і рэдкія кнігі, збор манет, медалёў. Але стараліся энтузіясты ці не з усіх рэгіёнаў.

У музеі хутка сфарміравалася значная калекцыя пячатак: з Куцеінскага манастыра, Супрасльскай лаўры, Забельскай дамініканскай гімназіі, Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, Віцебскай гімназіі… Дастойнае месца ў экспазіцыі заняў царкоўны паднос, на якім захавалася адлюстраванне крыжа — гэты ўнікальны экспанат быў знойдзены каля Радашковіч, а адносіўся ён да 1638 года. Крыж быў выбіты і на камені, адшуканым у Мінскай губерні, яго таксама перадалі ў дар музею. Трапіў нават і надмагільны камень, што, несумненна, меў дачыненне да роду Тышкевічаў, бо на ім было выбіта: «Во истину представился Остафей Васильевич Тишкевич. 1558», а знайшлі гэты камень каля старажытнай царквы ў Лагойску. Слязніца паступіла ад нейкага Янкоўскага з Ігуменскага павета. Пацеркі, завушніцы, бранзалеты былі часткай прадметаў, знойдзеных пры раскопках М. Кусцінскім курганоў на Лепельшчыне. Дзве пацеркі, дарэчы, паступілі і ад У. Сыракомлі. Аказваецца, паэт знайшоў іх на месцы раскопак старажытнага горада Кярнова.

Яшчэ больш цікавы факт прыводзяць Г. і А. Каханоўскія: «Сярод геаграфічных назваў у кнізе новых паступленняў (музея. — *Я. Д.*) значацца і маленькія Кушляны Ашмянскага павета. У ваколіцах гэтай мясцовасці шукаў для музея рэліквіі віленскі гімназіст Францішак Багушэвіч. Шаснаццацігадоваму юнаку трапіліся старажытныя акамянеласці, славянскі гадальнік, даўні крыжык і інш. Усё гэта ён прынёс ва ўніверсітэцкі будынак Аўла. Іх прыняў Маўрыкій Круповіч і Адам Кіркор. Не выключана, што там Францішак сустрэў і Я. Тышкевіча. Відаць, менавіта ад прызнанага паэта Уладзіслава Сыракомлі будучы беларускі адраджэнец Ф. Багушэвіч атрымаў падзяку і запрашэнне на адкрыццё музея».

Пасля адкрыцця музея таксама было шмат паступленняў, часам нават больш, чым дагэтуль. Асабліва пасля таго, як штогод пачалі праводзіцца спецыяльныя навукова-даследчыцкія экспедыцыі. Паколькі ў складзе Віленскай археалагічнай камісіі амаль не было прадстаўнікоў літоўскай нацыянальнасці, то работа ў асноўным вялася на тэрыторыі Беларусі. Усё гэта ўспрымалася з разуменнем, бо і сам музей, хоць на падобны момант і не звярталася ўвага ў ягонай назве, быў не проста Віленскім музеем старажытнасцей, а Віленскім **беларускім** музеем старажытнасцей, а дзе, у такім разе, як ні на Беларусі, збіраць для яго матэрыялы? І каму, як ні самім беларусам, браць на сябе гэты клопат?

Вынікі работы падводзіліся ў канцы года. Матэрыялы апрацоўваліся і траплялі ў музей. А навуковыя справаздачы афармляліся як рэфераты, пасля чаго публікаваліся ў «Запісках Віленскай Археалагічнай камісіі», што таксама выходзілі кожны год. Душой усіх спраў і пачынанняў па-ранейшаму заставаўся сам Я. Тышкевіч, тым больш, што музей і Археалагічная камісія пры ім былі створаны на яго ўласныя сродкі. Канешне, паступалі і пэўныя ахвяраванні, але ў агульнай колькасці фінансаў яны занялі не так і шмат месца. Хіба тое, што даваў яшчэ і К. Тышкевіч, мела значную вагу.

Пасяджэнні камісіі праводзіліся ўрачыста. Аб гэтым сведчыць ужо тое, што члены яе засядалі ў спецыяльнай сіняй форме з залатымі гузікамі. Дый час правядзення кожнага чарговага пасяджэння строга вытрымліваўся: 11 числа кожнага месяца. Інфармацыя аб гэтым рэгулярна змяшчалася ў друку. З гэтых паведамленняў відаць, што чыталіся рэфераты, якія ў асноўным тычыліся мясцовага краязнаўства, рабіліся паведамленні аб выхадзе новых кніг (з абмеркаваннем іх), цікавых публікацыях. Па неабходнасці вырашаліся арганізацыйныя пытанні. Кожным разам вялася шчырая, зацікаўленая гаворка. Яна зместам сваім сведчыла пра тое, што ў камісіі сабраліся людзі не выпадковыя, а такія, якія маюць нямала агульных інтарэсаў.

Тон гэтай гаворцы звычайна задаваў сам Я. Тышкевіч. Актыўна далучаўся да размовы па актуальных пытаннях і Канстанцін Піевіч. Калі ж не мог прысутнічаць на чарговым пасяджэнні, то, пры неабходнасці, звяртаўся на адрас Археалагічнай камісіі пісьмова. Так было, у прыватнасці, 11 ліпеня і 11 жніўня 1859 года, калі К. Тышкевіч знаходзіўся за мяжой. У сваіх лістах ён падзяліўся развагамі пра паралельны аналіз калекцый Дрэздэнскага музея з калекцыяй музея Віленскага, што, безумоўна, мела важнае значэнне, бо дазваляла праз вынікі раскопак, якія праводзіліся на вялікай адлегласці адзін ад аднаго, зрабіць паралельны аналіз і вывад наконт таго, што тычылася агульнага і рознага.

Гадавыя пасяджэнні камісіі, у адрозненне ад штомесячных, насілі падагульняючы характар. Звычайна зачытваліся падрабязныя справаздачы аб дзейнасці. У іх гаварылася аб павелічэнні колькасці тых, хто ўступіў у камісію, аб росце ахвяраванняў. Паведамлялася аб выхадзе чарговых тамоў «Запісак Віленскай Археалагічнай камісіі», аб з'яўленні чарговых краязнаўчых выданняў — некалькі з іх прысвячаліся гісторыі Вільні. Адзначаліся таксама поспехі асобных археолагаў. Дарэчы, у 1859 годзе нарэшце былі высока ацэнены навуковыя набыткі і Я. Тышкевіча: Яўстаха Піевіча выбралі ганаровым членам Пецярбургскай Акадэміі навук. А пазней ён стаў і ганаровым членам Стакгольмскай Акадэміі, Лонданскай археалагічнай камісіі.

## Наступленне русіфікатараў

Здавалася б, усё складвалася найлепшым чынам і для самога Я. Тышкевіча, і для Археалагічнай камісіі, работа якой насіла чыста навуковы характар. У палітыку ніхто ўмешвацца не збіраўся, хоць шмат хто, тыя ж браты Тышкевічы, падзялялі некаторыя погляды паўстанцаў 1863 года. Інакш думаў генерал-губернатар М. Мураўёў, які ўсюды і ва ўсім шукаў крамолу. Па ягоным асабістым указанні з 1864 года на пасяджэнні камісіі пачалі завітваць афіцыйныя асобы. Пры гэтым не абавязкова 11 числа, бо звыклая перыядычнасць у рабоце яе перастала вытрымлівацца. На пасяджэннях пачалі гучаць неабгрунтаваныя абвінавачванні ў «польскай інтрызе», імкненні прынізіць значэнне ўсяго рускага.

Прайшло не так шмат часу і Віленскі музей старажытнасцей быў аб'яўлены цэнтрам паланізму. Музей зачынілі, а археалагічную камісію ператварылі ў «Камісію для разбору і прывядзення ў належны парадак прадметаў, што зна-

ходзяцца ў Віленскім музеі старажытнасцей». У склад гэтай камісіі ўключылі і Я. Тышкевіча, але, як неўзабаве высветлілася, усё рабілася фармальна, для адводу вачэй. Да ягонай думкі ніхто не прыслухоўваўся, ягоныя меркаванні нічога не значылі. Дый як было прыслухоўвацца да голасу стваральніка музея, калі Мураўёў-вешальнік загадаў рэарганізаваць музей так, каб у ім надалей знаходзілася месца толькі «жывым сведчанням спакон уласцівага тамашняму краю рускага народнага жыцця». Указвалася таксама аб неабходнасці перавесці ў другі «разрад» «прадметы, якія адносяцца да літоўскага пачатку», а ў трэцім — спалучыць рэчы, што «складаюць прадметы агульнанавуковыя».

У канцы работы камісіі Я. Тышкевіч, абураны наступленнем русіфікатараў, вырашыў падаць «Пратэст». Згаджаючыся з некаторымі недахопамі ў рабоце музея, ён адзначаў, што пры заснаванні гэтай установы, меліся на ўвазе «старажытнасці і помнікі не польскія, а мясцовыя, г. з. літоўска-рускія». Указваў на тое, што, збіраючы гэтыя прадметы, зыходзілі з таго, каб яны «служылі […] дакладнымі здымкамі мінулага на непарушных пачатках гісторыі».

Ды прыслухоўвацца да яго голасу ніхто не збіраўся. Асабліва пастараўся ашалелы русафіл А. Сталыпін (бацька вядомага міністра ўнутраных спраў Расіі), выбраны ганаровым членам Археалагічнай камісіі пасля таго, як работу яе М. Мураўёў узяў пад жорсткі кантроль. А. Сталыпін абвінаваціў Я. Тышкевіча ў неразуменні таго, «у чым заключаецца справа руская, непарыўная са справай урадавай». Карацей кажучы, у тым самым паланізме, якога не было, бо хоць Я. Тышкевіч, як і яго старэйшы брат, і карысталіся ў паўсядзённым жыцці польскай мовай, пісалі па-польску (Я. Тышкевіч, праўда, часам і па-беларуску), яны заўсёды лічылі сябе беларусамі. Да польскага народа яны ставіліся гэтаксама і як да рускага, аднолькава паважаючы іх, іхнюю культуру.

Пасля абвінавачванняў А. Сталыпіна Я. Тышкевіч канчаткова ўпэўніўся, што ў гэтай, з дазволу сказаць камісіі, яму больш няма чаго рабіць. Таму, спасылаючыся на хваробу, прапускаў некаторыя пасяджэнні. Цяпер жа ў знак пратэсту выйшаў са складу камісіі, а потым зняў з сябе і абавязкі папячыцеля Віленскага музея старажытнасцей.

Пасля гэтага з экспазіцыі барацьбіты з «паланізмам» забралі 256 прадметаў, а сам музей перадалі ў веданне Віленскай вучэбнай акругі. Усё гэта праходзіла ў рамках далейшай русіфікацыі, якая пасля паўстання праводзілася ўсё больш паскоранымі тэмпамі. У тым жа 1864 годзе была створана спецыяльная Віленская археаграфічная камісія, у задачу якой ставілася шукаць у «Заходнім краі імперыі спакон рускія карані».

Перайшоўшы ў веданне Віленскай вучэбнай акругі, музей быў ператвораны ў Публічную бібліятэку, пры якой арніталагічны, нумізматычны і мінералагічны кабінеты ўспрымаліся па сутнасці нікому не патрэбнымі прыдаткамі. Паколькі належны догляд адсутнічаў, многія экспанаты прыходзілі ў заняпад. Напрыклад, чучалы зуброў, мядзведзяў за кароткі час з’ела моль і іх давялося выкінуць. Гэткі ж лёс напаткаў і шынель Адама Міцкевіча. Але ёй не давялося чакаць молі, бо апратку выдатнага паэта хтосьці ўспрыняў звычайным рыззём, адсюль і адпаведнае стаўленне да яе. Асабліва ўзмацнілася наступленне русіфікатараў пры генерал-губернатары К. Каўфмане, які прыйшоў на змену М. Мураўёву. Гэты службіст і злосны русіфікатар шмат у чым пераўзышоў нават свайго папярэдніка. Пры К. Каўфмане, ці не з падачы яго, знаходзіліся ахвочыя прынізіць братоў Тышкевічаў. Асабліва перападала малодшаму. Пра адзін такі дзікунскі выпадак значна пазней расказаў у часопісе «Исторический Вестник» (1916, № 6) беларускі і рускі журналіст ды мемуарыст Станіслаў Акрэйц, які выступаў пад псеўданімам Арліцкі.

Станіслаў Станіслававіч тады працаваў другім бібліятэкарам у Віленскай публічнай бібліятэцы. Нейкі асабліва стаshould ранны чыноўнік Рачынскі забраў з магі-

лак надмагільную пліту графа Астафея Тышкевіча, на якой значылася, што ён быў праваслаўным. Гэтую пліту ўставілі ў сцяну прыёмнай музея. Калі праводзілася асвячэнне будынка, са світай, у якой быў і Я. Тышкевіч, прыехаў К. Каўфман. Прачытаўшы надпіс на пліце, генерал-губернатар звярнуўся да Яўстаха Піевіча:

«— Граф, ваш продак быў праваслаўны. Чаму б і вам не вярнуцца да веры вашых продкаў? А! Як вы думаеце?

Рачынскі, Кулін (памочнік папячыцеля вучэбнай акругі) і іншыя са зразумелым нецярпеннем чакалі, што адкажа Тышкевіч. Але граф не разгубіўся і з паклонам спакойна адказаў, што ён, бадай, і не супраць вярнуцца ў веру сваіх продкаў, аднак ёсць цяжкасць.

— Якая яшчэ можа быць цяжкасць? — здзівіўся Каўфман.

— Мае продкі дакладна былі ў XVI стагоддзі праваслаўнымі, але яшчэ раней былі язычнікамі. Я і думаю, да якога веравання з маіх продкаў мне далучыцца!..

Адказ быў дакладны. Памаўчаўшы хвіліну, Тышкевіч з новым паклонам дадаў:

— Я прасіў бы, ваша высокаправасхадзіцельства, камень з магілы майго продка Астафея Тышкевіча вярнуць назад з пярэдняй музея, дзе яму зусім не месца. Абрабаванне магіл паводле рускіх законаў не дапускаецца».

Дарэчы, гэты надмагільны камень застаўся ў прыхожай музея. Не менш прыкра і тое, што рэакцыйны друк пасля разгрому Віленскага музея старажытнасцей друкаваў паклёпніцкія артыкулы, зместам сваім скіраваныя супраць Я. Тышкевіча, які за музей змагаўся да апошняга. Гэта відаць і па тым, што незадоўга да таго, як лёс музея быў канчаткова вырашаны, звярнуўся ў рэдакцыю «Віленскага весніка» з прапановай выдання навуковага зборніка старажытнасцей. Апублікаваны гэты матэрыял быў, праўда, толькі ў 1868 годзе, бо тады ў рэдакцыі згубіўся.

## Цэлы свет — Барысаўскі павет

У 1847 годзе з’явілася манаграфія Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета», якая не страціла сваіх навуковых і пазнавальных якасцей па сённяшні дзень. Кідаючы позірк у сівую даўніну, Я. Тышкевіч уважліва прыслухоўваўся да меркаванняў іншых вучоных, найперш сваіх папярэднікаў. Так, напрыклад, атрымалася з першым упамінаннем Барысава ў летапісах. Да Я. Тышкевіча па гэтым пытанні выказваліся такія вучоныя, як І. Данілевіч, Т. Нарбут, В. Тацішчаў. Яўстафій Піевіч пагадзіўся з Т. Нарбутам, які годам заснавання горада на Бярэзіне лічыў 1199 год. Разам з тым ім называліся і іншыя даты, узятыя з кампетэнтных крыніц. Праўда, меркаванне Я. Тышкевіча сучасныя навукоўцы аспрэчваюць. Ім больш блізкая думка, выказаная ў свой час В. Тацішчавым, які меркаваў, што Барысаў пабудаваны полацкім князем Барысам Усяславічам пасля яго паходу на яцвягаў у 1102 годзе.

Гэты прыклад, як і многія іншыя, сведчыць на карысць таго, што Я. Тышкевіч належаў да тых даследчыкаў, якія нічога на павер не бяруць. Калі і ёсць у іх памылкі, дык гэта памылкі людзей з самастойным мысленнем. Высокай думкі пра «Апісанне Барысаўскага павета» былі А. Пыпін, Я. Карскі і іншыя знакамітыя навукоўцы.

Старадаўнія помнікі, тапаніміка, фальклор, этнаграфія для Я. Тышкевіча былі той крыніцай, з якой, вобразна кажучы, чэрпаючы, ён знаходзіў звесткі для вытлумачэння таго, як жылі некалі людзі ў гэтых мясцінах. Як і заўсёды, нямала даваў яму параўнальны аналіз. Тое, што адкрываў сам, супастаўляў з дадзенымі, атрыманымі іншымі даследчыкамі. Вытлумачэнне асобных фактаў шукаў і ў сумежных навуках. Так было і тады, калі задумаўся над паходжаннем назвы аднаго з відаў курганоў — валатоўкі. Іх напаткаў не толькі ў Барысаўскім павеце,

а і на Віцебшчыне. Ведаў таксама, што падобныя курганы так называюць і на Магілёўшчыне. Адштурхнууся ад тапонімаў Вяляцічы, Вяляты, Волатава Магіла, Валатоўская Слабада і ім падобных. Даведаўся, што ў Вяляціцкім старостве, а гэта Барысаўскі павет, ёсць нават выраз «цераз валатоўкі».

Прывёў Я. Тышкевіч і нямала каштоўных звестак пра Лагойск. У прыватнасці, падрабязна апісаў мясцовы замак. Наяўнасць высокіх земляных валоў і глыбакаводных равоў, канешне ж, сведчыла на карысць таго, што некалі гэты замак меў абарончае значэнне, таму так старанна і ўмацоўваўся. Ёсць у гэтай працы і апісанне Лагойскага графства. Змешчана інфармацыя пра музей, расказваецца пра найбольш значныя экспанаты, што захоўваліся ў ім.

З маленства Я. Тышкевіч захапляўся песенным фальклорам, любіў прымаць удзел у шматлікіх народных святах і гуляннях. Гэтая захопленасць у далейшым у яго спалучалася з прывязанасцю да археалогіі, хоць раскопкамі ён займаўся куды больш, чым запісамі песень. Адначасова з яго першай навуковай працай па археалогіі ў 1837 годзе ў «Тыгодніку Пецярбургскім» з’явілася і даследаванне па фальклоры — «Забавы і ўрачыстасці люду вясковага. Купалле». Апісаўшы гэты старадаўні абрад на берагах Бярэзіны, засведчыў (адзін з першых), што ў самой багіні, якую народ назваў Купалай, ён бачыў багіню плёну. Калі надыходзіла купальская ноч, то гаспадары клапаціліся, каб коні не палохалі русалак, таму жывёлу не выпускалі на пашу.

Хораша расказаў Яўстах Піевіч і пра пошукі папараць-кветкі, з якой звязана спадзяванне беларусаў на шчасце, на лепшую долю. Папараць, іншыя расліны цікавілі Я. Тышкевіча і з практычнага боку. Ён працаваў над «Зельнікам Барысаўскага павета», які па сённяшні дзень знаходзіцца ў рукапісе, хоць асобныя матэрыялы з яго ўвайшлі ў «Апісанне Барысаўскага павета». Назвы раслін прыводзяцца ў алфавітным парадку, кожнай з іх даецца вычарпальная характарыстыка. Пасля таго, як называюцца ўласцівасці, гаворыцца, пры якіх хваробах тую ці іншую зёлку лепш за ўсё прымяняць.

І ўсё ж з шэрагу фальклорна-краязнаўчых прац Я. Тышкевіча вызначаецца манаграфія «Апісанне Барысаўскага павета», якая так і просіцца быць перакладзенай на беларускую мову. З якога боку да гэтай працы не падступішся, яна арыгінальная і шмат у якіх кірунках аўтар яе выступае першапраходцам.

Прынамсі, адным з першых у беларускай фалькларыстыцы і этнаграфіі Я. Тышкевіч даў падрабязнае апісанне гаспадарча-гадавога календара беларускага селяніна. З цудоўным веданнем вясковага побыту жыхароў Барысаўскага павета, ён, напрыклад, грунтоўна расказаў, як сяляне ўбіраюць і захоўваюць гародніну: буракі, капусту, агуркі, рэпу, цыбулю, моркву ды іншыя культуры. Пры гэтым прыводзяцца такія падрабязнасці, што хоць вазьміся ды падкажы нашым нарыхтоўшчыкам, каб яны рабілі так, як гэта рабілі нашы продкі на Барысаўшчыне.

Даў Я. Тышкевіч і мажлівасць акунуцца ў стыхію вясковага вяселля, зрабіўшы гэта так, каб не прапусціць нічога істотнага і важнага. Абрад падаецца з таго моманту, калі маладыя ўжо ў якасці будучага жаніха і нявесты сустракаюцца ў час так званых запоін. Галоўная дзейная асоба пры правядзенні іх — старшы сват. Звычайна гэта чалавек вопытны, які шмат пабачыў на сваім вяку, якога ўсе добра ведаюць не толькі ў пэўнай вёсцы, а і ў наваколлі. А да ўсяго — ён вясёлы, дасціпны, па слова ў кішэню не лезе. На запоіны сват прыбываў у загадзя абумоўлены час з гарэлкай. Дзяўчына паспела ўжо сабраць сваіх сяброўак, прыйшлі таксама хрэсныя і крэўныя. Дзяўчаты суправаджалі маладую да стала песняй, звернутай непасрэдна да свата.

Гэтаксама падрабязна апісаны і іншыя моманты вясельнага абраду: змовіны, сватанне, замес караваю і г. д. Канешне, Я. Тышкевіч быў не першым хто даў апісанне вясельнага абраду. Гэта зрабіў у сваёй кнізе «Беларусь» (1840) і Аляксандр

Рыпінскі, але ён асноўныя моманты яго ўзнаўляў па памяці, знаходзячыся ў эміграцыі ў Парыжы. Іншым шляхам ішоў Я. Тышкевіч. «Не выключана. Што Яўстах Піевіч па некалькі разоў мог звяртацца да сваіх зямлячак-сялянак і дапаўняць ранейшыя запісы» (Г. і А. Каханоўскія).Таму і атрымаўся ягоны запіс фальклорнага абраду такім дакладным і змястоўным.

Нямала назіранняў у Я. Тышкевіча, якія і цяпер не страцілі сваёй пазнавальнасці, і ў апісаннях Дзядоў, Радаўніцы, пахавальных абрадаў. Між іншым, у вывучэнні народнай культуры даследаванне абраду ўшанавання продкаў — адзін з самых важных момантаў. Дзяды на Барысаўшчыне, як паказаў Я. Тышкевіч, былі некалькіх відаў: восеньскія, стаўроўскія, змітраўскія, а таксама веснавыя, які іначай называлі Радаўніцай. Большае распаўсюджванне мелі асеннія Дзяды. Пра адметнасць іх, як і пра асаблівасці іншых ушанаванняў продкаў, і расказвае даследчык. Дарэчы, гаворачы як пра памінальныя абрады, так і пра калядныя, Я. Тышкевіч калі не першы, дык адзін з першых сярод беларускіх этнографаў і фалькларыстаў, звярнуў на іх такую пільную ўвагу. Апісаў ён і так званыя святыя вечары, што праводзяцца ад Калядаў да свята Трох Каралёў (Провадаў). У гэты час нельга рабіць якую б там ні было работу. Асабліва ў радасць святыя вечары былі грэшнікам. Дастаткова таму, хто паспеў награшыць, перасекчы прасла ў плоце, як усе ягоныя грахі адразу знікалі.

У зборы фальклорных твораў Я. Тышкевіча — адзін з самых прыкметных раздзел, у якім прадстаўлены прыказкі і прымаўкі. Змешчана каля 450 твораў гэтага жанру. Перакананы ў тым, што «народная паэзія дае нам магчымасць пазнаць пачуцці народа, а прымаўкі — пазнаёміцца з яго розумам», ён і дазволіў адчуць усю значнасць гэтага разумовага багацця. Істотна і тое, што Я. Тышкевіч першым у гісторыі фалькларыстыкі зрабіў тэматычны падзел прымавак на «гістарычныя», «набожныя», «забабонныя», «адносіны падданых з панамі», «навука жыцця і маралі», «хатняе жыццё, сямейнае і грамадскае», «жарты, прымаўкі-сваркі». Усё і не пералічыш.

Займацца беларускім фальклорам і этнаграфіяй Я. Тышкевіч працягваў і пасля выхаду «Апісання Барысаўскага павета». У 1850 годзе запісаная ім падборка прыказак і прымавак з каментарыямі была надрукавана ў «Бібліятэцы Варшаўскай». Хоць трапілі ў яе не толькі новыя творы, а і некаторыя з тых, якія публікаваліся раней.

## Па рацэ, ды па Віліі

Сама час больш сказаць пра К. Тышкевіча. Канешне, ён шмат працаваў сумесна са сваім малодшым братам. І не толькі даследуючы курганы, а і напісаўшы гістарычную частку ў працы Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета», у якой, па словах В. Каратынскага, «[…] не толькі друкаваныя помнікі, але і мясцовыя архівы, народныя паданні, і крыху археалогіі паклікаў ён на дапамогу, дзякуючы чаму не адну невядомую дэталь вывеў на арэну».

Аднак шмат зрабіў і сам. Пры гэтым праявіў сябе не толькі як археолаг, гісторык, а і як этнограф, краязнаўца і, як ужо было сказана, нямала зрабіў як стваральнік музеяў у Лагойску і Вільні. Да ўсяго К. Тышкевіч у 1856 годзе арганізаваў экспедыцыю па рацэ Віліі. Падчас плавання сабраў багаты этнаграфічны матэрыял, які паклаў у аснову краязнаўчай манаграфіі «Вілія і яе берагі» (поўная назва «Вілія і яе берагі пад гідраграфічным, гістарычным, археалагічным і этнаграфічным пунктам гледжання»), якую завяршыў у 1858 годзе. Але пабачыла яна свет толькі ў 1871-м, калі К. Тышкевіча ўжо не было ў жывых. Аўтар уступу І. Крашэўскі, характарызуючы ягоную даследчыцкую дзейнасць, падкрэсліў навуковую скіраванасць яе: «Быў ён не якім-небудзь дылетантам, які забаўляўся

старымі цацкамі, а даследчыкам, які дбайна рухаў на месцы сляды гісторыі, раскопваючы курганы, гарадзішчы […]».

Было таксама адзначана, што К. Тышкевіч падтрымліваў цесную сувязь з археалагічнымі таварыствамі ў Празе, Парыжы, Маскве, Кракаве і Вільні, а «смерць яго застала на загоне за плугам». Успрымаць гэта можна не толькі ў прамым сэнсе, а і ў пераносным, бо раскопкі, якія праводзіў ён, таксама ўяўлялі сабой своеасаблівы загон. З адной розніцай: гэта быў не той загон, які пасля ўзарання засяваюць, а такі, што дае шчодры ўраджай пасля заглыблення ў яго, пераварочвання пластоў, якія фармаваліся стагоддзямі. Плаванне ж па Віліі — падарожнікі на працягу чатырох месяцаў пабывалі ў 295 вёсках і мястэчках, пераадолеўшы ад моста ля вёскі Камена да вусця Віліі пад Коўнам 682 вярсты, пачаўшы падарожжа ад моста праз гэтую раку каля вёскі Камена, — таксама свайго роду аздабленне гэтага, умоўна кажучы, загона, які даў нямала карысных звестак.

Праўда, можа ўзнікнуць пытанне, а чаму падарожнікі адправіліся менавіта ад гэтай вёскі. Таму, што верхнюю частку Віліі да Камена ў маі ўжо абследавала іншая каманда, якая перамяшчалася не па рацэ, а ішла пехам. Гэтыя даследчыкі склалі тапаграфічную карту адрэзка ракі працягам 77 кіламетраў. Было праведзена нямала археалагічных раскопак, а таксама запісваліся песні, легенды, паданні. У падарожны дзённік уносіліся падрабязныя запісы, было зроблена шмат малюнкаў.

У склад гэтай экспедыцыі апроч самога К. Тышкевіча ўваходзілі землямер Ежы Шанцар, які выконваў і абавязкі мастака, мастакі Марцэлій Янушэвіч і Артур Бартэльс. Не кажучы, зразумела, пра абслугу, у тым ліку і штурвальнага Васіля Буслаўскага Сапежку. Славуты ў тамашніх мясцінах рачнік, ён 60 разоў хадзіў па Віліі, а таму добра ведаў гэтую раку.

Плаванне пачалося ў другой палове дня 5 чэрвеня 1857 года. Праводзіць экспедыцыю ў дарогу сабралася шмат людзей, якія, перагаворваючыся між сабой, уважліва прыглядваліся да флатыліі, што пагойдвалася на хвалях. Яна складвалася з пяці навенькіх суднаў, спецыяльна пабудаваных у сувязі з гэтай аказіяй. Усіх уражвала галоўнае з іх — «Марыя», упрыгожанае рознакаляровымі сцягамі і харугвамі. Яно мела 16 аршынаў даўжынёй і 5 — шырынёй, з ветразямі, трумам, крытым павільёнам. Было абсталявана празнымі прыборамі, у тым ліку і спецыяльным водным колам для абмеру дарогі. Для мерных прылад і доследных работ прызначалася судна «Меркурый». На «Выгодзе» знаходзілася печка з высокім комінам і кухня. У гэтую флатылію ўваходзілі яшчэ і дзве лодкі для прыпасаў, а таксама для сувязі з берагам і паміж іншымі суднамі. Усю флатылію ўласным коштам пабудаваў К. Тышкевіч.

На жаль, неўзабаве выявілася, не ўсё ўлічылі. Судны мелі вострыя кіль, а Вілія ж была мелкаводнай. Таму «Выгоду» давялося замяніць звычайнай пласкадоннай лайбай, якую прапанаваў уласнік суседняга маёнтка пан Снежка. Яна аказалася настолькі ўмяшчальнай, што замяніла сабой не толькі «Выгоду», а і дзве малыя лодкі. У дарогу адправіліся пасля благаславення аўгінаўскага ксяндза Юзафа Львовіча.

Але на гэтым прыгоды не скончыліся: «Марыя» адразу села на мель. Давялося лезці ў ваду і штурхаць яе — у гэтым месцы Вілія была настолькі плыткая, што амаль праглядвалася яе залацістае дно. Здавалася б, можна плыць. Аднак раптам у ветразі падзьмуў вецер, які кінуў судна ў пясок. Яно павалілася на бок, людзі і рэчы паляцелі ў ваду. Выйсце знайшлі ў тым, каб замяніць гэтае судна яшчэ адной лайбай. Балазе, пан Снежка і гэтым разам дапамог. Гэтую лайбу пераабсталявалі. Каб стварыць хоць крыху камфорту для плавання, з «Марыі» перанеслі павільён, абабілі диванамі смалістыя барты. Збудавалі печку. І, канешне, паставілі ветразі — не рухацца ж на вёслах, як-ніяк, а галоўны карабель, таму пры зручным выпадку можна і паслугамі ветру пакарыстацца.

Хоць і з немалой затрымкай, але плаванне нарэшце пачалося. Хапала прыгод і ў далейшым, ды на няўвязкі ў шляху стараліся не наракаць. Загадзя ж ведалі, што без цяжкасцей не абысціся. Але, як бы там ні было, аднак стараліся прытрымлівацца строгага выканання праграмы, якую склалі для сябе яшчэ тады, калі толькі намерваліся вывучаць Вілію і яе берагі. Старанна вымяралі параметры ракі, запісвалі паказчыкі яе дна, берагоў, цячэння. А яшчэ рэгулярна праводзілі бараметрычную нівеляцыю. Паколькі неаднаразова напаткоўвалі парогі, то і іх уважліва даследавалі: вымяралі, дэталёва апісвалі, выконвалі тапаграфічныя здымкі. 39 парогаў склалі атлас. Занатоўвалі таксама тапанамічныя назвы, калі ўдавалася, звярталі ўвагу і на паходжанне іх. Немалое задавальненне атрымлівалі, слухаючы ад мясцовых жыхароў паданні, легенды, якія таксама запісвалі. А. Бартэльс у розных месцах выконваў графічныя замалёўкі, усяго ў кнігу ўвайшло 62 малюнкі. Праявіў талент мастака і сам К. Тышкевіч. Асобныя ягоныя малюнкі потым таксама ўвайшлі ў кнігу і, трэба адзначыць, у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выглядалі ў ёй няблага.

Нямала месца ў манаграфіі «Вілія і яе берагі» адведзена помнікам старажытнай архітэктуры: замкам, цэрквам, касцёлам і іншым збудаванням. Прыцягнуты і вялікі этнаграфічны матэрыял. І ўвогуле такое адчуванне, што К. Тышкевіча цікавіла літаральна ўсё. Іначай, чаму гэта ён раптам узяўся разглядаць у гістарычным ракурсе рыбалоўства на рацэ Віліі. Ці ўзяць такі аспект. Надаючы вялікае значэнне вуснапаэтычнай творчасці ў жыцці надвіленскага краю, сцвярджаў, што шмат якія ўзоры песень могуць стаць прадметам даследавання не толькі фалькларыстаў, а і археолагаў.

Сярод разваг К. Тышкевіча ў гэтай кнізе можна напаткаць і такія: «Усім сэрцам люблю зямлю, што дала мне жыццё». З-за гэтай любасці пісаліся і іншыя ягоныя працы, як, напрыклад, манаграфія «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», якую даследчыкі ўспрымаюць ягонай важнейшай работай. Друкаваць яе з працягам ён пачаў 1864 годзе ў «Віленскім весніку». Але публікацыя, выклікаўшы да сябе жывы інтарэс, так і не была даведзена да свайго лагічнага завяршэння. Спыніла яе ўмяшанне М. Мураўёва, які даведаўся, што гэтая праца прайшла па-за ягоным ведамствам, забараніў яе друкаваць. Засмучаны Тышкевіч хацеў выпусціць манаграфію асобным выданнем. Аднак гэта не ўдалося. Тады ён у снежні 1865 года надрукаваў 200 асобнікаў для сябе. Наступнае выданне з’явілася толькі ў 1868 годзе.

Разгледзеў розныя віды археалагічных аб’ектаў, якія даследаваў на тэрыторыі Беларусі. Гэта ўмацаваныя замкі, ахвяравальныя гарадзішчы, акопныя судзілішчы, межавыя замкі і курганы — так званыя тумулюсы. На апошніх скіраваў асаблівую ўвагу. Гаворка ішла па сутнасці пра тое, над чым засяроджваўся і Я. Тышкевіч. Абодва, у прыватнасці, звярнулі ўвагу на загадкавы абрад трупаспалення ў старажытнасці, задумваліся і над прызначэннем каменных сякер, якія часта знаходзілі, раскапаўшы курганы. К. Тышкевіч першым з братоў прыйшоў да думкі, што такія сякеры ў эпоху каменя найперш выкарыстоўваліся як прылады працы, а пазней ужо іх пачалі класці ў магілы як рытуальныя прадметы. Смелай была выснова аб тым, што рымская і славянская цывілізацыі маглі аказваць адна на адну ўзаемны ўплыў.

Першым сярод беларускіх археолагаў К. Тышкевіч пачаў складаць тапаграфічныя планы замкаў і гарадзішчаў. Але гэтымі населенымі пунктамі ён, канешне, не абмежаваўся. Гэткім шляхам ішоў пры даследаванні замкаў, што знаходзіліся ў межах былых уладанняў Тышкевічаў, а гэта той жа Лагойск, Руднік, Свідне, Дабрынёва, Баравы Млынок, Сукромне. Гэты метад, бачачы яго важнасць, першымі ўхвалілі А. Кіркор і У. Сыракомля. Ягоны вопыт яны перанялі невыпадкова. Картаграфічныя планы дазвалялі фіксаваць план пэўнага помніка да раскопак і пасля правядзення іх. Праўда, калі ўжо быць цалкам дакладным, то

падобным шляхам яшчэ да К. Тышкевіча пайшоў З. Даленга-Хадакоўскі, але ягоныя матэрыялы не былі вядомы сучаснікам, бо засталіся ў архіве, таму афіцыйна першапраходцам лічыцца ўсё ж К. Тышкевіч.

Плённымі аказаліся раскопкі селішча Чырвоны Бор пад Лагойскам. Было знойдзена шмат дарагіх прадметаў з розных металаў, сярод якіх вылучаліся каштоўныя ўпрыгожанні з эмалі. Над атрыманымі матэрыяламі ён старанна папрацаваў. Не проста апісаў іх, а і прадставіў знаходкі ў выглядзе табліц. Усё гэта аформіў як спецыяльны ілюстраваны альбом, які падаў на археалагічную выстаўку, што праходзіла ў Маскве. Там гэтая праца атрымала высокую ацэнку спецыялістаў, а К. Тышкевіч быў выбраны ганаровым членам Маскоўскага археалагічнага таварыства. Склаў Канстанцін Піевіч і «Атлас старажытных гарадзішчаў, замкавых гораў і скопішчаў на Літве і ў Літоўскай Русі», што быў прадстаўлены ім у 1859 годзе ў Археалагічнае таварыства.

Падрыхтаваў К. Тышкевіч і працу «Помнікі краёвага гравёрства» (1852). Праўда, надрукавана была толькі першая частка. У ёй расказваецца пра некалькі соцень гравюр невялікага фармату, што меліся ў ягонай хатняй калекцыі. Выявам гэтых твораў папярэднічае гістарычны ўступ. Ёсць і тлумачэнні да гравюр. Шкада, але другая частка, «у якой пададзены адбіткі з гравюр на метале вялікага фармату, як і першая, са стараннасцю і нескупым тыражом адбіта на месцы ў Лагойску, не мае яшчэ друкаванага тэксту» (В. Каратынскі). На жаль, гэткая сітуацыя з ёю і па сённяшні дзень.

Вінцэсь Каратынскі быў у вялікім захапленні ад зробленага К. Тышкевічам, ад шырыні ягоных навуковых інтарэсаў, улюбёнасці ў археалогію і ва ўсё тое, што дазваляе лепш спазнаць Беларусь: «[…] калі ў будучым славянская археалогія стане паходняю ў асвятленні гістарычнай мінуўшчыны, то будзе абавязана такім працаўнікам, як Тышкевіч. Па ягоных працах, зборах і спосабах пошукаў належыць вучыцца цярплівасці ў працы, погляду на найдрабнейшыя дэталі, уменню стрымліваць фантазію, якая лёгка ўспыхвае, словам, усялякім якасцям, захаванне якіх толькі і прыводзіць да сапраўдных навуковых адкрыццяў».

Магчыма, крыху гучна, але справядліва сказана, бо К. Тышкевіч якраз належаў да тых, хто, з'яўляючыся адным з пачынальнікаў навуковай археалогіі на Беларусі, як і музеязнаўства, зрабіўшы шмат сам, упэўнена пракладаў дарогу тым, хто ішоў следам за ім.

## Шукаць, адкрываць і… перадаваць

Пра людзей, падобных братам Тышкевічам, звычайна кажуць, што іх на ўсё хапае. І сапраўды хапала. Хіба што малодшаму для ўладкавання асабістага жыцця часу не ставала. Таму і застаўся на ўсё жыццё адзінокім. У юнацтве і сталым узросце, бадай, пра гэта асабліва не шкадаваў, а надышла старасць — ужо не да таго было, каб нешта перайначыць. Заставалася працаваць, наколькі здароўе дазваляла, каб тым самым праганяць самоту. Але ж ад Віленшчыны да Лагойска было далёка, дый гады не такія, каб самому займацца раскопкамі. Таму заахвоціў сваяка ў Біржах упарадкаваць хатнюю калекцыю, у якой было нямала старажытных каштоўнасцей. Пісаў успаміны пра В. Ваньковіча, Я. Рустэма, І. Ходзьку і іншых, з кім даводзілася сустракацца і з кім у яго было нямала агульнага.

Куды цяжэй стала, калі памёр старэйшы брат. У іх жа так шмат было агульнага. Дый гэтак хораша працавалася. Асабліва, калі нешта рабілі разам. І вось адзін, зусім адзін. Хоць здароўе ўсё больш падводзіла — не здаваўся. У 1872 годзе выдаў кнігу «Археалогія на Літве», стараўся падтрымліваць сувязь з навуковымі выданнямі. Перасяліўшыся ў Вільню, знайшоў прытулак у сястры. Нарэшце

завяршыў альбом «Магілы сямейства Тышкевічаў». Працягваў парадкаваць і іншыя матэрыялы, што тычыліся гісторыі роду. Але, чым больш хацелася працаваць, тым часцей не ставала сіл. Часам нават лавіў сябе на думцы, што неяк дзіўна на свеце атрымліваецца.

Сапраўды, неяк няроўна дзеліць Бог. Узяць хоць бы бацьку. Столькі нягод выпала на ягоную долю, дзвюх жонак пахаваў, а сам пражыў сто два гады, памёр у 1858-м. Ім жа з братам, здавалася б, жыць ды жыць. Толькі дзе там! Яны з братам працавалі, пакуль сіл ставала. І ніколі сябе не шкадавалі, ніколі не вабіла іх хатняя цішыня, утульнасць. Хацелася пастаяннай дзейнасці, працы… Можна сказаць, на знос працавалі. І вось вынік — ранняя нямогласць. А ў Яўстаха яшчэ і адзінота. Калі што і засталося, дык надрукаваныя артыкулы, выдадзеныя кнігі. Шматлікія матэрыялы, колісь адшуканыя і сабраныя, якія сталі экспанатамі музеяў. Дый тыя, што захоўваюцца ў яго хатняй калекцыі, а таксама ў палацы ў Лагойску. Кажуць, што не грэюць яны.. Што ж, сямейнага цяпла і ўтульнасці імі, канешне, не заменіш. Але ж ёсць яшчэ і іншае цяпло і каля яго на дзіва ўтульна адчуваеш сябе, бо разумееш, што ты грамадзянін менавіта гэтай, а не нейкай іншай зямлі.

Грамадзянін і сын… Цяпло гэтае — той агонь даўніны, да якога пашчасціла яму, Яўстаху Тышкевічу, далучыцца. А праз яго, упэўнены ён, далучацца і іншыя. Не могуць не далучыцца, бо тое, што знойдзена, бясследна не знікае. Не павінна знікнуць. Гэта апошнім часам і турбавала яго. Не пра ўласную славу думаў, не пра тое, каб ведалі, што жыў такі Яўстах Тышкевіч. Іншага хацеў: каб не забыліся нашчадкі, наколькі шмат зрабіў ён дзеля навукі.

Падобныя клопаты турбавалі і К. Тышкевіча. Гэта відаць з ліста, адпраўленага ім у 1868 годзе славісту Аляксандру Катлярэўскаму: «Памятаеце, Аляксандр Аляксандравіч, як я Вас прасіў у Маскве аб напісанні артыкула пра мяне ў перыядычных выданнях. Вы мне прыслалі з гэтай нагоды пытанні, з якіх я бачу, што Вам падалося, што маё самалюбства таго патрабуе. Калі так, то памыляецеся, добры сябра: Вы не так мяне зразумелі. Калі ў мяне самалюбства, дык не з таго пункту бачання. Дзе трэба быць карысным для чалавецтва і навукі, там маё асноўнае самалюбства. Але я хацеў бы, каб Вы напісалі пра мяне артыкульчык, не гаворачы нічога пра маё жыццё і асобу, толькі каб Вы напісалі пра мяне як пра чалавека, які з усёй гатоўнасцю, з усёй сардэчнасцю прыходзіць на дапамогу навуцы […]».

Наколькі слаба ён ужо адчуваў сябе, відаць па тым, што ліст гэты напісаны чужой рукой. Сам К. Тышкевіч толькі падпісаўся і паставіў дату: 8 чэрвеня 1868 года. Праз пяць дзён яго не стала. К. Тышкевіч быў пахаваны ў Лагойску. Каля таго месца, дзе яшчэ ў 1604 годзе Аляксандр Тышкевіч, адзін з прадстаўнікоў гэтага знатнага графскага роду, заклаў касцёл. На жаль, лёс у гэтага храма склаўся нешчасліва. Касцёл двойчы знішчаўся. Першы раз быў спалены ў 1654 годзе падчас вайны з маскоўцамі. Другі раз яго ў 1708 годзе знішчылі шведы. Аднак у 1787-м нашчадак роду Антоні Тышкевіч узяўся яго адбудоўваць. Завяршыў будаўніцтва ягоны сын Вікенцій. 20 кастрычніка 1793 года мураваны будынак быў асвенчаны як касцёл Святога Казіміра. Побач з ім знаходзіўся могільнік, на якім і знайшоў вечны спачын К. Тышкевіч. Ды ў 1938 годзе, у часы ваяўнічага атэізму, касцёл зачынілі, а ў пасляваенны час знішчылі. Сваё другое жыццё ён атрымаў толькі ў 1999 годзе, калі ўзвялі сучасны будынак. Рыючы катлаван для падмурка, выявілі шматлікія долы. Адзін з іх нагадваў сабой невялікі пабелены склеп, унутры якога стаяла дубовая труна, а ў ёй знайшлі дарагі плашч. Несумненна, такія плашчы насілі толькі прадстаўнікі вышэйшага саслоўя. Але ці К. Тышкевіч быў тут пахаваны, пэўнага адказу няма. На шчасце, ацалела пліта з яго надмагілля. Яна і стала свайго роду помнікам таму, хто разам са сваім малодшым братам так шмат зрабіў дзеля таго, каб мы, беларусы, не былі манкуртамі, ведалі сваю гісторыю.

Яўстах Тышкевіч памёр 25 жніўня 1873 года. Свой вечны прытулак знайшоў на знакамітых могілках Роса ў Вільні, на Літаратурнай горцы. Пахавалі яго поруч з магілай У. Сыракомлі. Сустракаліся пры жыцці, сышліся і пасля смерці. Цяпер ужо, каб ніколі не разлучыцца.

Праводзіць у апошні шлях выдатнага археолага, музеязнаўцу, краязнаўцу сабралася шмат людзей. Нямала гучала і прачулых слоў развітання. У друку з'явіліся некралогі, успаміны. Усе, хто ні пісаў, прамаўлялі шчырыя, удзячныя словы. Такія словы, якіх яму не ставала ў жыцці.

Імя братоў Тышкевічаў носіць Лагойскі гісторыка-краязнаўчы музей, у якім пачэснае месца займаюць матэрыялы, што расказваюць пра жыццё і дзейнасць гэтых выдатных людзей. У Мінску ж нядаўна з'явілася вуліца імя Тышкевічаў. На будынку ж былой Мінскай гімназіі ўстаноўлена мемарыяльная дошка, на якой поруч з прозвішчамі іншых знакамітых выпускнікоў значыцца і Я. Тышкевіч. У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў ёсць мемарыяльная аўдыторыя імя братоў Тышкевічаў. З нагоды 200-годдзя з дня нараджэння Я. Тышкевіча выдавецкі цэнтр «Марка» Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Белпошта» ў серыі «Вядомыя асобы Беларусі» выпусціў мастацкі канверт з ягонай выявай.

Запаветам успрымаюцца сёння словы, сказаныя Я. Тышкевічам яшчэ ў маладыя гады: «Абавязак кожнага адукаванага і ўлюбёнага ў свой край чалавека старацца растлумачыць усё, што папала пад сумненне і складае матэрыял для айчыннай гісторыі. Здагадвацца, шукаць, адкрываць, а адкрытае перадаваць людзям — значыць падаваць руку дапамогі тым, хто прысвяціў жыццё сваё і здароўе навукам для дабра грамадскага».

* * *

Гэты абавязак аднолькава разумелі абодва браты Тышкевічы. Гэты аповед пра іх хочацца завяршыць словамі Г. і А. Каханоўскіх: «Кожны з братоў Тышкевічаў меў свае асобныя публікацыі, кнігі, кожны з іх трымаўся сваіх канцэпцый, але некаторыя даследчыкі часам штучна аб'ядноўваюць створанае імі ў адно цэлае і тады цяжка разабраць, каму належыць тая ці іншая гіпотэза. Справядлівасць патрабуе, каб, не супрацьпастаўляючы аднаго брата другому, аддаць даніну павагі кожнаму з іх».






*Зіновій ПРЫГОДЗІЧ*

**ПОСТАЦІ**
**Гэткай шукаю цэлы век чэсці...**

*Мн., Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016.*

У анатацыі да кнігі Зіновія Прыгодзіча «Постаці: гэткай шукаю цэлы век чэсці…» пазначана, што яна — «трэці і заключны том трылогіі, якую пісьменнік стварыў пра вядомых, знакавых постацей беларускай культуры». Такое паведамленне, напрыклад, мяне, як чытача ды і аўтара водгукаў у друку на дзве першыя кнігі «Постацей…» расчаравала: чаму заключны?.. У нас жа мноства выдатных майстроў ва ўсіх сферах культуры. Усе яны самааддана служылі або служаць Айчыне, народу і з'яўляюцца сапраўдным прыкладам не толькі тым грамадзянам краіны, якія ўступаюць у жыццё, яны — наш агульнанародны гонар...

**Уладзімір САЛАМАХА**

## СТВАРАЛЬНІКІ

Аднак аўтару не загадаеш, і, відаць, на тое ёсць свае прычыны… Тут можна толькі пашкадаваць аб такім ягоным рашэнні ды крыху паразважаць пра тое-сёе, звязанае з гэтымі кнігамі…

Паколькі ў кожнай з іх пісьменнік вядзе гутаркі з 10 знакамітымі асобамі, дык нават першакласнік падлічыць, колькі ўсяго творцаў Зіновій Кірылавіч адкрыў найперш як людзей, чыё ўласнае жыццё і ўнутраны свет былі нам невядомымі, так бы мовіць, застаючыся схаванымі за іх прафесійнай дзейнасцю. Заўсёды, калі, напрыклад, чытаеш выдатную кнігу, глядзіш на карціны мастака, слухаеш, як спявае артыст, або як кампазітар выконвае сваю музыку, захапляючыся іх творамі, хочацца зразумець творцу і проста як чалавека. Зрэшты, сёння гэта архіважна, бо даўно і мэтанакіравана некаторыя СМІ нястомна выстаўляюць як прыклад жыццё і «патугі» на творчасць вялізнай арміі непрафесіяналаў ва ўсіх галінах мастацтва і ў літаратуры — таксама. З гэтых псеўдатворцаў ствараюцца ідэалы для пераймання маладым (сярод апошніх нямала сапраўдных талентаў), навязваюцца так званыя «культавыя» і іншыя «заканадаўцы» мод, як кажуць, нікчэмнага і пустога. І ў той жа час сапраўды выдатныя майстры слова, пэндзля, кампазітары, акцёры і г. д. замоўчваюцца ў СМІ і не толькі… І калі мне запярэчаць, маўляў, Зіновій Прыгодзіч спыняе стварэнне «Постацей» на гэтых трыццаці асобах, з якімі ён вёў гутарку, дык нічога тут дзіўнага няма, бо ў нас ёсць серыя кшталту «Жыццё выдатных асоб», з гэтым згаджацца не варта. І вось найперш чаму: яна таксама пакуль абмежаваная. Прычыны аб'ектыўныя, і не ў апошнюю чаргу — фінансавыя.

Да ўсяго, даўно ўжо, карыстаючыся магчымасцю, маючы сродкі, некаторыя, з дазволу сказаць, магістры слова, напрыклад, выдаюць кнігі, дзе паказваюць сябе таксама нібыта такімі ж асобамі, як сапраўды непаўторныя дзеячы нашай культуры, літаратуры і мастацтва. Так бы мовіць, тое, што можа быць цікавым для свайго вузенькага «прыват» акружэння, адрасуецца ў якасці прыкладу ўсім.

Мне здаецца, што З. Прыгодзіч, добра разумеючы гэта і добра бачачы тое, што адбываецца, знарок прыпыняе сваю такую патрэбную працу. Мабыць, гэтым ён пратэстуе супраць шэрасці ў літаратуры, якой хапае, ды і ўва ўсіх сферах нашага мастацкага жыцця. Думаецца, лепшым пратэстам быў бы працяг «Постацей…» У нас шмат, паўтаруся, сапраўдных талентаў, пра якія трэба пісаць і пісаць і з якімі варта весці такія гутаркі, якія Зіновій Кірылавіч вёў раней. Нямала сярод іх і маладых пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, акцёраў, якія, нягледзячы ні на што, па прыкладзе сваіх слынных папярэднікаў годна працуюць у той або іншай сферы духоўнага жыцця народа. І як тут не ўспомніць Міколу Чэмера (пра яго ў прыватнасці я пісаў у «Полымі» № 7 за 2016 г. у матэрыяле «Заўсёды з людзьмі, або Што нас яднае») з ягонай кнігай інтэрв’ю «Рэй»! Мікола Чэмер, а сапраўднае ягонае прозвішча, нагадаю, Мікола Гілевіч, у сваім выданні аднолькава шчыра і цікава паведаў як ужо пра славутых творцаў, так і пра юных, але таленавітых у самых розных галінах літаратуры, культуры і мастацтва. І не важна, што матэрыялы яго «газетныя», важна, што ён расказаў пра сапраўдных грамадзян краіны розных пакаленняў.

Ах, як у нас не любяць некаторыя вельмі ўжо «прасунутыя» гэтага паняцця — сапраўдны грамадзянін краіны!.. Ах, як яны паглядаюць туды, дзе такога паняцця не існуе!.. Ах, як яны нізка схіляюцца перад усім чужым, часта пустым і нікчэмным, перад тым, што ніякім чынам не адпавядае нашым адвечным духоўным каштоўнасцям!.. Але любяць яны прыніжацца перад чужым, чаго, між іншым, ніколі, ні пры якіх абставінах не дазвалялі сабе тыя, з кім гутарыць у «Постацях…» Зіновій Прыгодзіч.

У прадмове да трэцяй кнігі «Постацей…» Алесь Карлюкевіч зазначае, што аўтар выбудоўвае «той ідэал, да якога варта імкнуцца ў памкненні да духоўнасці і светласці жыцця». Светласць жыцця… А што больш кожнаму з нас трэба? У гэтым у многім і заключаецца сутнасць існасці. А светласць дасягаецца праз стваральнасць. Стваральнасць, як святло, разбуральнасць, як цемра… Таксама простая і вядомая ісціна. І ўсё ж…

Так, стваральнікі ўсе суразмоўцы пісьменніка ў яго кнігах. Усе трыццаць нашых знакамітых суайчыннікаў. Сярод іх — нямала не беларусаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, асоб, якія нарадзіліся на нашай зямлі, або прыехалі да нас з іншых краёў. Яны зразумелі і палюбілі ўсё наша, душой прынялі яго і ўзбагацілі сваёй творчасцю (Наталля Гайда, Валянціна Гаявая, Леанід Левін, Анатоль Сульянаў, Міхаіл Фінберг...).

Калі пра чатырох розных творцаў, названых да Міхаіла Якаўлевіча, я казаў ужо ў сваіх водгуках на кнігі «Постаці…», дык пра Маэстра Фінберга, сталася, што гэтую непаўторную творчую асобу па праве менавіта так і называюць не толькі ў нас, гутарка пісьменніка з якой змешчана ў 2-й кнізе, знарок пакінуў на гэты мой водгук, як і гутарку з акцёрам Мікалаем Яроменкам.

Але выдатны майстар, ушанаваны за сваю творчую дзейнасць, за дзейнасць створанага ім Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі, аказваецца, па прызнанні самога Міхаіла Якаўлевіча, няпроста сцвярджаў сябе ў мастацтве. Таксама няпростым быў шлях да творчых вяршынь і ў акцёра Мікалая Яроменкі. Зрэшты, як, бадай, і ў кожнага з 30 суразмоўцаў Зіновія Прыгодзіча. Ды і не можа быць простым шлях сапраўднага мастака ў любой галіне творчай дзейнасці, і калі пра гэта даведваешся з кніг «Постаці…», яшчэ больш шануеш створанае кожным з іх. І яшчэ: як кажуць, выпадковых асоб ні ў адной з іх няма…

Паколькі ў 2-х папярэдніх маіх водгуках на створанае Зіновіем Прыгодзічам ў «Постацях…» я гаварыў даволі падрабязна («Полымя» № 4 за 2015 г. «Чужыя лёсы як свае…», і ўжо у згаданым № 7 за 2016 г. «Заўсёды з людзьмі,

або што нас яднае») рабіць разгляд заключнай серыі няма сэнсу. Назва майго другога водгуку цалкам пераносіцца на тых, з кім пісьменнік вядзе гутарку ў сваёй трэцяй кнізе трылогіі «Постаці…». А менавіта — артыста Генадзя Аўсяннікава, паэта Генадзя Бураўкіна, празаіка Васіля Быкава, драматурга Аляксея Дударава, празаікаў Уладзіміра Ліпскага і Георгія Марчука, кампазітара Ігара Лучанка, опернай спявачкі Аксаны Волкавай, тэатральнага рэжысёра Мікалая Пінігіна, мастака Леаніда Шчамялёва.

Вядома ж, тыя чытачы, хто з вялікай увагай паставіўся да дзвюх першых кніг Зіновія Прыгодзіча не з меншай цікаўнасцю прачытаюць і гэтую, увойдуць у духоўны свет суразмоўцаў аўтара, і самі вызначаць для сябе, якія гэта асобы… Мне ж хочацца проста падагульніць свае меркаванні з нагоды выдання трох кніг «Постацей» знакамітага празаіка, публіцыста, даследчыка сучаснага літаратурнага працэсу Зіновія Прыгодзіча: усе яны, без сумнення — унікальная з’ява ў нашым літаратурна-грамадскім жыцці. І скажу без перабольшання: падобных кніг у беларускай літаратуры яшчэ не было. А менавіта, праз свае гутаркі са знакамітымі людзьмі старэйшага і сярэдняга пакалення пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, акцёраў аўтар сцвярджае, што літаратура і мастацтва з’яўляюцца не толькі неад’емнай часткай нашага жыцця, але і той, так бы мовіць, рухаючай духоўнай і маральна-этычнай сілай, без якой немагчыма ўвогуле ніякае развіццё чалавека. (Між іншым, гэта выразна бачна і сёння, калі разбуральныя працэсы спрабуюць урывацца ва ўсе сферы творчай дзейнасці).

Зіновій Прыгодзіч, несумненна, павевы гэтай разбуральнасці заўважыў і адчуў яшчэ задоўга да таго, як яны сталі адчувальнымі ў нашым жыцці. І, несумненна, таму яго як пісьменніка і грамадзяніна гэта ўсхвалявала, прымусіла звярнуцца да сваіх суразмоўцаў, каб пачуць ад іх, што яны думаюць наконт месца творчай асобы ў жыцці грамадства, і што кожны з іх зрабіў у сваёй творчасці, каб паняцце стваральнасці, сама стваральнасць не знікла з жыцця, з людской свядомасці…

Жыццёвая і працоўная дзейнасць (а творчасць — гэта праца) герояў кнігі сведчаць пра тое, што сапраўды, жыць у грамадстве і дбаць толькі пра сябе, нельга. А яшчэ: што толькі стваральная праца кожнага з нас, незалежна ад прафесіі, становішча ў грамадстве нечага варта, калі яна на агульную карысць, а значыць, і на тваю, тваёй сям’і, родных, знаёмых і незнаёмых табе людзей.

Праз гэта, як сцвярджаецца ў падтэксце ўсіх гутарак трох кніг «Постацей…» Зіновія Прыгодзіча з героямі сваёй трылогіі высвечваецца сапраўдная чалавечая годнасць кожнага як стваральніка.

Суразмоўцы Зіновія Кірылавіча ў сваіх маналогах, дыялогах, проста выказваннях узнімаюць многія праблемы сучаснага жыцця і грамадства, і зрэшты, кожнага з нас. Цікава, што гутаркі гэтыя без «агалцелай» накіраванасці, ды і ўвогуле, без ваяўнічасці, а — памяркоўныя і шчырыя. У іх высвечваецца характар асобы, паказваюцца вытокі лепшых рыс творцаў (яны ж — такія людзі, як і ўсе), пазначаецца духоўная пераемнасць пакаленняў, асаблівыя адносіны да ўсяго, што створана нашымі папярэднікамі ва ўсіх сферах жыцця і творчасці.

Архіважным пры гэтым з’яўляецца тое, што Прыгодзіч праз гутаркі са знакамітымі дзеячамі літаратуры і мастацтва, якія сваёй дзейнасцю праславілі нашу краіну, паказалі свету, так бы мовіць, духоўныя абсягі яе народа і яго памкненні, стварае надзвычай яркія і неаўторныя вобразы кожнага са сваіх суразмоўцаў і як проста людзей. І яшчэ: сярод ягоных герояў, зноў падкрэслю, не толькі беларусы, а і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, што спрадвеку годна жылі, працавалі, стваралі і сёння — гэтаксама побач з беларусамі на «зямлі пад белымі крыламі». (Параўнанне з Караткевіча прыводжу знарок, падкрэсліваючы, што і для Зіновія Кірылавіча, як і для Уладзіміра Сямёнавіча, ды для ўсіх нас Беларусь — святая зямля…)

Трылогія Зіновія Прыгодзіча «Постаці…» — бясспрэчна, унікальная з’ява ў нашай літаратуры. Чытайце, упэўнены, пераканаецеся ў гэтым самі…




*Алесь КАРЛЮКЕВИЧ*

**НЕРАВНОДУШНОЕ ЧТЕНИЕ:**
***встречи, знакомства, открытия***

*Мн., Адукацыя і выхаванне, 2018.*

Ігар ВЕРАМЕЙЧЫК

# ЭКАЛАГІЧНЫ ШПІЁН І... КЛОПАТЫ ПРА ГАЛОЎНАЕ

Той, хто па-сапраўднаму цікавіцца творчымі кантактамі і ўзаемасувязямі, несумненна, пазнаёміўся з серыяй «Сугучча сэрцаў», якая пабачыла свет дзякуючы Выдавецкаму дому «Звязда». У асобных яе кнігах прадстаўлены творы пісьменнікаў былых савецкіх рэспублік, а таксама беларускіх літаратараў. Атрымаўся свайго роду мост садружнасці і адзінства, узведзены тымі, хто ўпэўнены, што, хоць і добра жыць у сваім нацыянальным доме, нельга забываць і пра набыткі суседзяў. Шмат чаму вучыцца ў іх, а ім, у сваю чаргу, пераймаць творчы вопыт беларусаў, які таксама па-свойму павучальны.

«Мост садружнасці і адзінства» называецца і артыкул Алеся Карлюкевіча, якім адкрываецца яго новая кніга «Неабыякавае чытанне: сустрэчы, знаёмствы, адкрыцці». У ім і разглядаецца, асэнсоўваецца згаданая серыя. Аднак, будучы дасведчаным даследчыкам, вопытным крытыкам і праніклівым літаратуразнаўцам, аўтар яго не замыкаецца толькі на змесце кніг, хоць і надае яму немалую ўвагу.

Для А. Карлюкевіча не менш важна прасачыць, як напісанае асобнымі літаратарамі, увогуле выглядае ў кантэксце творчых кантактаў і ўзаемасувязей на постсавецкай прасторы, упісваецца ў іх. Ён асэнсоўвае і тое, як добрыя традыцыі, назапашаныя раней, атрымліваюць сваё годнае развіццё тады, калі пэўныя пісьменнікі, ажыццяўляючы сваю мастацкую задачу, адначасова дбаюць і аб звышзадачы. Імкнуцца, каб з-пад пяра з'яўлялася тое, што годна ўвойдзе ў агульналітаратурны кантэкст. Засведчыць, што «сваёй» літаратуры нікольки не цесна сярод іншых літаратур.

Артыкул успрымаецца і па сутнасці даследаваннем шматнацыянальных літаратур на сучасным этапе. Зразумела, наколькі дазваляюць канкрэтныя творы. Але гэта і ўдалае асэнсаванне набыткаў асобных пісьменнікаў. Зваротам да праблем, што патрабуюць свайго вырашэння. І чым хутчэйшага — тым лепш. Сапраўды, атрымалася «неабыякавае прачытанне» серыі «Сугучча сэрцаў». З гэткім жа неабыякавым стаўленнем да ўсяго таго, што і патрапляе пад вызначэнне прыгожае пісьменства.

Працяг гэтай заклапочанай гаворкі ў наступных матэрыялах кнігі А. Карлюкевіча. Яны ж, як відаць з яе падзагалоўка, не абмяжоўваюцца нейкім

пэўным жанрам: сустрэчы, знаёмствы, адкрыцці. Аб’яднаны ў раздзелы, зместам сваім звязаныя з пэўнай краінай, яе літаратурай.

Самы аб’ёмны раздзел «Расія». Здаўна кантакты, узаемасувязі, у тым ліку і творчыя, а калі канкрэтней, літаратурныя, з гэтай братняй краінай у Беларусі моцныя. Таму і ёсць, пра што сказаць. Ёсць і што асэнсаваць. Відавочна, творчасць якіх пісьменнікаў патрабуецца разгледзець лепш і глыбей. Памагчымасці, а гэта і бачна з некаторых матэрыялаў, пастарацца знайсці і такое, што ў пэўнай ступені стане адкрыццём невядомага. Ці ўдакладненнем некаторых момантаў. А то і пераасэнсаваннем ранейшых ацэнак.

Прытрымліваючыся прынцыпу «неабыякавага чытання», А. Карлюкевіч, звяртаючыся да творчасці таго ці іншага пісьменніка, зыходзіць з таго каб зацікавіць чытача, выклікаць жаданне прачытаць пэўныя яго творы. Калі ж гэтае імя на слыху, намагаецца знайсці такія аспекты, каб «знаёмец» раскрыўся сваімі малавядомымі гранямі. Гэта, прынамсі, тычыцца знакамітага савецкага пісьменніка Юрыя Рытхэу.

Заінтрыгоўвае ўжо назва дыялога з ім — «Юрый Рытхэу: унук шамана і экалагічны шпіён». Гутарыў А. Карлюкевіч з пісьменнікам яшчэ пры ягоным жыцці, у 2003 годзе. Ю. Рытхэу не стала праз пяць гадоў. Тым больш цяпер цікава прачытаць развагі пра час і сябе таго, хто, як ніхто іншы, сказаў праўду пра свой народ, пазнаёміў з яго побытам. Канечне, найперш праз свае мастацкія творы, а любімым ягоным жанрам з’яўляўся раман.

Добра памятаю, якое вялікае ўражанне некалі зрабіла на мяне дылогія Ю. Рытхэу, што складаецца з раманаў «Сон у пачатку туману» і «Іней на парозе». Гэтае ўражанне ўзмацнілася яшчэ і таму, што чытаў іх, калі, служачы ў арміі, знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Якуціі. Ад Якуціі да роднай Ю. Рытхэу Чукоткі — далекавата. Хоць паняцце «далекавата» — у дадзеным выпадку адноснае.

Калі прытрымлівацца еўрапейскіх мерак, то і сапраўды так. У Сібіры ж, на Далёкім Усходзе, бліжэй да Ледавітага акіяна іншае ўспрыманне адлегласці. Там яе ў думках вызначаюць не кіламетрамі ці дзясяткамі іх, а сотнямі кіламетраў. Таму чукоцкія рэаліі шмат у чым успрымаліся мною падобнымі на якуцкія. Чытаючы гэтыя раманы, я не толькі пазнаваў Чукотку, па-новаму адкрываў для сябе і Якуцію, якую, за некалькі месяцаў знаходжання ў ёй, пасапраўднаму палюбіў.

Прачытаўшы аповед А. Карлюкевіча пра Ю. Рытхэу, не сумняваюся, што шмат хто паспяшаецца ў бібліятэку, каб знайсці ў ёй кнігі гэтага выдатнага майстра слова. Толькі знайсці іх, бадай, будзе і няпроста. На час гутаркі Ю. Рытхэу на савецкай постпрасторы выдаваўся мала. Затое, як ніколі раней, ён стаў «сваім» у далёкім замежжы. Яго кнігі выходзілі на Захадзе, у Японіі, Кітаі. Асабліва зацікавіліся імі нямецкія перакладчыкі. Адпаведна выдавецтвы і запальвалі перад яго творамі зялёнае святло.

Пра гэта таксама можна даведацца з дыялогу А. Карлюкевіча і Ю. Рытхэу. Сімптаматычна тое, што аўтар «Неабыякага чытання…» гаворку скіроўвае якраз у такі напрамак, калі прачытаным нельга не зацікавіцца. Маю на ўвазе не толькі згаданы дыялог. А і тое, як складваўся творчы лёс Ю. Рытхэу ў далёка няпростыя гады перабудовы.

Пра што гэта сведчыць? Ды пра пра тое, што А. Карлюкевіч да гутаркі з Ю. Рытхэу загадзя падрыхтаваўся, ён дэталёва пазнаёміўся з ягонай творчасцю. Вызначыў для сябе і тыя ягоныя жыццёвыя аспекты (не толькі творчыя), да якіх чытач не застанецца абыякавым. Адсюль з’явіліся і звесткі пра «шаманства» Ю. Рытхэу. Дый пра ягонае «экалагічнае шпіёнства».

Дарэчы, «шпіёнам» ён стаў невыпадкова. У сувязі з гэтым, думаецца, пра ягонае «шпіёнства» лепш даведацца з вуснаў самога Юрыя Сяргеевіча: «[…] не мог не показывать, не мог не говорить […] о тех бедах, что несёт цивилизация в мир первозданной природы. За что не раз получал от цензуры «на полную катушку». Север как-то вдруг стал военным полигоном. На

меня, собирающего материал об экологических бедствиях, для пущей убедительности и доказательности фотографирующего изрезанную и израненную тундру, смотрели как на американского шпиона. Если хотите, я и был международным экологическим шпионом, потому что собирал эту боль природы, старался обо всём сказать вслух. Часто бывал в Европе и на Аляске, не боялся сравнивать. Словом, «работал» на все экологические разведки мира сразу».

Не пабаяўся А. Карлюкевіч задаць свайму суразмоўцу і, як каму-небудзь можа падацца, нетактоўнае пытанне. Гэта тычылася яшчэ нядаўна вельмі распаўсюджаных анекдотаў пра чукчаў. Па праўдзе кажучы, і не мог задаць яго ці не самаму вядомаму чукчу. Ведаў, што Ю. Рытхэу нават напісаў раман «Чукоцкі анекдот», у якім расказаў пра тыя цяжкасці, якія напаткалі яго супляменнікаў апошнім часам. З вуснаў Юрыя Сяргеевіча прагучаў годны адказ: «Если представители народа вошли в орбиту анекдотов, то их народ можно считать великим. Армяне, грузины, русские, евреи… Это великие народы. И чукчи через анекдоты как равные причастны к их братству».

Дыялог «Юрый Рытхэу: унук шамана і экалагічны шпіён» — не такі і аб’ёмны. Ды, вядома, справа не ў аб’ёме таго ці іншага літаратурнага матэрыялу. Куды важней тое, як шмат ім сказана, наколькі чытач атрымлівае для сябе вычарпальную інфармацыю па пытаннях, якія закранаюцца. Дый яшчэ калі яна спаталяе ягоную прагу пашырыць свой кругагляд. У чым дапаўняе ягоны эрудычны запас.

У згаданым дыялогу ўсё гэта і ёсць. Дзякуючы таму, што начытанасць, эрудзіраванасць самога А. Карлюкевіча спрыяе таму, каб і іншыя разумелі, як гэта важна пашыраць свой кругагляд, не замыкацца толькі на матэрыяльна-фінансавых каштоўнасцях, што, на жаль, даволі часта назіраецца ў наш час.

Гэткі ж, я б сказаў, маральна-эстэтычны пазітыў атрымліваеш і ад матэрыялу «Марыс Слабадскі і Беларусь». Бадай, многія ведаюць, што менавіта М. Слабадскі разам з Я. Касцюкоўскім — аўтар сцэнарыя знакамітага мастацкага фільма «Каўказская палонніца». Мае ён дачыненне і да іншых стужак Леаніда Гайдая. Аднак увагу А. Карлюкевіча прыцягнула не толькі гэта. Правільней, не столькі гэта. Да яго ніхто так падрабязна не расказваў пра службу М. Слабадскога ў газеце 3-га Беларускага фронту «Красноармейская правда». Пазней яна называлася «Во славу Родины». Цяпер гэта «Белорусская военная газета».

Аднак з гэтага аповеду асабліва цікавыя звесткі, што тычацца аповесці «Новыя паходжанніі бравага ваякі Швейка». Гэта М. Слабадскі напісаў працяг папулярнага твора чэшскага пісьменніка Яраслава Гашака. Зразумела, увязаўшы змест з ваеннымі рэаліямі. Аповесць «по своему идейному накалу, по глубокой иронии, сарказму […] вышла далеко за «флажки» литературного, карикатурного ремейка. И многим бойцам доставила немало радостных минут. Газетой зачитывались, передавали друг другу как самую дорогую реликвию. Кому-то через смех, через горькую иронию повесть даже помогла перестать бояться фрицев». А што гэты твор атрымаўся такім, якім нельга не зачытацца, відаць і па ўрыўку, які прыводзіць А. Карлюкевіч. То, калі з’явіцца такое жаданне, зазірніце ў ягоную кнігу «Небыякавае чытанне…»

У асобных матэрыялах яе разглядаюцца і праблемы, што, несумненна, патрабуюць свайго як мага хутчэйшага вырашэння. Прынамсі, гэта відаць з дыялогу «Ірына Такмакова: “Дзіцячай кнізе неабходны шырокі фармат!”» Думкі, выказаныя некалькі гадоў вядомай дзіцячай пісьменніцай, і сёння актуальныя. У прыватнасці, адносна выхаду тых, хто на Беларусі піша для дзяцей, за межы сваёй краіны. Раней з гэтым, зразумела, было куды прасцей. Нямала перакладалася, асабліва на рускую мову, а праз яе і на іншыя мовы. А шмат перакладалася таму, што знаёмству з нацыянальнымі літаратурамі добра спрыялі і многія мерапрыемствы, якія мелі ўсесаюзны размах.

Выказанае І. Такмаковай наконт гэтага было найперш яе асабістай крыўдай. Цяпер гэтая заклапочанасць болем адгукаецца ў сэрцы кожнага, каго турбуюць тыя ж праблемы: «А сейчас из Колонного зала «Книжкины именины», «Книжкина неделя» перешли, как принято сейчас говорить, в иной формат — в тихие, кулуарные встречи с читателями. Что, несомненно, тоже надо. Но авторитет, масштаб популяризации слова — это еще и масштаб государственного отношения к писательской работе, к изданию детской книги. А я вижу, что происходит много интересного, появляются книги новых авторов».

Асабліва плённа А. Карлюкевіч працуе, вобразна кажучы, у кітайскім кірунку. Таму такім цікавым, змястоўным атрымаўся і раздзел «Кітай». Але апошнім часам кола пошукава-даследчыцкіх інтарэсаў Алеся Мікалаевіча пашыраецца. Гэта відаць і з кнігі «Неабыякавае чытанне…» Прадстаўнічымі атрымаліся і раздзелы «Казахстан», «Таджыкістан», «Туркменістан». Ды, безумоўна, сама па сабе важная не колькасць матэрыялаў, згаданых імёнаў у іх, а тое, наколькі яны змястоўныя, што даюць новага. У гэтым пераконвае раздзел «Ізраіль».

У ім змешчана толькі гутарка з паэтэсай, перакладчыцай Аленай Аксельрод. Прозвішча аматарам літаратуры вядомае. Аднак пры гэтым прыгадваюць не яе. У дваццатыя—трыццатыя гады ў літаратуры плённа працаваў паэт Зэлік Аксельрод. Ён пісаў на мове ідыш. Гэта дзядзька Алены Аксельрод. Пра яго ўспамінала так: «[…] для меня он — просто дядя Зелик, о котором четырех лет отроду я, подпрыгивая, сочинила первое своё четверостишие:

«Дядя торопливый,
Дядя скороход,
Это дядя Зелик,
Зелик Аксельрод».

Брат яго Меер Аксельрод і быў бацькам Алены. Яго карціны захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Ілюстраваў кнігі Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Змітрака Бядулі. Дарэчы, творы Бядулі перакладала жонка М. Аксельрода, а маці Алены Рыўка Рубіна.

Такія вось згадкі. Іх, як быццам, толькі маленькія крупінкі, але як шмат яны гавораць. Дарэчы, і ў іншых выпадках нярэдка назіраецца тое ж самае. Ды, як вядома, не заўсёды важная колькасць. Тым больш, у даследчыцкай працы. На першым месцы ўсё ж стаіць якасць. Развагі, абагульненні, асэнсаванні А. Карлюкевіча пераконваюць, што ён нязменна прытрымліваецца прынцыпу: пісаць па-мастацку, адкрываць новае, знаходзіць такое, што абавязкова становіцца адкрыццём.

Падагульняючы гаворку пра «Неабыякавае чытанне…», нельга не сказаць, што гэтая кніга па сутнасці дапаўняе папярэднія выданні А. Карлюкевіча, у якіх закранаюцца пытанні краязнаўства. Калі ж глядзець шырэй — радзімазнаўства. Праз лёсы пэўных людзей, праз творчасць пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва і культуры. А яшчэ, што і відавочна з «Неабыякавага чытання…», праз творчыя кантакты і ўзаемасувязі.

Тым самым пашыраецца і тэма «Беларусь у свеце». З другога боку — не менш значная: прадстаўнікі іншых народаў у кантактах з Беларусі. Гэта якраз тое, чаму прысвечана і новая серыя Выдавецкага дома «Звязда» «Адрасы Беларусі ў свеце», у якой ужо выйшла тры кнігі. У дзвюх з іх шырока прадстаўлены і матэрыялы А. Карлюкевіча.

Няблага, каб у наступныя выпускі гэтай бібліятэчкі патрапілі і паасобныя публікацыі з «Неабыякавага чытання…» Такую праблематыку журналісцка-пісьменніцкага даследавання грэшна ў ёй не выкарыстаць. Гэта павінны разумець і выдаўцы, і чытачы, якія хочуць больш ведаць пра сваю краіну, пра беларусаў у свеце. Дый пра тое, наколькі моцныя ў нас стасункі з прадстаўнікамі іншых народаў. Такія выданні — як глыток свежага паветра. Яго з задавальненнем «удыхаюць» усе, хто хоча адчуваць сябе дасведчаным і эрудзіраваным.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ШЛЯХАМІ НАРОДНАЙ ДЫПЛАМАТЫІ




*Мікола ТРУС*

**КУПАЛАЎСКІЯ АДРАСЫ Ў СЛАВАКІІ**

*Мн., Медысонт, 2018.*

Сёння, здаецца, нікому не трэба тлумачыць, чаму міждысцыплінарныя даследаванні з'яўляюцца найбольш плённымі і прадуктыўнымі. Гэта і адмова ад прадметнай абмежаванасці, і выпраўленне шкодных вынікаў празмернай спецыялізаванасці. Але ўсё ж якасная міждысцыплінарная праца імкнецца не да разбурэння метадалагічнага апарату кожнай з галін, а да разумнага сінтэзу і дапаўнення яго метадамі іншых. Тады можам казаць ужо і пра полі-, трансдысцыплінарнасць.

Яскравым прыкладам такога плённага даследавання з'яўляецца манаграфія Міколы Труса «Купалаўскія адрасы ў Славакіі». Аўтар выдатна разумее, што без грунтоўных ведаў па сацыялогіі, культуралогіі, гісторыі вывучаемых краін немагчыма пабудаваць пераканаўчую стратэгію навуковага росшуку. Скрупулёзная праца з фондамі бібліятэк і архіваў Браціславы дазволіла адкрыць як невядомыя факты біяграфіі класіка беларускай літаратуры, так і праліць святло на акалічнасці беларуска-славацкіх культурных зносін. Падобнае ў гістарычным шляху развіцця Беларусі і Славакіі падкрэслівае і аўтар прадмовы — доктар філасофіі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у 2008—2013 гг. Мар'ян Сэрватка: «Беларусы і славакі — абодва нашыя народы — прайшлі праз шмат цяжкіх выпрабаванняў. Славакам таксама пагражала знікненне роднай мовы. Венгерскія ўлады забаранялі карыстацца мовай ва ўстановах, школах і касцёлах. За выкарыстанне славацкай мовы можна было трапіць у турму, было шмат арыштаў і ахвяр. Але і гэта славацкі гістарычны досвед».

Засмучае, што на сучасным этапе нашыя народы не так шмат ведаюць адно пра аднаго… А гэта, безумоўна, падвышае як уласнафілалагічную, так і навукова-папулярную каштоўнасць выдання.

Варта адзначыць, што праца на шырокай дзялянцы беларуска-славацкіх культурных сувязей вядзецца Міколам Трусам сістэматычна і паэтапна. Ён — аўтар больш як 60 навуковых артыкулаў, датычных дадзенай праблемы. Разглядаліся навукоўцам у свой час пытанні беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакію, беларускай прысутнасці ў міжваеннай Славакіі, яднаючай культурнай дзейнасці архео-

лага, руплівіцы музейнай справы Людмілы Краскоўскай, беларускага вектара творчай і навуковай дзейнасці Францішка Ціхага, аналізаваліся перакладныя і крытычныя беларуска-славацкія выданні. Вялікая ўвага надавалася, безумоўна, «славацкім адрасам» Янкі Купалы. Плён працы ўвасобіўся ў трох манаграфіях, апошняя з якіх уяўляе найбольш поўнае даследаванне невядомых старонак біяграфіі Янкі Купалы, фактаў падарожжа па Славакіі дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у кастрычніку 1935 года і шырокіх пытанняў гісторыі беларуска-славацкіх культурных сувязей.

«Славацкія калегі засцерагалі мяне перад марнасцю пошукавых клопатаў, маўляў, усё, што тычыцца славацка-савецкіх сувязей у сацыялістычныя часы, сабрана і апублікавана. Уласны ж даследчыцкі вопыт паказваў, што ніколі не трэба ўспрымаць тэму як вычарпаную; ранейшая праца з матэрыялам самых масцітых вучоных не значыць, што ўсё выяўлена і ўключана ў навуковы ўжытак», — распавядае аўтар пра гісторыю ўласнай распрацоўкі пытання. А тым больш, калі пытанне недаравальна мала асветлена ў сучасным літаратуразнаўстве! Янка Купала, адзін з ініцыятараў стварэння Таварыства культурных сувязей Савецкай Беларусі з заграніцай, тройчы наведваў Чэхаславакію (у 1925-м, 1927-м і 1935-м гг.). На дзіва, дэталі паездак амаль не вядомыя беларусам. Маршруты, сустрэчы, творчыя ідэі візітаў застаюцца па-за ўвагай купалазнаўцаў. Нягледзячы на тое, што яны (асабліва падчас апошняга, найбольш шырокага, наведвання 1935 г.) ствараюць унікальны прэцэдэнт дыпламатычнага, культуралагічнага, параўнальна-літаратуразнаўчага кшталту!

З першых раздзелаў манаграфіі «Пачатак знаёмства» і «Браціслава вітае ганаровых гасцей» аўтар арыгінальна падсвечвае непасрэдную фармулёўку праблемы цікавымі фактамі і назіраннямі. Раскрывае асноўныя вехі славацкага нацыянальнага будаўніцтва, развіцця славацкай літаратуры, знаёміць з найбольш яскравымі яе прадстаўнікамі. Сфарміруе чытач дэталёвае ўяўленне і пра Браціславу сярэдзіны 1930-х гг., пазнаёміцца з яе перыядычнымі выданнямі. Гатэлі Carlton, Termia Palace, Slovan, набярэжная Дуная, санаторныя будынкі ў Новым Смокаўцы, фарны касцёл у Святым Юры і шмат іншых незабыўных краявідаў раскрывае і рэдкая фотагалерэя выдання. Уважліва вывучаючы ўсе магчымыя крыніцы славацкага і чэшскага перыядычнага друку, успаміны, Мікола Трус жыва абмалёўвае і партрэты іншых удзельнікаў дэлегацыі. Прыкладам, прыводзіць цікавыя сведчанні даволі разняволеных паводзін «чырвонага графа» Льва Талстога, які не заўсёды пагаджаўся на агляд аб’ектаў, жартаўліва прыпамінаючы права на выхадныя дні з працоўнага кодэксу. А неардэнарных асоб хапала: Міхаіл Кальцоў, Аляксандр Фадзееў, Ганна Караваева, Іван Мікітэнка, Сяргей Траццякоў...

Кожная кропка маршруту творчай дэлегацыі з Савецкага Саюза падаецца аб’ёмна, інфарматыўна. Вінаградарскі Святы Юр з унікальнай прыроднай балотнай рэзервацыяй паўстае і як прытулак плеяды пісьменнікаў XX стагоддзя (Францішка Гечкі, Марыі Янчавай, Яна Грушоўскага і інш.). Менавіта тут адбылося знаёмства Янкі Купалы і з будучым народным пісьменнікам Чэхаславакіі Петэрам Ілямніцкім, адным з першых славацкіх аўтараў, перакладзеных на беларускую мову. Слаўная керамікай Модра, непарыўна павязаная з лёсамі пісьменнікаў Кветаслава Урбанавіча і Ладзіслава Навамескага, была адзначана «руканнем памяці пра славацкага будзіцеля Людавіта Штура і жывога голасу прарока нацыянальнага адраджэння Янкі Купалы», што знайшло ўвасабленне ў паэтычных радках Сяргея Панізьніка:

> Штур і Купала — след у след:
> на пераловы
> паэта выгукнуў паэт…
> Мы ловім Словы.

Асобны раздзел выдання прысвечаны і знакавым сустрэчам Янкі Купалы з Ганай Грэгаравай, Янам Понічанам, Гейзам Вамашам. Іх творчыя біяграфіі — адлюстраванні этапаў развіцця

славацкай літаратуры і яе сталення. Дзеля аб'ектыўнасці аўтар манаграфіі заўважае: «Узнаўляючы па магчымасці ўсе штрыхі да агульнай карціны знаходжання дэлегацыі савецкіх майстроў пяра ў кастрычніку 1935 г. у Славакіі, канечне, рупіла перш за ўсё знайсці сведчанні пра тое, хто са славацкіх калег выклікаў у Янкі Купалы найбольшую цікавасць. <…> Відавочна, што тагачасная перыёдыка і архівы не маглі даць такой інфармацыі». Аднак старанныя росшукі і тут мелі плён. У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы былі знойдзены ўспаміны Вольгі Шандаравай, якія сведчаць: «Памятаю, у нас у Браціславе, на беразе Дуная ён доўга размаўляў з нашым паэтам Янкам Понічанам, з якім як з калегам знайшоў агульную мову».

Абгрунтаваную ацэнку атрымліваюць у манаграфіі і публікацыі прэсы, своеасаблівыя рэакцыі на візіт савецкай дэлегацыі выданняў розных сацыяльна-палітычных ухілаў. Станоўчыя, хваласпеўныя, іранічныя і саркастычныя, яны цікава раскрываюць стан тагачаснай грамадска-палітычнай думкі. Яскравым у гэтым плане падаецца ўрывак артыкула актывіста правай славацкай народнай партыі Андрэя Глінкі — Карала Сідара: «Жыццё ішло далей сваім шляхам. Ішлі далей і савецкія пісьменнікі і журналісты, аглядалі нашу Славакію за шклянкай добрага віна ў Святым Юры і Модры, за багатым сталом пешцянскага курорта, а потым зноў бавілі час у атачэнні беласнежных і небатычных славацкіх Татраў». Прыводзіцца і поўны тэкст «забытага» інтэрв'ю, дадзенага Янкам Купалам чэшскай газеце «Lidové noviny» ў перакладзе Міколы Труса і Алены Вострыкавай (не ўзгадваецца ў Поўным зборы твораў Янкі Купалы). Важнае значэнне мае і асвятленне беларускай тэматыкі на старонках славацкага часопіса «Браціслава — Масква».

Пераход ад архіўнай тэмы да сучаснасці азначаны аналітычным раздзелам «Некаторыя падрахункі паездкі Янкі Купалы па Славакіі (Чэхаславакіі) у 1935 г.». Ізноў жа адначым тут шматахопную даследчыцкую манеру аўтара. Ад тэмы прыватнай ён пераходзіць да агульнай праблематыкі прысутнасці пісьменнікаў у дыпламатычных дэлегацыях, падае некалькі «жывінак» з замежных камандзіровак класікаў. І, што цалкам лагічна, звяртаецца да канчатковай сістэматызацыі ключавых момантаў візіту ў Чэхаславакію ў 1935 г., адзначаючы асобна «рэанімаваныя» славацкія эпізоды жыцця Янкі Купалы, невядомыя ў Беларусі раней.

У інтэрв'ю штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (19.06.2015 г.) Мікола Трус справядліва адзначаў: «Прысутнасць Янкі Купалы ў кастрычніку 1935 года ў Славакіі ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў дазваляе весці гаворку пра славацкую літаратуру і культуру, прадстаўленую ў канкрэтных імёнах і фактах, у абсалютна новым ключы. <…> Пры гэтым гаворка пра некаторых славацкіх пісьменнкаў і літаратурную сітуацыю сярэдзіны 1930-х гадоў набывае адмысловую сяброўскую цеплыню, а пэўныя тэмы міжнацыянальных зносін — жыццёвую пульсацыю, надзённасць. На прыкладзе візіту 1935 г. мы маем справу з народнай дыпламатыяй — дзейснай сілай умацавання культурных сувязей».

На ўмацаванне культурных сувязей добра спрацавала і ранейшая манаграфія навукоўца — «Янка Купала ў Славакіі» (2012), што спарадзіла шэраг міжнародных акцый. Абсалютна беспрэцэдэнтным стаўся праект «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы», ажыццёўлены 20—27 чэрвеня 2015 г. у гонар 80-годдзя адпаведнага падарожжа класіка. Беларускі бок прадстаўлялі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Другі агульнанацыянальны канал (АНТ), Першы нацыянальны канал Беларускага радыё, газеты «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «СБ. Беларусь сегодня», «Культура», славацкі — Саюз славацкіх пісьменнікаў, Літаратурны і музычны музей Дзяржаўнай навуковай бібліятэкі ў Банскай Быстрыцы, Літаратурны фонд Славацкай Рэспублікі, газета «Literárny týždenník». Пабудаваная ў многім па

маршрутах паездкі 1935 г., акцыя мела культурна-асветніцкі характар: сустрэчы з адміністрацыяй гарадоў, у якіх пабываў Янка Купала, навуковай і творчай інтэлігенцыяй Славакіі. Каштоўны плён падарожжа — дасягненне дамоўленасці аб ушанаванні купалаўскіх адрасоў у Славакіі мемарыяльнымі знакамі. Цікавымі публікацыямі па выніках акцыі адзначыліся многія рэспубліканскія друкаваныя выданні, своеасаблівы «дзённік» праекта быў паказаны па тэлебачанні. Шэраг артыкулаў, падрыхтаваных Міколам Трусам, пабачылі свет на старонках часопіса «Роднае слова». Аднак найбольш поўны, пацверджаны дакументальна і фактаграфічна, расповед пра візіт змяшчае манаграфія «Купалаўскія адрасы ў Славакіі». Праз сведчанне аб афіцыйных мерапрыемствах зноўтакі «праступаюць» цікавыя факты славацкага быту, традыцый, народных рамёстваў, асаблівасцей архітэктуры, выяўленчага мастацтва, пісьменніцкія персаналіі. Праз маляўнічае апісанне Прымацыяльнага палаца ў Браціславе, яго ўнікальных мастацкіх збораў раскрываюцца вехавыя падзеі еўрапейскай гісторыі… Размяшчэнне Святога Юра падказвае асаблівасці яго архітэктурнага вобраза…

Утрымлівае расповед пра падарожжа і ўнікальныя параўнанні. Аўтар, валодаючы вычарпальнай інфармацыяй пра візіт савецкіх культурных дзеячаў у 1935 г., знаходзіць падабенства і адрозненні ў абліччы гарадоў, культурным і эмацыйным складніку праграмы. Як жа успрымаў Янка Купала візіт у Славакію? Што пакінула асаблівы след у яго душы? Элегантныя заўвагі Міколы Труса даюць адказы на пытанні ўдумлівага чытача: «Пра тое, што нацыянальны менталітэт, мова братняга славянскага народа асабліва прыйшлася па душы класіку беларускай літаратуры красамоўна гавораць здымкі. На адным з іх усе прысутныя зняты ў нязмушанай абстаноўцы з каларытным гаспадаром вінаградніку <…>. Міхась Кальцоў зняты ў абдымках з селянінам, а Янка Купала (амаль заўсёды дыпламатычна стрыманы пры фатаграфаванні) паклаў сівавусаму гаспадару вінаградніку руку на плячо».

Сустрэчы з адміністрацыяй славацкіх гарадоў і творчай інтэлігенцыяй, падпісанне дамоў, абмен кнігамі, удзел у славацкіх народных абрадах… Безумоўна, толькі непасрэдны кантакт з культурай іншага народа можа даць разуменне яго моўнай, літаратурнай, культурнай ідэнтычнасці. А яшчэ — непасрэдны імпульс для перакладчыцкай і даследчыцкай дзейнасці. Багатая фактура кнігі «Купалаўскія адрасы ў Славакіі» падмацаваная не толькі архіўнымі росшукамі, але і непасрэднымі назіраннямі.

Манаграфія Міколы Труса можа выступаць як своеасаблівы даведнік па беларуска-славацкіх культурных сувязях. Гэта і сур’ёзнае гісторыка-літаратурнае даследаванне, і навукова-папулярны, займальны аповед пра культуру Славакіі, гісторыю і сучаснасць беларуска-славацкіх сувязей. Грунтоўнасць выдання падкрэсліваецца выдатна распрацаваным бібліяграфічным апаратам. Прыводзяцца спіс ілюстрацый, рэгістр славацкіх перыядычных выданняў 1935 года, іменны паказальнік, спіс асноўных публікацый аўтара ў галіне беларуска-славацкіх літаратурных, культурных сувязей. Нязмушанасць, адкрытасць даследчыцкай манеры навукоўца нязменна прыцягвае ўвагу як літаратуразнаўцаў, так і ўсіх аматараў літаратуры, нацыянальнай культуры і культур замежных краін. А няспынны пошук аўтарам новых вектараў узаемадзеяння беларускай літаратуры з шырокай сусветнай прасторай дае спадзяванні на новыя нечаканыя і сенсацыйныя адкрыцці.



16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 12.06.2018 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 14,96. Тыраж 1279 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*